# Т Э Р М А П І Л Ы

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс

**№ 16** Беласток **2012**

## ЗМЕСТ

**Рэдактар**
***Ян Чыквін***

*Анатоль Брусэвіч*

# ДАРОГА Ў ВОСЕНЬ

## Горад

За мной зарастаюць сляды,
Бо там, куды крочу я – цемра.
Зляцелі з галінаў плады –
Сады зацвіталі дарэмна.

З душой размаўляе на ты
З вады дэмакратыі чэрап.
У чэраве жоўтых вітрын
Цытрынаў бурштынавы шэраг.

***

Звар’яцею
Ад варыяцый шэрасці
І новай эры.
Звар’яцею
І буду мець рацыю.
Забудуся...
Не! Буду
Як Буда –
Вечна маладым
Дымам
Радзімы.
Адзіным.

***

Сустрэўся адзін на адзін
З праклятым сусветам
Паэт, улюбенец дзяўчын
І спелых кабетаў.

Ён б’ецца адзін на адзін
Са светам і зараз,
Ды толькі сапраўдных мужчын
Чакае параза.

***

Гародня горкім яблыкам
Упала на зямлю.
Упала і разбілася
Аб словы «я люблю».

Упала і згубілася
Навек у снах травы.
У вырай дні магільныя
Панеслі журавы.

***

Не шанцуе ні ў смерці, ні
У звычайным, пустым каханні.
Мае дні – нібы хуткі цягнік.
(Ці стоп-кран у вагоне спальным?).

Не шанцуе мне ў смерці, не.
Не шанцуе ў пустым каханні.
Клічнік спіць у маёй труне,
А здаецца, што спіць пытальнік.

***

Паскардзіцца можна адным камяням
У свеце халодным і шэрым,
Бо людзі, гатовыя бачыць падман,
Зачыняць і вокны, і дзверы.

Ніхто не захоча зрабіцца сляпым,
Убачыць і ноч, і свабоду,
Бо душы знутры пахаваныя ў пыл,
А звонку – пакрытыя лёдам.

## Я

Я бясконцы, як кропля дажджу,
Што сплывае з нябёсаў у вершы,
Што люструе бялёсую веру
Разам з цемрай таго, што кажу.

Я бяскрайні, як мёртвы пейзаж
На цнатлівых малюнках прыроды,
І таму я люблю перашкоды,
І вясёлых прыгодаў гуаш.

***

Ты ідзеш, як заўжды, ў нікуды
Па дарозе, нікім шчэ не ходжанай.
Не кранаючы, побач гады
Пралятаюць, бы кулі варожыя.
Пралятаюць, звіняць і на дол
Ападаюць свінцовымі вішнямі.
Глянь на неба – там роспач і боль
У блакітных вачах Усявышняга.

***

Дарога прывяла ў тунэль са шкла
І знікла назаўжды ў адлюстраванні.
І толькі ценю шэрая страла
Згадзілася застацца пад нагамі.
Згадзілася ласкава, але ці
Бяспечна верыць прывідам і ценям?
Таму і страшна крочыць па жыцці,
Бо тут і там вакол шкляныя сцены.

***

У промнях захаду зіхцяць
На ўсход пракладзеныя сцежкі.
Па іх бягуць сляпыя пешкі
Вітаць глухога караля.

І водар вольнай цішыні,
І сум аб страчанай свабодзе
Згараць пад смех чужых мелодый
У вечным, д'ябальскім агні.

***

Як мог я быць вясёлым і смяяцца,
Калі душа кацілася да долу,
Калі пад смех назойлівых авацый
У сэрцы нараджалася крамола?

Так і жыву – вясёлы і нахабны.
Так і памру – самотны і нікчэмны.
О, муза, ты прабілася не ў дамкі,
А толькі стала рэхам каралеўны!

***

Мне сумна між твараў шчаслівых,
Усмешак, што студзяць душу.
Мне шэрая сніцца радзіма
За дротам калючым дажджу.

Мне сняцца свінцовыя хмары
І дрэвы ў халоднай імгле.
Гляджу на вясёлыя твары,
А бачу самотны буклет.

***

Аб сонца крылы спаліўшы,
Пасля аб зямлю зламаўшы,
Устану, каб зноў узвіцца
Над чорнай восені пашчай,
Над тымі, хто так смяяўся
З маіх памерлых ілюзій,
Са спаленых мараў пляцаў,
Над вамі, добрыя людзі.
Устану, і зноў – у неба
Салодкую сінюю далеч,
Дзе зораў юдава срэбра
Звініць і спадае ў памяць.

***

Самотны шлях чакае,
Дарога – проста ў восень.
За шэрым небакраем –
Лістоты жоўты россып.

За шэрым небакраем –
Дажджу халодны позірк.
Самотны шлях чакае,
Дарога – проста ў восень.

Анатоль Брусэвіч

## *Ян Чыквін*

***

Людзі ходзяць без шапкі,
Шапка вісіць у хаце.
Пад шапкай родзіцца тата,
З-пад шапкі выходзіць маці.

Дзеці сядзяць вяночкам
Наўкола роднага спрата.
Святлее – бы ў ціхім куточку
Робіцца нехта крылатым.

Сцелецца ціхасцю радасць,
Моліцца дзень на ікону.
Ўверх паляцела шапка,
Вышэй царкоўнага звону.

Цячэ-расцякаецца свята,
Парог абмінуўшы, у поле
Ідзе за рукамі таты,
Палоніць усё наваколле.

Спявае жывое каменне,
Вербы, таполі і грэчка.
Каб паглядзець з захаплення
На спеўнасць іхняе спеўні,
На бераг выплыла рэчка
І слухае плёскату долі.

Лугоўе стала абрусам,
Якім накрыліся далі.
Над ім вышываны бусел
З бусліхай з гнязда вылятаі.

Ян Чыквін

Юры Станкевіч



# ФАЛЬКОНА

(кінасцэнар)

Многае,
вартае ўспамінаў,
прапушчана.
Дык, можа, людзі
абавяжуць напісаць
аб тым прапушчаным.

*Скандынаўская сага XII ст.*

*Чэрвень 2011 г. Аўстралія. Аэрадром пад Сіднэем. 11 гадзін. Раніца.*

У невялікі спартыўны лятак, прыкладна на дванаццаць месцаў, па прыступках паднімаюцца некалькі парашутыстаў: маладыя хлопцы і дзяўчаты. Але сярод іх – сталага веку жанчына. Бачна: яна зусім старая. Два аператары здымаюць яе на камеру. Яшчэ адзін уціскваецца за ёй у дзверы.

Урэшце лятак вырульвае на паласу, набірае хуткасць і ўзнімаецца ў паветра.

У кабіне першы і другі пілоты перадкідваюцца рэдкімі, кароткімі фразамі па-ангельску.

– Як там наша бабуля? – ківае назад першы пілот.

– Быццам, у тэме. Захацелася скокнуць. І адразу трапіць – у кнігу Гінеса.

– Кніга для ідыётаў. Не падабаецца мне ўсё гэта. Асабліва журналюгі на борце.

– Ну, яна скакала яшчэ напрыканцы вайны. Мае вопыт. Урэшце, сама захацела.

– Нічога сабе. Дык колькі ёй гадоў?

– Далёка за восемдзесят. Амаль дзевяноста.

Лятак набірае вышыню і робіць няспешны разварот, выходзячы на пазначаны раён. Старая жанчына ў камбінезоне, шлеме і ахоўных акулярах сядзіць між маладымі спартсменамі пасярэдзіне. Аператар насупраць здымае яе твар.

*Голас жанчыны за кадрам:*

Перадусім, апошні раз я скакала з парашутам дзесьці каля шасцідзесяці год таму. Цяпер я зусім, зусім старая. Каб атрымаць дазвол на скачок, мне давялося прыкласці шмат намаганняў. Добра паклапаціцца і панервавацца. Урэшце, я ў адносна свабодным, як мне надаецца, свеце і вольная прымаць рашэнні. Гэта, скажам так, маё асабістае жаданне. Да таго ж, я забяспечваю работай маладога, светлавалосага і светлавокага журналіста насупраць. У яго гожы твар і выгляд сапраўднага англасакса. Дай Бог яму ўдачы. А сёння, спадзяюся, у яго будзе сапраўды, удачны дзянёк. Чымсьці хлопец напамінае мне ўнука Янку і чымсьці яго бацьку, хоць тут я не зусім упэўнена, але для мяне гэта даўно ўжо не так і важна.

Урэшце, у той раз, каля шасцідзесяці год таму я дэсантавалася ўначы на тэрыторыі маёй Радзімы, цяпер ужо былой. Я выконвала заданне: выйсці на патрэбных людзей, захаваць і пасля перадаць у надзейныя рукі частку архіва незалежнікаў. І гэта было самым істотным. А потым прыйшлі тыя двое. Мяркую, іх паслалі амаль што на немінучую пагібель. Урэшце, як і мяне. Але гэта быў наш агульны выбар. Хтосьці павінен быў тое зрабіць. А жыццё, на жаль, занадта кароткае. І час бяжыць так хутка. І, помніцца, усё было зусім нядаўна. Нібы ўчора.

*Кабіна пілотаў. 11 гадзін 5 хвілін. Дзень.*

– Бабуля, будзе скакаць, без страховачнага тросіка? – пыта-

ецца ў камандзіра другі пілот. – А кольца яна выцягне?

– Чаму ж – не? Я ж табе казаў, яна шмат дэсантавалася яшчэ па вайне. Тады скакалі і ноччу. Асабліва такія, як яна. Мяркую, бабуля не створыць праблемы. Урэшце, страхкампанія заплоціць за ўсё.

– Усё роўна не падабаецца мне гэта. Як яе зваць? Напомні.

– Марта Нерусовіч. Родам аднекуль з Еўропы. І хопіць размоў. Рыхтуемся. Скід па камандзе. Хутка. Мікрафоны ўключаны?

– Так. Зараз.

– Правер усё.

Рэпарцёр працягвае здымаць. У кадры – твар жанчыны буйным планам. Твар спакойны, нават ледзь бачная ўсмешка кранае яе вусны. Вочы яе заплюшчваюцца. Яна нібы дрэмле.

*Кастрычнік 194…года. Беларусь. 10 гадзін. Раніца.*

Гарадскі рынак запоўнены стракатым натоўпам. Пахмурныя вясковыя дзядзькі і бабы за драўлянымі радамі з першымі промнямі святла прадаюць яйкі, смятану, жыта, жывых курэй, бульбу, моркву і буракі. Частку з усяго ў самаробных, плеценых з лазы кошыках, асобна – такія ж плеценыя кошыкі, зрэдку – шматкі сала і яшчэ тое-сёе з сялянскага побыту. У баку стаяць гандляры ўсялякім хламам і ношанай вопраткай, тым-сім прамысловым таварам: кружэлкамі, прасамі, самаварамі, трафейнымі біноклямі, пулярэсамі, нажамі, партсігарамі; яшчэ далей, ля агароджы, трымаюць некалькіх коз і казлянят, адтуль калі-нікалі чуецца і парасячы віск.

У бедна апранутай чалавечай плыні выдзялюцца жаўнеры ў вайсковай форме. Часам мільгаюць зацягнутыя ў партупеі постаці афіцэраў у шынялях з пагонамі, паважна сунецца камісар у даўгім скураным лендлізаўскім паліто, спыняецца перад маладой вясковай бабай за насцілам з дошак, на якім яна выставіла свой сялянскі тавар, утаропліваецца ў слоік са смятанай, якая накрыта белай хусцінкай, па-гаспадарску адгарнае яе, узнімае слоік да шырокага пажадлівага рота і за некалькі глыткоў высмактвае яго ўвесь, пасля чаго моўчкі кідае бабе грошы і адыходзіць.

Некалькі ліхадзеяў каршунамі завіхаюцца ў натоўпе, выглядаючы сваіх ахвяраў, бязногі інвалід пачынае іграць на гармоніку, купка прыблатнёных падлеткаў увішна дзеліць пачак “Беламору”. Частуе іх гнуткі, чарнавалосы і цёмнавокі хлопец у

ватоўцы, картовых нагавіцах, убраных у ялавыя салдацкія боты і летняй нямецкай форменнай пілотцы на галаве. Твар яго, на якім увесь час блукае прыхавана-цынічная, нібы шматвопытная ў нечым усмешка, выяўляе самаўпэўненасць і прытоеную пагарду. А позірк – цупкі, прылепісты, блукае па шматлікіх чалавечых постацях. На знешні выгляд яму гадоў дванаццаць-чатырнаццаць.

– Ну, я пайшоў, – урэшце аб’яўляе ён кампаніі і паволі соўгаецца ўбок.

– Ды ты пачакай, зараз шчыпанём якога гандзюля ці яго бабу, і на гарэлку разжывемся. Буханём за перамогу. Га, Талян? – дасылаюць яму ўслед.

Але хлопец на імя Анатоль, альбо як яго назвалі – Талян, не азіраючыся, крочыць далей, спрытна свідруючы натоўп гнуткім маладым тулавам. У баку каля аднаногага гарманіста ўжо гікаюць і падсвістваюць, падскокваючы пад музыку, п’янаватыя дзецюкі ў гімнасцёрках, шынялі яны скінулі; вылятае аднекуль да іх нарумяненая кабеціна, задзіраючы прыпол вышэй каленяў, і выгуквае мацёрную частушку.

Падлетак на імя Анатоль праходзіць ужо амаль праз увесь рынак, калі раптам яго ўвагу прыцягваюць двое маладых людзей. Ён аж спыняецца і нават здзіўлена раззяўлівае на якую секунду рот, бліснуўшы залатой каронкай: нешта ліхаманкава падлічвае, але адразу прымае ранейшы абыякавы выгляд.

Двое маладых мужчын між тым няспешна рухаюцца да выхаду з рынка. Адзін з іх – старэйшы: шыракатвары, з няголеным падбародкам, на галаве пацёртая салдацкая пілотка, позірк насцярожаны і зацяты; другі – маладзейшы, з юнацкім адкрытым тварам, на якім раз-пораз блукае няўцямная ўсмешка, але светла-шэрыя вочы неспакойныя і нібы паглыбленыя ў нешта сваё. Старэйшы ў ватніку, а малады – у швэдары і наверх у пінжаку. За спінай трымае пацёрты салдацкі заплечнік.

Падлетак на імя Анатоль тым часам, не марудзячы, рушыць услед за імі. На хаду ён устаўляе ў рот папяросу і прыпальвае ад самаробнай бензінавай запальнічкі.

Двое між тым скіроўваюць да брамы, за якой месціцца невялікая брукаваная плошча, дзе бязлюдна грувасяцца нешматлікія сялянскія вазы з прывязанымі конямі. Абодва крочаць па-свойму дзіўна: то адзін, то другі адстае і неўпрыкмет азіраецца. А потым даганяе першага, але побач ужо не ідзе, а крыху ззаду, нібы прыкрывае. Не губляючы іх з поля зроку, падлетак на імя

Анатоль прасоўваецца за імі, надта і не хаваючыся, але быццам і не выяўляючы ў той жа час яўнай да іх цікаўнасці. Як яны ўсе выходзяць за рынкавую браму, то адразу апынаюцца на цэнтральнай плошчы, частку якой займае былая вуніяцкая царква, а пасля ідуць па забрукаванай вуліцы, абмежаванай уздоўж ходнікамі. Некалькі ўцалелых цагляных будынкаў на ёй ужо абжытыя. З вокнаў некаторых з іх выглядае з партрэтаў вусаты правадыр у форме Генералісімуса. На адным з будынкаў якраз прымацоўваюць вялізны рэкламны шчыт з фанеры, на якім намаляванае ў профіль смуглявае, негроідна-кучаравае і чарнавалосае дзіцё, падобнае на расейскага паэта Пушкіна ў малечым узросце, і як таго выяўлялі ў даваенных падручніках. Ніжэй пазначана па-расейску: АПТЕКА.

Спусціўшыся ўніз і мінаваўшы былы касцёл з разбуранай вежай, абодва зварочваюць убок і неўзабаве апынаюцца на вузкай, з частымі лужынамі вуліцы, амаль завулку.

– Швайненштрасэ, а яшчэ раней былая Свінячая, – кажа старэйшы. – Тое, што нам трэба. Калісьці на ёй ляжалі і грэліся свінні. Адсюль і назва.

– Рамантычна, – адгукваецца яму ў спіну маладзейшы. – Затое зараз – Урыцкага. І свінняў не бачна. Усіх паелі. Хто такі – Урыцкі? Я чуў, але запамятаваў.

– Кат. Брудная свіння, ды толькі нашмат горшая.

– А-то.

– Не расслабляйся. Хвастоў няма?

– Не бачу. Пацан гадоў дванаццаці швэндае ўслед, але…

– Сцеражомся патрулёў. Гэта галоўная небяспека.

– Так. Згода.

– Паслухай, – перапыняе старэйшы, – я ўсё не магу дапяць: чаму менавіта з табой мы раней не перасякаліся?

– Хутка даведаешся.

– Хоць збольшага – мяне прасвятлілі. Як камандзера.

– Тут нічога такога. Сам усё патлумачу. Як выйдзем на мэту. Абодва аглядаюцца. Прахожых амаль няма.

– Ужо хіба выйшлі. Вось той дом. “Прыкрый” вуліцу, а я, бадай што, зайду.

Старэйшы соўгае руку пад крысо ватніка, дзе намацвае цёплае дзяржанне рэвальвера і асцярожна грукае ў брамку.

З кволага на выгляд дамка, маленькія вакенцы якога выглядаюць прама на іх, ніхто не выходзіць. Толькі праз нейкі час

фіранка на адным хістаецца ўбок, пасля чаго з сенцаў нерашуча сходзіць на ганак маладая, проста апранутая жанчына. Насцярожаны выгляд яе вабнага твару мяжуе са страхам. Мужчына заўважае гэта.

– Гэта вы – Марта Нерусовіч? – пытае ён з сумневам. – Хіба вы так змяніліся?

– Не. Яе няма. Яна з’ехала месяц таму.

– Не хвалюйцеся, – заспакойвае яе мужчына. – Не бойцеся нас. Вы ведаеце, куды яна з’ехала? Яна што-небудзь пакідала, прасіла перадаць на словах?

– Не ведаю нічога такога.

– Дык куды менавіта яна з’ехала?

– Казала, што ў вёску. Настаўнічаць.

– А вы ёй – хто?

– Сястра. Стрыечная. Я тут нядаўна.

– З’ехала ў якую вёску? Скажыце назву. Мы – сябры.

– Тады скажыце спачатку слова. Так мне загадала Марта.

Мужчына ўсміхаецца. Напружанне спадае.

– У такім пякельным свеце, а так шмат прыгожых жанчын, – урэшце вымаўляе ён і дадае: – Прададзім вам ніткі: “Мулінэ”.

Жанчына ківае галавой.

– Якога колеру?

– Белага, чырвонага. Зноў белага. Цяпер вы нам верыце? Вы ў хаце адна? Мы зойдзем.

Жанчына нерашуча маўчыць. Цень страху зноў кранае яе твар. Усе трое, тым не менш, заходзяць у сенцы.

– Мяне зваць… Мірон, – прадстаўляецца старэйшы з мужчын. – А яго, – ён ківае на малодшага, – Янка, скажам так.

– А я – Зося.

– Цяпер паслухайце, – кажа мужчына на імя Мірон, як яны ўсе сядаюць у цеснай зале, – зараз вы, Зося, назавяце нам вёску, куды з’ехала настаўнічаць Марта, пасля мы паснедаем тым, што ў нас з сабой, а потым паспім роўна дзве гадзіны. Вы нас пабудзіце, – ён адшпільвае з рукі гадзіннік і кладзе на стол, – а дванаццатай гадзіне. Не пазней. І больш нас, мяркую, ніколі не ўбачыце. Так што – не турбуйцеся дарэмна. Давай, Янка, чым багатыя…

Малодшы з мужчын на імя Янка развязвае заплечнік, вынімае адтуль банку тушонкі, шматок сала і бохан жытняга хлеба.

– Усё, што на сёння маем.

– Я зраблю гарбаты, – кажа Зося.

– Цудоўна. Тое, што трэба. Не выходзьце пакуль з дому нікуды і не расхінайце фіранак. Дзве гадзіны і яшчэ палову. Мы будзем чутна спаць, так што…

– Згода, згода.

Мужчыны таропка і прагна ядуць. Іх раптам неадольна клоніць у сон.

– Я пасцялю вам збольшага, – кажа гаспадыня.

*11 гадзін. Дзень.*

Старэйшы з мужчын на імя Мірон, які, не распранаючыся, уладкоўваецца на канапе, засынае адразу, але малодшы – Янка, што ляжыць ля дзвярэй на лаве, праз паўгадзіны раптам адкрывае вочы. Позірк яго сустракаецца з позіркам гаспадыні. Тая скамянела сядзіць у крэсле ля грубкі. З хвіліну ён думае. А потым падымаецца з лавы, скідвае з сябе старое паліто, якое прапанавала яму жанчына замест коўдры, і – будзіць старэйшага. Той падхопліваецца, імкліва саўгануўшы рукой да рэвальвера за пазухай.

– Што?

– Варта сыходзіць. Мне нешта не па сабе. Вусцішна. Ёсць нагода. Патлумачу потым.

– З’ём, – згаджаецца, страсаючы сон, старэйшы на імя Мірон.

Праз паўхвіліны яны развітваюцца з гаспадыняй і таропка выслізваюць за брамку.

– І ў чым справа, таварыш Янка? – з ноткай сарказму пытае Мірон, калі яны ўжо крочаць па вуліцы, цупка прыглядаючыся да нешматлікіх сустрэчных. – Дарэчы, ты ж не супраць такога псеўда? Тым больш – не мы іх прыдумалі.

– Не, – згаджаецца маладзейшы. – Няхай буду Янкам.

Абодва рухаюцца да ўскраіны горада.

– Дык ты пра што?

– Той пацан, які раней ішоў за намі, – тут небяспека. Нешта не тое. Я адчуваю.

– Патлумач. Толькі карацей. Што, дарэчы, за істэрыка?

– Калі цябе пасылалі на заданне, ты прапусціў два-тры заняткі і не чуў, што на іх казалі. Да нас прыязджаў інструктар. Мала хто ведаў, што ён сябра Бэ-эН-Пэ[1]. Я – ведаў.

– І што?

[1] Б.Н.П. – Беларуская Незалежніцкая партыя

– Ён інфармаваў, што яшчэ два гады таму чырвонымі пачалося выкарыстоўванне дзяцей у агентурных мэтах. На спецкурсах у Метраполіі іх вучылі адмыслова запамінаць людзей, а потым закідвалі ў акупіраваныя зоны. Тых людзей, што перайшлі на нелегалку, яны пасля пазнавалі, пазнаюць і дагэтуль у твар і адразу паведамляюць у "Смерш". Дык вось, той пацан… Усё можа быць.

Старэйшы спыняецца, выцягвае папяросу. Чыркае запалкай і кажа:

– Цалкам магчыма, што той пацан – пацучоныш. Цяпер – па логіцы. Не выключана, што ў выніку яны з'явяцца ў Зосі. Дапусцім горшае: калі тая Зося нас зліе, то праз дзве-тры гадзіны яны будуць у вёсцы. Яе назва – Парэчча. Там – Марта Нерусовіч. А ў яе частка архіву. Мы павінны з'явіцца ў вёсцу раней.

– А як?

– Выходзім на шашу. Там усё і вырашым.

– Я магу і памыляцца, – кажа, вагаючыся, маладзейшы – Янка. – Мы амаль ня спім трэція суткі. Нервы.

– Можаш. Каб толькі так.

– А магу – і не.

– Цяпер позна меркаваць.

– Надакучыла ўсё. Застацца б у той Зосі. Адаспацца….

– Так, так. Потым – залезці ёй пад коўдру. І ўсё такое. А потым апынуцца ў сутарэннях НКДБ.

– А хіба нас не паслалі на смерць? Скажы шчыра!

– У нас няма выбару. Бо мы – ліцвіны. Так склалася. І нічога тут не зробіш. Лёс.

– Сапраўды. Камусьці ж трэба думаць і дзейнічаць за іншых. Але, калі я гляджу, як тутэйшыя прыхадні хаваюцца па завуголлях з торбамі ў руках…

– Ну, такімі іх зрабілі гістарычна, а мы цяпер – іх частка, хіба не так? А народ не выбіраюць, як і бацькоў.

– Так. Але мне жахліва думаць пра будучыню.

– Звыкніся з думкай, што яе, будучыні, для нас і такіх, як мы, няма. Толькі адказваем за яе – мы. Але, да справы. У нас няма мапы. Гэта праблема, бо трэба як мага хутчэй адшукаць тую вёску. Зося тлумачыла, але ў агульным. У які бок, па якой дарозе?

– Чаму няма? – маладзейшы на імя Янка пстрыкае сабе па галаве. – Мапа тут. І я ўжо дакладна ведаю шлях.

– Як гэта – тут? – не разумее Мірон. – У галаве? Нават, мапа?

– Па памяці. Магу намаляваць хоць цяпер.

– Што ж, тады нам на шашу, – кажа Мірон. – А там – як пашанцуе. Праверым тваю памяць. Толькі ведай, што права на памылку ў цябе няма.

*12 гадзін. Дзень.*

Падлетак на імя Анатоль вяртаецца да цэнтра горада. Збочвае ў двары, дзе і спыняецца перад двухпавярховым цагляным будынкам, абгароджаным высокім плотам, абчэпленым зверху калючым дротам, за якім ходзіць узад-уперад вартавы ў шынялі і з вінтоўкай за плячыма. На дзвярах будынка непрыкметная шыльда:

“ЗАНАЛЬНАЕ ЎПРАЎЛЕННЕ НКДБ БССР”

Падлетак нахабна грукае ў браму.

– Адчыняй!

Вартавы здзіўлена спыняецца, потым падыходзіць да дзвярэй, дзе ўваход у будынак, і націскае кнопку званка. Праз хвіліну дзверы адчыняюцца і адтуль выходзіць сталага ўзросту чалавек у цывільным пінжаку, пры гальштуку. Але ў галіфэ, запраўленых у хромавыя боты.

– Те чё нада, шкет паганы? – пытаецца ён.

– Начальніка. І тэрмінова.

– Навошта? Ты хоць ведаеш, куды прыйшоў?

– Ведаю, ведаю, што добра паснедаю, – з прыхаваным здзекам кажа падлетак і незалежна сплёўвае на зямлю.

– Ды ты в каком уме, недаробак?

– Я-та – в уме, – працягвае падлетак і дадае: – я між іншым, толькі што бачыў шпіёнаў. Былых паліцаяў. Бяжы дакладвай начальніку, а то…

Праз хвіліну падлетак на імя Анатоль ужо сядзіць у кабінеце начальніка ўпраўлення. Маёр НКДБ, скуласты, з густымі, шорсткімі, зачэсанымі назад валасамі, свідруе падлетка мутным і дзікаватым позіркам цёмных вачэй.

– Я запалю, – нахабна заяўляе Анатоль і закідвае нагу за нагу. – Можна папяроску? У вас, я бачу, “Казбек”.

– Можа табе гарэлкі наліць і бабу прапанаваць?

– Не адмоўлюся.

– І галіфэ выдаць і “прохары” хромавыя?

– Няблага б.

– І сто рублёў наверх? Га, сацыяльна блізкі?

– Нішцяк бы.

– Дабро. – Маёр сціскае сківіцы, але падсоўвае таму папяросы. – Бяры. Але ж, не барзей. Калі і далей хочаш мець з намі справу. Паступіць да нас на службу. Хутчэй дакладвай. Ты бачыў двух чалавек з нямецкай дапаможнай службы? Агентаў? Дзе яны зараз? Чаму не адсочыў?

– Ды ўсё нармалёва, таварыш маёр, – падлетак запальвае папяросу і выдыхае дым. – Іх сапраўды двое, і я ведаю, дзе яны зараз. Праўда, пазнаў толькі аднаго. Высачыў па ўсіх правілах. Як вучылі.

– Ты не памыліўся? – маёр здымае слухаўку з тэлефоннага апарата і набірае нумар. Але ж цябе дзеля гэтага рыхтавалі. – Пакажаш, бо зараз выязджаем. З табой разам. Пад'ём, маць тваю… Раскірэчыўся. Не забывайся, дзе знаходзішся…

*13 гадзін. Дзень.*

Шаша на выездзе з горада. Горад далёка ззаду. Мірон і Янка ляжаць на зямлі за паваленым дрэвам і назіраюць за рэдкімі машынамі, якія скіроўваюць у супрацьлеглы ад гарадской мяжы бок.

– Думаеш, мы дарэмна так хутка злінялі? – пытае Янка. – Але ж, калі я не памыліўся, на нас можа быць сапраўдная "пугачоўка". Лепш наперад засцерагчыся, хіба не так, старшой? А то наш народ, як і заўсёды, нас не зразумее.

– Выканаем справу і назад, да мяжы. "Вокны" яшчэ ёсць. А які народ тут застаўся – ты ж сам на рынку бачыў. Базарныя мухі. Не толькі за вуглом з торбамі стаяць і чакаюць, што будзе, а і здаюць такіх, як мы. Толькі не весь народ такі. Але, пра гэта потым. Унь машына. Бінокль дастань. Янка выцягвае з заплечніка моцны вайсковы бінокль. Мірон забірае яго і ўглядаецца.

– Хутчэй за ўсё калгаснік на "палутарцы". З ім – баба ў кабіне. Не наша карта.

– Чакаем. Каго Бог пашле. Толькі ў Бога такіх, як мы, многа. А нам хутчэй трэба.

– Можам і да іх у кузаў папрасіцца. Дык не выключана – як саскочым, адразу і здадуць у эНКэДэБэ. Цяпер усе – пад страхам.

– А можа – і не. Калі ў іх не запытаюцца.

– Пачакаем. Хай праязджаюць. Дзесяць хвілін. Затое менш рызыкі.

– А, д’ябла! Я пакінуў свой гадзіннік. У Зосі на стале, – раптам кажа Мірон.

– Дрэнна. Але не смяротна. Не бядуй, старшой!

– Машына.

– Так. Прадчуваю, што наша карта.

Мірон падносіць бінокль да вачэй.

– “Віліс”. Бачу дваіх спераду. Магчыма, там і ззаду яшчэ нехта сядзіць. Тады – горш.

– Я выходжу? – пытае Янка.

– Так. На сцэну, як кажуць. Танчы, каб не трапілі. Я падстрахую. Ну, пачалі...

Янка рыўком узнімаецца з зямлі і апынаецца на дарозе. Цягне руку ўгору. Мірон кладзе бінокль і заціскае ў руцэ рэвальвер, рыхтуючыся да нападу.

Тым часам “віліс” набліжаецца і мусіць затармазіць, бо Янка матляецца пасярод дарогі і замінае рухацца далей.

– Бацька! – крычыць ён абы-што, адцягваючы ўвагу. – Падвязі, бацька!

Справа ад вадзіцеля “віліса” сядзіць укормлены функцыянер у дарагім паліто з каўняром з каракулевага футра. На галаве такая ж каракулевая камандзірская шапка са следам ад былой зорачкі. Вадзіцель – рухавы і нахабны з выгляду, у вайсковай форме, але без пагонаў, мацюкаецца і хапаецца за наган, які імкнецца выцягнуць з-пад сядзення. Але спазняецца, бо ўжо з другога боку ля машыны апынаецца Мірон з рэвальверам у руцэ. Выхоплівае рэвальвер і Янка. Гучаць стрэлы, і адразу крычыць нечакана тонкім, бабскім голасам функцыянер. Вадзіцель, між тым, забіты, а яго начальнік просіць літасці.

– Не забівайце! Я ўсё аддам! Скажыце толькі – што вам трэба!

– Ты хто такі? Глохні, сука! Дакументы! – загадвае Мірон. – І ціха!

Функцыянер мітусліва дастае і працягвае паперы, рукі ў яго трасуцца ад страху.

– Не забівайце! У мяне – дзеці! Пашкадуйце!

Мірон забірае паперы, кідае туды вокам і кажа нечакана жорстка:

– Прыехалі, таварыш начальнік! Не Масква, праўда, але маўзалей мы табе тут гарантуем.

Функцыянер спалохана вылазіць з кабіны і імкнецца ўкленчыць. На поясе пад паліто ў яго – наган у кабуры. Янка імкліва яго

абязбройвае.

– Э-э, – між тым кажа Мірон, зазірнуўшы ў паперы. – Ды ты не просты дзядзька, а старшыня калгаса, былы партызанскі палітрук. І чаго ты так спужаўся? Паміраць жа калі-небудзь усё роўна давядзецца. – І ківае Янку: – Канчай шамана!

Праз некалькі секунд усё скончана. Мірон з Янкам адцягваюць целы забітых у адхон, а потым хутка залазяць у кабіну. “Віліс” зрываецца з месца.

Няроўная, з выбоінамі і ямамі дарога, сцелецца пад колы машыны. Праз хвіліну Мірон парушае маўчанне.

– Усё-такі, як ты знойдзеш тую вёску? – пытаецца ён, – і адкуль ты дакладна ведаеш, дзе яна, і шлях да яе?

– Усё проста. Я ж казаў, што добра запамінаю. Мапа ў мяне перад вачыма.

– Абы не сустрэць салдат ці патруль на дарозе. Інакш нам – гамон, бо ў іх аўтаматы. А машыну кінем у лесе перад вёскай. Лепш – спалім, – рашуча плануе Мірон.

– Шкада. Файная тэхніка.

*14 гадзін. Дзень*

На гарадской вуліцы, якую раней называлі Свінячая, непадалёку ад дома гаспадыні Зосі, спыняецца крыты брызентам грузавік. З кузава маўкліва саскокваюць некалькі аператыўнікаў НКДБ, а з кабіны – спрытны і рухавы, нібы драпежная жывёла, маёр з занальнага ўпраўлення. Побач з ім падлетак на імя Анатоль.

– Унь той дом, – паказвае пальцам падлетак.

Праз некалькі секунд аператыўнікі незаўважна, каб не трапіць у поле зроку з вокнаў, прасочваюцца на падварок і імкліва аточваюць дом.

Маёр на секунду задумваецца, а потым кліча падлетка.

– Падыдзеш да дзвярэй, пастукаеш і папросіш хлеба. І як мага жаласней з голасу. Зразумела?

Але падлетак не спяшаецца выконваць загад, ён відавочна вагаецца.

– А калі хто з іх пальне мне кулю ў жывот? – нахабнічае ён. – Тады што? Запчастак жа не маю!

– Давай, давай! – націскае маёр. – Мы за цябе адказваем.

Падлетак незадаволена рушыць да дзвярэй і грукае ў іх.

– Цёцечка! – канюча ён, – можа хлеба дасцё? Тры дні не еў,

далібог…

Праз паузу дзверы прыадчыняюцца, і адразу ў дом урываюцца аператыўнікі.

…Але ў хаце, акрамя гаспадыні, нікога няма, што выклікае ў маёра вялікае раздражненне, якое вось-вось пяройдзе ў лютасць.

Зосю саджаюць на зэдлік пасярэдзіне пакоя. Пачынаецца “гарачы” допыт. Маёр выконвае ролю злога следчага. Адзін з аператыўнікаў – добрага.

– Ты прымала нямецкіх агентаў? Мы бачылі, што яны да цябе заходзілі! – крычыць маёр. – Гавары, сука!

– Вы памыляецеся. Я нічога не ведаю, – адказвае жанчына.

Допыт працягваецца. Маёр выходзіць у сенцы, крыху прыадчыніўшы дзверы, каб слухаць, а на змену яму да жанчыны звяртаецца “добры” следчы.

– Вы курыце? – раптам задае ён быццам другаснае пытанне.

– Не.

– Але ж тут нядаўна курылі. Я чую пах тытуню. Дарэчы, гэта ваш гадзіннік? – ён асцярожна бярэ са стала пакінуты Міронам гадзіннік за раменьчык і прынюхваецца да яго.

Жанчына бянтэжыцца. Яна яўна ў замяшальніцтве, што адразу не застаецца па-за ўвагай аператыўніка.

– Як марка гадзініка? Адкажыце хутчэй, калі ласка! Не ведаеце? Чаму ён пахне тытунём? Мужчынскім потам?

Жанчына губляецца.

– Сюды заходзілі двое, – урэшце выціскае яна. – Але яны.. яны…

– Што – яны?

– Яны шукалі нейкага чалавека.

– Якога чалавека? Адказвайце хутчэй!

– Я запамятавала прозвішча.

– Гэта мужчына, альбо жанчына?

– Здаецца, жанчына. Але тут, акрамя мяне, ніхто не жыве. Я так і сказала.

– І за такую дробязь вам аддзячылі швейцарскім гадзіннікам? Вы ведаеце, колькі ён каштуе?

– Пэўна яны на яго забыліся.

Маёр, які дагэтуль увесь час прыслухоўваўся да гутаркі, раптам уваходзіць у пакой і загадвае, звяртаючыся да гаспадыні:

– Збірайся, бо паедзеш з намі. Пагаворым з табой па-іншаму.

*15 гадзін. Дзень.*

Мірон з Янкам, як яны цяпер сябе называюць, ужо даўно збочылі з бальшака. “Віліс” прасоўваецца па лясной дарозе, якая паступова становіцца ўсё больш вузейшай. Янка за рулём, а Мірон уважліва разглядае дакументы забітага імі функцыянера.

– Намеснік камандзіра атрада “Бальшавік” брыгады “Дядзькі Васі”. Былы, вядома. Рыгін Епіфаній Усцінавіч. Маскаль. Цяпер – старшыня калгаса імя Суворава, але ўжо таксама былы, ха-ха. Такі яго лёс… Пражывае часова… Оп-па… вёска Парэчча Глыбочыцкага сельсавета.

– Цікавае супадзенне, – кажа Янка.

– Ну, свет не такі ўжо і вялікі. А наганы ў іх бэушныя – у свой час папілі народнай кровушкі.

– А другі, якога завалілі?

– Другога – не спытаўся… Пэўна, мясцовы. Можа, былы смершавец.

– Дзіўныя ў іх былі назвы: брыгада “Дяди Васи” “Дяди Мити”, Дяди Стёпы”…

– Стой! – урэшце загадвае Мірон. – Колькі, па-твойму, да той вёскі?

– Кіламетры тры-пяць.

– Давай. Заганяй у гушчар. Далей пойдзем пешшу.

– Я падпальваць машыну не буду. Шкада. А раптам – яшчэ нам і спатрэбіцца? Схаваем. Замаскіруем… Як толькі знойдзем тое, што трэба, адразу да мяжы. Ноччу. З ветрыкам.

– Не. Машыну будуць шукаць. Магчыма, ужо спахапіліся. Як бы самім не спаліцца…

– Сплюнь.

*16 гадзін. Дзень.*

На ўскрайку лесу Мірон чакае Янку, які з асцярогай ідзе да мясцовай школкі. Гэта даўгі драўляны будынак, накшталт бараку. Неўзабаве ён бачыць ля ўваходу дзяўчынку і нешта ў яе пытаецца. Вядома, пра настаўніцу. Просіць паклікаць.

Дзяўчынка паказвае яму на ўскраек, дзе месціцца хатка настаўніцы.

– Перадапошняя з канца вуліцы. На правы бок, – тлумачыць яна.

Янка ідзе ў названым напрамку. Яму трывожна, бо ведае, што бачны зараз усім цікаўным. Урэшце знаходзіць хату, прыадчыняе брамку і грукае ў дзверы. На ганак да яго выходзіць маладая, прыгожая жанчына. У яе хударлявы твар з валявым падбародкам, што ёй вельмі пасуе, светлыя, колеру саломы, валасы. Нос з гарбінкай і ў профіль у ёй з'яўляецца нешта ад птушкі. Глядзіць насцярожана. Гэта і ёсць Марта Нерусовіч.

Янка вітаецца.

– Свет пякельны, але ў ім ёсць цудоўныя жанчыны, – крыху сарамяжліва прамаўляе ён, дадаючы сваё да паролю. – "Прададзім ніткі "мулінэ".

Марта Нерусовіч, вывучальна ўзіраецца ў вочы хлопца.

– А якога колеру?

– Белага, чырвонага, белага.

– Я думала, што ўжо ніколі не прыйдзеце, – кажа яна.

– Я не адзін, – паведамляе ёй Янка. – Мой камрад чакае каля лесу.

– За хатай – пуня. Бачыш? Ад лесу да яе можна трапіць незаўважна. Ужо неўзабаве сцямнее. Там вы крыху перачакаеце, а я хутка буду.

– Усё, расход, – адразу кажа Янка. – нас не павінны доўга бачыць побач.

Праз нейкі час Мірон з Янкам, хаваючыся за азяродамі з напаўгнілым бульбоўнікам, сцярожка ідуць да невялікай старой пуні. Ужо прыкметна пачынае цямнець. Яны адчыняюць дзверы, аглядаюць пуню і ў рэшце рэшт залягаюць на струхнелым сене. Адчуваецца, што абодва стомленыя, але, тым не менш, хлопцы па чарзе падыходзяць да дзвярэй і пільна аглядаюць наваколле.

Урэшце ў дзвярах з'яўляецца Марта. Яна запальвае газніцу.

– Гэта – Мірон, – кажа ёй Янка і называе сваё псеўда. – Можаш нас так і клікаць.

– А я цябе памятаю па ЭсБээМ, – нечакана кажа Марта

Мірону. – Вось значыць, дзе сустрэліся.

– І я цябе. І мянушку тваю. Цябе празвалі – Фалькона, бо ты любіла скакаць з парашутам. Фалькон – гэта сокал па-лацінску.

– Быццам так.

– Табе тут ужо небяспечна заставацца, – гаворыць ёй Мірон. – На твой след могуць выйсці. І калі яны нешта ўнюхаюць пра архіў, то…

– Я ведаю, – адказвае Марта. – Архіў, дакладней, яго частка, –

у мяне.

– З архівам мы сёння ж разбярэмся. Ён, вядома, не поўны, але не менш важны. Скажу табе адразу, што ён будзе знішчаны. Такі загад. Дарэчы, дзе ты яго захоўваеш? – пытаецца Мірон.

– Тут. Невялікі фанерны чамадан. Самаробны. Увесь набіты паперамі. Іх прасілі часова захаваць людзі ад Васіля Захаркі. Я прывезла яго з горада, загарнула ў брызент і закапала. Не пытайцеся, як мне гэта ўдалося. Будзеце здзіўлены. Хоць, магу і патлумачыць. Мяне на сваёй службовай машыне месяц таму давёз разам з ім і іншымі маімі рэчамі ў гэту вёску старшыня мясцовага калгаса. Маскальскі прыхадзень. Вядома, пра маё мінулае ён і на камарыны нос не ведаў. Да мяне ў горадзе ўжо прыглядаліся, бо я не адтуль родам, і мне трэба было хутка з'язджаць. Але везці чамадан адной? Таму я і вымушана была так рызыкнуць. Ён угледзеў мяне раней на нейкім настаўніцкім сходзе і, як кажуць, адчуў сантымэнт. Запрасіў у школку. Увесь апошні час дабіваўся ўзаемнасці, але сёння, ха-ха… Бог яго ад мяне пазбавіў. Гадзіну таму сюды тэлефанавалі ягонай жонцы і паведамілі, што яго забілі на шашы бандыты. У вёсцы пра ўсё хутка даведваюцца.

Янка з Міронам красамоўна пераглядваюцца, і жанчына на прозвішча Марта Нерусовіч заўважае гэта.

– Часам, не ваша справа? А то, ідзе пагалоска ў лесе, што "ўпаўцаў"[2] бачылі.

– Паказвай месца, і нам патрэбна рыдлёўка, – кажа Мірон, адводзячы размову ў цікавы яму бок.

– Можа, спачатку зойдзеце ў хату і паясцё? – пытаецца жанчына.

– Потым. Зойдзем абавязкова.

– Вось вам рыдлёўка і крыху газы, каб падпальваць паперу.

Толькі завесіце дзверы, каб звонку не заўважылі святло. І не спаліце пуню. Чакаю вас у хаце. А сама пакуль папільную.

Неўзабаве Мірон з Янкам выкопваюць і разбіраюць архіў. Невялікі стос папераў Мірон перадае напарніку.

– Гэта – самае важнае. Тут спіс нашых людзей. Запамінай, калі здолееш.

– Здолею.

– І – адразу спальваем.

---

[2] УПА – Украінская Паўстанчаская Армія.

*18 гадзін. Вечар.*

… Двое і маладая жанчына сядзяць у хаце. На стале – няхітрая ежа, што прыгатавала Марта, і што дастаў з заплечніка Янка.

Мірон выцягвае з кішэні плоскую біклажку са спіртам і налівае ўсім па кілішку.

– Вып’ем, – кажа ён, – за незалежную Беларусь. – Каб ні маскаля, ні немца, ні якога іншага акупанта, на ёй не засталося. За нашых сяброў, што працягваюць за гэта змагацца, і за цябе – Марта.

– Слава героям! – дадае Янка.

Ён і Марта, між тым, часта сустракаюцца позіркамі. Адчуваецца, што хлопца цягне да жанчыны.

– Нам хутка варта сыходзіць, – гаворыць Мірон, звяртаючыся да гаспадыні. – Як пачне світаць, нас могуць тут пабачыць. Дарэчы, твая стрыечніца Зося – яна ў нашай тэме?

– Ды не. Яна нічога не ведае. Тым больш – пра маё мінулае.

– А калі да яе завітаюць – то пасля цябе шукаць будуць. Цалкам верагодна.

– Яна, мяркую, не выдасць.

– Смершаўцы выбіваюць з чалавека ўсё, – кажа Мірон. – Як мы раніцай сыйдзем, табе таксама варта змяніць афарбоўку. Знікнуць адсюль. У сталіцу, бо там людзей шмат, а лепш – спачатку куды-небудзь на Беласточчыну. Пакуль ёсць “вокны” – перайсці мяжу. На жаль, забраць з сабой – не можам. Рызыкоўна для цябе. А заставацца тут – заставацца ў пекле. Калгасы, страх, даносы, адсочка, хлусня, голад.

– Я і кажу, – дадае Янка. – Пякельны свет. Сапраўды, калі б нехта захацеў стварыць пекла, то горшага б і выдумаць не здолеў. А мы – яго абітальнікі і закладнікі.

*Борт летака. 11 гадзін 10 хвілін. Дзень.*

Журналіст насупраць нахіляецца да старой жанчыны-парашутысткі бліжэй і ўключае камеру з мікрафонам. Паміж імі адбываецца кароткі дыялог.

Пытанне: Скажыце, вы сапраўды скачаце, каб трапіць у кнігу Гінеса?

Адказ: Я зусім не ў захапленні ад гэтай кнігі.

Пытанне: Але ж, калі вы бралі дазвол на скачок, то

сцвярджалі, что хочаце туды трапіць.

Адказ: Мне зараз напляваць на кнігу Гінеса.

Па ходу інтэрв'ю малады журналіст пачынае ажыўляцца. Вочы яго блішчаць.

Пытанне: Тады, чаму вы скачаце?

Адказ: Ну, скажам, каб на кароткі час стаць птушкай.

Пытанне: Вы любіце птушак?

Адказ: Так. Калі я бачу, як чарада дзікіх гусей ці жураваў на чале з важаком лятуць клінам толькі вядомым ім шляхам, то з вачэй у мяне цякуць слёзы.

Пытанне: Але – чаму вы тады плачаце?

Адказ: А хіба гэта не кранаючае відовішча?

Пытанне: Я крыху даведаўся пра вас. Вы з Эўропы?

Адказ: Так. Там ёсць такая краіна – Беларусь.

Пытанне: Вы эміґравалі адтуль яшчэ па вайне? Чаму?

Адказ: Так. Бо я хацела жыць у незалежнай краіне, а не ў гноеадстойніку.

Пытанне: Па вайне вы былі парашутысткай-дыверсантам?

Адказ: Мы змагаліся як маглі за незалежнасць сваёй зямлі. Мы не былі калабарантамі.

Пытанне: Вам не страшна скакаць?

Адказ: Я занадта старая, каб нечага баяцца.

Пытанне: А тады? Вы баяліся?

Адказ: Так. На такіх, як я, палявалі.

Пытанне: А ваша сям’я? Дзеці?

Адказ: Я люблю свайго сына і ўнука. Але яны – далёка адсюль.

Пытанне: А тут вы – адна?

Адказ: Усе старыя, нават у сваёй сям’і, бясконца адзінокія. Я не баюся адзіноты.

Пытанне: Але вы, пэўна, часам успамінаеце сваю радзіму, і сваю маладосць, і той час?

Адказ: Так, успаміны са мной. Ад іх нікуды не дзенешся. Успамінаць – доля старых.

Паўза.

*Кастрычнік 194… 19 гадзін. Вечар.*

За вокнамі – сонца. Але ўжо на зыходзе. Імкліва сутонее. Хлопцы ўладкоўваюцца крыху паспаць. Марта – у асобным па-

койчыку. Янка засынае адразу, а Мірон неўзабаве прачынаецца і больш не спіць. Ляжыць і прыслухоўваецца. Урэшце падымаецца і прыадчыняе дзверы да Марты.

– Ты, Мірон? – пытае шэптам жанчына.

– Я, Марта.

– Сыходзіце? Але, яшчэ ноч.

– Я б застаўся. Назаўсёды. Толькі – нельга.

– Не журыся. Мне шкада яшчэ больш. Я ўсё-такі жанчына. Мне б не скакаць з парашутам і не чакаць штодня арышту, а завесці сям'ю, нарадзіць. Урэшце, будзем развітвацца.

– Пакінь мяне на памяць, Марта! – праз паўзу раптам кажа Мірон і садзіцца на край ложка. Дакранаецца да жанчыны, потым нахіляецца і цалуе яе.

Без слоў, пасля кароткага роздуму, тая абдымае яго.

Праз нейкі час Мірон вяртаецца назад. Закранае нагой вядро на падлозе, і Янка імгненна прачынаецца, выхоплівае з-пад падушкі рэвальвер, але бачыць напарніка і садзіцца на ложак.

– Што – трэба рушыць? – пытаецца ён.

– Яшчэ пасплю, – кажа Мірон, і праз паўзу дадае: – А ты – зайдзі пакуль да гаспадыні.

Янка не разумее.

– Навошта?

Але Мірон абсалютна сур'ёзны.

– Вось там і разбярэшся.

– Яна не спіць? – урэшце пытаецца хлопец.

– Аддзячыць нас абоіх. І я яе разумею.

Янка здзіўлены, але нерашуча адчыняе дзверы да Марты, якая ў начной кашулі стаіць спінай да яго ля акна.

Жанчына змушана ўсміхаецца яму і кажа:

– Не падумай, што я якая блядзюшка. Цяпер – вайна. Што я яшчэ для вас магу зрабіць? Тым больш – вы сыйдзеце і яшчэ невядома, што адбудзецца з намі ўсімі і з кожным паасобку – заўтра. Урэшце – пакіну і цябе на памяць.

Янка маўчыць.

– Што-небудзь не так? – пытаецца жанчына.

Янка вагаецца.

– Можа, вып'ем? – змушана прапануе ён.

Марта паварочваецца да яго, падыходзіць усутыч. Пачынае здагадвацца.

– Ты закаханы ў якую дзяўчыну? Я табе не падыходжу?

– Не, – раптам прызнаецца ён. – У мяне… у мяне яшчэ…не было жанчыны. Не было магчымасці. Так вось усё…

Марта бярэ яго за руку, трымае так нейкі час і ўрэшце парушае паўзу.

– Які ты яшчэ малады. А, пэўна, ужо забіваў. Я, вядома, па маладосці, такой жорсткай, скажам так, таксама не была, – кажа ўрэшце яна. – Расла ў адносна забяспечанай сям'і, нават голад трыццатых нас не надта зачапіў. Але жабракі па вуліцах хадзілі, і шмат. Бацька працаваў дробным начальнікам на чыгунцы, маці – бухгалтаркай у "Асавіяхіме". Ля горада – аэрадром быў. Вучэбны, вядома. Штодня парашутысты скакалі з "У-2". Не думала я тады, што самой давядзецца гэта рабіць, і не проста так, а са зброяй. Бацьку перад самай вайной нкусаўцы забралі, адразу і маці. Шылі ім шпіянаж. Быццам яны пра той аэрадром звесткі збіралі. Мне тады і сямнаццаці не было. Як іх павезлі, я плакала, за машынай бегла, дык тыя нкусаўцы спыніліся і мяне ў аўтазак упіхнулі. А па дарозе ў лесе – згвалцілі і выкінулі прэч. А суседзі, і ў школе, дзе вучылася, пачалі "шпіёнкай" зваць. А потым – немцы, маладзевы лагер у Альберціне, курсы выведкі. Так я і стала сапраўднай шпіёнкай. І не на немцаў я высільвалася, а для незалежнасці нашай. Каб чырвонапузых на ёй не заставалася. Але, што гэта я раскапусцілася… Нальём па сотцы…

– Зараз. Вось.

– Ну, адзінокіх жанчын цяпер будзе зашмат. І ў цябе, спадзяюся, хопіць. Столькі мужыкоў палягло. Вайна скончыцца. Заставайся толькі жывым. А я – няхай я буду ў цябе першай.

*8 гадзін. Раніца наступнага дня.*

У сваім кабінеце маёр НКДБ стаіць і нейкі час углядаецца ў закратаванае акно, за якім – далёкія абрысы дамоў і зблізу – клён з амаль голымі, учарнелымі галінкамі.

У дзверы грукаюць і ў пакой заходзіць жанчына ў форме НКДБ са старшынскімі пагонамі і з грубым, нічога не выяўляючым тварам.

– Зводка, – дакладвае яна і працягвее маёру лісток паперы.

Маёр кіўком галавы адпускае яе, садзіцца за стол, прыпальвае папяросу і чытае. Нейкі час думае, а потым выклікае капітана. У таго – кірпаты твар, стрыжка пад "бокс".

– Тую маладую бабу з явачнай кватэры дапрасілі? – пытае

маёр, адначасова праглядаючы зводку.

– Так точна.

– Адразу раскалолася?

– Не, давялося пацанам паўночы працаваць.

– І што?

– Назвала вёску, куды з’ехала яе быццам стрыечніца. А больш – нічога, сапраўды, не ведае. Тут ужо я адказваю.

– Якая вёска?

– Парэчча.

– Стоп!

Маёр раптам адрываецца ад паперы.

– Цікавая геаметрыя атрымліваецца, – кажа ён, і ўзбуджана соўгае ў рот чарговую папяросу. – Учора наш агент змаляваў двух “фашыкаў” з нацдэмаў, якія адзначыліся на явачнай. Сапраўдная гаспадыня той явачнай перадусім з’ехала ў Парэчча. Хто яна – яшчэ разбярэмся. На жаль, мы спазніліся іх, нацдэмаў, упакаваць. Праз нейкі час па дарозе на Парэчча забіваюць дваіх: старшыню тамтэйшага калгаса і яго шафёра-ахоўніка. І заўваж, з двух рэвальвераў. Забіраюць у іх зноў жа – два наганы. І да таго ж – машыну. “Віліс”.

– Ну і галава ў вас, – кажа, паддобрываючыся, капітан. – І што далей?

– Сёння ў той жа вёсцы, як мы ведаем, нашы праводзяць паказальнае пакаранне. Аднаго з мясцовых “бобікаў” якраз напярэдадні вылавілі. Раней там, заўваж, знаходзіўся блок-пост іх самааховы. Туды варта завітаць і нам. І як мага хутчэй. Адшукаць заадно тую бабу, што з’ехала з вуліцы Урыцкага і, упэўнены, мы там яшчэ нешта знойдзем і зловім. Давай, рыхтуй машыну. Аператыўнікаў! Дарэчы, я і сам – туды. Мы павінны сустрэць нашых, як яны будуць вяртацца. Завернеш іх зноў назад. На ўсялякі выпадак. Калі ж спознімся ці размінемся – абыдземся сваімі сіламі. Банкуй! Чакай, яшчэ наша агентура паведамляе: у тым раёне быццам намаляваліся акаўцы[3]. Няшмат, але варта мець на ўвазе. Кажуць, камандуе імі нейкі былы акцёр. У нас ужо ёсць на іх зверху аператыўка. А прытворшчыкі – не ваяры. Тым больш – не “профі”. Прышчучым. Тут ім – не тэатр. Доўга не пагуляюць.

[3] Армія Краёва (польск.)

*9 гадзін. Раніца.*

Усе абітальнікі хаты спяць. Не спіць толькі гаспадыня. Між тым, ужо даўно развіднела. Звонку раптам чуваць спачатку шум рухавікоў, а потым прыглушаныя галасы, нехта выкрыквае каманды. У вакно хаты грукаюць. Мірон і Янка імгненна прачынаюцца і хапаюцца за зброю Між тым Марта крыху адгарнае з акна коўдру і бачыць чалавека ў цывільным. Той робіць ёй знак, каб адчыніла дзверы, але жанчына абачліва расчыняе толькі фортку.

– Праз паўгадзіны! – крычыць ёй чалавек. – Каб усе выходзілі на плошчу! Гэта загад! Сход, сход!

І чалавек знікае. Марта з палёгкай пераводзіць дыханне. Але ўсё роўна жанчына моцна ўстрывожана.

– Гэта быў сельсаветчык, – тлумачыць яна. – Усіх склікаюць на сход, і паўсюль салдаты.

– Мы сыходзім? – пытаецца Янка.

– Позна, – кажа яму Марта. – Вам варта пераседзець тут. Лепш, пакуль не сцямнее. Можа, калі толькі ўсе збяруцца на той сход – хіба тады здолееце выбрацца.

– А ты? – пытаецца Мірон.

– Я мушу таксама туды ісці. Так будзе натуральна. А вы лезце на гарышча. Вось сюды, – паказвае яна на столь, дзе каля коміна прагледжваецца лаз. Зараз прынясу лесвіцу. Адтуль, дарэчы, бачная і плошча.

– Не трэба лесвіцы, – кажа Мірон. – Пасунем стол, з яго падцягнемся на руках. А лесвіца, калі-хто зойдзе, толькі прыцягне ўвагу.

Праз некалькі хвілін абодва ўжо на гарышчы. Невялікае акенца дае ім магчымасць назіраць за падзеямі, якія адбываюцца ў наваколлі. Там бегаюць салдаты, панура соўгаюцца да плошчы жыхары: рэдкія мужчыны, шмат вясковых баб, нават дзеці. Бачаць яны і Марту, якая неўзабаве выходзіць праз веснічкі і крочыць па вулачцы.

– Не падабаецца мне ўсё гэта, – вымаўляе Янка.

– І мне – не ў масць. Але мы выканалі заданне.

– Трэба хутчэй звальваць. А не тое – падставім жанчыну.

– Цярпі. Мітуслівая вошка першая на грабеньчык трапляе. Хоць я цябе разумею. Закахаўся, нябось?

– Можа і так. Файная жанчына. А хіба ты – інакшай думкі? Мо, ты – не закахаўся?

– Нам бы такіх жанчын паболей, – кажа Мірон. – І каб яны шмат дзяцей панараджалі. Тады і будучыня зусім іншая б намалявалася. Дый толькі, прадбачу, панабягуць сюды адусюль прыхадні і ўтворыцца суцэльны гноеадстойнік. І бабы нашыя ад усякіх мяшанцаў панараджаюць. Біялогія ў іх, баб – такая: нараджаць…

– Бінокль – дзе?

– Вось. Гэ-х, пажыць бы цяпер у якой вёсцы, панастаўнічаць, – кажа Мірон. – Я, калі ўжо немцы прыйшлі, у Наваградскай настаўніцкай семінарыі вучыўся, дагэтуль – у Віленскай беларускай гімназіі. Марыў лекарам стаць. Быў на курсах Саюза беларускай моладзі ў Альберціне, а напрыканцы сорак трэцяга ўжо ўступіў у швадрон Барыса Рагулі. Толькі некалькі месяцаў таму – у дэсантны батальён “Дальвіц”, дзе атрымаў рангу лейтэнанта.

– Пэўна, памятаеш і як уступіў у БээНПэ? – пытае Янка.

– Так. Мяне прымалі Рагуля, Родзька. Гэта было ў лесе, у Дальвіцы. А потым у мяне аблом здарыўся.

– А-а. Крыху наслышаны.

– Што ты там наслышаны – не ведаю, – стрымана тлумачыць Мірон, – але скажу табе праўду, як ёсць. Як паслалі нас дэсантавацца, у самалёце мы стаялі адзін за адным у шэрагу. Першым быў Вітушка, я – у канцы. Пачалі скакаць. А ў мяне парашут вылецеў з упакоўкі. Я немцу кажу: парашут не ў парадку, а той бярэ нож і абразае шнур. Кажа: “Яго ўжо не скласці”. Так я назад і вярнуўся. Але я тады не баяўся. Так адбылося. Дык, каб не было размоў, сюды сам напрасіўся. Знайшлі цяпер архіў, знішчылі як загадана і – назад. Можа, і ацалеем.

– А я матэматыкам хацеў стаць, да астрафізікі, астраноміі вялікую цікавасць меў, – расказвае ў сваю чаргу Янка. – Здольнасць у мяне адна выявілася: я любыя тэксты, лічбы з першага прачытання даслоўна запомніць магу. Але пры саўдэпіі мне не было шанцаў. Нават – выжыць. Бацьку арыштавалі, праз нейкі час і маці забралі. Ледзь паспеў да цёткі ў вёску схавацца. Але і там адразу пачалося. Панаехала аднекуль з Расеі ліхадзееў і п’яніц, знайшліся такія і сярод мясцовых. І пачалі яны калгасы ствараць, у сялян апошняе адымаць, голадам народ нішчыць, назвы свае ідыёцкія вёскам і людзям надаваць – усю, я слова нават запомніў: тапаніміку змянілі. Язык іх “могучий”, бач, такога вымавіць не мог. Вёска наша – Жыгвалодаўшчына (Жыгвалод – дарэчы, тутэйшае яцвяжскае імя) ператварылася ў Живоглотовщину, а потым, як калгасам нас прыціснулі – увогуле ў “Жизнь Ильича”.

Якая там “жизнь”? Якога Ільіча? Пакуты. Я мову іх, як і многія мае пагодкі, вымаўляць доўга не мог – горла балела. І зараз – не магу. “Чё ты, чек? Всё чин-чинарём?” Цьфу!

– Дык ты – з усходнікаў? – пытае Мірон.

–Так. У нас раней галадамор быў, у пачатку трыццатых. У некаторых калгасах сяляне быццам не выконвалі планы і іх аб’яўлялі адразу “сабатажнікамі”. З магазінаў забіралі тавары, склады з зернем апячатвалі, млыны зачынялі, нас таксама райвыканкам занёс у чорны спіс, на так званую “чорную дошку”. Хутка, вядома, пачаўся голад: елі крапіву, карэнні і лісце з дрэваў – бярозы, дуба, асіны. Жанчын і дзяцей ванітвала зялёным, бо такая ежа толькі запаўняла страўнік, але не пераварвалася. Пачалі павальна мерці. А тут і закон “аб трох каласках” аб’явілі. І “вышку” дзецям пачалі даваць з дванаццаці год. А мне якраз дванаццаць споўнілася. Маці думае, што сплю, а я ноччу падпаўзу да таго поля, надзяру крыху калоссяў і – дадому. Дык ім таго мала было: пачалі сельсаветчыкі неяк хадзіць па хатах і апытанне рабіць. Ты, пыталіся, хто па нацыянальнасці? Хто казаў – ліцвін, тых пасля забіралі гэпэушнікі. А у нас спрадвеку сябе лічылі не беларусамі, не палякамі, не русакамі, а менавіта ліцвінамі. Ну, а потым немцы прыйшлі. Я ўжо тады пра незалежную Беларусь марыў, адразу ў маладзевы саюз запісаўся, на курсы падафіцэраў пайшоў, у БээНПэ ўступіў. Цяпер вось з табой тут – на першым заданні.

– Дык ты нават мапу ў галаве трымаеш? Значыць, памяць у цябе сапраўды незвычаная?

– Так. Цяпер здагадваешся, чаму мяне за архівам з табой на пару кінулі?

– Амаль што горача. Але, патлумач, – гаворыць Мірон.

– Я павінен запомніць спіс нашых людзей. І аднавіць яго там, на Захадзе. Бо вайна, казалі, будзе працягвацца. А паперы цягаць пры сабе ці яшчэ што – смяротна рызыкоўна. І не для нас адных. Для ўсіх паперы знішчылі, а ў галаве ў мяне той спіс застанецца.

– Мне, калі шчыра, пра гэта адразу давялі, – раптам прызнаецца Мірон. – Што ў цябе – заданне ў заданні.

– Вось яно як? Але ты ўжо ўсё роўна прабач, старшой.

– Няма за што.

*10 гадзін. Раніца.*

Янка падносіць да вачэй бінокль.

– Быццам усё побач, – каментуе ён. – Сход? А салдаты навошта? Э-э, ды гэта гэбісты. Нам бы ў лес. Пераседзець, пакуль што…

– Зараз даведаемся.

У бінокль між тым бачна, як салдаты прыносяць да цэнтра плошчы казлы, потым кладуць на іх старыя драўляныя дзверы. Вясковыя людзі навокал моўчкі назіраюць У іх зацятыя, пахмурныя твары.

На дзверы праз нейкі час спрытна ўскараскваецца энкэдэбовец з лейтэнанцкімі зоркамі на пагонах і пачынае прамову. Яна даволі кароткая, бо лейтэнант неўзабаве саскоквае з імправізаванай трыбуны, махае рукой і нешта выкрыквае.

Мірон забірае ў Янкі бінокль. Ён бачыць, як з кузава грузавіка выцягваюць чалавека ў цывільным і вядуць да цэнтра плошчы. Гэта малады хлопец са слядамі катаванняў на твары. Русявыя, зблытаныя валасы, бачна, што выбітыя зубы. Той-сёй з сялян выбягае з натоўпу і б’е яго ў плечы, па твары. Гэта жанчыны. Яго, між тым, валяць на дзверы і прывязваюць вяроўкай.

Лейтэнант зноў звяртаецца да людзей навокал і неўзабаве падае рукой знак. На тварах людзей з’яўляецца жах. Дзеці хаваюцца за бацькоў. Па знаку лейтэнанта энкэдэбісты прыносяць двуручную пілу, якой у вёсках звычайна пілуюць дрэвы, і пачынаюць распілоўваць звязанага хлопца. Многія з тых, хто сабраўся і рваўся біць вязня, – зараз спалохана крычыць, жанчыны закрываюць вочы дзяцей рукамі. Бачна, як крычыць і вязень.

– Ну, што там? – пытаецца Янка.

– А-а, д’ябла! Павучальная акцыя! Чуў пра такое, але не надта верыў. Пэўна, злавілі кагосьці з былых паліцыянтаў. Не пашанцавала хлопцу. Урэшце, зірні сам. Гэта і ёсць пякельны свет. Тут усё на самазнішчэнне. Зона інферна. Гэ-х, з кулямёта б іх зараз!

Янка забірае бінокль, але неўзабаве аддае назад Мірону. Твар яго палатнее.

– Не магу глядзець.

– Чаму? Варта ж даведацца, што, калі зловяць, такое можа чакаць і нас.

Між тым, непрацяглая акцыя заканчваецца. Салдаты таропка заскокваюць у грузавік, пад брызент, афіцэр залазіць у кабіну, і

Усё жыццё Янка Брыль займаўся самаадукацыяй праз кнігу, без якой не мог уявіць сваё існаванне – *кожны мой дзень быў вучобай*. Таму і стаў ён сапраўдным энцыклапедыстам, асабліва ў мастацкай літаратуры. Часта ў размовах цытаваў на памяць сваіх любімых пісьменнікаў – Льва Талстога, Чэхава, Шаўчэнку і інш. Прычым чытаў не толькі многа, але і вельмі хутка. Не паспееш прагледзець новы часопіс, як Іван Антонавіч яго ўжо цалкам прачытаў і раіць, на што звярнуць увагу. Меў вялікую бібліятэку, якую паступова шчодра па частках раздаваў у розныя ўстановы. Калі я пісаў успаміны пра майго Тату Гаўрылу Іванавіча і дзяліўся ўражаннямі з Іванам Антонавічам пра яго настаўніка ў Ціміразеўскай акадэміі А.В. Чаянава і побыт на Беламорска-Балтыйскім канале, дык Янка тут жа мне падараваў кнігу мастацкіх твораў “Гофманіада” Чаянава і кнігу ўдзельнікаў гэтага будаўніцтва.

Янка Брыль быў вельмі добразычлівым чалавекам, меў вялікую колькасць сяброў, спачатку больш старэйшых за сябе, а потым і маладзейшых. У людзях галоўнай станоўчай якасцю лічыў чалавечнасць, не цярпеў двурушнасць, а сяброўства любіў “на роўных”. Таму значна маладзейшым – спачатку Нілу Гілевічу, а потым і мне – прапанаваў перайсці на “ты”. Гэта было для нас не проста, але вельмі прыемным і ганаровым. Ён заўсёды быў гатоў прыйсці на дапамогу. Памятаю, як Іван Антонавіч 3 жніўня 1994 года, пачуўшы ад некага, што ў мяне памерла маці, прыйшоў на пахаванне, сказаў вельмі шчырыя добрыя словы, падтрымаў мяне, а потым застаўся на памінкі, і гэта нягледзячы на тое, што на наступны дзень ён адзначаў сваё 77-годдзе.

Янка Брыль вельмі высока цаніў дзейнасць Максіма Гарэцкага, творы якога не толькі поўнасцю ўважліва прачытаў, але і перачытваў. З такой жа павагай і сяброўствам адносіўся да Гаўрылы Гарэцкага і Галіны Максімаўны, з якімі сустракаўся, перапісваўся. У 1980 годзе ён надрукаваў эсэ “Пасля лемантара”, у якім выказаў *няпершае захапленне братамі Гарэцкімі, пісьменнікам і вучоным*. Ён адкрываў і вёў першыя афіцыйныя вечары, прысвечаныя юбілейным датам Максіма Гарэцкага (пачынаючы з 75-годдзя), а на 90-годдзе і 100-годдзе выступіў са змястоўнымі думкамі пра жыццё і творчасць пісьменніка.

У 1988 годзе Іван Антонавіч так усхвалявана і шчыра выступіў на пахаванні майго Таты, што я не мог утрымаць слязу і сардэчна падзякаваў майго лепшага старэйшага сябра. На навуковай канферэнцыі ў НАН Беларусі, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Г. Гарэцкага (10.04.2000 г.) Янка Брыль выступіў з цёплымі ўспамінамі пра сустрэчы з Гаўрылам Іванавічам, высока ацаніў яго жыццё і ўклад у справу нацыянальнага адраджэння Беларусі. Ён напісаў артыкул “Сялянскае, народнае” у кнігу “Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы. Да 100-годдзя з дня нараджэння” (2000). Як заўсёды, артыкул Івана Антонавіча быў прасякнуты сардэчнымі пачуццямі да ўсіх Гарэцкіх, з хвалюючай шчырасцю і цеплынёй яскрава падкрэсліваў

галоўную сутнасць сям'і і найбольш важныя жыццёвыя моманты яе прадстаўнікоў.

Янка Брыль удзельнічаў амаль ва ўсіх "Гарэцкіх чытаннях", што надавала ім большую значнасць. Ён часта выступаў з прывітальным словам і аглядам дакладаў і выступаў. Усе ўдзельнікі чытанняў заўсёды радаваліся яго прысутнасці, дзякавалі за крытычныя заўвагі і былі шчаслівыя пахвале вялікага майстра слова.

Жыццялюб і аптыміст ад прыроды Іван Антонавіч любіў песні, меў даволі моцны прыемны голас, ведаў процьму беларускіх, польскіх, украінскіх, рускіх песен і выконваў іх выдатна. Як было добра ехаць на "Гарэцкія чытанні" ў Горкі ці Магілёў і назад групай самых актыўных удзельнікаў канферэнцыі (М. Мушынскі, Т. Голуб, Т. Дасаева) і пад кіраўніцтвам галоўнага саліста нашага невялікага хору Янкі Брыля і падпяваць яму! У яго сэрцы і душы заўсёды гучала песня. Нават, калі ў апошнія гады ён жыў адзін, казаў мне: "А ведаеш, я і тут часта спяваю".

Калі ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя мяне выбралі віцэ-прэзідэнтам АН Беларусі, я вельмі хацеў зрабіць нашу акадэмію больш нацыянальнай і таму прапанаваў нашаму Бюро Прэзідыума аднавіць выбары ганаровых акадэмікаў, якіх не было ўжо 35 гадоў. У ганаровыя члены акадэміі выбіраюцца грамадзяне Беларусі, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё культуры і адукацыі рэспублікі. У 1994 годзе ганаровымі акадэмікамі сталі Янка Брыль і Пімен Панчанка – найвыдатнейшыя прадстаўнікі беларускай літаратуры і вядомыя грамадскія дзеячы. Нават толькі адна прысутнасць гэтых асоб надавала Агульнаму сходу АН Беларусі большую значнасць, урачыстасць і беларускасць. На жаль, пасля новых выбараў Прэзідыума АН Беларусі і выбараў Прэзідэнта дзяржавы беларуская мова, пытанні беларускай літаратуры і культуры паступова пачалі пакідаць акадэмію, а нашых паважаных ганаровых акадэмікаў нярэдка проста забываліся запрасіць на сходы Аддзялення гуманітарных навук і на Агульныя сходы АН Беларусі.

Янка Брыль – сапраўдны інтэлігент, які заўсёды заставаўся самім сабой з дзівоснай сціпласцю і годнасцю, дабрынёй і мудрасцю; вялікі грамадзянін краіны, дзеля росквіту якой рабіў усё, што мог; гонар беларускай нацыі, які так глыбока змог спасцігнуць народную душу; сумленне нацыі, які зваў свой народ да нацыянальнай самасвядомасці і агульначалавечых каштоўнасцей.

———

Зноў звяртаюся да апошніх дзён Івана Антонавіча і развітання з ім. Больш чым 2,5 месяца прыйшлося правесці яму у бальніцах, зрабіць аперацыю, а 7 ліпеня ён пазваніў мне, сказаў, што адчувае сябе добра, мае прыўзняты настрой, бо так хораша зноў быць ва ўтульнай хаце, збіраецца ў Крынічнае.

Перад ад'ездам Янка Брыль разаслаў сваю новую кніжку "Парастак",

якую адправіў амаль па 60 адрасах. Мы таксама атрымалі: "Дарагім Радзіму і Галі з сяброўскай прыхільнасцю. 8.VII.06. Я. Брыль". Адразу пазваніў, што атрымаў, але ўражанне не змог перадаць, бо прачытаў троху пазней, а Іван Антонавіч ужо з'ехаў. Ніколі не думаў, што гэтая кніжка будзе развітальнай і ў нейкім сэнсе дойдзе да нас, як запавет.

Якая цудоўная сімвалічная назва! Гэта – зварот да сваіх вучняў, чытачоў, прыхільнікаў, асабліва да больш маладых пакаленняў, якіх у Янкі Брыля за яго доўгае складанае сумленнае жыццё вырасла вялікае мноства. Ён і мастаку падказаў, як зрабіць такую выразную вокладку.

У кніжцы аўтар, вялікі майстар прозы і асабліва мініяцюр, зноў шырока і шчодра расчыніў брамы сваіх багатых скарбаў. Тут можна пачуць бязмерную любоў да беларускай прыроды, да Нёманшчыны; мудрыя філасофскія разважанні пра жыццё, пра Радзіму, пра ўвесь свет; пра стан мовы беларускай; выказванні пра мінулае і будучае краіны, пра сяброў, пісьменнікаў і мастакоў, пра прыгожасць жыцця, якое, на жаль, часта парушаюць сатанінскія з'явы; сапраўды народныя думкі (не можа абысціся без народных прыказак); шчырыя споведзі пра сябе і свой радавод і г.д. Усё напісана прыгажэйшай адпрацаванай да дробязей брылёўскай мовай. Каб усё дайшло да глыбіні розума і сэрца, трэба кніжку чытаць і перачытваць вельмі ўдумліва.

Янка Брыль мог поўнасцю зліваецца з прыродай, быў на дзіва наглядальным і замілаваным да кожнай праявы прыгажосці ў дрэве, травінцы, птушцы, рэчцы, захадзе і ўсходзе сонейка... Яго апісанні малюнкаў прыроды – вершы ў прозе.

*Малы хлопчык увечары адзін выходзіў на ганак дома на лецішчы. Стаяў і ціхенька, зачараваны любаваўся роўным месяцам, зоркамі, небам...*

*Краса прыроды глядзіць на самую сябе яшчэ аднымі шчырымі, наіўнымі вачыма*

Ці яшчэ прыклад такога  цудоўнага слова пра прыроду.

*Крыху здалёк ды знізу гляджу на адну з маладых, стромкіх бярозак і думаю, што каб я мог, умеў напісаць дзіцячую казку. Яна пайшла б ад імя самага найверхняга лістка, -як ён глядзіць навокал. Чым любуецца, што хоча сказаць...*

*Высокая, цёмна-зялёная сцяна маладога бярэзніку са стромкімі пражылкамі берасцяна-белых гонкіх ствалоў у густой лістоце. Зводдаль, знізу відно, як на фоне гарэзліва, штуршкамі клубіцца, подыхамі іграе хваліста-празрыстай павалокай сінявата-светлы дым нябачнага за кустамі вогнішча.*

*Пройдзе як дым.*

Пра быстрацечнасць жыцця: *Але ж і гэтае адчуванне красы, зачароўваючы рухам, хвалюе і застаецца. У памяці.*

Успамінаю, з якой любоўю і захапленнем ён знаёміў нас з многімі дубамі, якія магутна і прыгожа раскінуліся недалёка ад Нёмана каля

Крынічнага. У кніжцы зноў чытаю пра гэтыя дубы:

*Дубы... Дубы... [...] Ужо на працягу блізу дваццаці гадоў, вядучы новых ды новых гасцей да бацькі Немана, я паказваў ім на прыдарожным пні нявінна смелае беразанятка, пасля, праз іншыя дачныя леты, хваліў бярозку-падростка, а сёння ўжо, дарагія мае, мы з вамі палюбаваліся сталай красуняй!... Дык возьмем яшчэ па кроплі і за бярозу на дубе. З ягонай сілай і з яе красой!...*

Пісьменніка хвалявала і не давала спакою савецкае мінулае. *Як баяўся Купала – пры Сталіне, і як баяўся Дубоўка – пасля Сталіна, пра што яшчэ як трэба не напісана.*

Мы часта з Іванам Антонавічам разважалі і ўспаміналі тыя часы бальшавізму і мне прыемна, што і ў гэтай кніжцы ёсць такія радкі:

*Кніга ўспамінаў Міхася Ганчарыка і кніжачка ўспамінаў пра яго. Пра іх нядаўнюю прэзентацыю мне расказваў Радзім Гарэцкі, цёпла ўспамінаючы бацькавага сябра, чалавека з падобным лёсам сталінскага пакутніка, які ўсё ж змог нямала зрабіць у айчыннай батаніцы, як Гаўрыла Гарэцкі ў геалогіі.*

Янка Брыль не любіў траскатні, паказухі, занадта гучных дыфірамбаў, сваіх афіцыйных юбілеяў, быў надзвычайна сціплы, хаця і разумеў сваё месца ў літаратуры. Не дапускаў шуму-пахвалы ў адносінах да сваёй асобы і не надта ўхваляў такое да іншых, што асабліва шырока распаўсюджалася ў апошні час.

*"Старэйшы беларускі пісьменнік. Жыве і працуе ў Мінску. Яго апошняя кніга..."*

*Бібліяграфічная даведка пра мяне ў "Arche", да змешчанага там эсэ.*

*Спачатку гэта трохі нязвычайна, а потым можна і ўздыхнуць з палёгкай, – настолькі яно лепш за ўвесь набор эпітэтаў, якімі кішыць сённяшняя літаратурная паказуха, дзе і абстрактныя геніі, і па-савецку народныя, і па постсавецку культавыя, і на польскі лад слынныя і выбітныя, і да нашай правінцыяльнасці эпахальныя ды сусветныя, нават "нобельскія", і па-біблейску апосталы ды прарокі... І яшчэ не ўсё ў пераліку!...*

Як шчыра, сціпла і самакрытычна піша Янка Брыль пра сябе:

*Мой колішні часовы соцрэалізм вінаваты яшчэ і ў тым, што напісаў я мала, залішне ходзячы, як кот вакол гарачай місы, калі якое-небудзь новае задумы, – а ці тое? а ці так? –замест таго, каб проста пісаць, "что Бог на душу положит". Як пісалі, скажам, Чэхаў, ці Шолом-Алейхем... Бо якраз чытаючы яго весела жывучыя апавяданні, яшчэ раз падумалася пра мае малапісанне.*

Іван Антонавіч быў вельмі шчаслівы сваёй сям'ёй. Мілая Ніна Міхайлаўна, верная спадарожніца жыцця. Такая разумная, адукаваная, абаяльная, з вялікім гумарам, сапраўдная дарадчыца ў жыцці і творчасці.

Ёй Іван Антонавіч прысвяціў пяшчотныя радкі ў нарысе “Нашы разлукі” (2004). Такія цудоўныя дзеці – Галя, Наташа, Андрэй – і, канешне, унукі, якіх усіх ён вельмі любіў і ганарыўся імі. З вялікай цеплынёй і радасцю Іван Антонавіч піша: *А ці ж гэта не навагоднія падарункі – сынаў званок з Японіі, а ўнукаў з Італіі? З сынам кароткая гутарка, а ад унука праз хрып і трэск у тэлефоннай трубцы, толькі: “Дзяду-ля!...” На чым сувязь і абарвалася. Але ж мне і такога нямала.*

Памятаю, як я, аддаўшы свой артыкул у рэдакцыю “Роднага слова”, вырашаў зайсці да Івана Антонавіча, якому гэты часопіс заказаў нарыс пра радавод. Ён яго закончыў, разам з Наташай падабраў здымкі. Калі я прыйшоў, з радасцю мне паведаміў: “А ведаеш, дарагі мой, павіншуй мяне – я стаў прадзедам!” Ведаючы пра “Радавод”, які мне паказалі ў рэдакцыі, я адразу спытаў: “А ў радавод паспеў уключыць новага чалавека брылёўскай крыві?” У часопісе, а зараз зноў у кнізе “Парастак” з прыемным успамінам пра тую сустрэчу прачытаў:

*Вясёлы пастскрыптум. 10 красавіка, калі ўжо гэты нарыс быў здадзены ў рэдакцыю “Роднае слова” і прыняты да выхаду ў чэрвені, я на шарай гадзіне, не ўключыўшы святла, у адзіноце спяваў сам сабе, у нейкія моманты нават ў слёзнай асалодзе ад музыкі і слоў – родных, рускіх, украінскіх, польскіх. І тут нечаканы і доўгачаканы званок ад Галі, што вось і яна ўжо бабуля, а я – такім чынам, прадзед!... У Мішы з Машай – дачушка, імя якой падрыхтавана бацькамі загадзя – Даша. Дар'я, а ў нас па-загорску – Адарка, Адара. Зноў жа высокае хваляванне, святочная навіна, пра якую мне захацелася дапісаць. Бо яна ж і да месца ў размове пра мой, пра наш радавод.*

Былы жаўнер і партызан, які добра ведае жудасці вайны, разлад паміж людзьмі і дзяржавамі, які цэніць мір сяброўства і разумнае аб'яднанне і які марыць пра будучае сапраўднае наасфернае жыццё, Янка Брыль у сваёй апошняй кніжцы ў якасці звароту ўсяму чалавецтву адзначыў: *Эфіопа-рускі Пушкін, беларуса-паляк Міцкевіч і многа другіх выдатных і добрых, у той ці іншай міжнацыянальнай сумесі – хіба ж і гэта не кліча ўсіх людзей да разумнага аб’яднання, да шчасця міру паміж імі? Нянова гэта ў мяне. Але ж і праблема штодзённа-вечная.*

———

І раптам 25 ліпеня – неспадзяваны страшэнны ўдар. Хаджу сам не свой. У галаве: “Іван Антонавіч! Янка! Як жа так? Чаму так? Як будзем без Цябе?” Сэрца плюхае зачаста і адчуваецца, што яно ёсць і нешта нават паколвае. Беларусь і ўвесь свет асірацелі: пайшоў ад нас Вялікі пісьменнік, Вялікі грамадзянін.

Дачцэ Наташы ён ўжо даўно даў запавет: хаваць з хаты на былой вуліцы Дразда, куды ў дзень 26 ліпеня і прывезлі труну. Пачалі прыходзіць развітацца блізкія, сябры, знаёмыя. Прыйшлі і мы. На вуліцы сустракае Данута. Кватэра адчынена. Наташа, Галя, родныя, Марыя

Захарэвіч, Валянціна Коўтун, Анатоль Сідарэвіч маўчаць ці шэптам размаўляюць... Іван Антонавіч, прыгожы, спакойны, трошку схуднелы, выглядае як быццам спіць. Ён заўсёды быў вельмі фотагенічны. Шматлікія яго здымкі такія выразныя, на якіх бачны самыя разнастайныя пачуцці: радасць і прыемную усмешку, роздум і задумлівасць, дабрыню і прыязнасць... Пазваніў сын, Андрэй Іванавіч, які працуе зараз у Японіі, што ўжо ў Маскве і хутка дабярэцца да Мінску.

На наступны дзень а 14 гадзіне пахаванне. Людзі ішлі адзін за адным з кветкамі – сумная вестка разляцелася па Беларусі. Сабралася чалавек пад 400–500. Многа знаёмых і незнаёмых. Бачу палітычных дзеячоў: С. Шушкевіча з Ірынай, А. Мілінкевіча, А. Лябедзьку, С. Калякіна, Ю. Хадыку, А. Дабравольскага, П. Краўчанку, многіх пісьменнікаў, журналістаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і інш. Вынеслі труну і над ёй і натоўпам узняліся магутныя светлыя, але з чорнымі стужкамі, бел-чырвона-белыя сцягі. Ад афіцыйных структур няма прадстаўнікоў не тое, што ад Адміністрацыі Прэзідэнта, ці Савета Міністраў, ці Нацыянальнага сходу РБ, а нават ад Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, Міністэрства інфармацыі, Нацыянальнай акадэміі навук (праўда, ёсць сціплы вянок ад Прэзідыума, а ён жа – ганаровы акадэмік!). Не відаць і прадстаўнікоў чаргінцоўскага пісьменніцкага саюзу. Як тады пры пахаванні Васіля Быкава, бел-чырвона-белы сцяг як ветрам здзьмуў усіх афіцыйных прадстаўнікоў чыноўніцкай “вертыкалі”, так і цяпер страх ад сцяга не пусціў іх на развітанне з народным пісьменнікам Беларусі.

Жалобны мітынг вёў Алесь Пашкевіч. Слова казалі Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі, Генрых Далідовіч, Сяргей Законнікаў, Вінцук Вячорка, Уладзімір Някляеў. Гучаць словы: Вялікі Беларус... Сумленне нацыі... Вялікі пісьменнік... Неперасягнуты майстар мініяцюры... Класік... Вучоны... Вялікі грамадзянін... Патрыёт... Прынцыповасць... Культура... Волат... Глыба... Асоба... Шляхетнасць... Інтэлігентнасць... Вялікі чалавек... Добразычлівасць... Любімы... Вялікая ўдзячнасць... Вечнасць...

На могілках “Калодзішчы” цела Янкі Брыля паклалі побач з Нінай Міхайлаўнай. Усплывае перад вачыма яе пахаванне. Гора Івана Антонавіча было невыносным, але ён трымаўся мужна. На памінках у той жа хаце на вуліцы Дразда я сядзеў побач з ім на канапе, прытуліўшыся да яго, магутнага, але такога аслабелага ад стратаў, стараўся перадаць яму хоць нейкую і маю сілу, гаманіў-гаманіў, каб адчуў ён маё шчырае спачуванне і каб троху адхіліць зусім змрочныя думкі, якія, я бачыў, увесь час наплвалі да яго. Прыгадаў нашу вандроўку з Нілам Гілевічам і яго Нінай Іванаўнай у Крынічнае на 80-годдзе пісьменніка. Так было радасна, весела, столькі казалі яму добрых ласкавых слоў. Зразумеў і падтрымаў радасць Янкі Брыля ад таго, што яго нічым не ўзнагародзілі ўлады Беларусі, хаця я быў моцна абураны такой знявагай да аднаго з самых выдатных людзей краіны. Пазней ад нас назаўсёды пайшла адна Ніна, а за ёй у хуткім часе і другая Ніна.

Цёплыя шчырыя словы сказалі Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Анатоль Кудравец, Віктар Карамазаў, загадчык аддзела культуры Карэліцкага райвыканкама Нагорная. Развіталіся, кінулі па тры жменькі зямлі ў магілу... І ўсё – не ўбачым больш жывого Янку Брыля.

Калі мая стрыечная сястра Галіна Максімаўна, дачка Максіма Гарэцкага, якой было ўжо за 80 год, адчувала сябе зусім дрэнна, яна брала кніжку Янкі Брыля і чытала яго цудоўныя творы, якія, як яна заўсёды падкрэслівала, дапамагаюць ёй жыць. Думкі, дух, словы Янкі Брыля будуць жыць вечна ў Беларусі і ўсім свеце, будуць захоўваць беларушчыну, дапамагаць жыць і будаваць вольную дэмакратычную цывілізаваную дзяржаву з прыгожай назвай Беларусь, якую так любіў і аб якой усё жыццё марыў вялікі Янка Брыль.

Травень, 2011– травень 2012 г.

Радзім Гарэцкі



У 2012 годзе споўнілася

## 85 гадоў Алене Анішэўскай
## 55 гадоў Юрыю Баене

Сардэчна віншуем
нашых калегаў!

Управа БЛА “Белавежа”

*Вольга Шынкарэнка*

# ЖЫЦЦЯ ЗАРАПАД

## Жыцця і золата і срэбра

Залатога жыцця зарапад,
Калі ўволю горам напіты,
Чалавек спасцігае няўзнак
Міг і вечнасць асобнай хвіліны.

Срэбнадымнаю ніткай у ім
Тчэцца зведанага павуціна.
Застаемся адзін на адзін
У пар**ы** між жніўём і націнай.

Толькі цягнецца ў неба пагляд,
Толькі верыцца сэрцу ў пространь.
Лёс размые найгоршага знак,
Зберагаючы квецень познюю.

***

Сум – размазвае.
Самота – гняце.
Адчай – душыць.
І толькі вялікае гора мацуе.

***

Нам бы душ чысціню бараніць ад слаты,
Для дабра яе берагчы й асвячонасці.
Ды нязначнае ўсё так і мкне верадзіць:
П'янкі смак зелля плыткай будзённасці.

***

Патанае ў траўні Радзіма ў бэзавай квецені,
Палоніць раскошай блакіту і фіялету адценняў.
Ці не каб узнавіць, вяртаючы з невараці,
Мару падлетка, на цябе падобнага ў нечым,
Якому загадка існага адкрылася ў імгненне,
Лад мудры, мерная хада светабудовы вечнай.
І пажадалася тады на зямлю вярнуцца некалі
Травінкай ці дрэвам, ці пахкай галінкаю бэзу.

***

Цішынёй сустракае ў дзень памяці продкаў
напаўразваленая хата бацькоў з пацямнелай
Іконай Багамацеры на покуце і маўклівымі,
Бясконца дарагімі даўнімі партрэтамі родных.
Нішто асабліва не змянілася тут за доўгія гады
Адсутнасці гаспадароў. Час, густы ад успамінаў,
Застывае, усё прасейвае пражытае няспынна.
Грукоча ў сэрца састарэлы боль ад зноў адчутага
Сіроцтва, які не меншае ані з вагой узросту, ні
З клопатамі ўласнага бацькоўства. Тым болей,
Што ў тваіх дзяцей ніколі ўжо такой не будзе
– З іконаю святой і рэтушшу партрэтаў навечна
Маладых бацькоў – старой намоленае хаты.

## Дарога ўніз

Пралятае жыццё, пралятае,
Не дае угледзецца ў дні.
І мінулага так не хапае,
Дзе ты дзёрзка шчаслівым быў.

Замінаюць гады, замінаюць,
Закрываюць сабою даль.
Застаюцца душы парыванні
Толькі мроямі без падстаў.

Пацяжэла хада, пацяжэла.
Ношкай робяцца ўхвал**ы**.
Свае рытмы, свае патрэбы
На адхоне жыцця і гары.

Пралятае час, пралятае,
Хоць і любіш яго кожны міг.
Як мінулага ўсё ж не хапае,
Дзе ты толькі вучыўся жыць...

Вольга Шынкарэнка

*Ала Нікіпорчык*

# У АЎТОБУСЕ ЕХАЛА РАБІНА

* * *

*(да наведвання царквы  Св. Мікалая ў Беластоку)*

„Ты думала адкупішся маўчаннем
стаяла доўга-доўга
ў цішыні спачатку
а потым – у малебне”

– я проста йшла
марозным беластоцкім ранкам
і так баялася
што не дайду…

“Слухаю”

– было ўжо так
мінулым снежнем
у храм ўступіла…

“Помню, помню
шматлюддзе тое на вячэрняй”

– прабач Дзіця
што брудныя зямныя раны
да чысціні твае прыклала

“Не прабачайся
…хацела ацалення?”

– на жаль, хацела
хоць і прывыкла жыць у ранах
але найбольш – святла
не стае святла чамусьці, Гаўрыіле...

“Ты адхілілася свае дарогі”

– ведаю
і прыйсці сюды не заслужыла
ведаю
душа не свеціцца знутры
замкнёная жыццёвай пасткай

“Не плач”

– мне пяць гадоў тваіх
як пяць стагоддзяў
ты па-над часам назаўжды
і што мае пустыя раны
перад тваімі...

“Быў лес і цемра і звяры
але звяры вышэй людзей намнога”

– а я ў Гародні
у сваім пакоі
няхай сабе й няўтульным...

“І пішаш верш”

– не я пішу
ты сам прыслаў мне
як папрок:
“*ты думала адкупішся маўчаннем...*”
ты захацеў
каб адгукнулася душа
на тваю – нябесную
але не ўмею прозаю
ні вершам
мо маўчаннем...

“ хай зберажэ цябе Гасподзь
і ў маўчанні”

*Цётцы*

1.

я заўсёды любіла сэрцам
я заўсёды любіла сонцам
і таму мела мала сонца
і таму мне балела сэрца

2.

я Лучынку ўсяго запаліла
але і тую даўно патушылі
мой народзе не любіць волі
мой народзе не прагне волі
і навошта яму святло

3.

*“... дыхаю адным лёгкім...”*

як два лёгкіх – Радзіма і воля
як два крылы – Радзіма і воля
як дзве лініі крыжа
пад якім я ляжу
пры самай дарозе
Старога двара

4.

роднасць болю
ёсць найвышэйшая роднасць
ах якімі чужымі мы сталі

5.

Алаіза
імя цвёрдае
як лязо рэвалюцыі

Цётка
імя цёплае
як летні дождж
ачышчу
амыю

і прычашчу
высокага болю Радзімы

***

у аўтобусе ехала рабіна
з вялікімі чырвонымі завушніцамі-ягадамі
з такімі ж пацеркамі-ягадамі
і з такім жа бранзалетам
апранута яна была
у блузу вольнага крою
з вялікімі чырвонымі кветкамі-разводамі
дапаўнялі яе
ярка нафарбаваныя чырвоныя вусны
і чырвоныя акуляры ад сонца
але ёй катастрафічна не хапала
падоўжана-вузкіх
вытанчаных
зялёных
рабінавых
лісточкаў

Ала Нікіпорчык



Удзельнікі літаратурнага семінара “Белавежы”, Беласток, 22 студзеня 2012 г. *Злева першы рад*: В. Стахвюк, Ю. Баена, Ж. Мартынюк, Л. Маліноўская, В. Нікіцюк-Пэркоўска, Г. Тврановіч, В. Петручук. *Стаяць*: Я. Целушэцкая, М. Лукша, Я. Целушэцкі, М. Андрасюк, В. Швед, М. Рэмбач (перакладчык), Я. Чыквін

*Ніл Гілевіч*

# **ДЗЁННІК:** гады 1985 – 1991

## 1985

*1-га студзеня.* Колькі дзён назад прыйшла думка напісаць верш “Сон з белай варонай”, увесь замешаны на іроніі. Думка гэта адразу ж перарасла ў задуму зрабіць цэлую нізку сатырычных вершаў-сноў з удзелам звяроў і птушак, іначай сказаць — скласці своеасаблівы бестыярый. Звяры і птушкі бяруцца не абы-якія, а з казак, прыказак і прымавак, тыя, што маюць назыўное, абагуленае значэнне. Сёння гартаў фальклорныя зборнікі, выбраў каля 30 персанажаў для гэтай будучай нізкі, а, можа быць, і кнігі. Так работа на 85-ы год ёсць, рэч можа атрымацца цікавая.

*2-га студзеня.* 30-га снежня пахавалі Міколу Лобана, а сёння — Макара Паслядовіча. Старая гвардыя сыпецца, адыходзіць, пакідаючы пярэдні край нам — колішнім “дзецям вайны”. Паслядовіча я чытаў яшчэ хлапчуком, раман “Паўстанне”, — па тым часе быў някепскі твор. Чытаў сёе-тое і пасля вайны. Ён добра ведаў жыццё, людзей — і гэтым быў цікавы. Думаю, што пераацэнка яго творчасці, пачатая ў канцы 50-х Адамовічам, не зусім справядлівая. Варта было б, пры ўсіх закідах наконт “лакіроўкі рэчаіснасці”, падтрымаць яго пошукі “героя нашага часу”. Не дадалі пры жыцці і Лобану: засланілі постаці больш магутныя і яркія (Мележ), адцёрлі, адпіхнулі больш спрытныя з маладзейшых. Абодвух гэтых цяпер ужо нябожчыкаў аб’ядноўвала адна рыса: прыродная сціпласць. У Лобана яна мела крайні характар — была, можна сказаць, унікальнай, бяспрыкладнай. А людзі сціплыя — заўсёды людзі добрыя. Рэдкаснай была і дабрыня гэтых нашых старэйшых таварышаў.

Днём спаткаўся з “цэнзарам” маіх “Родных дзяцей” М.К. Высоцкай. Сказала, што твор ёй спадабаўся. Вядома ж, я не прызнаўся, колькі было ў мяне хвалявання, неспакою, трывогі, пакуль карэктура не вярнулася з Галоўліта з блаславеннем. Баяўся за дзве лініі ў сюжэце: экалагічную і нацыянальна-патрыятычную. Відаць, дапамагло — прытупіла зрок — маё сённяшняе чыноўнае становішча.

*3-га студзеня.* Прачытаў — уважліва — “Паляванне на апошняга жураўля” Жука (у свой час перагарнуў бегла). Бясспрэчна, напісана рукой таленавітай. Але — ці не паспяшаўся аўтар з друкаваннем? Ці не варта было сёе-тое прадумаць глыбей, а сёе-тое падшліфаваць? Напрыклад, казка пра Жураўля і ўся яго прысутнасць у аповесці маглі б быць больш адчувальнымі. А кампазіцыя рэчы — больш зладжанай: раздражняюць “пераскокі”, надта многа іх. Выпадковае забойства Дзямідчыка зніжае маральны пафас твора — пабаяўся сказаць праўду да канца. А яшчэ яўная пераклічка з Айтматавым, з Распуціным: Журавель — маці Рагатая аленіха — гаспадар Мацёры, звярок.

*4-га студзеня.* Зрабіў апошнюю папраўку ў “Родных дзецях” — пасля Галоўліта. Страшна дакараю сябе, што не прымусіў пяро да гэтага раней — адчуваў жа, што бянтэжыць, даўным-даўно. У каторы раз даю лішні клопат рэдактару.

Быў на “паэтычнай пятніцы” Вольгі Іпатавай. Здольная паэтэса і празаік. Справядліва хвалілі за распрацоўку гістарычнай тэматыкі. Выступленне Ч-ва — нуднае ныканне-мыканне — яшчэ раз пераканала, што сучасных беларускіх пісьменнікаў ён не чытае і сказаць яму, апроч няскладнай агульшчыны, няма чаго. Ні адной спасылкі ні на адзін твор! Наогул быў перакос у тэму “прыгожая жанчына Вольга”.

*5-га студзеня.* Дачытаў “Сваіх і чужынцаў” Чыгрынава. Усё ніжэй і ніжэй. І нашто было распіраць аж на тры тоўстыя кнігі, калі ўсё гэта можна было — пры ашчадным пісьме — змясціць у адной нятоўстай? Колькі лішняга, дробнага, колькі непатрэбнага споўдання герояў і атрадаў на старонках! Што значыць наўмысная маніякальная ўстаноўка на эпічнасць, на талстоўска-шолахаўскі размах! Ах ты, божа мой! Правінцыялізм наш смешны, калі мы цябе пазбавімся? І самае крыўднае, што — здольны чалавек. І што магла б быць таленавітая, цікавая кніга пра пачатак акупацыі на Беларусі і зараджэнне народнага руху супраціўлення. Пагоня за аб’ёмам, відаць, прытупіла і чуйнасць да слова, да сказа: ніколі раней не бачыў у яго столькі стылістычнай няўдобіцы. Па некалькі разоў на старонцы — “тым часам”, “між тым”, “акурат”, “няйначай”, і нават “як ужо вядома” (г. зн. “як ужо было сказана вышэй”). Не, не, пра вялікае майстэрства тут не можа быць і гаворкі. І дарэмна пластаюцца перад мэтрам яго прысяжныя крытыкі, т.т. Гніламёдаў, Юрэвіч і іншыя. Час скажа сваё слова — і можа, нават раней, чым некаторым здаецца. Дарэчы, размахнуўшыся на тры тамы, падзеі і лёсы абарваў гвалтам — нават не акрэсліўшы належна. Што такое, напрыклад, Чубар? А Масей? Адно заінтрыгаваў ім чытача.

## 1987

*1-га студзеня.* Ніколі яшчэ ў такім настроі не сустракаў Новы год. Ніколі ў гэту пару не было на душы так цяжка і так пуста. Ніколі не чуўся такім збалелым, старым і хворым. Калі б тады, паўтара года назад, не затрымалі мяне ў гэтых службовых аглоблях — напэўна, сёння чуўся б іначай, лепей. Хоць бы троху пра здароўе паклапаціўся б, пра нейкі разумны рэжым падумаў бы. Каторы ўжо год кладуся — выключаю святло — у чатыры, у пяць, а то і ў шэсць гадзін раніцы! Як бы ўсё думаю: зносу не будзе. Хаця ж і не думаю так!

Віншавальныя званкі: Макаль, Сіпакоў... Апрача Быкава, які пазваніў першы. Здаецца — і ўсё. Сіпакоў паскардзіўся, што Макаль так і не прынёс у “Маладосць” абяцаную рэцэнзію на “Родных дзяцей”. Пытаецца: што рабіць? У мяне! Як быццам я прасіў ці заказваў рэцэнзію. З лета 1985 года пішацца гэты водгук на маю кнігу! Ах, сябры, сябры! Доўга жыць будзеце — з такімі “клопатамі” пра Бацькаўшчыну!..

*4-га студзеня.* Гіну, канаю поціху, як надарваны конь на выгане... Баліць усё — ныркі, печань, ломіць у скронях, начамі сэрца сціскае так, што задыхаюся. І ўсё ад таго, што баліць і ніякай рады не знаходзіць душа. Як відаць па ўсім — і не знойдзе. Колькі страшнага давялося пачуць, прачытаць, перадумаць за апошнія месяцы! Нічога не магу чакаць, ні на што не магу спадзявацца! Назад ходу гаспадары жыцця не дадуць. Так, у такім настроі, з такімі думкамі пераступіў мяжу паміж старым і новым годам; так пачынаецца мой 1987-ы. Калі сёння-заўтра не грукну дзвярыма — можа быць і зусім кепска. Збрыдзела ўсё да крайняй, апошняй кропкі цярпення.

## 1988

*Лістапад.* Эстонскі журналіст N, з якім у мяне ў Таліне (летам 1986-га) былі вельмі шчырыя размовы наконт самага балючага, прыслаў мне нумар газеты “Советская Эстония” за 30 кастрычніка гэтага года. У нумары — праект “Закона Эстонскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — аб мове”. Самыя першыя радкі праекта вельмі ўразілі: “Эстонская Сав. Сац. рэспубліка з’яўляецца суверэннай нацыянальнай дзяржавай, дзяржаўнай мовай якой з’яўляецца эстонская мова”. Вось так!.. Эстонія — суверэнная дзяржава, эстонская мова — дзяржаўная...

Не сумняваюся, што Праект стане Законам, і вельмі скора. Я гэта адчуў яшчэ тады, у 1986-м, на пачатку перабудовы. Чытаў і перачытваў артыкул за артыкулам будучага закона. З захапленнем чытаў. Да чаго ж усё прадумана, узважана, улічана і прадугледжана! Закон — у поўным сэнсе слова — мудры. Напісаны мудрымі дзяржаўнымі людзьмі.

У гэтым жа нумары, у якасці каментара да Праекта, змешчаны артыкул знакамітага лінгвіста (не эстонца родам), доктара філалогіі,

прафесара Юрыя Лотмана “Патрэбен Закон аб мове”. Артыкул складаецца з шасці частак, кожная з якіх дае адказ на пастаўленыя ў падзагалоўках пытанні. Першае: “Чаму патрэбен Закон аб мове?” — “Без мовы няма культуры. Таму пагроза мове ёсць пагроза культуры, а пагроза культуры — пагроза самаму існаванню нацыі”. Другое: “Каму патрэбен Закон аб мове?” — Натуральны адказ: ”Эстоніі і яе нацыянальнай культуры. Але ці толькі ёй? У развіцці культур розных народаў зацікаўлена чалавецтва”. Трэцяе: “Ці гарантуе Праект Закона абарону правоў неэстонскага насельніцтва рэспублікі?” — “Праект абараняе інтарэсы ўсіх жыхароў Эстоніі, незалежна ад іх нацыянальнай і моўнай прыналежнасці”. Чацвёртае: “Ці закранае Праект Закона чые-небудзь інтарэсы?” — “Так, закранае. Аб гэтым трэба гаварыць прама. Ён закранае інтарэсы бюракратыі, асабліва верхніх эшалонаў”. Пятае: “Якая канчатковая мэта Праекта Закона аб мове?” — “Мэта Праекта Закона — аздаравіць атмасферу, стварыць сапраўднае адзінства народа Эстоніі”. Шостае: “Ці не выкліча ўвядзенне Закона аб мове культурнай ізаляцыі Эстоніі?” — “Не, не выкліча. Больш за тое, можна лічыць, што развіццё эстонскай культуры будзе выклікаць рост цікавасці да яе за межамі Эстоніі”.

Ах, шаноўны прафесар! Каб табе даў Бог здароўя — за такую разумную, справядлівую і высакародную грамадзянскую пазіцыю!

## 1990
## Запісы з пасяджэння Вярхоўнага Савета РБ

*15-га траўня.* Пачатак вялікай эпохі па стварэнні сапраўднага Беларускага Парламента.

“Занатоўкі для сябе”, зробленыя ў час пасяджэнняў ВС РБ.

*16-га траўня.* З даклада мандатнай камісіі: на сёння — 328 дэп., 295 не былі раней дэпутатамі; 11 жанчын, 242 — беларусы (77%), 64 — рускія, 12 украінцаў, 10 палякоў, 1 яўрэй. Работнікаў культуры — 3, журналістаў — 9.

*18-га траўня.* Працяг абмеркавання кандыдатаў на Старшыню ВС.

*Садоўскі:* крычаў без мікрафона, пасля — у мікрафон, і ўсё ж Ціхіня не даў сказаць, што той хацеў.

*Мілаванаў:* усё тая ж дэмагогія, сагналі апладысментамі.

*Вячэрскі,* які ўчора вылучыў сябе на старшыню, зняў сваю кандыдатуру ў карысць Кавалёнка.

*Герасюк:* выкрывае Дземянцея, у т. л. за ікру, шпроты ў буфеце ВС.

*Лябедзька:* рэзка супроць партакратаў.

Адказы на пытанні вылучаных на пасаду старшыні ВС.

Дземянцей: “Суверэнная рэспубліка”.

Шушкевіч: адказваў выдатна, на тры галавы вышэй папярэдняга.

Кавалёнак: таксама малайчына.

Ад падліковай камісіі старшыня Скарынін абвясціў вынікі галасавання: выдана 323 бюлетэні, несапраўдных няма.

Дземянцей: за 161, супраць 162; 49,3%.

Шушкевіч: за 101, супраць 202; 30,9%.

Кавалёнак: за 47, супраць 276; 14,3%.

14 дэпутатаў выкраслілі ўсіх.

Паўторнае галасаванне:

Выдана 321 бюлетэнь, несапраўдны 1.

Дземянцей: за 167, супраць 153; 51,1%.

Шушкевіч: за 118, супраць 202; 36,1%.

Якая ганьба!

35 дэпутатаў выкраслілі абаіх!

*19-га траўня.* Новаабраны зайшоў у прэзідыум і не павітаўся (як у хлеў).

Выбранне Першага намесніка Старшыні і Намесніка старшыні ВС.

*Лукашэнка* прапануе: не выбіраць сёння, а — пракансультавацца. “Вы, т. Сакалоў і ваша каманда, палітычна здорава прайгралі — як ніколі!”

*Глушкевіч*: выдаў Дз-цею як трэба. Выйдзі на Плошчу да народа!

*Пазняк:* стаіць ля мікрафона, слова не даюць, старшыня ігнаруе, а ён стаіць. (І ля іншых мікрафонаў — стаяць.)

Прагаласавалі: выбіраць намеснікаў сёння.

Пачаліся спрэчкі. І на якой жа мове? Дземянцей паспрабаваў па-беларуску — канфуз!

*Пазняк* (дабіўся-такі слова): “Прыйшлі да палітычнага крызісу ў рэспубліцы і ў Вярхоўным Савеце”. (Гаварыў разумна, лагічна, пераканаўча.)

(Каратчэня з Вілейкі — бунтуе супроць Пазняка.)

*Дземянцей* вылучыў Машко на Першага намесніка.

*Навумчык:* трэба не з апарата, а Шушкевіча або Кавалёнка.

Пасля перапынку першым намеснікам старшыні выбралі Шушкевіча.

(За — 269, супраць — 28, устрымалася — 9.)

Намеснікам старшыні ВС выбралі Шаладонава.

*29-га траўня.* З 16.00 абмяркоўвалі, на якой мове весці пасяджэнні сесіі. У абарону беларускай выступілі: Вярцінскі, Трусаў, Баршчэўскі, Садоўскі, Шушкевіч.

Прагаласавалі: 183 за тое, каб на беларускай або на рускай, як хто жадае.

(Закон аб мовах — не прайшоў бы.)

Вялікі крок "наперад": 45 гадоў пасля вайны Сесіі ВС БССР вяліся на беларускай мове. Цяпер — вядзецца на рускай мове. Толькі таму, што выбралі старшынёй т. Дземянцея.

*8-га чэрвеня.* Абмеркаванне кандыдатур на старшынь планавай і бюджэтна-фінансавай камісій.

*Унучка* (сакратар райкома з Навагрудка).

*Беленькі* (рэжа па-беларуску).

Толькі таму, што па-беларуску — слухаюць дрэнна, не ўспрымаюць, як бы загадзя ведаючы — "не варты". А хлопец вельмі разумны — варты! Бліскуча адказвае на пытанні! Паказвае веды надзвычайныя! Свабодна чуецца — як рыба ў вадзе!

Прагаласавалі: за Унучку — 685, за Беленькага — 98. Як шкада! Такі талент адхілены! Трэба яго назначыць міністрам фінансаў!

Заява аб тым, каб не пасылаць беларускіх хлопцаў з міліцыі ў Арменію і Азербайджан. Дэпутат Слабчанка паведаміў, што старшыня Баранавіцкага гарвыканкама Лабко пазбавіў памяшкання мясцовую суполку ТБМ — выгнаў на вуліцу!

*9-га чэрвеня.* 10.00. *Ганчар*: З ультыматыўнай заявай: стварыць альтэрнатыўную Камісію заканадаўчую; гэты ж зрабіць іншым праваленым кандыдатам — Канаплю, Баршчэўскаму, Заблоцкаму — стварыць альт. камісіі. Заклікаў Шушкевіча падаць у адстаўку — паколькі "Вы палітычна буйна прайгралі". (Амбіцыя? А між тым — Булахаў — яго "родны брат".)

Дземянцей не зрэагаваў на гэту заяву і даў слова па п. дня.

*19-га чэрвеня.* Пачалі з пасылкі дэлегацыі ў Маскву — для выпрацоўкі канцэпцыі Дагавора. Ой і спрачаліся! Гвалт!

*20-га чэрвеня.* Выбары старшыні камісіі.

10.00. Камісія па замежных справах і знешнеэканамічных сувязях.

За Барыса — 157.

За Садоўскага — 154.

Загадзя настроіліся галасаваць за "свайго" — і не слухаюць, што кажа апанент-канкурэнт, а жаль: ён варты пасады!

Маё выступленне не дапамагло Садоўскаму.

*Шушкевіч* праінфармаваў аб удзеле беларускай дэлегацыі ў ВС Літвы. Адзначаўся Дзень Траура, Болю і Надзеі. Была Імша. Там добрыя адносіны да Касцёла і Царквы. ВС Літвы прыняў зварот да ААН і зварот "Да людзей Літвы". У абодвух — ні на крок назад! Прадстаўнік Польшчы выступіў вінавата, хітра, з намёкам на Віленскі край.

*21-га чэрвеня.* Адбылося першае пасяджэнне Камісіі па адукацыі,

культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Разгледжаны арганізацыйныя пытанні. Намеснікам выбраны: Баршчэўскі Л. Сакратаром: Цумараў Я.

Утвораны 2 падкамісіі: 1) па адукацыі (вядзе Баршчэўскі), 2) па культуры і захаванні гістарычнай спадчыны (вядзе Трусаў А.).

*22-га чэрвеня*. 10.00. Пачалі з ушанавання памяці ахвяр у сувязі с пачаткам Вялікай айчыннай вайны.

*Дэпутат Кічкайла А.Т. зрабіў даклад па чарнобыльскай праграме.*

Адсутнасць адзінства ацэнкі небяспекі забруджання. — Да гэтага часу!

100 экспертаў МАГАТЭ ў кастрычніку дадуць адказ — як быць? Гэта ж датычыць лёсу не толькі 2,5 млн., але і для ўсіх 10 млн. беларусаў! 4000 сем’яў да 1.7. сёлета перасяляцца. На 1991 г. прадугледжана 25 тыс. кв. для перасялення. У нас кожны год будуецца 100 тыс. кватэр. Прапанова: выдзеліць у 1992 г. з гэтых 100 тысяч — 15 000 кватэр для выселеных з зоны людзей.

Неабходна радыяцыйна-экалагічная пашпартызацыя. У год прадугледжана 915 млн. руб. даплат і льгот ахвярам Чарнобыля.

Дыягнастычнай апаратуры не хапае!

Цалкам трэба спыніць вытворчасць с/г прадукцыі там, дзе больш 15 кюры на кв. км.

*Пабудавана дарэмна*:

1423 хаты — 24 пас. (у Гомельскай вобласці),

230 хат — 4 пас. (у Магілёўскай вобласці).

Дз. М.І. “Давайце зарэгістрыраваемся”.

Агульныя страты ад Чарнобыля для Беларусі — 85 млрд. руб.

*23-га чэрвеня.* 10.00. Гадзіну спрачаліся — ці прымаць адстаўку Урада і зацвярджаць Старшыню СМ. Далі слова Кебічу.

*Кебіч:* За поўны эканамічны суверэнітэт Беларусі! Народ Беларусі — поўны гаспадар усяго, што ёсць на зямлі беларускай. 100 млрд. — страта Беларусі ад Чарнобыля. 8 гадавых бюджэтаў рэспублікі!

Прагаласавалі за давер Ураду: за — 252, супраць — 3, устрымаліся — 8.

Вярнуліся да Чарнобыля.

*Пазюмка А.Ф.* (Быхаў): Не хапае настаўнікаў па 3-4 прадметах у вясковых школах. (Уцякаюць настаўнікі.) Адным даплочваюць, другім — не. Дасюль не абследаваны дзеці і дарослыя! Даплата: у каго зарплата 400 — даплата 150 руб., у каго 100 — даплата 30 руб.

*Сукач М.Д.* (Лельчыцы, дырэктар міжгаса “Стадолічы”): Даць ацэнку дзейнасці Урада па Чарнобылю — нездавальняюча! Беларусі ніхто прадуктаў не дасць. Выехала — 927 чалавек — за 2 дні.

*Серада М.М.* (Петрыкаў, райвыканкам): Тушыць пажары няма чым — вада сыйшла. Хаты трэба зносіць і закопваць!

*Лазарэвіч Ул.Ул.* (галоўурач, Рэчыца): Не хапае — 100 урачоў. Па вобласці — 550. А маладых — рашылі не пасылаць!..

*Прышчэп Р.Ф.* (Ельск, ветэран): Неадкладна адсяліць — і толькі!

Малайчына, ахоўнік парадку!

*Кавалёнак Ул.В.* (касманаўт): Падтрымаў ідэю Кангрэса па радыяцыі.

*28-га чэрвеня. Працяг Чарнобыльскай тэмы.*

*Выступіў дэп. Гілевіч Н.С. Нават трохі папляскалі. Ганчар спецыяльна паціснуў руку.*

*Смоляр*. Вельмі талкова!

*Холад* — і многа іншых — і ўсе вельмі талкова.

*Мазай*: За год у Беларусі можна аздаравіць па пуцёўках 98 тыс. чалавек, а ўсяго — 285 тысяч (ці ведае яна, як сённяшняе яе выступленне шмат значыць для яе лёсу?)

*Еўтух*: тры гады ўзначальваў камісію па Чарнобылю. Атрымалі ад Платонава і Канаплі канцэпцыю ў красавіку мінулага года — а датуль?

*Тарасенка* — аб Законе аб беларускай мове: нічога не робіцца, не выдаюцца падручнікі.

*30-га чэрвеня*. 10.00. Пасяджэнне нашай камісіі (трэцяе).

Абмеркавалі законапраект (матэрыялы да яго) аб Суверэнітэце.

Наша прапанова: назваць рэспубліку: Савецкая рэспубліка Беларусь. (І па-руску, і на ўсіх мовах — Беларусь!)

Сфармуліравалі артыкул 7 — аб культуры і адукацыі для Дэкларацыі аб суверэнітэце.

*2-га ліпеня*. 11.00 *Адбылося пасяджэнне нашай камісіі* з удзелам міністра Н.А. Дземчука і нам. старш. СМ Мазай Н.М.

1. Аб новай канцэпцыі нац. сістэмы адукацыі.
2. Аб матэрыяльным і прававым статусе нар. дэпутата.
3. Аб праекце Пастановы па Чарнобылю.

*3-га ліпеня.* 10.00. Аб парадку апублікавання матэрыялаў сесіі ВС.

Аб выданнях ВС БССР (спрэчкі — вялікія).

Зацвярджэнне Указаў (колькі пустога, амбіцыйнага, колькі трацім часу на пустое! Сорамна!).

Сёння некаторыя падхопліваліся да мікрафона разоў па 10-15. А якім тонам! Той жа Савіцкі Б.П.

Прынялі пастанову аб ліквідацыі КНК.

*4-га ліпеня*. *Зацвярджэнне старшыні Вярхоўнага суда*. Вылучаны Каравай.

*Цумараў*: заклікаў галасаваць супроць. Сказаў: будзе ў нас Чарнобыль-гейт.

*Грыбанаў:* Няма канцэпцыі суда як самастойнай улады.

*Булахаў:* Не падыходзіць да ст. суда з пазіцый вулічнага папулізма. “Высочайшего класса” юрыст, і заклікаў галасаваць.

Каравай — (186 — 34 — 27) прайшоў.

*5-га ліпеня. Працяг учарашніх пытанняў.*

Склад Вярхоўнага Суда БССР. Падкінулі пытанні па мове (Трусаў, Цумараў). Шабашоў даў водпаведзь Цумараву, і дэпутат Трусаў І.І. падтрымаў Шабашова. (Ах, самаеды і ёлупні!)

*Грыбанаў:* супроць партыйнага складу Вярхоўнага Суда — і гакнуў па Гарбачову, які сказаў: “Не дапусцім, каб наша партыя была парламенцкай, яна будзе кіраўнічай, — г. зн. дзяржаўнай”. Суддзя — толькі Закону і Сумленню падпарадкуюцца.

У спіску 150 нар. засяд., — і ні аднаго ад культуры!

*Па Чарнобыльскай праграме.*

Зноў страшныя спрэчкі!

Нехта заблытвае ўсю справу — толькі дзе “зарыты сабака”? Колькі разоў браў слова Кічкайла! І Ганчар, і Смоляр, і інш.!

*12-га ліпеня. Пасяджэнне нашай камісіі (сёмае).*

Абмеркавалі сітуацыю наконт зацвярджэння СМ БССР.

Наконт юбілею Грунвальда.

Наконт рэгістрацыі Статута БНФ: падтрымаць раздзелы Статута, што датычаць мовы і культуры.

*16-га ліпеня. Зацвярджэнне намесніка старшыні СМ БССР.*

Мазай Н.М. За — 202. Прайшла. Гэта — добра. Да апошняга моманту сама хацела зняць сваю кандыдатуру.

Давялося мне аказаць падтрымку. Кажуць, што маё выступленне вырашыла яе лёс — дало ёй галасоў сотню. Можа быць. А Трусаў А.А. вельмі незадаволены. Прарочыць правал і развал культуры, асабліва помнікаў гісторыі. Ну, пабачым.

Сакалоў на перапынку мне сказаў: “Вы правялі Н.М. Мазай, але ёй трэба ад ідэалогіі бліжэй да матэрыяльна-фінансавых праблем, гэта ж Саўмін, а не ЦК!”. У прысутнасці Трусава — і той вельмі ўзрадаваўся.

*Пасяджэнне нашай камісіі* (супольна з камісіяй па галоснасці).

Аб кандыдатурах на пасады Старшыні Дзяржкамдруку і Старшыні Дзяржтэлерадыё БССР.

Рашылі: на друк — Законнікава С.І., на тэлерадыё — Бутэвіча А.І. (хаця ён рыхтаваўся на першую). Сталярову давядзецца пачакаць (дарэчы, не валодае мовай; а як кіраваць тэлерадыё, не ведаючы мовы? Ды яшчэ пасля Бураўкіна?). Цікава — хто і адкуль ён родам, Сталяроў? Чаму не валодае нашай мовай?

Перагаварыў з Мазай і з Кебічам. Падтрымалі нашу прапанову — Законнікава і Бутэвіча.

17.00. На сесіі абмеркавалі кандыдатуру Вайтовіча Я.К. на міністра культуры.

Выступіў талкова, на пытанні адказаў яшчэ лепш.

Ад Камісіі давялося гаварыць мне. Суседзі пахвалілі, як і за выступленне па кандыдатуры Мазай.

Вынік галасавання: за — 196. Нядрэнна. Прайшоў. Ну, але — закасвай рукавы, Яўген Канстанцінавіч!

*17-га ліпеня*. 10.00. *Зацвярджэнне міністраў*.

*Дзямчук М.І.* За — 252.

Давялося мне ўзяць слова, пахваліць, але і выказаць засцярогі і трывогу наконт, у прыватнасці, беларусізацыі сістэмы адукацыі ў Беларусі.

Дзямчук М.І. набраў вышэйшы бал за ўсіх папярэднікаў.

*Краўчанка П.К.* (Падаў яму пытанне — як думае павысіць ролю МЗС у павышэнні міжнароднага аўтарытэту БССР). Прагаласавалі: за 226. Прайшоў.

*18-га ліпеня*. Працяг зацвярджэння кандыдатур на пасады міністраў.

*Законнікаў С.І.* (Дзяржкамдрук). Вынікі галасавання: за — 143. Зарэзалі!

*20-га ліпеня*.

*Слова ўзяў Кебіч — крыўды і абурэнне!*

Я папрасіў паўторна разгледзець кандыдатуру Законнікава.

*Пасяджэнне Прэзідыума*.

Кебіч прыгразіў адстаўкай, калі так будзе далей (калі так будуць "рэзаць" прапановы, так не паважаць старшыню і г.д.).

16.00. Пункты аб забеспячэнні жыллём дэпутатаў БССР у Мінску (з адпаведнай пастановы). О, колькі было страсцей, зацікаўленасці! Трохі не хапіла галасоў "за" — каб даць кватэры ў Мінску. Ну нічога, у панядзелак, пры большым кворуме гэта пройдзе.

*23-га ліпеня*. Зацвердзілі: даць кватэры народным дэпутатам у Мінску!

Пасля абеду назначалі міністраў і... Бутэвіч не прайшоў. Не дабраў 9-ці галасоў. Зноў вялікая памылка! Лепшай кандыдатуры не знойдзецца, упэўнены, што любая будзе горшай.

*24-га ліпеня*. *Дэкларацыя аб Дзяржаўным суверэнітэце Беларусі*.

Далі слова мне — усяго тры мінуты. Выступіў досыць скомкана. Паспяшаўся Дземянцей аб'явіць мне слова, не даў адрэдагаваць. Затое ўсыпаў ім за гэтыя тры дазволеныя хвіліны! А пасля 12-ці далі ўсім па пяць хвілін. Чаму не адразу?

*Бутэвіча* вылучылі на Дзяржкамдрук. Не разумею! Рашылі ж усе камісіі прапанаваць паўторна Законнікава!

*25-га ліпеня. Назначэнне міністраў.*

*Бутэвіч А.І.* — на старшыню Дзяржкамдруку. Не абмяркоўвалі — бо гэта было раней, калі ішоў на тэлерадыё. Узяў — 210. (Давялося выступіць — і — удала!)

*Слухалі аграрную камісію* — аб спісанні даўгоў з калгасаў і саўгасаў. Гарачыя спрэчкі. Усе бядуюць пра вёску, яе становішча і што будзе.

*26-га ліпеня. Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі.*

Дэпутат *Пазняк* прапанаваў, каб яшчэ раз абмеркаваць прынцыпы.

Прапанова Пазняка не прынята.

Аб назве дэкларацыі: не прынята рэдакцыя Пазняка, за якую і я галасаваў.

15.00. *Пасяджэнне нашай камісіі.*

Прынялі рашэнне аб рэформе правапісу беларускай мовы.

16.00. *Працяг абмеркавання Дэкларацыі.*

Выступіў па арт. 9 ад камісіі і правёў вельмі важныя палажэнні — аб захаванні нацыянальных традыцый і аб гістарычнай сімволіцы. Брава! Сам не чакаў, што пройдзе.

*27-га ліпеня. 10.00 Дэкларацыя аб суверэнітэце.*

Пазняк і група зрабілі дэмарш — пакінулі залу — у знак пратэсту супроць артыкула аб Саюзным Дагаворы. А які будзе Дагавор — ніхто не ведае.

У канцы дня Пазняк аб’явіў аб стварэнні Дэпутацкай апазіцыі. У ёй апынуліся і абодва мае намеснікі, і сакратар камісіі. Камісія апазіцыянераў! Дарэчы, у апазіцыі апынуліся і два старшыні камісій: Сасноў і Садоўскі.

Двойчы браў слова: першы раз наконт: поўны ці рэальны суверэнітэт, другі раз — растлумачэнне наконт “нацыянальных супольнасцяў”.

Дэкларацыю — прынялі.

*31-га ліпеня.* 10.00 Дземянцей закрыў Першую Сесію — і толькі. Дзеля гэтага сядзелі два лішнія дні ў Мінску. Можна было гэта зрабіць і 28-га. Дзяржаўных грошай не шкада.

І так — Першая сесія завершана.

*29-га верасня.* 9.00. Нарада ў Шушкевіча: Бутэвіч, Вярцінскі, Гілевіч.

Аб рэгістрацыі газет і часопісаў. Аб фактах пераводу беларускіх выданняў на рускую або на змешаную (руска-беларускую).

*8-га кастрычніка. Пасяджэнне нашай камісіі.*

Удзельнічалі: Мазай, Вайтовіч, Стаўроў, Харкавец, Корбут і іншыя.

Аб праекце Дзяржаўнай Праграмы пераходу да рынкачнай эканомікі (другое на камісіі чытанне). Крытычных заўваг выказана безліч. Сёе-тое

праяснілася, а іменна: адукацыя і культура могуць спадзявацца толькі на Бога.

*Нарада Старшынь камісій ВС.*

*Дакладчык Мясніковіч*: “Сітуацыя крайне нядобрая. Напружанне на спажывецкім рынку нарастае — інфляцыя катастрафічная”.

Што трэба, каб спыніць дэстабілізацыю? Агульныя палітычныя прадумовы! — вось што перш за ўсё. 1) Палітычны суверэнітэт; 2) маральна-псіхалагічны стан грамадства. Увоз—вываз: 4-2 млрд. Вось бяда! Павінен быць больш стрыманы тэмп прыватызацыі. Патрэбна рэалістычная палітыка! Самая вострая праблема — збожжавая. Пасяўныя плошчы скараціліся на 14% — 450 тыс. гектараў. Падаюць аб’ёмы тавараў з лёну і інш. — з-за скарачэння плошчаў Чарнобыльскіх.

Выкуп дробных прадпрыемстваў дасць звыш 1 млрд. Ну, а пасля? Што будзе мець ад іх дзяржава пасля? Хто іх купіць? Як гэта адаб’ецца на агульным сацыяльным і культурным становішчы народа?

Абарона насельніцтва ад магчымага павышэння цэн.

Пасля даклада — досыць гарачыя спрэчкі. Асабліва наконт спажыў-(кааперацыі) рынку (машыны і г.д.).

*Дакладвае Янчук С.П.*, міністр фінансаў. Дэфіцыт — пустыя, незаробленыя грошы — усё нарастаў, дэвальвацыя дайшла да...

Нечакана для мяне — вельмі талкова, ясна расказаў, адкуль і куды грошы, асабліва пра прычыны бюджэтнага дэфіцыту, яго вытокі... Становішча крайне складанае!..

“Рэальных крыніц для выдаткаў на асвету і культуру — не бачу”, — так і сказаў. Здорава! Памірай, культура!..

Сітуацыю абмаляваў як амаль катастрафічную. Крычым: суверэнітэт! — Ну, дык і трымайце за свае грошы міліцыю, КДБ, і шмат чаго іншага. Саюз выдзяляе сродкі толькі пад усесаюзныя праграмы, а на нашы беларускія нацыянальныя — зусім не дасць нічога.

*Другая нечарговая сесія ВС.*

*9-га кастрычніка.* Дземянцей адкрыў па-беларуску і колькі хвілін, пацяшаючы публіку памылкамі, вёў пасяджэнне на Мове. Праз паўгадзіны перайшоў на сваю “трасянку”.

Пачалі з таго, з чаго і павінна было пачацца. Апазіцыя бярэ слова і пачынае дыктаваць сваё (Голубеў, Пазняк, Навумчык). Пачаліся прапановы і ад іншых — Лябедзька, Лукашэнка, Скарынін.

Зноў — знаёмая карціна: актывісты апазіцыі пруцца да мікрафона і... столькі прапаноў, што пра галоўнае, дзеля чаго сабраліся, гатовы забыць.

*Даклад В.Ф. Кебіча.*

Прыватызацыя ў прамысловасці (у гандлі? у абслугах?) праведзена на 30%. І што ў выніку? Ці ўяўляем мы, што нас чакае? Што будзе з прынцыпамі сацыялізму?

Дык а што ж усё-такі галоўная прычына — чаму горш і горш?

Адзначыў работу (прапановы) нашай Камісіі — з удзячнасцю.

Палітыка згоды і міру! — толькі адна яна забяспечыць паспяховы працэс стабілізацыі і пераходу да рынку.

*Кебіч: адказвае на пытанні.*

Досыць падрабязна і ўпэўнена. І галоўнае — як і ў дакладзе — мэтанакіравана: даеш суверэнітэт! Сапраўдны, рэальны!

А іншага выйсця і няма! Толькі — самі сабе гаспадары!

*10-га кастрычніка. Даклад Козіка Л.П.*

Пачаў вельмі сур'ёзна — крытычна і самакрытычна.

Прынцыпы не распрацаваны, гэты яшчэ не рынак — а пераход да рыначных адносін.

Ідэя эканамічнага Саюза рэспублік — адзіна верны шлях.

А прынцыпы: 1) свабода вытворцы; 2) свабода спажыўца; 3) свабода работніка на рынку працы.

Давер народа і моцная выканаўчая ўлада — умовы выканання праграмы.

Ці гатовы народ? Ці хоча ён?

Неадкладна ўтварыць сваю крэдытна-фінансавую сістэму! Неадкладна!

Спрэчкі разгарнуліся незвычайныя! Наконт канцэптуальных пытанняў. Яны — невыразныя.

*11-га кастрычніка. Пасяджэнне нашай камісіі.*

З удзелам Мазай, Вайтовіча, Стаўрова, распрацоўшчыкаў Праграмы і інш.

Размова адбылася вельмі змястоўная. Выпрацавалі сваю пазіцыю і свае прапановы і патрабаванні па раздзелу адукацыі і культуры.

Падрыхтавалі дакументы: прапановы і варыянт праекта Пастановы ВС па праграме.

Даручылі Міністру адукацыі напісаць Зварот да ВС БССР.

*13-га кастрычніка.* Даклад Козіка — з улікам прапаноў ад Камісій, затым — выступленні. Узяў слова і я. Звёў усё да адукацыі і культуры, і амаль не закрануў агульных прынцыпаў Праграмы пераходу да рынку.

Выступленне, хоць і папляскалі (дзяды, у асноўным), асаблівага ўражання не зрабіла. Проста мой боль, наш боль — для іх гэта дробязь. Пра што я і сказаў.

У заключэнне зноў узяў слова Кебіч.

Выступіў ад Апазіцыі і Трусаў. Адукацыю і культуру не чапаў, зачытаў прынцыпы апазіцыйнай Праграмы.

За нашу Пастанову прагаласавала ўсяго 28 чалавек. Ну, нічога. Наш праект не пусты, не бяздумны.

Шушкевіч, можна лічыць, адагнаў Цумарава ад мікрафона, зыгна-

раваў яго палымянае патрабаванне прагаласаваць паімённа.

*15-га кастрычніка*. Праект закона аб уласнасці ў БССР.

Першы дакладчык — Лоўчы, той самы, што “рэзаў” нефармалаў. Прачыталі даклады Заблоцкі і Козік. Усе тры праекты — зусім розныя. Пачаўся расхэйдус. Размовы і спрэчкі на ўсе галасы, ва ўсе бакі.

14.00 Пасяджэнне Прэзідыума.

Той самы расхэйдус! Зладжанасці і згоды — ніякай!

15.00. Працяг Пленарнага пасяджэння. Дземянцей не даў паставіць і прагаласаваць за дапаўненні да Павесткі — як абяцалася. І тады — па камандзе Голубева — апазіцыя паднялася і пайшла. У тым ліку — *і незалежны дэпутат Ганчар*.

Пачаліся спрэчкі па Законапраекту аб уласнасці. Але — у парадзелай зале настрой кіславаты.

Паступаюць прапановы — перапыніць работу сесіі, — па тых Законапраектах, што былі ў парадку дня спачатку.

У 16.00 зноў сабраўся Прэзідыум — наконт выйсця са становішча. Рашылі — ставіць на парадак дня тыя пытанні, што прапанавалі апазіцыянеры. Ставіць — а дэпутаты хай галасуюць.

17-га кастрычніка. Абмеркаванне Законапраекта аб уласнасці.

Дакладчыкі — Ціхіня, Заблоцкі. Талкова выступілі Новікаў і многія іншыя.

Прынялі пастанову — дапрацаваць у першым чытанні абодва законапраекты, зведзеныя ў адно. (Пры галасаванні найменш галасоў узяў праект апазіцыі.) Былі вельмі трывожныя выступленні наконт прыватнай уласнасці.

12.00. Абмеркаванне Законапраекта аб зямлі. Дакладчыкі — ад СМ — Мірачыцкі, ад апазіцыі — Станкевіч. Трэці дакладчык (галоўны — ?) — Гаркун, ад пастаяннай камісіі.

16.00. Працяг абмеркавання Законапраекта аб зямлі. Пераважае пазіцыя, што зямлю прадаваць нельга. Гучаць сур’ёзныя папярэджанні. Усё больш галасоў — зямлю не прадаваць!

*19-га кастрычніка. Пасяджэнне нашай камісіі.*

Аб новых формах навучання: гімназія, ліцэй, коледж.

Дакладчык — Сухнат.

Прагаварылі гадзіну — і перанеслі на панядзелак.

*22-га кастрычніка. 14.00. Пасяджэнне нашай камісіі.*

Вёў пасяджэнне Л. Баршчэўскі, — у старшыні — дзень прыёмаў як у члена Прэзідыума. Апрача таго — размова ў Мазай Н.Я. пра лёс беларускіх выданняў, — з удзелам прадстаўніка Мінфіна Румаса (нам. міністра).

*23-га кастрычніка*. Законапраект аб грамадзянстве Беларускай ССР.

Даклад па праекце (урадавым) — нам. міністра юстыцыі Дашук. Даклад ад апазіцыі — Баршчэўскі. Рэжа вельмі хораша. Малайчына! Цяжка будзе яго тэзы абрынуць.

Давялося і мне, хуценька накідаўшы тэзісы, выступіць. Хлопцы сказалі — добра!

16.00. Праекты: Закон аб Нацыянальным банку БССР і Закон аб Банках і банкаўскай дзейнасці. Дакладчык — Амельяновіч, — ад Урада. Ад групы дэпутатаў — дакладчык Беленькі. Ад Камісіі — Унучка. Паводле Беленькага: БССР стварае ўласную банкавую сістэму і г.д., адбываецца "эканамічны бандытызм" у Беларусі.

*24-га кастрычніка*. *Пачалося ганебна*. Слова ўзяў Лукашэнка і спляжыў Прэзідыум, старшынь за тое, што нічога не робяць, не даюць законапраекты, а бяруць-грабуць — хапаюць — жах! І каўбасу, і згушчонку, і машыны, а некаторыя — і нумары ў гасцініцы за 30 рублёў.

Які ж падняўся шум, як закрычалі, як падхапіліся! Во дзе папёрла люмпенская псіхалогія! Сумна і сорамна! Сорамна — за такі парламент, за такіх дэпутатаў, за такую дзяржаву — пігмейскую, халуйскую, вартую жалю і пагарды.

*Пытанне аб уладзе*. Закон. Дакладчыкі — Грыбанаў (ад апазіцыі) і Булахаў — ад Камісіі.

Камай — рэзка выступіў супроць БНФ і апазіцыі па пытанні Улады, наконт ахайвання і дыскрэдытацыі камуністаў. У водпаведзь — Крыжаноўскі, Заблоцкі. Козік назваў праект апазіцыі палітычным хуліганствам...

*5-га снежня. Пачатак 3-й сесіі.*

Адкрыў Дземянцей па-беларуску (па паперцы, вядома).

Утрасанне парадку дня. Вельмі здзівіла выступленне Булахава — супроць уключэння ў парадак дня Закона аб культуры. Пасля абеду яго падтрымаў Ганчар. Водпаведзь далі Цумараў, Трусаў, Баршчэўскі. У выніку — перамога наша. Супроць было, тым не менш, 55 галасоў.

*6-га снежня. Закон аб уласнасці.*

Галоўныя спрэчкі — па пункту 19 — аб прыватнай уласнасці на зямлю. Даць не даць у поўную ўласнасць з правам продажу і перапродажу? Не прайшла ні адна рэдакцыя. Барацьба абвастраецца.

*10-га снежня.* Пачалося з палітычнай заявы апазіцыі (61 подпіс), агалошанай Пазняком. Рэзкі пратэст супроць партбюракратычнай большасці ў ВС, якая супроць прыватнай уласнасці на зямлю. Заява вытрымана ў вельмі катэгарычным тоне, гучыць як прысуд ворагам беларускага народу.

*11-га снежня.* Пачалі з чытання Указа Прэзідэнта СССР аб Зямлі. Даўлюд прапанаваў павіншаваць Валенсу з абраннем на пасаду Прэзідэнта. Пагадзіліся, але аніхто не пляснуў! Нават ні адзін парламенцкі "паляк". Выдатна! Радавацца няма чаго: да ўлады прыйшоў пілсудчык, клопату з ім набяромся.

*12-га снежня.* Працяг Закона аб арэндзе. Ціха і нудна: ні пытанняў, ні спрэчак.

Затым — Закон аб прадпрыемстве. Абмеркаванне ідзе вельмі горача.

15.00 - 16.00: пасяджэнне Камісіі па навуцы і Прэзідыума АН БССР. Н.Г. урэзаў — як некалі ў Кебіча — па аддзелу грамадскіх навук. Навуменка чырванеў і бурэў ад злосці.

*13-га снежня. Працяг абмеркавання Закона аб прадпрыемстве.*

Вельмі гарачыя спрэчкі — як і трэба было чакаць. Хто — гаспадар прадпрыемства і якія яго правы?

Цэлы дзень прайшоў у гарачых спрэчках па гэтым пытанні...

*20-га снежня. План і бюджэт 1991 г.*

Абмеркаванне. Вельмі зацікаўленае. Сказаў сваё 5-мінутнае слова і я. Добра выступілі нашы "камісіянеры" Ніканчук, Баршчэўскі, Трусаў.

## 1991

*15-га студзеня.* Пачалося з гарачай перапалкі наконт падзей у Літве. Амаль гадзіну пайшло на гэта. Дамовіліся паслаць дэлегацыю і па яе вяртанні — абмеркаваць літоўскую сітуацыю на Сесіі.

Тады пачалі абмяркоўваць праект Закона "Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы". Дакладчыкі — Мірачыцкі і Гаркун. Альтэрнатыўны праект — дакладчык Станкевіч.

*У 18.00 — выехалі ў Вільню.* У дэлегацыі: Анісенка, Вялічка, Карпенка, Голубеў, Слямнёў, Шабашоў, Гілевіч (кіраўнік дэлегацыі).

*16-га студзеня.* Цэлы дзень у Вільні. *Уражанне — жахлівае.* Вечарам выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета Літвы. Калі сыходзіў з трыбуны — уся зала ўдзячна вітала стоячы. А ўвесь дзень — на пахаванні ахвяр. Уся Літва праводзіла іх як нацыянальных герояў. Пад вечар пабывалі ў ЦК КПЛ, бачыліся і гутарылі з Ермалавічусам і Бавыкіным. Сумна і трывожна. Сядзяць як мышы пад памялом, а — спадзяюцца! На рабочых і сялян — як на сацыяльную базу. А перш за ўсё — на Маскву. На тыя ж танкі і бронетранспарцёры.

*17-га студзеня.* І цэлы дзень — пра Літву. Спачатку — Дзямянцей. Прачытаў тое ж, што прагучала па тэле. Затым з паўгадзіны стаяў за трыбунай старшыня дэпутацыі, што ездзіла ў Вільню. Успрынялі выступленне вельмі добра. Асабліва — "цэнтрысты". За ўмераную пазіцыю.

*Ганчар — нечакана для мяне — кусануў, два разы. Досыць подла. Прыйшлося даць водпаведзь.* Пасля кусануў і Лукашэнка. Ну, гэты зусім па-дурному: нібыта я не адрозніваю танкі ад бронетранспарцёраў. Як усё-такі прыемна выцяць, кусануць (на ўсю рэспубліку) не абы-каго, а Н.Г.!.. Сумна мне, божа!..

*18-га студзеня.* У розным А. Лябедзька ўшчэнт раскрытыкаваў учарашні — літоўскі — дзень у нашым парламенце. Справядліва! Ператварылі ў палітычны мітынг — з мітынговым крыкам, з асабістымі выпадамі.

Палітычная канфрантацыя. Барацьба за ўладу. Вось што мы маем і ў парламенце і за яго сценамі.

*29-га студзеня.* Адразу ж рынуліся ў атаку апазіцыянеры — каб збіць з парадку дня і скомкаць работу Сесіі. Сітуацыя скандальная — Сямдзянава захапіла трыбуну, ёй слова не даюць, а яна не здаецца — нешта крычыць-пішчыць і дзярэцца. Ідзе перапалка. Падхопліваюцца з месц левыя — лямантуюць, патрабуюць, вінавацяць, нагнятаюць атмасферу. Садоўскі сadануў пад дых прэзідыуму — маўляў, я ж гаварыў учора, папярэджваў!..

*13-га лютага. 10.00. Закон аб ільготах на падаткі з прыбытку.*

Пункт 15 — аб падатках з выдавецтваў і друкарань, якія выдаюць кнігі і брашуры на беларускай мове. Давялося выступіць і мне. Нягледзячы на ўсё, пункт 15 не быў прыняты.

Усталі і выйшлі з залы, я — у тым ліку. Дэмарш. Спосаб не лепшы, але... і мірыцца нельга. Сэрца захадзіла хадуном, ледзь супакоіўся. Пасля таго, як выйшлі — пункт быў прыняты. Значыць — палітычная гульня!..

Выступіў і па пытанні трансляцыі — каб адрэгуляваць і не гнаць усё цалкам. Дэмакраты пакрыўдзіліся. А людзі дзякуюць.

*14-га лютага. Аб Саюзным дагаворы.*

Дакладчык Шаладонаў. Выступіла чалавек 20. У тым ліку і я. Не лепшым чынам. Ну, але наконт мовы і культуры — урэзаў.

Учора на прэзідыуме я зняў сваю кандыдатуру з камісіі па выпрацоўцы праекта (канцэпцыі) Саюзнага Дагавора. А сёння многія рвуцца ў гэту камісію — аж пішчаць, як лезуць!

*4-я сесія (апошняя?)*

*21-га траўня.* Выступленне старшыні з аналізам грамадска-палітычнай сітуацыі.

Пасля гэтага выскачыў Антончык з патрабаваннем запусціць у залу і даць слова прадстаўнікам рабочых — са зваротам да дэпутатаў. Адмовілі: “дадзім тады, як будзе патрэба”.

12.00. *Ганчарык* — аб прафсаюзах. *Пазняк* — рэзка крытычна. І ўсю

віну — на ЦК і СМ БССР.

*23-га траўня. Садаклад Козіка.* Па праграме стабілізацыі і бюджэце.
*Лукашэнка* — растоўк праграму ўшчэнт, патрабуе адстаўкі Урада.
*Сукач* — падтрымаў Лукашэнку.
*Крыжаноўскі* — растоўк.
*Навумчык* — растоўк.
*Зданевіч* — растоўк.
Усе таўкуць! І ніхто не абараняе. І што ж будзе?
*Сумар* — крытыкуе.
*Малафееў* — заклікаў да розуму.
*Кузюк* — крытыкуе.

*24-га траўня. Працяг абмеркавання праграмы.*
*Савіцкі* — не бэсціць агулам СМ! Даверылі ж!
*Герасюк* — адабраць вялікія кватэры ў начальнікаў.
*Даўгалёў*: Праграму — у пух і прах! Не прынімаць! Хто мы — гаспадары ці васалы? *Перадаць паўнамоцтвы Лукашэнку* (Кебіч — Лукашэнку).

*31-га траўня.* У 11.00. пачалі абмяркоўваць паартыкульна і прымаць Закон аб культуры.

Пяць гадзін прастаяў за трыбунай! 8 і 9 раздзелы неадкладна трэба дапрацаваць. Ну, што ж! Затое арт. 35 (3% нацыянальнага бюджэту) — прайшоў! Гэта вялікая перамога!

*4-га чэрвеня.* 10.00 - 11.00. Гістарычны для нашай краіны дзень: прыняты Закон аб культуры! З вельмі важнымі раздзеламі 8 і 9 — аб падатках і льготах па падаткаабкладанні, аб гарантыях аплаты працы і сацыяльных гарантыях для працаўнікоў культуры.

266 прагаласавала “за” — ні адзін закон так паспяхова (266) не праходзіў.

*7-га чэрвеня. 11.00. Закон аб адукацыі.* (Памажы, Божа!)
*Дзямчук* — даклад (добра).
*Гілевіч* — садаклад (слаба!).
*Цумараў* — досыць талкова...
*Пянькова* — па арт. 12 — супроць.
*Сяньчылін* — арт. 3, 4 — няма патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання.
*Ніканчук* — цэнз абавязковага навучання зніжаны (9 класаў). Ці добра гэта? Якое выйсце? Рэжа па-беларуску, як рэпу грызе.
*Трафіменка* — дзяржава панесла 10 млрд. рублёў страты з-за няўдалага выбару прафесіі.

*Русакевіч* — закон не нацэлены на будучыню, слаба звязаны з рынкам. 9 класаў — мала!

*Тоўсцік* — Закон адобрыць! Дадаць пункт аб працаўладкаванні выпускнікоў. Выхоўваць павагу да Закона. Закон дапоўніць артыкулам аб ільготах для студэнтаў.

*Лябедзька* — настаўнікам павінен быць мужчына.

*Слямнёў* — падкрэсліць неабходнасць фарміравання навуковага светапогляду.

*Сцепаненка* — прыняць радыкальныя меры па зарплаце, пакуль настаўнікі не пабеглі на захад.

Ніл Гілевіч

*Віялета Нікіцюк-Пэркоўска*

# У РАМОНКАВАЙ СУКЕНЦЫ

***

Усюды людзі ў людзях,
Усюды шчаслівае шчасце,
А я адна –
Паміж іхнім шчасцем і тымі людзьмі.

***

Баюся быць адной у чатырох сценах,
Баюся расстання, доўгага чакання,
Хачу ўцячы ад калючай штодзёншчыны
І схавацца ў тваіх руках – баюся

***

Спаць іду
У дзявочай пасцелі ляжу
У пер'і пушыстым тану.
А сон не ўляжацца
Коле яго зерне гневу з маіх даўніх гадоў

***

Малая князёўна
У рамонкавай сукенцы
З сонечнымі валасамі
Бліскучымі вачамі
Нявіннай ўсмешкай
Стала сёння чорнай княгіняй

***

Выглядаю з цемры раю
Ў ясны пякельны свет
Праз скрыўленых анёлаў
Бачу радасных д'яблаў

Злая задаволеная душа
Мучыць сваё цела

*Віктар Швед*

# НЕЗАБЫЎНАЕ

## Васількі ў жыце

Калісь, калі я быў падлеткам,
З сястрою Нінай ды бацькамі
На нашым полі ўлетку
Мы жыта жалі  ўсе сярпамі.

Здалося, што ў нашае жыта
Нехта насыпаў сініх пялёсткаў,
Быццам неба сваім блакітам
Размалявала жытнёвую пространь.

Аднак сярпы ўсё жалі і жалі
І пожня разрасталася за намі,
І васількоў краса жывая
Лягала ціха пад нагамі.

А потым зжатае жыта
Вязалі ў снапы  – і ў кожным
Зноў шмат трымцела блакіту,
Але і жалю трывожнага.



***

Як быў я хлапчуком вясковым
І жыў у родным наваколлі,
Вучыўся пільна польскай мове
У даваеннай гміннай Орлі.

Пісаў я вершы ў мове гэтай.
Як сёння помню тую хвілю,
Калі мяне ўпершыню паэтам
Сябры у школе „ахрысцілі".

Пазней у беларускай школе
Вучыўся ў Орлі я таксама
І вершы зноў пісаў уволю,
Цяпер жа беларускім складам.

І з сшыткам беларускіх вершаў –
Якая ж гэта была радасць! –
Паслалі ў Бельск, як аднаго з найлепшых,
Прынесці сваёй школе славу.

Мяне вось, беларускага паэта,
Узгадавала, значыць, Орля.
Таму люблю яе за гэта
Усёй душою сваёй вольнай!

Віктар Швед

*Юрый Баена*

# ВЯРНУСЯ ВЕРШАМ

## Мой Бельск

У бляску прасвету
ля Замкавай гары
мчацца коні.
Срэбрам-золатам
падзямелле звоніць.

Растае туман.
Уранні з поўдня
далінай-сном
ідзе-плыве
княгіня-рака Белая.

Штодня золак
дванаццаць
адчыняе брам.
Тысячы
палоніць вокнаў…

Дарагі мне Бельск.
Ён наш з глыбіні вякоў.
У светлым вобліку яго
бачу лік Маці Божай.

***

Над Нарвай-ракой
адчыніліся аканіцы сноў
і з усіх бакоў
павеяла тугой
за доўгачаканай вясной.

Пералётны птах
на верхавіне сасны
чытае ўслых
карту зямлі,
лісты нашых мараў...

## Восень

Золатам і чырванню
расчыняю дзверы.

Рабіну, ясень і клён
бяру ў агнявы палон.

Ад раніцы імглістай
да ночы зарыстай
сцежкі засыпаю лісцем.

Бабінае лета праду
серабрыстай ніткай.

З вышыні малюся
за вас найніжэйшых.

Вырай адкрываю –
вершам.

***

Правінцыяльныя імператары,
каралі бубновыя,
багі і бажкі пыхлівыя,
самазваныя,
капрызныя,
нікім неразгаданыя –

калі ласка, каштуйце
слодыч-горыч маіх вершаў,
па дарозе з бязмежжа
ў рэзерват флоры балотнай
і фаўны драпежнай.

***

Заморскія банкіры,
не прысылайце вершаў
у белых канвертах
моладзі тутэйшай.

Прастор наш вольны,
а неба – расхрыстанае.
І дарога –
праз густы лес –
наскрозь зялёная.

## Вяртанне

*светлай памяці*
*прадзеда Васіля Юзвюка*

Ён адзінокі брыдзе
ў царскім
салдацкім шынялі.
Дарогі, бездарожжа, лясы.
Па пояс трава.
Шызы палын, бур’ян, камяні.
Амаль не відаць галавы.
Іншых дзён лабірынт.
Не тыя ідэі, сцягі і капралы.

Прапаўшы без весткі
на фронце І сусветнай,
мой прадзед Васіль
век цэлы ідзе –
да сям’і, да ўсіх сваіх,
да мёртвых і да жывых...

З глыбокай, як ноч, траншэі!

Юрый Баена



Удзельнікі  літаратурнага семінара “Белавежы”, Беласток, 17 чэрвеня  2012 г. *Злева першы рад*: Г. Кандрацюк, інак Мікалай (Алег Бембель), А. Анішэўская, Г. Валкавыцкі, Г. Тварановіч. *Стаяць*: Ю. Баена, В. Швед, В. Стахвюк, В. Нікіцюк-Пэрковска, М. Лукша, Л. Маліноўская, Д. Іванчэўска-Нахіла, Г. Валкавыцкая-Даленга, Я. Чыквін.

**Пятро Васючэнка**
**Сяргей Кавалёў**

# АВАНТУРЫ КУБЛІЦКАГА ДЫ ЗАБЛОЦКАГА

## Новая версія

**Асобы:**

П а н  К у б л і ц к і
П а н  З а б л о ц к і
К у р а-Ш ч а б я т у р а
С т р а ш ы д л а
Д з е ў к а  Д р ы п а

## Пралог

Ноччу ў хаце Кубліцкага і Заблоцкага. У паўзмроку ледзь відаць канапу, на якой прамасціўся пан Кубліцкі і ложак, на якім разваліўся пан Заблоцкі. Затое паноў добра чуваць: у сне Кубліцкі пасвіствае ценарам, а Заблоцкі пахропвае басам, утвараючы зладжаны дуэт.

Пасля пранізлівага пасажа Кубліцкага, Заблоцкі раптоўна прачынаецца, лыпае вачыма. Зразумеўшы, дзе ён і што з ім, хоча зноў пакласціся спаць, але нечакана яму ў галаву прыходзіць нейкая думка. Заблоцкі запальвае свечку, і, праверыўшы, ці моцна спіць Кубліцкі, выцягвае з тайніка нешта завернутае ў тканіну. Разгарнуўшы тканіну, вымае дзве прыгожыя фарфоравыя фігуркі: Дамы і Кавалера. Стаўляе фігуркі на стол і нейкі час захоплена любуецца імі. Потым, яшчэ раз праверыўшы, ці спіць Кубліцкі, Заблоцкі загортвае фігуркі ў тканіну і хавае назад у тайнік. Схаваўшы, задувае свечку і кладзецца спаць. Неўзабаве да тонкага свісту Кубліцкага зноў далучаецца раскацісты храп Заблоцкага…

Пасля надзвычай гучнага храпа Заблоцкага, Кубліцкі раптоўна прачынаецца, усхопліваецца з ложка. Нейкі час асэнсоўвае, дзе ён і што з ім, а зразумеўшы – пагрозліва замахваецца рукой на Заблоцкага. Хоча ўжо працягваць сон, як раптам яму ў галаву прыходзіць нейкая думка. Кубліцкі запальвае свечку, і, праверыўшы, ці моцна спіць Заблоцкі, выцягвае з тайніка нешта завернутае ў тканіну. Разгарнуўшы тканіну, вымае шкатулку-катрынку. Стаўляе шкатулку на стол, накручвае спружыну. Ліецца ціхая, меладычная музыка. Кубліцкі з асалодай слухае музыку, а калі яна заканчваецца, загортвае шкатулку ў тканіну і хавае назад у тайнік. Схаваўшы, задувае свечку і кладзецца спаць.

Неўзабаве да раскацістага храпу Заблоцкага далучаецца тонкі свіст Кубліцкага…

## З‘ява першая

Пакойчык ва ўбогай хацінцы паноў. Пра іх слаўнае мінулае нагадваюць адно партрэты продкаў, развешаныя па сценах. Пан Кубліцкі, надзьмуты, быццам вожыка праглынуў, ляжыць на канапе. Пан Заблоцкі ў вялікай злосці ходзіць ад сцяны да сцяны, моцна грукаючы ботамі. У жыватах буркоча. Пад столлю гудуць мухі.

К у б л і ц к і *(раздражнёна).* Хай бы пан Заблоцкі падбіваў боты не зялезнымі, а драўлянымі цвікамі. Яно танней і менш грукату.

З а б л о ц к і *(злосна).* Хай бы пан Кубліцкі не брахаў абы чаго, а пайшоў бы ў вёску ды купіў у мужыкоў хлеба!

К у б л і ц к і. Ага, за якія грошы? Можа, у пана засталося нешта на чорны дзень?

З а б л о ц к і. Каб нешта засталося, даўно прадаў бы і купіў ежы. А ў пана нічога не захавалася з былога багацця?

К у б л і ц к і. Каб нешта захавалася, мы б зараз не галадалі. Слова шляхціца!

З а б л о ц к і. Калі пан такі бедны, то мог бы папрасіць у мужыкоў хлеба проста так – на слова.

К у б л і ц к і. О не, я не магу прасіць у мужыкоў-лапатнікаў, лепш я свае боты з'ем. *(Задзірае нагу і разглядае бот.)* А што — боты ў мяне дыхтоўныя, з казлінае скуры, дзёгцем наваксаваныя.

З а б л о ц к і *(разглядаючы свой бот).* А ў мяне са свінячае скуры, затое гусіным шмальцам падмазаныя. Мае куды смачнейшыя.

К у б л і ц к і. Вось зараз зварым у чыгуне дый пакаштуем, чые смачнейшыя! *(Усхопліваеица з канапы).*

Паны раскладаюць агонь, набухторваюць вады ў чыгун і кідаюць туды боты.

З а б л о ц к і. Якраз да палудня зварацца. Але во дзе штука — хто будзе чыгун мыць, пад'еўшы?

К у б л і ц к і. Навошта пан пытае? Ясна хто. У каго боты шмальцам змазаныя. Пасля такіх ботаў чыгун ох як цяжка адмыць!

З а б л о ц к і. Брахня! Якраз ад дзёгцю чыгун будзе чорны, што мурза.

К у б л і ц к і. А я кажу, што гусінае сала брыдка пахне!

З а б л о ц к і. А дзёгцем адно мужыкі боты мажуць!

К у б л і ц к і. Пан ёсць грубіянам!

З а б л о ц к і. Ад хама чую! Дзе мая шабля?

Стаяць адзін проці другога, страшна вырачыўшы вочы, раз-пораз хапаюцца за бакі, дзе раней былі прычэпленыя шаблі.

К у б л і ц к і *(з'едліва).* Хіба пан Заблоцкі забыўся, як аддаў сваю шаблю мужыкам за два кубельцы сала?

З а б л о ц к і. А ты, пане Кубліцкі, хіба не прамяняў сваю зброю на два колцы кілбасаў?

К у б л і ц к і *(круціць носам).* А што гэтак брыдка пахне, ці не свінячая скура?

З а б л о ц к і. Не, гэта няйначай падсмалены казёл смярдзіць.

К у б л і ц к і. Авой, дык гэта ж нашыя боты зварыліся!

Падбягаюць да чыгуна і, разганяючы дым рукамі, зазіраюць у яго. Хапаюць з чыгуна па боту і пачынаюць іх есці. Ад такой далікатнай ежы панскія жываты яшчэ больш бурчаць і скрыгочуць. Мухі ў жаху змаўкаюць. Пан Заблоцкі злосна выплёўвае нешта назад у чыгун.

З а б л о ц к і. Няйначай, падэшва. Халера, не зварылася чамусьці.

К у б л і ц к і. Што, нясмачна? Казаў жа я, каб не падбіваў пан боты зялезнымі цвікамі. З драўлянымі яно б уежней было.

З а б л о ц к і *(расчаравана).* Пасля ботаў у брусе ўсё адно пуста, не раўнуючы як на таку.

К у б л і ц к і. Хутчэй бы наша рэпа паспела, казалі мужыкі, што надта смачная рэч — параная рэпа.

З а б л о ц к і. От калі наямося ад пуза!

К у б л і ц к і *(летуценна)*. А што не з'ямо, тое павязем у Смургонь на продаж. Накупляем тады розных страваў ды прысмакаў, абаранкаў з макам, марцыпанаў з гэрцамі — от смаката!.. А пад'еўшы, можна і пра сур'ёзныя рэчы падумаць. Вось я дык надта хачу ажаніцца. Дальбог, знайду сабе маладзенькую паненку, ясачку такую...

З а б л о ц к і . Авохці а мне сёння ўжо есці хочацца...

К у б л і ц к і. Няма нам у гэтым свеце шчасця! *(Малітоўна, склаўшы рукі)*. Сілы нябесныя, сілы зямныя, пашліце нам, няшчасным, ад голаду паратунак!..

З а б л о ц к і *(да партрэтаў продкаў)*. А вы што ўтаропіліся? Таксама падсабляйце!.. Разам з намі маліцеся!

Варажба дае плён. Перуны, маланкі, свіст ветру. Курынае квахтанне.

**З’ява другая**

У дзвярах паказваецца Кура-Шчабятура — вялікая птушка ў пярэстым убранні. Нахіліўшы набок галаву, з цікавасцю разглядае гаспадароў убогае хаціны.

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Чаго паны занудзіліся?

З а б л о ц к і. А хто ты такая, каб у нас пытацца?

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Яшчэ будуць насамі круціць! Прасілі паратунку, вось я і прыляцела з-за мора, вашая птушка шчасця. Я – Кура-Шчабятура, выконваю жаданні. Чаго панам хочацца?

П а н ы. Чаго нам хочацца? Есці нам хочацца, вось чаго!

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Можа, вам яйка знесці?

З а б л о ц к і. А што нам за наедак з твайго яйка, калі мы з панам Кубліцкім глытаем іх адразу цэлае рэшата...

К у б л і ц к і. От каб з яйка ды куранятка вывелася!

Ку р а-Ш ч а б я т у р а. А што? Можна і каб вывелася.

К у б л і ц к і. Але ж у кураняці только дзве маленькая ножкі... А ці можна, пані Шчабятура, каб у яго было чатыры нагі?

З а б л о ц к і. Не чатыры, а сорак! Падавай нам кураня-сараканожку!

К у р а-Ш ч а б я т у р а . Можна і гэта.

Кура-Шчабятура заходзіць за фіранку і пачынае несціся. Паны бегаюць вакол яе ды даюць каштоўныя парады.

К у б л і ц к і. Каб жа толькі куранятка не выйшла благенькае ды худое...

З а б л о ц к і. Каб сала на ім было з даланю таўшчынёю...

К у б л і ц к і. Ды ростам каб яно было з ладнага парсюка...

З а б л о ц к і. Не з парсюка, а з быка каб было велічынёю! Во!

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Добра, панове, усё будзе так, як вы хочаце.

Кура-Шчабятура перастае квахтаць – знесла яйка. Яно вялізнае, як бочка.

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Вось вам яйка, панове. А я папрашу ўзнагароду за свае старанні.

К у б л і ц к і *(здзіўлена).* Якую яшчэ ўзнагароду?

З а б л о ц к і *(абурана).* У птушкі шчасця ўсё павінна быць задарма!

Кура-Шчабятура *(упарта).* Кожная добрая справа мусіць узнагароджвацца, кожны дрэнны ўчынак – быць пакараны. Не вучылі вас гэтаму ў дзяцінстве?

К у б л і ц к і. Няма ў нас нічога! Хіба не бачыш?

З а б л о ц к і. Мы цябе можам узнагародзіць толькі дубцом!

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Як вы такія няўдзячныя – самі яйка наседжвайце. А я пайду!

З а б л о ц к і. Было б яйка, а мы ўжо дамо яму рады!

К у б л і ц к і. Не курыная гэта справа.

Пакрыўджаная Кура-Шчабятура выходзіць з хаткі. Пан Кубліцкі ды пан Заблоцкі бяруцца выседжваць яйка. Сядаюць на яго ўдвох як на лаву, яшчэ й месца застаецца – вунь якое аграмаднае.

К у б л і ц к і. А што, пане Заблоцкі, няблага будзе паласавацца смажаным кураняткам?

З а б л о ц к і. Чаму гэта – смажаным? Лепей звараным у крупніку.

З а б л о ц к і *(падскоквае).* Чым смажанае, то лепш пражанае!

К у б л і ц к і *(падскоквае).* Чым пражанае, то лепш вэнджанае!

З а б л о ц к і. Бачу я, што пан Кубліцкі разбіраецца ў стравах, як кот у каўбасных абрэзках.

К у б л і ц к і *(пакрыўджана).* Хто? Гэта я не разбіраюся ў стравах? Хіба пан забыўся, якога адмысловага кухара я некалі выпісаў сабе з Парыжу? Хіба пан не ласаваўся ў мяне мядзведжаю шынкаю, калдунамі з зайчацінаю, пірагамі з дзічынаю? Уга! Мой кухар кожны дзень гатаваў новую страву. Ужо што толькі ні вымышляў, як толькі ні круціўся гэты кухар, каб дагадзіць мне і маім гасцям! Рабіў ён вужыную яечню, верашчаку з мышыных хвастоў, ціснуў чарвяковае масла, засмажваў цэлага каня ды саліў на зіму апельсіны. Бывала, возьме моху, чартапалоху ды ўсякага іншага патроху, змяшае з камарынымі лапкамі, палье зверху жабурыннем — такая салата атрымаецца, што будзь здароў!

З а б л о ц к і. Вой, злазьма з яйка – па маім азадку нехта дзяўбе.

К у б л і ц к і. І па маім дзяўбе!

Паны адскокваюць у кут і баязліва паглядаюць на ажыўшае яйка. У яйку нешта грукоча, нешта стукоча, як у малатарні, асыпаецца шкарлупінне, і перед панамі з'яўляецца Страшыдла: гара-гарою, наперадзе бычыныя рогі і свінячы лыч, назаду хвост, як у пеўня. Страшыдла рохкае страшным голасам, лопае скрыдламі. Нарэшце заўважае зляканых паноў і сунецца проста на іх.

С т р а ш ы д л а. Што вырачыліся, ёлупы! Есці хачу! Нясіце есці!

Паны млеюць ад страху і, як падкошаныя, валяцца на падлогу. Страшыдла нахіляецца над імі, абнюхвае і круцць носам. Спрабуе грызянуць за пас пана Заблоцкага, але выплёўвае, бо нясмачна.

С т р а ш ы д л а. Што за хацінка — няма і хлеба скарынкі. Прапахла панскаю пыхаю, ледзьве дыхаю. Пайду лепш на агарод, можа вырасла рэпа ці гарох.

Страшыдла выпаўзае з хаты. Паны нарэшце ачомваюцца, вохкаюць, чухаюць патыліцы.

К у б л і ц к і. Дык што ж гэта робіцца, панове? Заміж кураняці вылупілася нейкае страшыдла!

З а б л о ц к і. Не каб на патэльню ўскочыць ды засмажыцца – сам есці патрабуе, нахаба!

К у б л і ц к і. Гэта ж ён можа ўчыніць несусветны грандзёж ды гвалт. Пачне парсючкоў ды цялятак глытаць, прыгожанькіх паненак хапаць. Як усіх паненак перахапае, з кім я ажанюся?

З а б л о ц к і. Што паненкі… Не бяды, застанецца й пану Кубліцкаму якая-кольвек дзеўка-дрыпа. Але баюся, каб жа гэтая пачвара не ўбілася ў рэпу...

К у б л і ц *к* і *(кідаецца да акна).* А дапраўды! Разлёгся, страшнік, паміж градаў і топча сабе нашую недаспелую рэпу, закідвае ў прадоннае горла, як у сячкарню!

З а б л о ц к і. Няма чаго марудзіць, трэба ісці ваяваць страхалюда праклятага, іначай не будзе ані рэпы, ані нявест! Хапай, пане Кубліцкі, качаргу, а я вазьму чапялу, ды гайда на агарод!

Паны ўзбройваюцца качаргою ды чапялою і выбягаюць з хаты. У градах пасвіцца Страшыдла: трушчыць рэпу разам з бацвіннем.

З а б л о ц к і. Раскірэка чортава, недавярак гэты! Рэпу павытоптваў, павырываў, каб табе зубы павырывала! Залез у рэпу і жарэ, каб яна табе бокам вылезла, каб ты жыватом качаўся! Столькі бацвіння аб'еў, каб табе моль галаву аб'ела, каб цябе свінні елі, каб ты зямлю грыз! А ну, прэч з агароду, не бачыш – шляхта дзе!

С т р а ш ы д л а. Маўчаць, пакуль зубы тырчаць! *(Працягвае грызці рэпу).*

К у б л і ц к і. Можа, не трэба яго так клясці? Усё-ткі мы яго самі свамі азадкамі выседжвалі, значыцца, ёсць і ў страшыдле гэтым нешта шляхетнае. Пагаворым з ім далікатна. Ідзіце, проша пана, тут няможна пасвіцца! Гэта нашая з панам Заблоцкім рэпа.

Страшыдла грызе рэпу.

З а б л о ц к і. Страхалюд гэны на лагодныя словы й не шманае, ані. Адно чэрава пагладжвае, нячысты дух. Прыкінуўся, што на адно вока глухаваты, на адно вуха слепаваты.

К у б л і ц к і *(настойліва).* Гэтак, як пан Страшыдла робіць, няможна рабіць. Нельга есці недаспелую рэпу ў чужым агародзе, і ў дзяржаўным статуце гэта

напісана...

С т р а ш ы д л а *(ляніва).* Самі чытайце ваш статут, ён не для мяне пісаны. Я іншаземны грамадзянін, заморскае птушкі сынок.

З а б л о ц к і. От жа мярзотнік. Ну, пачакай, зараз шляхта дасць табе дыхту, дажджэшся, страшнік. *(Натапырвае вусы, ссоўвае бровы і рыкае грамавым голасам).* Прэч з гарода, галгане!!!

Страшыдла ў адказ на гэта выплёўвае рэпу, набірае паветра – ды як свісне! Паны ад такога свісту адлятаюць на некалькі метраў і хляпаюцца вобзем. Падымаюцца, абтрасаюць з сябе пыл і спрытна займаюць абаронную пазіцыю за хатай.

З а б л о ц к і. Яшчэ й свішча, каб ты кроўю свіснуў, каб праз твае вушы вецер свістаў!

К у б л і ц к і. Уга, якое нявыхаванае страшыдла!

З а б л о ц к і. Што ж нам з ім рабіць?

К у б л і ц к і *(разважліва).* Трэба знайсці Куру-Шчабятуру. Яна яйка знесла, яна ведае і як са Страшыдлам справіцца.

З а б л о ц к і. Пабеглі хутчэй!

Паны бягуць шукаць Куру-Шчабятуру.

**З'ява трэцяя**

Па пясчанай дарозе няспешна брыдзе Кура-Шчабятура. Яе даганяюць паны Кубліцкі і Заблоцкі.

З а б л о ц к і. Стой, ашуканка!

К у б л і ц к і. Вярніся, махлярка! Што ты нам за яйка падкінула?

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Якое замаўлялі, такое і атрымалі.

К у б л і ц к і. Замест кураня з твайго яйка Страшыдла вылупілася.

З а б л о ц к і. Жарэ нашу рэпу як сваю!

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Якое наседзелі, такое і вылупілася. Чаго вы цяпер ад мяне хочаце, панове?

З а б л о ц к і. Забірай свайго сынка з нашага гарода.

К у б л і ц к і. Або падкажы спосаб, як нам яго пазбыцца.

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Так проста вы Страшыдлы не пазбудзецеся. Трэба дзеля гэтага нешта зрабіць.

К у б л і ц к і *(здзіўлена).* Зрабіць? Што?

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Добры ўчынак. Пакуль кожны з вас добры ўчынак не зробіць – Страшыдла не знікне з гарода і яшчэ большай бяды наробіць.

З а б л о ц к і *(абурана).* Мы ж як-ніяк шляхта! Мы нічога рабіць не ўмеем.

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Старайцеся, панове!

Кура-Шчабятура нечакана знікае, пакінуўшы паноў Кубліцкага і Заблоцкага на раздарожжы.

**З'ява чацвёртая**

Хатка паноў Кубліцкага ды Заблоцкага. Заклапочаныя гаспадары абдумваюць параду Куры-Шчабятуры.

К у б л і ц к і. Які ж нам добры ўчынак зрабіць, пане Заблоцкі?

З а б л о ц к і. Цяжка зрабіць які-кольвек учынак на галоднае пуза. А добры – тым больш…

К у б л і ц к і. Трэба такі ўчынак зрабіць, каб нам ад яго карысць была.

З а б л о ц к і. Напрыклад?

К у б л і ц к і. Напрыклад, я схаджу ў лес у грыбы, а пан прыбярэцца ў хаце.

З а б л о ц к і. Чаму гэта я ў хаце буду прыбіраць, а пан Кубліцкі па лесе гуляць ды грыбкі збіраць? Давай наадварот!

К у б л і ц к і. А ці знаецца пан на грыбах?

З а б л о ц к і. Ды я найлепшы грыбнік, рыбак і паляўнічы ва ўсім наваколлі!

К у б л і ц к і. Што ж, згода! Я іду па ваду мыць падлогу, а пан бяры кошак і выпраўляйся ў лес у грыбы.

Кубліцкі бярэ парожняе вядро і выходзіць з хаты. Заблоцкі бярэ кошык, але перад тым як адпраўляцца ў лес, залазіць у тайнік і вымае фігуркі Панны і Кавалера.

З а б л о ц к і. Не сумуйце без мяне, даражэнькія, я хутка вярнуся. Няхай гэты дурань прыбірае ў хаце, а я займуся шляхетнай справай.

Хавае свой скарб у тайнік і выходзіць з хаты. Вяртаецца Кубліцкі з вядром вады. Пабачыўшы, што Заблоцкага ўжо няма, пакідае ваду пасярод хаты і вымае з тайніка музычную шкатулку. Накручвае спружыну. Ліецца прыгожая музыка.

К у б л і ц к і. Вось яно, маё багацце! Няхай гэты ёлуп поўзае па ямінах ды карчах, а я буду ў хаце весяліцца і танцаваць.

Танчыць пад гукі шкатулкі, пры гэтым разлівае вядро з вадой.

К у б л і ц к і. Вось табе і падлога памытая! *(Бярэ мятлу і згартае павуцінне са сценаў, пры гэтым скідваючы са сценаў некалькі партрэтаў. Размахваючы венікам, напявае).*

Чаму ж нам не пець,
Чаму ж не гудзець,
Калі ў нашай хатачцы
Парадак ідзець?

А вось і сцены чыстыя. Засталося посуд памыць. *(Бярэ са стала посуд і выкідвае праз вакно).* Няхай страшыдла вылізвае. Дый навошта нам посуд, калі і так есці няма чаго? *(Музыка заканчваецца).* Трэба хутчэй хаваць маё багацце, пакуль пан Заблоцкі не вярнуўся.

Кубліцкі хавае шкатулку ў тайнік. Уваходзіць Заблоцкі з міскай на галаве і кошыкам грыбоў у руцэ.

З а б л о ц к і. Дзіва дзіўнае: на нашым двары лятаючыя талеркі ды місы прызямляюцца. *(Здымае місу з галавы, са здзіўленнем аглядае хату).*Што сталася з нашай хатай?

К у б л і ц к і. А пан думае, так лёгка без падрыхтоўкі добры ўчынак зрабіць? Дзе грыбы?

З а б л о ц к і *(працягвае кошык Кубліцкаму).* Вось, поўны кошык.

У вакне паказваецца галава Страшыдлы, кукарэкае.

С т р а ш ы д л а *(страшным голасам, як і належыць Страшыдлу).* Ку-ка-рэ-ку! Пабудка, устаць! Рэпа канчаецца! Есці хачу!

Паны ліхаманкава хапаюцца за сваю “зброю”.

С т р а ш ы д л а. Ды не хапайцеся вы за сваю качаргу і чапялу. Я ўжо не маленькі. Я ўжо са стог велічынёю. Мне цяпер шмат корму трэба. А не будзе рэпы, перастану быць траваядным. Я пачну паноў хрупаць... Такі вось мой ультыматум.

Галава Страшыдлы знікае.

З а б л о ц к і. Авохці нам! З’есці нас хочуць!

К у б л і ц к і. Сілы нябесныя і зямныя! Ратуйце ад супастата грызлівага, куслівага!

Пан Заблоцкі слізгае ў лужыне вады і валіцца на падлогу. Грыбы рассыпаліся. Пан Кубліцкі падымае адзін, нюхае. Грыб вельмі прыгожы: чырвоная шапачка ў белы гарошак, паясок на стройнай ножцы.

К у б л і ц к і. Гэта грыб?

З а б л о ц к і. Грыб.

К у б л і ц к і А як завецца?

З а б л о ц к і. Не ведаю. Галоўнае, што прыгожы. Як паненка ў чырвонай сукенцы з гарошкам.

К у б л і ц к і. А яго есці можна?

З а б л о ц к і. Можна. Лось еў, сам бачыў. І шляхце халера не зробіцца.

З а б л о ц к і. Ну, тады вары поліўку.

Паны разводзяць агонь, ставяць чыгун, набухторваюць вады, кідаюць грыбы, вараць поліўку. У столь шугае пара.

Мухі перасталі гусці і здохлыя пападалі на падлогу.

К у б л і ц к і *(лірычна).* Грыбы – гэта табе не боты. Яны карысныя.

З а б л о ц к і. Ага. вунь і мухі ўсе паздыхалі.

У вакне паказваецца пашча Страшыдлы.

С т р а ш ы д л а. Чым гэта так смачна пахне? Грыбы? Гэта я люблю.

Страшыдла выцягвае доўгую шыю, хапае ў зубы чыгун з поліўкай і знікае.

За акном чуваць апетытнае чмяканне.

З а б л о ц к і. Увесь чыгун апратаў, мярзотнік! Вяртай назад, каму кажу!

Цішыня.

К у б л і ц к і. А можа ён, гэта самае... як і мухі?

Заблоцкі вызірнуў у вакно.

З а б л о ц к і. Гатоў.

К у б л і ц к і. Віват! Страшыдла здохла!

К у б л і ц к і д ы З а б л о ц к і *(абдымаюцца, спяваюць і танчаць).*

Чаму ж нам не пець,
Чаму ж не гудзець?
Парсючок пад лаўкай
Бульбачку грызець...

У вакне паказаецца пашча Страшыдлы.

С т р а ш ы д л а. Спыніць го-ца-ца!

Паны абміраюць.

С т р а ш ы д л а. Дзякуй за грыбы. Яны карысныя. Я ледзьве не здох, затое ўсё пра сябе ведаю. Я не траваядны і не грыбаядны. Я ўсяядны. І заўтра буду ўсё хрупаць. Пачну з паноў. Потым усю вёску праглыну. Хаты з людзямі, хлявы з каровамі. А потым я з’ем увесь свет. Добрай ночы, панове, салодкіх вам сноў!

К у б л і ц к і. Усё скончана, пане Заблоцкі. Заўтра нас з’ядуць...

З а б л о ц к і. І ўвесь свет таксама.

К у б л і ц к і. Шкада свету...

З а б л о ц к і. Нас таксама шкада...

К у б л і ц к і. А ведаеш што, пане Заблоцкі? Перад немінучаю смерцю не магу я табе не прызнацца ў вялікай правіне. Хаваў я ад цябе адну каштоўную рэч.

З а б л о ц к і. І я не магу на той свет пайсці, як свіння. Хаваў і я ад цябе нештачкі...

Паны лезуць у куфры і здабываюць свае скарбы – музычную

шкатулку і фігуркі Кавалера і Панны.

З а б л о ц к і. Вось, пане Кубліцкі. Кавалер і Панна.

К у б л і ц к і. Цудоўныя фігуркі! Сапраўдны майстра іх рабіў.

З а б л о ц к і *(праз слёзы).* Адзіны скарб, які мне ад бацькі застаўся. Як памру, прадай іх і купі сабе есці, сябра.

К у б л і ц к і. А паслухай, як грае мая шкатулка. *(Заводзіць спружыну. Ліецца ціхая, меладычная музыка).*

З а б л о ц к і. Боская музыка! Нават у карчме такой не пачуеш.

К у б л і ц к і. Сямейная рэліквія. *(Расчулена).* Як мяне не стане, дружа, прадасі шкатулку і наясіся ад пуза.

З а б л о ц к і. Ды не, я першы памру. Прадасі Даму з Кавалерам.

К у б л і ц к і. Я першы. Прадасі шкатулку. *(Нечакана).*Ой!

З а б л о ц к і. Што здарылася, дружа?

К у б л і ц к і. Пачакай, сябра, не памірай. Мне ў галаву стрэльнула адна думка.

Кубліцкі бярэ фігуркі Кавалера і Панны, прымацоўвае іх на шкатулку і накручвае спружыну. Шкатулка грае, Кавалер і Панна вальсуюць.

З а б л о ц к і. Дзіва дзіўнае!

К у б л і ц к і. Проста цуд!

У акно зазірае Страшыдла. Прыслухоўваецца. Заплюшчвае вочы. Знікае.

К у б л і ц к і *(пабачыўшы Страшыдлу).* Цяпер усё.

З а б л о ц к і *(без надзеі).* Гамон.

Нечакана з рыпеннем адчыняюцца дзверы.
Уваходзіць маленькае Куранятка.

З а б л о ц к і. Ты – хто?

К у р а н я т к а. Я – той, хто быў Страшыдлам, а цяпер я маленькае куранятка. Паслухаў я вашу музыку, паглядзеў як таньчаць Панна з Кавалерам і расхацелася ўвесь свет глытаць. Няхай сабе граюць, танчаць. А я цяпер не ўсяядны. Ну... хіба што чарвячка якога дзеўбану.

З а б л о ц к і *(паказваючы Кубліцкаму на Кураня).* Што з ім зробім?

К у б л і ц к і. Яго трэба ў кут паставіць.

З а б л о ц к і. А яшчэ лепш у крупніку зварыць.

С т р а ш ы д л а. Мамачка, ратуй, забіваюць! Не хачу ў кут, не хачу ў крупнік!

На лямант Страшыдлы прыбягае з кудахтаннем Кура-Шчабятура і бароніць яго.

К у р а -Ш ч а б я т у р а. Сыночак мой! Не плач, дзіцятка. А вам, панове, як

не сорамна крыўдзіць малое куранятка?

К у б л і ц к і. Нішто сабе куранятка!

З а б л о ц к і. Увесь свет праглынуць збіралася!

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Якое заказвалі, якое наседжвалі, такое і вылупілася. І не такія яшчэ вырастаюць праз чалавечую зайздрасць ды прагавітасць. Хадзем да мяне, дзіцятка, пад крылца.

Адчыняюцца дзверы, уваходзіць Дзеўка Дрыпа.

Д р ы п а. Якая ў вас музыка прыгожая, не раўнуючы вяселле. *(Паказвае на фігуркі).* А гэта хто? Няйнакш, нявеста з жаніхом? І я таксама хачу замуж. У- у!

К у б л і ц к і. Пачакай раўці, ясная паненка. Скажы нам спачатку сваё імя!

З а б л оц к і. А яшчэ — ці маеш герб і якога ты роду?

Д р ы п а. Клічуць мяне Параска, па вясковай мянушцы — Дрыпа. Гэта цераз тое, што ніяк не выпраўлю сабе новую сукню. Гарба, пакуль, дзякаваць Богу, не маю, а родам я з суседняе вёскі, дачка селяніна Ахрэма Верацённіка. А яшчэ я замуж вельмі хачу.

К у б л і ц к і. А ніштo сабе дзеўка, з ёю нават ажаніцца можна!

З а б л оц к і. Выходзь за мяне, Параска, я табе новую сукню спраўлю.

К у б л і ц к і За мяне выходзь, я табе чаравікі куплю.

З а б л о ц к і. За мяне выходзь!

К у б л і ц к і. Не, лепей за мяне!

Шкатулка грае, Панна з Кавалерам таньчаць. Паны сварацца з-за Дрыпы.

Але гэта ўжо іншая гісторыя…

*Заслона*

Пятро Васючэнка
Сяргей Кавалёў

*Таццяна Барысюк*

# ІСЦІНА Ў ВЯСНЕ

## Модніца

Ёсць настрой – будзь красуняй гламурнай
ці пяшчотнай пухнатаю коткай,
каралеваю снежнай пахмурнай
ці Кармэн з бранзалетам-бразготкай.

Ёсць настрой – будзь джынсовай прынцэсай
ці наскрозь дзелавой бізнэс-лэдзі.
Хай народ языкамі пачэша
і пачнуць абмяркоўваць суседзі.

Ёсць настрой – дык магчыма дзівацтва.
Хай стваральны імпэт не астыне,
і фантазій агонь не тушы.

Бо жанчына – карціна мастацтва,
адпаведная ўласнаму стылю,
гэтаксама як стану душы.

## Стыхіі танцаў

*На дне агню танцуюць саламандры...*
А. Сыс

У памяці гісторый старасвецкіх,
на злосць усім наканаваным драмам,
на балях княжацкіх вялікасвецкіх,
узнёслая, танцую пекнай дамай.

З зямлі да сонца вабіць дар натхнення,
не страшныя сняжынка ці дажджынка,
наяве і ў чароўных лёгкіх сненнях
на небе я танцую аблачынкай.

Згараць іскрыстых жоўтых зор пасевы –
калі я чую водгулле вяснянкі
або вядзьмарскі дух купальскіх песень,
у возеры танцую свіцязянкай.

Як мой сусвет напоўняць успаміны,
працягла ноч спявае шчасця мантры
і саграває полымя каміну,
на дне агню танцую саламандрай.

Калі пануе сум або шанцуе,
для вас, сяброў, для любага, для Бога
ў віхурах і вірах стыхій танцую –
мая душа мелодый помніць многа.

## Рэінкарнацыя кахання

*М.К. → NN*

Мрояй твой намалюю партрэт,
хоць даўно мы на розных планетах.
Сэрца помніць – і час не сатрэ,
не зруйнуе ўспамінаў дашчэнту.

Як зляціць шэрых дзён мітусня,
я змагу закахацца аднойчы,
бо тваё будзе мець Ён імя
і смарагдава-карыя вочы. (04.04)

## Які той свет

А я ўявіла на імгненне,
які той свет, жахліва-скрушны.
Што там не будзе вымярэнняў,
ні пахаў, фарбаў, смакаў, гукаў,

ні слоў, ні думак, ні пачуццяў,
не будзе душ – нямыя здані,
у атмасфернай каламуці
без жыццясэнсу і кахання.

## Закон захавання паэзіі

Калі зачараваны светам,
задумам цесна ў галаве,
калі ты спраўдзіўся паэтам,
табой Паэзія жыве.

Бывае – тлум ці сіл нястача,
не йдзе паэзія з душы.
Шукай і думай – Бог убачыць –
ты ж сэрца чыстым зберажы.

Разгоніць сонца хмараў зграю
і будзе ўхвалены парыў.
Паэзія – не памірае
ў тым, хто яе калісь стварыў.

## Мой маленькі марсіянін

*Сыну Пятру*

Тварам ты – сыночак мамін,
родны, светлы чалавек.
Мой маленькі марсіянін,
як жыла я без цябе?

Усміхаешся, спяваеш
немаўлятаў дзіўнай мовай.
Усёведна пазіраеш
мне ў душу і думак сховы.

Пазіраеш, каб запомніць
мамін твар на ўсе гады.

Ахіну цябе любоўю,
каб шчаслівым вырас ты.

## Святкі - 2011

Лепш за ўсё варажыць па раманах Людмілы Рублеўскай і Рычарда Баха.
Лёс загадкавы ў святкі паэты спрабуюць праз сімвалы-словы прадбачыць.
Іх узрокі пытальныя поўны надзеі на лепшае й золкага страху:
Богам наканаванае цяжка ўсім нам прачытаць, каб пасля перайначыць!

У Людмілы Рублеўскай застолле. Трапечуцца свечкі між шчодрай вячэры.
За акном пацямнела. Йдзе снег. Як апосталаў, сёння паэтаў дванаццаць.
У натхненне, радзіму, каханне і шчырасць, у Бога і ў містыку верыць,
каб Хрысту і паганскім багам, ідэалам і ідалам зноў пакланяцца.

Каб прадбачыць, год будзе пусты і няплённы ці ўрэшце ўраджайны й багаты,
з-пад абрусу дасталі сухія сцяблінкі кароткіх і доўгіх раслінаў.
Абмяркуем навіны і планы, пачуем і вершы, і песні, і жарты.
За гасціннасць падзякуем, пойдзем дадому, каб потым вярнуцца ўспамінам.

## Зімовы эцюд - 2011

Ледзяшовай іглой зашывае зіма беласнежнае футра.
Пасля лета спякотнага ўжо не халодная нашая “тундра”.
Выцінанкі-анёлы на вокнах, і снег зіхаціць светла-мройна.
Каб не снег на плячах, але сонца гарачага летняга промні!

Беласнежныя шапкі ў князёўнаў – высокіх красуняў-ялінаў.
Шалясцяць вербы ніцыя мне ледзяшамі крыштальных галінаў.
Снег какосавай стружкай ляціць. Верш ляплю, як сняжок,
каб сагрэцца!
Новы год – як загрузка энергіі ў напрацаванае сэрца!

## Ісціна ў вясне

Я веру: ісціна ў вясне!
Зноў абуджаецца прырода:
Капеж, смех сонца, крыгаходы...

Час абнаўлення – для мяне!
Я веру: ісціна ў вясне!

Хай будзе ісціна ў вясне!
Ізноў надзею сэрца спеліць,
зноў у тваё каханне верыць
і што яно не падмане.
Хай будзе ісціна ў вясне!

Таццяна Барысюк

*Аксана Данільчык*

# РАЗГУБЛЕНАСЦЬ

## РАЗГУБЛЕНАСЦЬ

калі ўнутраныя ваганні
дасягаюць амплітуды ў сто восемдзесят градусаў
а яснасці так і не дадаецца

калі жыццё ператвараецца ў стужку навінаў
ніводная з якіх у свядомасці
так і не застаецца

і сонца не сонца
і вецер не вецер
і проста да рамы ваконнай звужаецца свет

тады нападаюць сумненні
быццам піраніі
і пакідаюць толькі хрыбет

і хто ты пасля
і даказвай цяпер
што шукаеш спакою і міра

і перамога твая
чамусьці нагадвае нечым
парэшткі арміі Пірра

ты – шхуна якая гайдаецца ў моры
між крэйсераў чорных
і белых фрэгатаў

ты – неба ў чаканні маланкі
якая на хвалі ўпадзе
і асвеціць дарогу дахаты

***

Мне хацелася б напісаць індустрыяльны верш,
увесь з простых ліній, як супрэматычны малюнак.
Раскласці іх, як рэйкі і шпалы, па гарызанталі і па вертыкалі,
а некалькі наўскасяк, быццам бы выпадкова ўпалі.
І радавацца такому дызайну, бо з яго, як з поля дубы,
вытыркацца будзе комін фабрычнай трубы,
а па хрыбеціне пабягуць цягнікі,
пераскокваючы русла вычарпанай да астатку ракі.
Вось ён, зусім не прыроды дар, а натхнення ўвасоблены ўзор,
якому пара на прастор, на шырокі прастор!
Ён сам націскае на газ, ён рвецца ў празрысты блакіт,
ён перашкоды руйнуе нібы дынаміт.

***

спачатку я думала што мара
гэта паўлін
прыгожы
хвост пераліваецца
зялёным блакітным залатым
вочы хочацца заплюшчыць ад асалоды

потым мне здалося што мара
напэўна лебедзь
так і мкнецца ляцець у разбэрсаныя хмары
не сядзіцца ёй на месцы
дрыгаецца то туды то сюды і дражніцца
схапі мяне хутчэй

цяпер я бачу што мара
гэта дзяцел
дзяўбе і дзяўбе

раніцай удзень вечарам
тук-тук тук-тук тук-тук

можа ўсё такі скруціць ёй шыю?

Аксана Данільчык



У белавежскім парку. Ранні жнівень. *Фота яч*

*Таццяна Нятбай*

# ЖЫЦЦЁ ПРАЦЯГВАЕЦЦА...

***

напівацца ў зюзю
разы чатыры на месяц
(адзін раз у сувязі
з месячніцай –
выкрэсліваем, незалік),
і глядзець на месяц,
намагаючыся не скуголіць
з усіх сілаў намагаючыся –
ні енку,
ніводнага гуку болю,
апусціўшыся на каленкі,
але – тварам бы
у твае далоні, мары, бля,
марна быў?
так, ісці ў краму
не зважаючы на карму,
колькасць Е, цукру ды солі,
кілакалорый,
прасвятляцца,
то бок – святлом напаўняцца,
цяплом,
моўчкі, колькі часу ўглядаючыся ў столь і
далей – вайна –
зноў
рэгулярна збіраць рэчы
казаць "бывай" і – зусім ужо небяспечна –
"ідзі на..."

(зрэшты, можа вагацца,
могуць быць розныя варыяцыі)
але
вынік адзін – адчуваць на шыі
рукапалажэнне вар'яцтва,
рытуальнае блядства,
засмокі па ўсім целе,
як алей,
слізкія,
чужыя дотыкі,
механічна гатаваць памыі,
каштаваць ротам іх,
і далей
зноў сядзець у зямлянках,
пакуль танкі
блізкія,
рукамі капаць траншэі, зямля пад пазногцямі,
як персеіды, – хоць жаданне задумвай на кожную
пясчынку,
што раздзірае цела, парожнімі
гіперлінкамі
пасярод тэксту лезе і зводзіць, і зваблівае туды, дзе
Дзела-
віта:
я люблю цябе, дзетка,
усё акей,
хакей
на лёдзе
ў нясцерпную спёку,
кактэйль,
даніна модзе,
чэмпіянат свету па футболе, сіеста,
казырныя
словы й ніякіх вестак
з фронту чарговы месяц –
юзер! лузер!
адно што паспееш зноў чатыры разы –
у зюзю

***

Сонца на падваконні,
Сонны ранак, нядзеля,
Усе вярэды сутоння
Засталіся ў пасцелі,

Промні цягнуцца тонка,
Як дымок цыгарэты,
Вінаградныя гронкі,
Першым святлом сагрэтыя.

Быццам бы мегаполіс
Забыў пра свае турботы,
Сонечны зайчык на столі,
Перашэпты лістоты,

Рэдкіх машынаў усхліпы,
Рэдкіх людзей сілуэты,
Таюць у водары ліпаў,
Бязважкія рытмы лета,

Кот расцягнуўся млява,
Сэнс жыцця – побач з намі,
Ён згортваецца да кавы –
Чорнай або з вяршкамі.

***

так пахла ліпамі з усіх гарадскіх двароў,
масты, як коткі, свае выгіналі спіны,
прымружвалі вочы салодка пад ліхтароў
паглядамі дзіўнымі,

і мы кахаліся на даху, як галубы,
ды мы ўсміхаліся пілотам аэрапланаў,
бясстрашным вікінгам ты ўвайшоў сюды,
каханы,

і столькі радасці прыносіў твой кожны рух,
хавала ад шчасця слёзы ў тваіх далонях,
і ў садкіх смаках вуснаў, цела, рук
і ўлоння,

і мы засыналі адным на дваіх сном,
на адной хвалі ўлюбёнай FM з джэм-сэйшнамі,
так пахне астрамі цяпер за маім вакном,
а табой ад мяне пахне
па-ранейшаму

***

агульны вагон кругасветнага цягніка,
пашанцавала – дэмбель сёння не едзе.
большасць – жанчыны з гадаванцамі на руках,
гушкаюць іх і ад сну ратуюцца ледзьве

лета, але прахалода льне да пляча,
агні начных краявідаў не саграваюць.
ляжу на драўлянай лаўцы, мяне атача-
юць галасы, разгойдваючыся, з краю

суседняй лаўкі долу звісае плед –
не тое, што я – пастаянныя пасажыры.
ляжу на лаўцы, а ў галаве – след
герояў Камю ў каланіяльным Алжыры.

недзе побач гавораць пра даўжыню гуркоў –
мая мама, пэўна, параіла б ім насенне,
пагаварыла б пра зёлкі, і як ачышчаецца кроў
народнымі сродкамі, і што азначаюць сненні.

далей абмяркоўваюць батарэі і печнікоў –
тата сказаў бы, што лепш для цяплаізаляцыі,
пасля – пра рыбу, вуды і якасць кручкоў,
а я ляжу, заклапочаная праблемамі нацыі.

я прыеду да іх, абдыму, падміргну кату,
на адной канапе паслухаем тэлевізар.
яны рты адкрываюць, як рыбы, а я тут
так намала, што нават не разбіраю валізаў.

***

Мёрзнуць рукі, а дыхаць няма чым – душна, і
Мы, здаецца, яшчэ не скончылі размаўляць:
Калі ўсе мужыкі – свалата, казлы і блядзюшнікі,
То тады і я – не больш і не менш, чым блядзь.

Можа, й трэба вучыцца карцінна заломваць рукі,
Навастрыць абцасы – працінаць да касці,
Можа, шчасце і ў тым, каб валодаць навукай –
Як паспець забыць да таго, як паспець прырасці.

Ды мне хочацца знікнуць, калі трэба таіцца зверам,
Нібы холадам цягне з прадоння чарней вугля.
Я жывая тады, калі ёсць у каго верыць,
І далёка–далёка праглядаецца далягляд.

***

навучыцца казаць "дабранач" ранкам і "добрага дня" за вячэрай
не так складана і бессэнсоўна, як спярша падавацца можа
я адчуваю, як кіламетры завязваюцца вакол шыі скручанай шэрай
вяроўкай, а час – і гэта здзіўляе – не здзіўляе сваёй варожай,

руплівай дурасцю замацавацца, адбіўшыся ў сівізне,
зморшчынках ды кійках (тата, мама, я забываю пра вашыя дні нараджэння, вы па-за імі), бо гэта звычайная спроба пустэчы ў знешніх прыкметах давесці сябе і сваю існасць, я з роўнай спінай,

спакойным тварам і цвёрдым словам – пэўная – часу няма, гэта
лажа,
ёсць маленькі хлопчык – мой сын – ён любіць марозіва й часта
гуляе ў шахматы, авалодвае фігурамі вышэйшага пілатажу –
здавацца дарослым, і ведаць не хоча, што – няма часу

## навагодняе

снягурка ў стракатай спадніцы курыць гашыш,
лаецца матам і мроіць пра белыя зімы.
хопіць ротам лавіць сняжынкі – проста рашы:
алені й сумёты ці соль і лімузіны.

нельга ўзяць і сысці – рытуал – абавязкова матам
абазначыць фінал, пасля шаху нацягнутай лескі.
у снягуркі цячэ туш, і яна ў вату
хутаецца, дасылаючы эсэмэскі.
ты патрапіў. няма што казаць. цяпер падарункі
разносіць – не хопіць начы, і вельмі складана,
калі калоціць, на шыбах крэсліць карункі.
кілішак гарэлкі ўпотай – вядома, яшчэ не загана.
ружа вятроў сохне, поўны штыль.
снягурка падчэпіць панчохі і выйдзе на млечны
шлях. у дарожных кавярнях – кебаб і курыца–грыль
і кава з туркі, не зважаючы што – вечар

тае снягурка. ві-
таю, снягурка!

***

гэта як засынаць, гледзячы тэлевізар
жыццё працягваецца, а ты саступіў на ўзбочыну
дзе ніхто не пытаецца ні квіткоў, ні візаў
але і няма каму зазірнуць у вочы

жыцьцё працягваецца
адплывае ў круіз на лайнеры
і з некім іншым восень кладзецца ў ложак
для цябе толькі ціша, і гэта рай – не ра–
злічвай на большае, большага быць ня можа

а жыццё працягваецца, стрэлкі гадзінніка, як каноэ
маўклівы індзеец час пераводзіць на іншы бераг
і з кожным уколам – усё больш параноі
якую ты дзень за днём выплёхваеш на паперу

і прастытутка, што пад ранак вывальваецца з паба
праходзіць паўз, хоць і любіла б цяпер за танна
за пляшку піва, але не цябе
і даў бы хабар –
запускаеш рукі ў кішэні, а там каштаны

***

аголеная стаіць на цэнтральным пляцы — цень
кладзецца на белыя плечы заместа
сукенкі. давайце, пляскайце
ў ладкі, у барабаны біце, жыхары і госці места
вам пальцамі хочацца памацаць яе ўсмешку —
як бажавольная, глядзіць у неба (пчолы – роем)
а яе воды далёка адсюль з акіянам змешваюцца
і нараджаюць герояў
так, гэта яна блукала ўчора па вуліцах
гэта яна зазірала ў вокны вашых кухняў
гэта да ейных каленяў восень у парках туліцца
скрухаю
яна ўсё такая ж светлая — забірае зброю
з рук маіх, ля вачэй зморшчынкі, асабліва пад ранак
гоіць раны,
маўчыць таямніцамі, пра нешта мроіць
мая каханая

***

атручаная вясной
дыхаю не паветрам
а шэрай вільготнай ватай
у модзе – рэтра
у модзе – матавы
выдых
і бязвольнае цела

а ты – трывай, трымайся –
тут не бывае патаў
тут снайпэры і кантрольныя стрэлы

а як ты хацеў?
а як я хацела...

можа, табе мроіцца блізкі бераг?
можа, ты чуеш музыку іншага свету?
усяго мера –
з мэльхіёру – лыжачка
з парцаляны – кубачак

два глыткі і – мінае лета
і пакуль лыжачкай водзіш, у рытмічным постуку
салодзячы час,
падкупляючы стрэлкі, ледзь бачныя ў сутонні
зірні направа – гэта сірэны спяваюць джаз
зірні налева – карабель ужо тоне

і проста перад табой – я – у шаломе вікінга
стаю, і ў вачах маіх – адкрытае мора
і няхай тваё сонца папярэджвае цябе блікамі
і крэсліць руны, хаваючы пад корак

пакрэмзаны аркуш, – няхай! –
на вільготным пяску сьляды
чэзнуць
позна!
глыбей дыхай
няма дарогі назад – давай, здавайся
проста кахай
проста

давай, распранайся!
а потым – яшчэ раз...
зноў – распранайся!..

***

Забірай мяне ад мяне і ратуй ад скрухі –
Аддавацца салодка ў моцныя рукі. Рухі
Да мяжы, праз мяжу, паўз мяжу, у памежжа, дзе
Я сабе не належу і ты сабе не належыш.
Аўтамат заміж кавы налівае каньяк (і зьлізваю
Да кроплі апошняй), і памежнік пускае бяз візаў
І бяз мытных збораў, ап’янелы ад шчасця нашага,
Замест штампаў ён піша верш на старонках пашпарта.
І мы ўсё цалаваліся, як Харон праплываў байдай,
Ён быў пэўны, што бачыў сапраўдных Боні і Клайда.
Мы з табой на мяжы, дзе нішто больш ня мае межаў,
Дзе пачуцці сягаюць вышэй найвышэйшых вежаў,
І вільготныя ночы поўняцца дзіўнай музыкай,
Твае рукі імкнуцца хутчэй расшпіліць гузікі,
І туманнымі ранкамі – пад гострымі лёзамі лёсаў –
Там самотны рыбак ловіць цені хмарачосаў.

***

мужчыны разварочваюцца роўна на сто восемдзесят.
і рашуча спяшаюцца крочыць па сваіх колах
мужчыны ня любяць пісаць лістоў, а ўвосень
з садовых яблыкаў моцных робяць віно, уколам
нажа рассякаючы плоць і захмялелыя
з вуснаў прагна злізваюць шэпты словаў
і скура, як сонца ў зэніце, сляпуча белая
і дэміург кладзецца побач, плячом пад голаў
і калі чарговыя колы іх закручваюць
ты твар да неба ці позірк у іншы бок
ноччу блукаеш па стромах, ходзіш па кручах
удзень сцеліш ложак, каб выспаўся бог

Таццяна Нятбай



21 лютага 2012 года
памёр

# Уладзімір Гайдук

БЕЛАРУСКІ ПАЭТ

Да 95-годдзя з дня нараджэння Янкі Брыля,
Народнага пісьменніка Беларусі,
сталага аўтара "Тэрмапілаў"

# НА ДОБРЫ ЎСПАМІН

Сярод уражанняў мінулага, важных не толькі для мяне асабіста, захоўваю ўспамін аб святкаванні ў 1983 годзе дзевяностых угодкаў з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Урачыстая вечарына была наладжана ў мінскім Доме літаратара, куды я, тады аспірантка Інстытута літаратуры АН БССР, трапіла ўпершыню. Цяпер шкадую, вядома, што пад моцным уплывам ад убачанага і пачутага не запісала падрабязнасцей. Засталося аднак агульнае адчуванне надзеі: калі нарэшце стала можна аддаць належнае "нашаму другому Максіму" (паводле выразу Я. Брыля) як *класіку* беларускай літаратуры, калі рознабакова асэнсоўваецца яго ўнёсак у айчынную культуру і асвету, а ў акадэмічным Інстытуце рыхтуецца Збор твораў, то, напэўна, можна чакаць і далейшых перамен да лепшага ў нацыянальнай справе.

Аптымістычным настроем было прасякнута і выступленне Янкі Брыля, які звычайна пры ўсякай нагодзе імкнуўся словам удзячнасці ўшанаваць памяць любімых ды паважаных. Тады, падчас урачыстасці 1983 года, выступленне гэтае проста неяк асабліва цёпла легла на душу, а зараз дакладна цытуецца мною са зборніка "Сёння і памяць". "Гарэцкі, – сцвярджаў прамоўца, – прыйдзе да новага чытача, да новай змены чытацкіх пакаленняў, якія будуць яго ахвотна, зацікаўлена чытаць, якім ён будзе па-сяброўску адкрываць сваю высока адораную чалавечнасць, разлічаную на многіх і надоўга".

Новыя чытачы і новыя даследчыкі скажуць яшчэ – з большай далечыні, чым мы, але з няменшай сардэчнасцю – дзякуй роднай зямлі, што нарадзіла такога сына" (1, с.192).

Гэтая вельмі ж брылёўская думка аб вялікай моцы літаратуры, што

выхоўвае пакаленні, далучае людзей да роднай – народнай – справы, а праз яе – да вечнасці, уяўлялася тым больш пераканаўчай, што перад намі быў яе аўтар – яскравы прыклад асобы, якая сфарміравала і нястомна ўдасканальвала сябе ў нязменнай "дружбе з кнігай", як ён сам выказаўся аднойчы. Менш думалася тады, у пачатку 80-х, пра ўнікальнасць таго духоўнага вопыту Я. Брыля, угрунтаванага менавіта на *самастойным* удумлівым чытанні. Гэта яно ўпершыню адчыніла перад юнаком з заходнебеларускай вёскі вялікі навакольны свет, а таксама свет мастацкай культуры, дапамагло ўсвядоміць свой творчы дар, далучыла да фундаментальных агульналюдскіх каштоўнасцей. Ідэалы высокага гуманізму, пацыфізму, а таксама эстэтычную праграму, успрынятыя пераважна ў Л. Талстога, "кнігу якога «Что такое искусство?» не проста прачытаў," а "ледзь не вывучыў – як дапаможнік у самастойнай працы над сабой" (1, с.185), Я. Брыль не толькі ведаў, ён паводле іх *жыў*. Ён прайшоў з імі і выпрабаванні Другой сусветнай вайны, і пакуты ды спакусы савецкага "перавыхавання". Здараліся пэўныя кампрамісы, расчараванні, але прынцыповых пазіцый мастак не саступіў, так і застаўшыся "нераскаяным талстоўцам" (А. Адамовіч). Сапраўдны ўнікум у савецкім асяроддзі. Тым больш у постсавецкім, паколькі Я. Брыль і рэгламентаваны беларускай дзяржавай "базарны" ўзровень культуры – з'явы проста несумяшчальныя.

Не надта адпавядала нашай празаічнай ды прагматычнай рэчаіснасці таксама брылёўскае разуменне творчасці як *служэння*. Але ў бязмежжы культурнай прасторы мастак заўсёды знаходзіў аднадумцаў. Так, імкнучыся максімальна проста і ёміста акрэсліць свой погляд на сэнс дзейнасці пісьменніка, Я. Брыль то дасціпна-арыгінальна падключаўся да вядомай пушкінскай думкі: "Дапаможам наладжваць па ўсёй краіне цыркуляцыю добрых пачуццяў" (2, с. 435), – то звяртаўся да самых арганічных для яго, спрадвечных, сялянскіх асацыяцый:

– У Спаскім-Лутавінаве.

Блукаў па парку, выходзіў у поле. Пад пошум залатой лістоты ўгары, пад шамаценне яе пад нагамі, гледзячы ў загадкавы гушчар, а пасля на прасторы парэзаных ярамі ды падвяселеных пералескамі палёў думалася – як быццам сумна, нават трохі абыякава:

Што ж, зямля – і тут як зямля. Апяяць яе толькі трэба як след. *Урабіць словам*. <…> (2, с. 346-347).

У пісьменніцкай працы, як, дарэчы, і ў земляробчай, для Я. Брыля не было падзелу на прыярытэтнае і другаснае. Неабходнымі складнікамі свайго прызвання ён лічыў і святую самоту над чарговым рукапісам, і сустрэчы з чытачамі, ліставанне, рассыланне кніг. Пры такім падыходзе высокую духоўна-эстэтычную значнасць набывалі і пераклад:

– Ад радасці дружбы з ягонай <М. Горкага – *В. Н.*> душой (харошае рускае слова *общение!*) <…> я з асалодай творчай працы перакладаў "Мае універсітэты", з сярэдзіны пазнаючы сакрэты яго слова (3, с.308), –

і чытанне:

– Калі я чытаю добрую кнігу, не папракайце мяне ў гультайстве. Не хочаце прызнаць, што я працую, дык думайце, што я малюся – Слову (2, с.377).

Цалкам заканамерным у гэтай сувязі з'яўляецца таксама ператварэнне ў факт высокага мастацтва, здавалася б, чарнавых падрыхтоўчых матэрыялаў – запісаў. Перамагаючы першае здзіўленне, большасць чытачоў ацаніла смелы эксперымент майстра адпаведна высока. Прагучала аднак "прафесійная" заўвага: "Гэта лепш было б апублікаваць пасля аўтаравай смерці". Я. Брыль іранізаваў: "Гаворыцца гэтак амаль з абсалютнай упэўненасцю: вось тады мы і пачытаем яго…" (2, с. 566). Ён мысліў у кардынальна іншым вымярэнні: "Нейкі позірк на ўсё сваё жыццё, жыццё асобы, чалавека, які прыйшоў і пойдзе, аднекуль і кудысьці, і – бязмежна-касмічнае недаўменне: няўжо на гэтым усё і закончыцца?.." (2, с.537). Ад гэтага нават "сцішна робіцца часамі – колькі яго, нявыказанага, ідзе ў нябыт!.." (2, с. 377). Таму ўвасобіць у слове перажытае, агульназначнае і перадаць яго людзям, – гэта рэальны шанц для асобы працягнуць сваё існаванне ў духоўнай прасторы. Больш таго – супрацьстаянне "бязмежна-касмічнай" стыхійнасці, гарманізацыя навакольнага свету – вось найвышэйшая мэта служэння, але ж якой ступені духоўнага развіцця яна патрабуе ад творцы! Вось чаму Я. Брыль, ідучы следам за Л. Талстым, ніколі не аддзяляў мастацтва ад мэтанакіраванага самавыхавання мастака, а лірычныя мікражанры і галоўнае – сама практыка запісвання сталі ў яго дзейсным сродкам "парадкавання душы" (У. Калеснік), як сваёй, так і душы чытача.

Такім чынам, галоўнаю заваёвай Я. Брыля для айчыннай літаратуры варта прызнаць не "малафармізм", "эсэізм" ці нешта яшчэ накшталт таго, а ўласным прыкладам абгрунтаванае права асобы на гранічна нязмушанае самавыяўленне – нават да такой безабароннай ды бязлітаснай да сябе адкрытасці:

–…Ведаю гэта і я – прыступы жудасна-горкай тугі… Даўнавата яе не было, ды вось зноў прыйшла. <…>

Успомніўся запіс Льва Мікалаевіча, – старэнькага, стомленага і замучанага, адным любімага, другім ненавіснага, праслаўленага на ўвесь свет тытана думкі, тытана душы, як ён па-дзіцячы маліўся сваёй "маменьке", якое ніколі не бачыў…

"*Не тое, не тое, не тое*", – як часта, як балюча я адчуваў гэта ў сваім юнацтве і пазней, як адчуваю цяпер, калі ўспаміны і сапраўды *самі* развіваюць перад табой "свой свиток"…

<…> Ведаю, ведаю я, што трымацца можна толькі за адно – за жаданне быць лепшым, за жаданне ісці наперад.

"Благочестивого старца" з мяне не атрымаецца. У якіх пакутах я буду адыходзіць – не вядома. І не запішаш іх, не будзеш, як акадэмік Паўлаў, *працаваць да самага канца*. І прыкладу камусьці не дасі, бо так жа многа

ў кожнага ў нас *толькі свайго* – і гадкага, і светлага.

"І не запішаш…" Вось толькі ўключыў святло і стаў пісаць, – і многае, што адчувалася на ўсю жудасную глыбіню, да поўнай балючай аголенасці, цяпер, нібы нават адразу, адышло, а ты – як выплыў, вынырнуў адтуль. Ужо з палёгкай, ужо як быццам з веданнем, што табе рабіць, ужо і з пэўным самалюбаваннем… <…> ("Свае старонкі", 1982 г.) (1, с. 281-282).

Што адбылося? Праз успаміны, напружаную працу ўсхваляванай думкі ўсталявалася сувязь з тымі любімымі, ад каго неаднойчы атрымліваў духоўнае падсілкаванне. А праз запісванне сувязь гэтая працягнулася далей – да таксама любімых, хоць пісьменніку і асабіста не вядомых – чытачоў. І прыйшла палёгка: "Я не самотны…"

Усё лепш відаць, што сваёю творчасцю Я. Брыль паслядоўна і па ўласнай ініцыятыве ажыццяўляў *рэабілітацыю асобы*, патрапіўшы з ёю, што асабліва важна, паміж двума дзяржаўнымі кампаніямі палітычных рэабілітацый – 50-х і 90-х гадоў. Гэтую высокую і надзвычай неабходную ў нашым грамадстве справу працягвае выконваць ягоная літаратурная спадчына і пасля адыходу майстра ў вечнасць. Так што і зараз, у год дзевяностапяцігоддзя Я. Брыля, і ў далейшым чытачы наступных пакаленняў будуць мець нагоду сказаць яму дзякуй.

Нарэшце, яшчэ адно. Калі на шаснаццатым годзе жыцця Я. Брыль ужо марыў пра сваё служэнне людзям, ажыццявіць яго збіраўся ў выглядзе ўласнага запавету накшталт збору афарызмаў "для ачышчэння і падмацавання духу". Дзеля гэтага ён "проста ў малітвеным настроі перапісваў з кніг прыгожыя, глыбокія мясціны", бо "свайго было, так сказаць, малавата" (3, с.306). З цягам часу задума наіўнага ды шчырага вясковага праўдашукальніка трансфармавалася ў непаўторную лірычную мікрапрозу, у якой "чужое" было ўжо арганічна засвоена, а ўнікальная асоба аўтара выйшла наперад і раскрылася на ўсю глыбіню. У гэтай крыніцы кожны знойдзе нешта для наталення духоўнай смагі. І калі б завесці зараз нейкі запаветны сшытак, падобны да таго, з якім калісьці рыхтаваўся да жыццёвага подзвігу Брыль-падлетак, то на першых старонках варта было б змясціць – на добры ўспамін, – напрыклад, вось гэта:

***

Вывучу столькі, колькі трэба, каб ведаць, куды я прыйшоў, што мне рабіць і як мне пайсці адгэтуль. І ніколі не будзе зашмат, і не будзе вялікага смутку, што я не ўведаў усяго, бо ў пазнаванні – радасць, і яна бясконцая ("Служэнне") (2, с.384).

***

З выступлення француза на тургенеўскім вечары:

"Слава яго нікому не перашкаджала".

Там жа, у Вялікім тэатры, занатаваў гэта з прыпіскай: "Так трэба

жыць”.

Не пра славу, вядома (“Служэнне”) (2, с.367).

***

Як сімвалічна – спелае калоссе важка хіліцца долу, а над ім, карыстаючыся гэтай сціплай важкасцю, па ўсім полі вытыркнуўся асот, ужо таксама спелы, пухова-белагаловы (“Свае старонкі” – 1978 г.) (2, с.570).

***

Пра талент і так:

Са слоў яго адчувальна капае духмяная жывіца, якая ў вечнасць увойдзе бурштынам (“Летась”) (4, с.64).

***

Малы хлопчык увечары адзін выходзіў на ганак дома на лецішчы, стаяў і ціхенька, зачаравана любаваўся поўным месяцам, зоркамі, небам…

Краса прыроды глядзіць на самую сябе яшчэ аднымі шчырымі, наіўнымі вачыма (“Залетась”) (4, с.12).

***

…І думаецца, што ўсё яно не так сабе, а павінна ж мець пэўны вышэйшы сэнс. Занадта вялікі, занадта прыгожы наш свет, каб яму існаваць толькі каб існаваць, без высока-разумнай мэты (“Летась”) (4, с.70).

Вольга Нікіфарава
*Гродна*

Спасылкі

1. Янка Брыль, *Сёння і памяць: Апавяданні, мініяцюры, эсэ*, Мінск 1985.
2. Янка Брыль, *Збор твораў у 5 т.*, Мінск 1981, Т.5.
3. Тамсама, Мінск 1981, Т 4.
4. Янка Брыль, *Парастак: Запісы эсэ,* Мінск 2006.

# РЫГОР ШЫРМА: МАЭСТРА І ЧАС

Рыгор Раманавіч Шырма не толькі перад сваім народам і светам здолеў таленавіта, годна рэпрэзентаваць беларускую песню, але патрапіў стаць духоўным арыенцірам для творчай інтэлігенцыі. Апошняе асабліва важна ў грамадстве, кіраваным неадэкватнымі поступу жыцця ідэалагемамі, палітычнымі ўстаноўкамі.

Р. Шырма адбыўся ў сваім складаным часе як творца, асоба. Адбыўся насуперак неспрыяльным, часам фатальным умовам і абставінам. Яму давялося жыць, уздымацца як творцу, майстру харавога акапэльнага мастацтва, культурна-асветнаму дзеячу, літаратару ў трох палітычна-дзяржаўных сістэмах: царска-расійскай, польскай і савецкай. Па-рознаму ў кожнай з іх складваўся гістарычны лёс беларускага народа, кожнага асобнага чалавека.

Настаўнікам, пасля заканчэння Седлецкага інстытута, у Першую сусветную вайну, разам з землякамі-бежанцамі апынуўшыся ў Яраслаўлі, Шырма спрычыніўся да актуальнага грамадскага клопату.

У той час інтэлігенцыяй арганізоўваліся камітэты помачы ахвярам вайны, каб у скрутных умовах выжывання масы ўцекачоў ратаваць іх ад холаду, голаду, даць абяздоленым вайною хоць нейкую духоўную патолю.

Босыя дзіцячыя слядкі на снезе каля бежанскіх баракаў, селянін-паляшук у світцы з дзіцячым гробікам пад пахай – жорсткія абразкі-рэаліі, што пабуджалі да неадкладнай грамадскай руплівасці.

Акрамя клопату пра хлеб, апратку, лекі для бежанцаў, што было ў кампетэнцыі членаў камітэта, Шырма знаходзіць свой спосаб дапамагчы людзям у нядолі, арганізуе ў 1915 годзе хор, першы свой хор.

Былі цяжкасці з рэпертуарам, але малады дырыжор патрапіў знайсці для землякоў і родную песню, якая ў думках вяртала ўцекачоў-выгнанцаў да гоняў пакінутай імі праз вайну бацькаўшчыны. У клопаце аб рэпертуары можна было абаперціся на педагогаў Мінскага настаўніцкага інстытута, эвакуіраванага ў Яраслаў. Сярод іх быў і Шырмаў зямляк, гісторык Усевалад Ігнатоўскі, будучы першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук.

У 1922 годзе, калі Шырма разам з сям'ёю ўжо з Варонежчыны рэпатрыяваўся на малую радзіму ў Заходнюю Беларусь, што апынулася пад Польшчай, Ігнатоўскі і Некрашэвіч прапанавалі яму застацца ў савецкім Менску. Яны якраз арганізавалі Інстытут беларускай культуры і абяцалі працу. Шырма аднак уступіў гарачай просьбе маці вярнуцца разам у Шакуны. І быў у гэтым выбары знак лёсу: мо нешта ўгадвала ў ім матчына сэрца.

Вяртанне да родных парогаў не прынесла жаданай радасці. Праўда, бацька, патомны земляроб, адразу закратаўся ля разбуранай за гады бежанства гаспадаркі. Адшукаў дзе што з прыхаванага сталярскага рыштунку, спадзеючыся, як раней, бандарыць. Род Шырмаў з-за здольнасці да

промыслаў здаўна меў мянушку "майстровічы". Гэта найменне за псеўданім абярэ сабе настаўнік-дырыжор, калі возьмецца за пяро публіцыста. А пакуль што працы згодна настаўніцкай прафесіі не было. Польская ўлада не збіралася тут, на Крэсах, адкрываць школ беларускіх. Наадварот, спяшалася закрыць тыя, што паўсталі за час так званай Сярэдняй Літвы, у міжчассі змен тут уладаў. У першую чаргу закрылі беларускую гімназію ў Будславе, семінарыі ў Барунах, Свіслачы, дзесяткі пачатковых школ. Зманьвалі дыпламаванае беларускае настаўніцтва на курсы польскай мовы ў Кракаў, каб потым скіроўваць у школы карэннай Польшчы, а на беларускія землі прыслаць настаўнікаў-палякаў.

Неяк аднойчы трапіліся ў рукі беларускія газеты з Вільні. Пісалася ў іх пра планы засялення беларускіх ды ўкраінскіх земляў вайсковымі асаднікамі, здачу ў канцэсію замежным фірмам Белавежскай пушчы. Вядома, паўсталай да дзяржаўнага жыцця Польшчы ды прыватным уласнікам лясоў трэба былі грошы...

Увогуле ж, калі аглянуцца, то беларускаму інтэлігенту пры запанавалай у Заходняй Беларусі ўладзе нічога добрага чакаць не даводзілася.

Шырму, у якога і жонка, настаўніца матэматыкі, сядзела без працы, спадзявацца на працаўладкаванне згодна прафесіі не выпадала. Калі даведаўся з абвесткі, што патрабуюцца работнікі ў лесе, пайшоў лесарубам. Кожны дзень 12 кіламетраў у Пружанскую пушчу, ускрай Белавежы, і 12 назад было нялёгка, але мажліва. Тым часам заробак з лесапавалу аказаўся не надзейным. Ці адміністрацыі было падказана, ці сама дадумалася, што настаўнік ды яшчэ рэпатрыяваны з Савецкай Расіі можа мець непажаданы ўплыў на лесарубаў, а праз нейкі час яго звольнілі.

Тады апальны педагог з такіх жа самых беспрацоўных, як сам, настаўнікаў у іх родным мястэчку Пружаны арганізуе другі свой хор. У ім пачынае падымаць беларускую народную песню, запісаўшы ад прыроднай народнай спявачкі Захвеі Хвораст добрую вязанку веснавых, купальскіх, жніўных ды восеньскіх песень, сапраўдных шэдэўраў народнага духу.

Чуткі пра Пружанскі хор Шырмы яшчэ наўрад дакаціліся да Вільні, якая адчувальна набірала ролю палітычнага і культурнага цэнтра Заходняй Беларусі, як аднаго дня дырыжора наведаў знанны дэпутат сейма Польшчы Браніслаў Тарашкевіч. Ён прыехаў у Пружаны, каб выступіць на мітынгу, які практыкаваў Беларускі пасольскі клуб для асветна-палітычнай работы ў народзе. Гэтым разам мітынг не ўдаўся: ваенізаваныя асаднікі і тайная паліцыя зрабілі ўсё, каб яго сарваць.

Тарашкевіч прыйшоў да Шырмы ўзбуджаны, але не прыгнечаны няўдачай, жартаваў, пасміхаўся са сваёй незадачы. Распытаў пра тутэйшае жыццё, хор і прапанаваў перабрацца ў Вільню, дзе будуць спагаднейшыя ўмовы для культурніцкай працы. Беларускі час патрабаваў ад аўтара першай "Беларускай граматыкі", перспектыўнага вучонага ісці ў палітыку, а ад Шырмы – у культуру, якая ў тых умовах набывала статус

больш чым толькі культурніцкі. Народ усведамляў сябе палітычна, складваўся ў нацыю і, натуральна, імкнуўся сцвердзіць сябе як самадастатковую нацыянальную супольнасць. Пра гэта сказаў Тарашкевіч 23 студзеня 1923 года ў сейме 2-ой Рэчы Паспалітай, адказваючы на рэпліку польскай дэпутацкай правіцы ў бок беларускіх паслоў "Ці маеце гістарычны пашпарт?" "Беларускі народ не цяпер ненава творыцца. Беларускі народ – народ старажытны, а разам з тым і малады, малады таму, што адраджаецца і ўступае ў сям'ю жывых народаў, якія змагаюцца за сваё жыццё". На той час, у сярэдзіне 20-х XX стагоддзя, маладога беларускага інтэлігента Шырму само жыццё няўхільна, уладна ўключала ў змаганне яго народа за сваю сацыяльную, нацыянальную свабоду – будучыню.

На час пярэбараў Рыгора Шырмы ў Вільню ў колішняй сталіцы старадаўняй Літвы, цяпер ваяводскім цэнтры польскай дзяржаўнасці, вельмі выяўна адчувалася беларуская прысутнасць, грамадская і культурніцкая. Нямаючы апоры на дзяржаву, фактычна насуперак яе палітыцы, беларусы патрапілі рупліва самаарганізавацца.

Паслалі ў найвышэйшы орган Польскай рэспублікі сейм і сенат 14 сваіх прадстаўнікоў-дэпутатаў, якія аб'ядналіся ў Беларускі польскі клуб і сталі рэальна, кампетэнтна адстойваць інтарэсы трохмільённага жыхарства Заходняй Беларусі.

Стварылі моцны сацыяльнай і нацыянальнай праблематыкай, інфарматыўнасцю і актыўнай зваротнай сувяззю з рэгіёнамі перыядычны беларускі друк (газеты "Беларуская доля", "Беларуская ніва", "Беларуская крыніца"; "Беларускае слова", "Грамадскі голас", "Жыццё беларуса", "Беларуская справа", "Сялянская праўда", "Сялянская ніва" і інш., часопісы "Авадзень", "Маланка", "Беларуская культура", "Праваслаўны беларус", "Родныя гоні", "Студэнцкая думка").

Разгарнулі прадуктыўную кніжна-выдавецкую дзейнасць кааператыўнае "Беларускае выдавецкае таварыства", прыватнае выдавецтва Уладыслава Знамяроўскага, беларускі аддзел выдавецтва Барыса Клецкіна і інш.

У цэлым у руху праглядала прадуманая скіраванасць, стратэгічны падыход. Былі мэтава задзейнічаны нацыятворныя, этнаахоўныя чыннікі. У тым ліку асветны і навуковы іх складнікі. Плённа запрацавала ўтворанае яшчэ ў 1918 годзе Іванам Луцкевічам "Беларускае навуковае таварыства ў Вільні", ахопліваючы найважнейшыя галіны беларусазнаўства: мову, гісторыю, літаратуру, этнаграфію, музыку, выяўленчае мастацтва. Заснаванае на ўзор "Маціцы Чэшскай" у 1921 годзе "Таварыства беларускай школы", заапекавалася асветай народа, школьніцтвам. Акрамя Віленскай беларускай прыватнай гімназіі, утрымлівала Радашковіцкую, Клецкую, Навагрудскую... Асветны фронт вымагаў асаблівай увагі і ахвярнасці яго працаўнікоў: на ім даводзілася змагаць праграму польскай дзяржаўнай адміністрацыі, скіраваную на прамую дэнацыяналізацыю ўскраін, імкненне асіміляваць беларусаў і ўкраінцаў.

Пасяліўся Рыгор Шырма ў старажытным квартале горада, адразу за

Вострай брамай, у г. зв. Базыльянскіх мурах. Тут з 1919 года размясцілася Беларуская гімназія, была праваслаўная семінарыя, Беларускі музей, закладзены Іванам Луцкевічам, Беларускае навуковае таварыства. У цэнтры, леваруч ад будынка гімназіі, узвышаўся старажытны храм, фундаваны Канстанцінам Астрожскім на знак яго славутай перамогі пад Оршай. Кватэра сям'і Шырмы мясцілася ў верхнім ярусе масіўнай брамы, што вяла ў Базыльянскія муры. Вокны яе глядзелі прама на гімназійны панадворак.

Даручаныя ўрокі спеву ў гімназіі Шырма спалучаў яшчэ з абавязкам педагога-выхавальніка ў інтэрнаце. Яго гімназійным выхаванцам запомніліся бяседы іх настаўніка спеваў аб класічнай літаратуры.

У гімназіі мелася даволі прасторная актавая зала, дзе ладзіліся спектаклі. Арганізоўвала іх з удзелам навучэнцаў гімназіі Беларуская драматычная майстроўня, ініцыятарам-заснавальнікам якой быў драматург і паэт Леапольд Радзевіч, дзе таксама даклаў свае працы мастак Язэп Драздовіч. Панарамны пейзаж “Тарадольская пушча”, што ўзнаўляў на палатне ландшафт Дзісеншчыны, радзімых мясцін мастака, і аздабляў франтон сцэны.

Драздовіч на той час адкрыў пры гімназіі мастацкую студыю. На адным з фотаздымкаў той пары на фоне працаў Драздовіча і студыйцаў сядзіць сам мастак, а ў цэнтры з маладымі мастакамі Міколам Васілеўскім, Васілём Сідаровічам і іншымі – паглядны імпазантна-інтэлігентны Рыгор Шырма. Ён ужо арганізаваў трэці ў сваім жыцці хор. Выступаў з ім на вечарынах у гімназіі, паступова заваёўваючы і іншыя залы, эстрады Вільні. Канцэртную праграму беларускі хор Шырмы звычайна заканчваў песняй на словы Янкі Купалы, музыкі прафесара Мікалая Янчука "Не пагаснуць зоркі ў небе". Твор, які заканчваўся словамі

Не загіне край забраны, // Покуль будуць людзі!...

гучаў пабуджальна для заходніх беларусаў, нёс актуальны сэнс, усяляў надзею ў людскія душы, набываў рэальны статус гімна.

Але гэта стане крыху пазней.

Напачатку Рыгор Шырма не паспеў яшчэ агледзецца ў Вільні, у новым сваім жыцці, як яго падхапіла імклівая плынь грамадаўскага руху.

Нацыянальна-вызваленчы рух пад знакам "Беларускай сялянска-работніцкай грамады" быў адным з яркіх этапаў гістарычнага поступу беларусаў да найвышэйшага ідэалу кожнага народа – стварэння ўласнай дзяржаўнасці. Менавіта да гэтага быў ён аб'ектыўна стратэгічна скіраваны. Шырокая грамадаўская плынь беларускага руху 1925–1927 гг. дзейсна спрычынілася да сацыяльнага і нацыянальнага самаўсведамлення маладой, паўставалай да свядомага палітычнага жыцця нацыі як цалкам самастойнай і самадастатковай этнічнай супольнасці. А пачынаўся ён з ініцыятывы чатырох палітыкаў, дэпутатаў сейма Рэчы Паспалітай Польшчы на чале з Браніславам Тарашкевічам. Пераканаўшыся, што парламенцкім шляхам беларускаму прадстаўніцтву ў парламенце не адстаяць гарантаваных міжнароднымі трактатамі і канстытуцыяй Польскай рэспу-

блікі правоў на годнае сацыяльнае, нацыянальнае жыццё, асвету, культуру свайго народа, яны выйшлі са складу "Беларускага пасольскага (дэпутацкага) клуба" і арганізавалі самастойную сеймавую фракцыю пад назваю "Беларуская сялянска-работніцкая грамада" (БСР Грамада). Навастворaная арганізацыйная структура ідэйна апелявала да традыцыі першай беларускай палітычнай партыі "Беларуская сацыялістычная грамада".

Абапіраючыся на народ як палітычна асвядомленую, арганізаваную сілу, творцы БСР Грамады імкнуліся вырашыць тактычныя і стратэгічныя задачы беларускага руху: дамагчыся аўтаноміі з усімі яе правамі ў моўнай, культурнай сферах, правядзення сацыяльна-справядлівай зямельнай рэформы, рэальнага выканання ўладамі гарантаваных канстытуцыяй Польскай Рэспублікі свабод.

Ідэі, спавяданыя ды дзейсна пашыраныя ў народзе творцамі БСР Грамады, невыпадкова знаходзілі, знайшлі ўдзячную глебу. Яны прараcталі ў самой рэчаіснасці Заходняй Беларусі 20-х гадоў XX стагоддзя. Таму ўвасобленыя лідарам Грамады ў праграму аказаліся блізкімі і зразумелымі ў народнай гушчы. Сейбіт прыйшоў упару. Паўсталая да жыцця арганізацыя набывала стройную структуру з простай іерархіяй: гурток, павятовы камітэт, галоўная ўправа і арганізацыйны штаб – Цэнтральны сакратарыят.

Час неаглядна далучаў педагога і дырыжора Шырму да актуальнай, адразу запаланіўшай душу новай грамадскай працы. Праз гады маэстру, аўтарытэтнаму дзеячу беларускай музычнай культуры Р. Шырму хораша ўспаміналася, як яны, дваццаць чалавек на чале з Максімам Бусевічам на Віленскай 12, у цэнтральным сакратарыяце БСР Грамады, дзверы якога былі адчынены ад 7-ай гадзіны раніцы да 10-ай вечара, не паспявалі забяспечыць пасланцоў з усіх куткоў Заходняй Беларусі праграмнай літаратурай, статутамі, выпісваць членскія білеты...

Дзеля сацыяльнага і нацыянальнага ўсведамлення народа кіраўніцтва БСР Грамады перш-наперш паклапацілася пра нацыянальную асвету. Дабілася пашырэння статутнай дзейнасці Таварыства беларускай школы з Віленшчыны, як гэта было ў час заснавання гэтай культурна-грамадска-асветнай арганізацыі, да права працы яе на тэрыторыі ўсёй краіны.

Абапіраючыся на ТБШ, якое згуртавала ў сваіх нізавых і павятовых структурах тысячы адзінак актыўнай інтэлігенцыі, моладзі, дзейсна правяла акцыю барацьбы за беларускія школы. У школьны інспектарат, абсаджаны выхадцамі з карэннай Польшчы, было пададзена сотні тысяч заяў з патрабаваннем адкрыць коштам дзяржавы, згодна канстытуцыі, тысячы беларускіх школ.

У кантэксце заходнебеларускай рэчаіснасці ў выступленнях грамадаўскіх дэпутатаў, у друку паслядоўна праводзілася беларуская ідэя. Народ быў заклікаaны гаварыць, публічна сведчыць аб сваіх патрэбах, праблемах. І безліч допісаў з месц у віленскую беларускую прэсу

засведчылі, што народ пачуў заклікі зверху і пазнаў у грамадаўскім кіраўнічым актыве сваіх шчырых абаронцаў. У душы заходнебеларускі селянін пачаў звязваць з Грамадой запаветную надзею на зямлю, больш паловы якой у краі належала памешчыкам ды асаднікам.

Грамадаўскі рух нарастаў, як веснавая паводка. К пачатку 1927 года БСР Грамада налічвала ў сваіх радах больш ста тысяч чалавек, што панічна занепакоіла абшарнікаў, культтрэгераў-асаднікаў, адміністрацыю.

У віленскай, а затым і ў варшаўскай польскай прэсе пачаліся інсінуацыі супраць масавай арганізацыі беларускіх працоўных. У Стара Бярозава быў брутальна разагнаны ваенізаванымі "баюўкамі" асаднікаў павятовы з'езд БСР Грамады, пабіты грамадаўскія дэпутаты сойма Пётра Мятла і Павел Валошын.

У Варшаву, Бальвэдэр, да самога Пілсудскага пацягнуліся дэлегацыі з патрабаваннем дэлегізацыі БСР Грамады. У беларускім, па сутнасці, адраджэнскім і ў адначассі палітычным руху ўбачылі пагрозу самой Польскай дзяржаве. Напраўду, пагрозы, тым больш рэальнай, не было. Спалохаліся, што народ, аб'яднаны нацыянальнай ідэяй, усвядоміць сваю моц і запатрабуе права, агаворанага ў Канстытуцыі дзяржавы ды ў міжнародных Рыжскім і Версальскім трактатах.

Успаміналася Р. Шырму, як у дзень новага 1927 года, выступаючы ў сядзібе ТБШ перад Віленскім актывам БСР Грамады, Тарашкевіч, на той час шырокавядомы ўва ўсёй Заходняй Беларусі і за яе межамі дзеяч, гаварыў аб неўнікнёных суровых выпрабаваннях, што чакаюць дэмакратычны ў сваёй істоце рух беларускіх працоўных і аб высокіх, светлых мэтах яго.

Аўтарытарны рэжым Пілсудскага не спыніўся перад разгромам легальнага беларускага руху, аддаўшы пад суд 56 прадстаўнікоў яго на чале з чатырма дэпутатамі сейма і забараніўшы БСР Грамаду.

Пагром беларускага руху ў Польшчы, яго легальных форм у постаці БСР Грамады, "Змагання" запаволіў ход нацыянальнай кансалідацыі заходніх беларусаў, але не спыніў яго.

Татальныя рэпрэсіі 30-х гадоў XX стагоддзя ў СССР, знішчэнне беларускай інтэлігенцыі трагічна перапынілі нацыятворны працэс беларускага народа. Ён інтэнсіўна развіваўся ў 20-я гады па абодва бакі польска-савецкай дзяржаўнай мяжы і абяцаў канчатковае фарміраванне нацыі, свядомай ідэі ўласнай дзяржаўнасці, сваёй прысутнасці ў свеце як суб'екта гісторыі.

Праз тры з лішнім гады, пасля памятнай сустрэчы новага 1927 года, згадвалася Р. Шырму, вышаўшы, як аказалася, на кароткі час з польскай турмы, Тарашкевіч прыйшоў у сядзібу Галоўнай управы ТБШ на вуліцы Святой Ганны ў Вільні.

Апынуўшыся сярод старых знаёмцаў, фактычна ў штабе культурнаасветнай арганізацыі, на чале якой стаялі старэйшы беларускі дзеяч юрыст і педагог Фелікс Стацкевіч, знаны асветнік Сяргей Паўловіч,

фальклярыст, дырыжор Рыгор Шырма, Тарашкевіч цяпер думаў узначаліць ТБШ. Таварыства беларускай школы, што налічвала болын за шаснаццаць тысяч чальцоў, бачылася яму не толькі рэальным ачагом супраціву паланізацыі, але і другой лініяй акопаў вызваленчага руху. Ён так і назваў яго "другая лінія акопаў". І сам планаваў, хацеў быць з тымі, хто стаяў на гэтай другой лініі абароны, змагання.

Але ўсё рашаць за сябе ён цяпер не мог. Яшчэ ў снежні 1925 года Тарашкевіч, пасол сойма Польшчы, аўтарытэтны беларускі палітык, быў прыняты ў Кампартыю Заходняй Беларусі, фармальна аўтаномную ў Польскай кампартыі, дзейнасць якіх была пад забаронай у даваеннай Польшчы.

Кампартыя падтрымлівала БСР Грамаду. Былі ўзаемныя, прынамсі, тактычныя інтарэсы. Адпаведна і ўзаемныя абавязкі. Зрэшты, напачатку аб'ектыўна яны спрыялі беларускаму вызваленчаму руху.

Згодна з вымогамі палітычнага моманту, Тарашкевіч пайшоў на новы крок. У звязку з выбарамі 1930 года ў сейм і сенат Польшчы засноўваўся новы беларускі выбарчы блок "Змагання за інтарэсы сялян і рабочых". Была надзея стварыць новую легальную арганізацыю заходнебеларускіх працоўных, накшталт БСР Грамады, балазе мелася шмат яе сімпатыкаў, спадкаемцаў.

Стварэнне новай беларускай легальнай, эвентуальна масавай арганізацыі, польскія дзяржаўныя чыннікі, адміністрацыя ніяк не маглі дазволіць і зрабілі ўсё, каб яе задушыць у зародку.

Спіс дэпутатаў у кандыдаты, пададзены Цэнтральным выбарчым камітэтам "Змагання за інтарэсы сялян і рабочых", быўануляваны, пачатковыя структуры "змаганцаў" у паветах ліквідаваны, а ў лютым 1931 года Тарашкевіч, як і былыя дэпутаты сойма І. Дварчанін, Я. Гаўрылік, Ф. Валынец, быў арыштаваны.

З 1930 года аўтарытарны рэжым Полыпчы павёў сістэмныя наступы і на культурна-асветныя беларускія пляцоўкі.

Аднаго дня, увосень 1930-га года, увесь кіраўнічы штаб ТБШ апынуўся ў сумна вядомых Лукішках. Для беларускага культурніка, дырыжора гэта быў першы арышт у жыцці.

Духам не ўпаў. Нават пачаў пісаць невялікую п'есу аб змаганні маладога беларускага інтэлігента за асвету, права і годнасць свайго народа.

П'еса мела рамантычную назву "Зорным шляхам". У рукапісе яе, захаваным у акадэмічнай бібліятэцы Літвы, побач з тэкстам – накіды нотаў...

Падчас знаходжання ў Лукішках дайшлі сумныя весткі з Менску аб трагічнай смерці прэзідэнта Акадэміі навук Усевалада Ігнатоўскага, аб спробе самагубства Янкі Купалы...

Тым часам пінкертонам з дэфензівы не ўдалося сабраць хоць жменю нейкіх годных даверу фактаў антыпанствовай, г. зн. антыдзяржаўнай дзейнасці беларускіх асветнікаў. Давялося сарамліва, калі гэта слова падыходзіць да ацэнкі дзейнасці спецслужб, выпусціць арыштаваных на волю. Вярнуўшыся з астрога, кіраўнікі ТБШ перш-наперш парупіліся аб

заснаванні перыядычнага выдання сваёй арганізацыі і назвалі яго "Летапісам ТБШ". Трэба сказаць, гэты перыёдык набыў сапраўдны характар летапісу культурна-асветнага і грамадскага жыцця Заходняй Беларусі.

Пазней перайменаваны ў "Беларускі летапіс" часопіс стаў сапраўднай трыбунай незалежнай дэмакратычнай думкі і такім пратрымаўся да пачатку Другой сусветнай вайны.

Што ж да працы Р. Шырмы і яго калег-аднадумцаў з ТБШ, то кожны з іх рабіў далей сваё і разам з тым супольнае на культурна-асветнай ніве.

Ва ўзбагачэнні рэпертуару апрацоўкамі народных песень і арыгінальнымі творамі на іх аснове хору Шырмы рупліва дапамагаў выпускнік Пецярбургскай кансерваторыі, сталажылы віленчанін, род якога паходзіў з Магілёўшчыны, Канстанцін Галкоўскі. Шырма зацікавіў таленавітага музыку беларускай песеннай стыхіяй, працай з хорам яшчэ перад "Вечарам славянскай песні". Акцыю тую яны ладзілі ўдваіх, падзяляючы сумесна клопат, каб беларуская песня на фоне рускай, украінскай, польскай не выглядала папялушкай. Разнамоўны перыядычны друк засведчыў факт прысутнасці яе на роўных. А наогул "Вечар славянскай песні" стаў этапным у развіцці і папулярнасці беларускага харавога калектыву ў Вільні, кіраванага Шырмам. І гэта, як і ў цэлым актуальнасць роднай песні ва ўмовах нацыянальнага і сацыяльнага прыгнечання народа, абавязвала яе палонніка і прапагатара да дзеяння.

Па выданні першага свайго зборніка "Беларускія народныя песні", што ўключаў 34 аранжыроўкі, здзейсненыя кампазітарамі К. Галкоўскім, М. Анчыкавым, Т. Уладзімірскім, Шырма навязвае сувязі з рускім кампазітарам А. Грэчанінавым, які перабраўся ў Парыж, украінцамі А. Кошыцам і М. Гайваронскім у Канадзе, дасылае ім свае запісы беларускага меласу і атрымлівае некалькі аранжыраваных народных шэдэўраў, а пазней і песні на словы заходнебеларускіх паэтаў Максіма Танка, Міхася Васілька, Міхася Машары. Паралельна з працай дырыжора-харавіка, выданнем песень і першых кніг заходнебеларускіх паэтаў Шырма спрабуе пяро публіцыста.

Побач з ім на асветнай ніве плённа рупіцца калега, педагог Сяргей Паўловіч. Дзейна адказвае на выклік часу – заслон, стаўлены польскай адміністрацыяй беларускай асвеце дзеля асіміляцыі беларусаў.

Насуперак урадавай практыцы мінімізацыі беларускага школьніцтва С. Паўловіч, услугуючы справе асветы беларускіх дзяцей на роднай мове, стварае першы падручнік для хатняга навучання па-беларуску пад назваю "Пішы самадзейна" (1929 г.). А ўслед падрыхтаваў буквар і чытанку "Першыя зярняткі", "Засеўкі", багата праілюстраваныя мастакамі Міколам Васілеўскім, Язэпам Драздовічам, Уладзіславам Паўлюкоўскім.

Тым часам беларускі культурна-асветніцкі асяродак, які разгарнуў сваю дзейнасць на ўсім заходнебеларускім абшары ад Беластока да Стаўпеччыны, ад Дзісненшчыны да Піншчыны, знаходзіцца ўвесь час у полі зроку палітычнай паліцыі.

На пачатку 1933 года яна робіць чарговы наезд на сядзібу Галоўнай

управы ТБШ, з ператрусам і арыштам усяго складу яе. Гэтым разам дэфензіве ўдаецца давесці справу, скіраваную супраць беларускіх асветнікаў, да суда. Але і цяпер ёй давялося адступіць. Заслухаўшы падсудных Р. Шырму і Ф. Стацкевіча, якія доказна, ушчэнт, разбілі довады абвінавачання, суд мусіў апраўдаць лідараў ТБШ. Адвакат Казімір Петрусевіч, з польскіх інтэлігентаў, пацісну абаім сваім падабаронным руку: практычна справіліся без яго дапамогі. Трэба сказаць, што ў адрозненне ад Германіі ці СССР 30-х гадоў, дзе грамадская думка была цалкам манапалізавана, замыкалася адно на асобу правадыра, у даваеннай Польшчы, хоць фрагментарна, яна яшчэ захоўвалася часам у незалежнай сваёй іпастасі.

Можа аглядка на буржуазна-дэмакратычныя Францыю, Англію была ў тым прычынай. Ды, зрэшты, аўтарытарызм, мабыць, яшчэ пакідае нейкі шанец чалавеку застацца асобай. Жорсткія палітычныя абставіны, з аднаго боку, і вызваленчыя інтэнцыі ды настроі грамадства, з другога, мацавалі чалавечую асобу, прыдавалі ёй гарту, мудрасці.

Абсяг асветна-культурнай, а ў сутнасці грамадскай беларускай, працы быў шырокі.

Як сакратар Галоўнай управы ТБШ, Шырма заангажыраваны ў вырашэнне стратэгічных і паточных заданняў арганізацыі. Піша перадавіцы да часопіса "Летапіс ТБШ", запатрабаваны на правінцыі як беларускі лектар. Асаблівай папулярнасцю і прызнаннем карыстаецца яго лектура на тэму "Значэнне літаратуры ў жыцці грамадства і адзінкі", "Беларускія народныя песні".

Акрамя таго, мастацкай праграмай беларускага хору павінен быў забяспечваць і заўсёды рабіў тое з уласцівым яму эстэтычным чуццём культурныя акцыі: святкаванне паўвекавых юбілеяў народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, вечароў беларускай паэзіі і з удзелам Максіма Танка, Міхася Васілька, Хведара Ілляшэвіча, Міхася Машары.

Асаблівае значэнне выступы хору пад кіраўніцтвам Р. Шырмы набывалі ў Дні беларускай культуры, якія ў цяжкія для ўсходніх і заходніх беларусаў 1936–1938 гг. ладзіліся ў Вільні дзеля нацыянальнай кансалідацыі, сцвярджэння беларускай культурнай прысутнасці ў свеце.

Дні беларускай культуры мелі, як правіла, дзве праграмы: акадэмічную і мастацкую. У першай з рэфератамі звычайна выступалі грамадска-палітычныя дзеячы Антон Луцкевіч, Адам Станкевіч...

У культурнай частцы свята, а гэта былі сапраўдныя святы, чарадзеілі маэстра Рыгор Шырма з хорам і славуты спявак, артыст Пазнанскай оперы Міхась Забэйда-Суміцкі.

Быў то ці не найбольшы, найпераканайнейшы аргумент таго, што не скарыўся пад ударамі жорсткага лёсу беларускі народ, дух творчасці яго – неўміручы. А значыць, у краі, у яго сыноў, цэлага народа гэтага ёсць будучыня.

З гэтай верай беларускі інтэлігент Шырма пражыў усё сваё, без

перабольшвання, вялікае жыццё, змагаючы на жыццёвым шляху няпростыя, часам фатальныя перашкоды, выпрабаванні.

Але пакуль што апошнія гады ішлі ў культурна-грамадскай працы, хоць і няпростай, зважаючы на жорсткія палітычныя рэаліі, але той, што дарыла творчую радасць. У Рыгора Шырмы былі дзве ўлюбёныя музы. Перадусім музыка, але не менш да душы яго прамаўляла і мастацкае слова, паэзія. Выкарыстаць слова як зброю ў змаганні за беларускую асвету прымушала сама падпольская, заходнебеларуская рэчаіснасць.

У "Беларускім летапісе", рэдакцыя якога пазіцыравала часопіс не толькі як асветна-культурнае, але і літаратурнае выданне, Шырма стала выступаў з публіцыстычнымі і літаратурна-крытычнымі эсэ.

У перадавіцах да "Летапісу..." аргументавана, высока ставіць значэнне асветы на роднай мове дзіцяці для максімальнага развіцця яго духоўных, разумовых сіл у кантэксце быцця народа, нацыі. У артыкулах "Ціхая трагедыя", "Чаму мы дамагаемся роднае школы" – прамаўленне-казань аб балючых праблемах беларускага школьніцтва, праве здабыць асвету дзеля годнай будучыні свайго народа.

Літаратуразнаўчыя тэмы "Ідэя волі ў паэзіі Якуба Коласа", "Матывы творчасці Максіма Танка", "Дзве стыхіі" (апошні пра паэму Максіма Танка "Нарач") падказвалі, дыктавалі заходнебеларускія грамадскія актуаліі.

Ужо з пачатку 30-х пад рознымі фальшывымі падставамі ішло часовае і поўнае закрыццё ўладнай адміністрацыяй асобных, часам найбольш дзейсных гурткоў і ТБШ. У студзені 1937 года пасля актыўнай акцыі за беларускія школы, праведзенай Таварыствам разам з Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры, гэтыя культурна-асветныя арганізацыі абедзве былі забаронены загадам віленскага ваяводы. Забарона ТБШ была адной з праяў сістэмнага наступу на беларускія арганізацыі, асяродкі супраціву палітыцы асіміляцыі, каланіяніcцкай палітыцы Польскай дзяржавы. І ў гэтых, фактычна анамальных, абставінах, удзельнікі беларускага нацыянальнага, у тым ліку культурна-асветнага, руху не здавалі пазіцый. Р. Шырма заставаўся членам рэдкалегіі неардынарнага на скрутны час часопіса "Беларускі летапіс", публікаваў на яго старонках публіцыстычныя эсэ, літаратурныя нарысы-партрэты пісьменнікаў, змяшчаў аранжыроўкі беларускіх народных песень, зробленыя паводле яго запісаў кампазітарамі А. Грэчанінавым, К. Галкоўскім, М. Гайваронскім, А. Кошыцам, А. Свешнікавым...

Разам з юрыстам Вінцуком Склубоўскім і Максімам Танкам спрычыніўся да арганізацыі выдання народафронтаўскай газеты "Наша воля", на старонках якой выступаў з публіцыстычнымі артыкуламі пад рознымі псеўданімамі. Але газету хутка закрылі...

Набліжаўся верасень 1939 года.

Упалая польская ўлада не выклікала спагадання – надаела за 20 гадоў. Але і ў радасці вызвалення з'явіліся цені, загадкі. Нечаканая аддача Вільні сметонаўскай Літве, перамяшчэнне Беларускага ўпраўлення на чале з І.Ф.

Клімавым у Беласток, які абазначылі цэнтрам Заходняй Беларусі. А галоўнае ж – арышты беларускай дэмакратычнай інтэлігенцыі ў Вільні літаральна цягам месяца пасля яе саветызацыі. Ды не толькі прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты, як А. Луцкевіч, У. Самойла, А. Уласаў, В. Багдановіч, А. Трэпка, Макар Краўцоў, а і, што называецца, простых людзей з былых грамадаўцаў і, як ні дзіўна, капэзэбоўцаў, колішніх камуністаў-падпольшчыкаў.

У Р. Шырмы таксама ўзнікалі недаўменні, пытанні. Адно з іх, відаць, прамоўленае ўслых, верне маэстру следчы на Лубянцы зімой 1941 года ў Маскве. Было зусім нечакана. З-за сваёй паслядоўнай абарончабеларускай пазіцыі, супрацы з КПЗБ дзяржаўнымі польскімі органамі Шырма адназначна трактаваўся як "камунізуючы"...

Ну нешта ў новай, прыйшоўшай у 1939 годзе ў Заходнюю Беларусь уладзе яму, ды ці толькі яму, здалося незразумелым. Але ў цэлым ён, як і бальшыня народа, прыняў яе шчыра. І яна, прынамсі, на дзяржаўным узроўні, здавалася, выказала разуменне яго як артыста, харавога дырыжора.

Невыпадкова ж на новым месцы, ужо ў Беластоку, у 1940-м яму дазволілі арганізаваць Беларускі ансамбль песні і танца. Уласна віленскі яго хор застаўся ў ранейшым сваім складзе, але цяпер упершыню меў пад сабою дзяржаўную апору.

Перад самым нападам немцаў выехалі на гастролі па краіне з надзеяй шырэй паказаць беларускую песню... І раптам арышт у Новасібірску. Лубянка. Начныя допыты. І адно з першых пытанняў следчага: "Што тут беларускага ў гэтай прышлай Беларусі, – казалі?"

Зразумеў, што стасуюць абвінаваўчы штамп "нацдэм". Следству трэба набраць пад яго хоць якія ліпавыя доказы. Тамлівыя начныя допыты, надаелыя і следчаму Раманенку, той аднойчы нечакана перапыніў аглушальнай навіной "Няма ўжо вашага Купалы..." Па звароце ў камеру ціснулі голаў, сэрца загадкі. Свядомасць вяртала да пражытага 12 год таму ў Лукішскай турме, у Вільні. Тады вестка аб спробе Купалы драматычна сыйсці з жыцця ўзрушыла зняволеных, выклікала пытанні, спрэчкі. У памяці Шырмы ўсплылі словы палітвязня з-пад Слоніма па прозвішчы Мазоль: "Ну што значыць смерць аднаго паэта перад явай Сусветнай рэвалюцыі?"

Высылка ў паўночны Казахстан не была вялікай палёгкай. Але там, прынамсі, не мучылі недарэчнай вымогай падпісаць на сябе патрэбную следству хлусню. З Лубянкай адышлі і начныя галодныя галюцынацыі. Фізічная трываласць, перанятая ад земляробскага паляшуцкага роду, ды дух супраціву ўсякай несправядлівасці, гвалту, няволі дапамагалі выстаяць.

Тым часам, як нечаканы быў арышт, таксама нечакана прыйшло і вызваленне, выхад на волю, вяртанне да сям'і.

Сам лёс працягнуў руку паланёнаму беларускай песняй, каб ён, яе валадар і майстар-інтэрпрэтатар, мог аддацца ёй да канца. Пра тое, хто спрычыніўся да вяртання Шырмы на волю (тут міжволі згадваецца

Коласава: "Колькі талентаў звялося, колькі іх і дзе ляжыць...") ён даведаўся толькі пасля вайны. Атрымаўшы асабістую свабоду, няхай сабе абмежаваную: працу беларускага хору лакалізавалі напачатку правінцыяй, Горадняй, Шырма патрапіў сілай таленту, няскоранай асобы хутка ўзысці, падняцца да вяршыняў харавога мастацтва спеву а капэла, пазначыць сваёй творчасцю цэлы перыяд у гісторыі беларускай музычнай культуры.

Магло здацца, што над інтэлігентам, беларускім самародным талентам гэтым разам не абышлося без боскай апекі, ласкі. У сапраўднасці ж ніякага трансцэндэнтнага ўмяшання ў лёс Рыгора Шырмы не было. Проста сам час падабрэў, крыху прасвятлеў, у тым ліку да пазасталае малое пасля пагрому 30-х гадоў купкі беларускай інтэлігенцыі. Выхаду Шырмы на волю дапамог Якуб Колас. Вядома, не сам здолеў тое зрабіць, а пахадайнічаўшы перад тагачасным кіраўніком рэспублікі П.К. Панамарэнкам.

Народны паэт якраз жыў у эвакуацыі ў Ташкенце, калі аднойчы да яго на кватэру літаральна ўвалілася група артыстаў беларускага хору з просьбай вытаваць заснавальніка і кіраўніка іх ансамбля. Беларускі ж хор, цяпер ужо пад кіраўніцтвам кампазітара Палонскага, на той час гастраляваў у Ташкенце, і артысты шчасліва скарысталі выпадак, каб папрасіць высокага заступніцтва. Апальны дырыжор зведаў высокае заступніцтва яшчэ раз, ужо будучы ў Гродне. На пачатку 50-х у парадку азнаямлення з горадам яго наведаў нованазначаны малады кіраўнік рэспублікі М.С. Патолічаў. Між іншым пажадаў асабіста пазнаёміцца з дырыжорам песеннага ансамбля: чуў пра яго ад свайго папярэдніка...

Прыслаў нарачонага, запрасіў у гатэль, дзе спыніўся. Распытаў пра ўмовы працы хору, творчыя планы.

А неўзабаве, у 1952 годзе, Беларускі ансамбль песні і яго шматгадовы кіраўнік атрымалі прапіску ў стольным Мінску. У 1955-м на дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве хор пад кіраўніцтвам Р. Шырмы адметна прадставіў музычную і пеўчую культуру беларусаў.

Моцны ў раскрыцці шэдэўраў традыцыйнай культуры свайго народа, ён засведчыў адначасова, што яму ўласціва тонкая мастацкая інтэрпрэтацыя сусветнай музычнай класікі. Творы Г.Ф. Гендэля, В.А. Моцарта, Л. Бетховена, П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, Д. Шастаковіча беларускі маэстра са сваім хорам разгортвалі ў манументальныя вакальна-аркестровыя палотны.

Беларускі хор і яго дырыжор атрымалі ў маскоўскай культурніцкай эліты высокую ацэнку, аб чым канкрэтна засведчылі водгукі ў прэсе музыказнаўцаў. Прыйшоў ліст ад Аляксандра Фадзеева. Паклоннік акапэльнага спеву, пісьменнік аб майстэрстве хору беларускай песні выказваўся пранікнёна як знаўца і цаніцель.

Арганізатар і дырыжор беларускага хору Шырма быў хутка ўшанаваны саюзным урадам прысваеннем яму высокага звання народнага артыста СССР. Дома прызнанне заслуг хору і яго кіраўніка было выражана ў рэарганізацыі мастацкага калектыву у Дзяржаўную харавую

акадэмічную капэлу БССР.

Цяпер лягчэй, хутчэй пайшлі ў свет сабраныя ім цягам паўвеку беларускія народныя песні. На пачатку 70-х выйшаў з друку чацвёрты іх том. А ўслед за ім і двухтомнік аранжыровак, мастацкіх апрацовак, здзейсненых аж сарака двума кампазітарамі праз асабісты кантакт з беларускім фальклярыстам, што адшукаў іх, песціў ля сэрца і шчасліва адпускаў да людзей чуйнымі рукамі дырыжора, галасамі харыстаў.

Цяпер ужо не было патрэбы адстойваць перад чыноўнікамі ад культуры прыярытэт акапэльнага спеву. Цяпер маэстра рабіўся недаступны, амаль недаступны і старазнаёмаму яму ведамству. Хоць часам мсцівы навет "Тянет старину!.." (гэта пра яго кроўнае, беларускую песню, сусветную класіку), іспіраванае не проста недабразычліўцамі, далятаў да пастарэлага Майстра.

Тым часам усяведнае ведамства надзейна трымала знакамітага Маэстра пад сваёй пільнай увагай-апекай. Здаралася, з яго прываду аднойчы раптам курылка журналіст, нехта Багаценкаў, цісnуў у друку артыкульчык, падтэкстам якога недвухсэнсоўна падказвалася крамольнае: маўляў, у рэпертуары Дзяржаўнай харавой капэлы БССР няма твораў, прысвечаных партыі, савецкаму патрыятызму.

А калі блізіўся пенсійны ўзрост кіраўніка славутага на ўвесь Саюз акадэмічнага мастацкага калектыву, пачулася з той жа спецкаморы: "Тянет старину!.." Гэта пра яго, Маэстра, кроўнае – беларускую народную песню і сусветную музычную класіку.

А то і зусім бесцырымонна, з канцэлярыі Мінкульту па тэлефоне картавым голасам: "Ці не пара на пенсію?.."

І такі дамагліся хутчэйшага зыходу кіраўніка і дырыжора, адлучэння яго ад пеставанай праз гады, роднай спеўнай суполкі.

Пытанне зыходу, з увагі на высокі ранг дзеяча культуры разглядалася на бюро ЦК КПбБ. На запыт Першага, Пятра Міронавіча, паўтораны Сурганавым: "Што? Сам хоча?" сакратар па ідэалогіі, у часы партызанкі загадчык спецаддзелу: "Хочет, хочет. Сам ко мне два раза приходил просить..."

– Хлус з партбілетам, аж іскры з воч, з-пад навіслых броў, калі казаў, згадваў пра сумоўе партакратаў стары Маэстра.

Па радыё ды тэлевізару з дому сачыў за гастролямі капэлы, адлучанасць ад яе перажываў моцна...

Ды тое дробязі. Адбылося галоўнае. Талент, інтэлект перамаглі ўсё на доўгім жыццёвым шляху. Выстаяць і шагнуць цераз церні да зор дапамагла неардынарная асабовасць сапраўднага інтэлігента.

Арсень Ліс
*Мінск*

# "ВІТАЮ ВАС — ПРАЗ ВЁРСТЫ І ЧАС"

Дарагія мае! З Дабравесцем, з Вялікаднем, з Хрыстовым уваскрэсеннем! Няхай гэтымі светлымі днямі ўсім сваім хараством разгорнуцца для вас Божы і людскі светы! Няхай загойна змые сэрцы вашы вечна жывыя любоў і чалавечнасць, — адзінае, што здольнае ствараць з людзей Чалавекаў!..

*Ліст Ніны Мацяш ад 5 красавіка 2007года.*

Ніна Мацяш была сталым аўтарам часопіса "Тэрмапілы". З яго першага нумара. Так, так, менавіта з самага першага нумара новага, літаратурна-мастацкага і беларусазнаўчага перыёдыка на чале з Янам Чыквінам. Адкрываўся нумар, – і такім чынам распачынаўся часопіс, – у тым, ужо даволі далёкім 1998-м годзе лірычнымі нататкамі-мініяцюрамі Янкі Брыля і, зноў-такі, лірычнымі вершамі Ніны Мацяш. Аддадзім належнае выбару пачынаючага рэдактара!..

Янка Брыль даслаў зацемкі са свайго наднёманскага Крынічнага, дзе летаваў ва ўласным доме, з такой прадмовай: "Тут, у гэтай чароўнай глухамані, я і пачуў прыемна, што сябры-"белавежцы" задумалі добрую справу, новы часопіс, і мяне запрашаюць у талаку. З удзячнасцю і найлепшымі пажаданнямі слаўнаму пачынанню прапаную "Тэрмапілам" трохі сёлетніх запісаў-мініяцюр". З удзячнасцю і добрымі пажаданнямі прыслала вершы са свайго Белаазёрска і Ніна Мацяш. Пачынала падборку радкамі (верш без назвы):

*Я маю толькі імя.*
*Чатыры літаркі —*
*нібы чатыры бакі свету.*
*Твор,*
*мне прадвызначаны*
*дзеля пераствору*
*у плынь жыцця.*
*Тайнапіс лёсу,*
*каторы*
*спрабую адтаемніць.*

Сказала ў пэўны час і ў пэўным месцы (на пэўнай часопіснай старонцы). Інібы прадказала. Бо тайнапіс, наканаванне лёсу (у дадзеным выпадку — творчага) стане "адтаемніваць" і на старонках "Тэрмапілаў". Захапілася "невытлумачальным чарам", "магічнай светлай энергетыкай" вершаў Віславы Шымборскай, узялася перакладаць іх на беларускую мову і шле пераклады рэдактару "Тэрмапілаў" (будзе яшчэ потым раіцца

з ім у сваіх лістах наконт дачыненняў са знакамітай полькай). Стварыла цыкл вершаў на тэму "Людзі майго жыцця" — на крэўна ўласцівую яе таленту, надзвычай важную для яе тэму, тэму чалавечай сябрыны. Куды, у якое выданне паслаць гэтыя вершы, якому рэдактару даверыць? Даверыла Яну Чыквіну. Памірае Янка Брыль. Надзвычай дарагі для яе сябра і настаўнік. Піша праз слёзы верш "Будзе цяжка дыхаць спёка злая..." І наступны, дзесяты нумар перыёдыка адкрываецца гэтым вершам – у спалучэнні з рэдакцыйным паведамленнем-некралогам. Ды вершаванымі радкамі яна не абмяжоўвацца – занадта цяжкая страта, – і ў адзінаццатым нумары часопіса змяшчае пад загалоўкам "У прасторы сяброўства і ўдзячнасці" пранікнёнае, разгорнутае эсэ, прысвечанае памяці старэйшага сябра.

Гэта была яе апошняя публікацыя ў "Тэрмапілах".

(Амаль дзівоснае і, здаецца, зусім невыпадковае супадзенне: літаральна побач, – усяго праз некалькі старонак, – з яе развітальным словам друкавалася слова пра саму Ніну Мацяш як творцу і асобу – імпрэсія Алы Сямёнавай “Аддавайся жыццю светланосна!” Напраўду ўзаемнай была любоў іх – Беластоцкага выдання і яго аўтаркі, паэткі з Белаазёрска..)

Нельга не прывесці радкі, якімі Ніна Мацяш пачала сваё эсэ "У прасторы сяброўства і ўдзячнасці". "Страты родных па крыві, страты родных па духу..., – піша яна. – З гадамі душэўны смутак стаецца гэткім глыбокім, што ўжо амаль роўны спакою... На парозе ўласнага выраю не лемантуеш услед адлёту паблізных. Бы птушка, устрапянешся на спаднябёсны развітальны поклік, падасі ў адказ свой усхвалявана-разгублены голас, і аціхаеш, каб дарабляць сваё, дазбіраваць сваё, дажываць сваё. Давыспельваць сустрэчу з адляцелымі раней на богведзь які іншы бераг..."

Мінорны матыў развітання, развітання з "паблізнымі", прадчуванне адлёту ва "ўласны вырай" і, выходзіць, расстання з “Тэрмапіламі”: гэта ж апошняя яе тут прыжыццёвая публікацыя. Ці вернецца? Ці з’явіцца зноў на старонках выдання яе светлае імя?

Вярнулася, хоць ужо і з тагасветнага берага. З’явілася ў выглядзе сваіх лістоў і паштовак.

Маю на ўвазе змешчаную ў 13-ым нумары часопіса публікацыю *Гарнуся да вас удзячнай душою*. *Лісты Галіне Тврановіч*, *Яну Чыквіну*. Публікацыя займае каля ста старонак. Адкрываецца лістом Галіне Твврановіч ("мілай, слаўнай", датаваным 31 жніўня І980 года, і завяршаецца радкамі, адрасаванымі "Дарагім Галінцы ды Яну,” – ад 30 кастрычніка 2008. Лісты, такім чынам, пісаліся на працягу дваццаці васьмі гадоў, дваццаці васьмі зімаў і лет жыцця нашай выдатнай паэтэсы і слыннай беларускі–патрыёткі.

Літаратуразнаўца Генадзь Праневіч, сябра Ніны Мацяш і аўтар прадмовы да яе апошняй, складзенай яшчэ ёй самой кнігі "У прыгаршчах

ветру", вобразна піша пра яе творчасць, “як пра залаты вулей любові і краёвых духоўныхісцін". Гэтыя словы можна аднесці і да яе лістоў сябрам і калегам па пяру.

Незвычайны гэта феномен – лісты Ніны Мацяш. . .

Лісты – песня ў гонар сяброўства, сябрыны ("Дзякуй за сардэчнасць! Былі і сябры, і кветкі, і віно – і сонца"... Юбілейная дата "спрычынілася да перазоваў маіх светлых сяброў"... “Трохі стамілася, але адчуванне патрэбнасці такой працы і ўласнай лучнасці з сябрынаю пераважала ўсё"... "Люблю атрымліваць твае лісты – люблю быць з табою, і слухаць, і маўчаць. Ты ды Галя Скарына – самыя блізкія мне галінкі, найнеабходнейшыя сэрцу майму, душы маёй жывінкі"..."Ад згадкі пра сяброў цяплее дзень... Хай душа Твая не ведае ані холаду, ні стомы, няхай, як жавароначка, нітуе дол і нябёсы ўласнай песняй: з днём народзінаў, дружа!").

Лісты – "музыка душы", пранікнёныя вітанні, віншаванні, пажаданні. Як традыцыйныя, так і непараўнаныя, толькі ёй уласцівыя ("Дзякуй Вам за ліст, які светлым промнікам уляцеў у мой суток... Дай Вам Бог усяго жаданага – як у буднях, так і ў музыцы душы!".. "Не хварэйце, мацуйцеся сонцам узаемнасці". "Праз тыдзень – Вялікдзень, дык будзьце ж здаровыя, як вада, багатыя, як зямля, і прыхільныя, як вярба! Светлага душэўнага – і творчага! – узрушэння!").

Лісты – “смуткі” (яе слова). Гаркотныя лісты – часам па-сяброўску спавядальныя, прызнанні (“душа або захліпаецца або – часцей – маўчыць"..., "Усё жыццё нешта шукала, шукаю, лаўлю, а ў руках – адно паветра". "Зусім слабею фізічна"... З нагоды смерці сястры Марыі: "Цяжка. Сама не ведаю, што трымае і ратуе мяне на гэтым свеце. Пэўна тая боская моц, якая і адмерала мне маю ўласную мерку пакутаў і цярпення”).

Лісты – балючы непакой. За жыццё сваіх "паблізных", радні па крыві і радні па духу, за лёс Бацькаўшчыны ("Хай аберажэ Бог зямлю нашу пакутную!"... "Нясцерпна ж баліць за Беларусь, за ейную – нашую!– дзяржаўнасць, незалежнасць, культуру, духоўнасць").

Лісты – выслоўі. Як згусткі яе жыццёвай мудрасці. Гэта калі гармонія павяраецца алгебрай, а эмоцыі, душэўныя парыванні — развагай ("Ці ў радасці чалавек, ці ў горы — час усё роўна не спыняе хада"... "Адзінота – як радыяцыя: у вялікіх дозах папросту знішчае чалавека"... "Прыходзячы ў свет, спадзяемся радасці, напрыканцы маем сапраўднае пекла"... "Чыстага ўсё нячыстае баіцца"... “Не свет трымае нас, а тое святло і цяпло, якое мы вылучаем з душы ўласнай дзеля паблізных і каханых – любых нашых ").

Пасіянарная моц пачуцця і духу, душэўная адкрытасць, незвычайная моўна-стылявая выразнасць... Яны ўражваюць, і пад уражаннем ад лістоў акадэмік Радзім Гарэцкі зазначае ў сваім эсэ "Мужная жанчына – паэтка ад Бога": "...Прачытаў лісты Ніны Мацяш да Галіны Тварановіч і Яна Чыквіна, у якіх яшчэ раз яскрава адчуў вялікае сэрца, дабрыню,

шчырасць і пяшчотнасць цудоўнай нашай паэтэсы. З кожнага яе слова ільюцца такая цеплыня, сардэчнасць, сапраўднае сяброўства і любоў". І далей: "Чытаючы лісты, у многія моманты само сабой ад хвалявання і жалю, што няма з намі гэтага светлага чалавека, падступалі слёзы... З якімі сардэчнымі, шчырымі словамі звяртаецца паэтка да сваіх дарагіх сяброў..."("Тэрмапілы", № 14).

Падзяляючы гэтае захапленне слыннага навукоўца і грамадскага дзеяча, зазначаеш, што ён акцэнтуецца найперш на такіх якасцях лістоў, як сардэчнасць і шчырасць. І аддаеш належнае ягонай праніклівасці. Бо за гэтымі "сардэчнымі, шчырымі словамі", за гэтымі, у прыватнасці, непаўторнымі "хілюся", "тулюся", "гарнуся ", "дзякую сэрцам і словам"; памяншальна-ласкальнымі "промнікі", "святлінкі", "жывінкі" ды ярка вобразнымі "светлая зорка лагоды", "сонца ўзаемнасці", "спеў душы", — не столькі традыцыйная даніна жанру (эпісталярнаму) і нават не толькі знак асабістай сяброўскай прыхільнасці. За імі ў дадзеным выпадку — праява пэўнай жыццёвай філасофіі, глыбока вынашанай маральнай чуйнасці. І, мушу яшчэ ўдакладніць, абвостранае пачуццё адказнасці. Так, асаблівыя сардэчнасць і суперажыванне, якія вызначаюць агульную танальнасць лістоў, звязаныя, безумоўна, і з гэтым пачуццём — гэтай рысай яе як творцы і асобы. Знаёмячыся з публікацый, я міжволі згадваў то некаторыя яе вершы, такія, напрыклад, як "Крыж" ці "Пяць галасоў", то яе выступы ў друку. Памятаю яе артыкул "Адвольныя крэскі на пяску", з якім яна выступіла з нагоды Усебеларускага сходу інтэлігенцыі і які, артыкул, завяршаўся высновай: "Гэта праўда,"мы ў адказе за тых, каго прыручылі". Але перш-наперш мы адказныя за ўласнае зямное жыццё. Адказныя як перад продкамі — ці вартыя іхняга добрага імені ды настаранай імі багатай спадчыны? — гэтак і перад наступнікамі,— ці дадамо ім гонару, славы і дастатку ў вольнай Айчыне? Бо ніхто не можа выпасці з пазачасавай сістэмы ацэнкі нашых дзеяў".

Матыў адказнасці — чалавечай, маральнай, грамадзянскай — гучыць выразна і ў яе лістах. У той альбо іншай сувязі, з той альбо іншай прычыны, найгалоўнейшая з якіх — клопат, каб былі здаровыя і шчаслівыя яе "паблізныя", каб родная краіна "ўмацоўвалася ў духу, у годнай самасвядомасці".

Дарэчы, менавіта на гэты момант, на гэтую характэрную асаблівасць зместу лістоў Ніны Мацяш звяртае ўвагу і Ніл Гілевіч у сваім "Слове пра незвычайную ліра-паэму Ніны Мацяш "Гарнуся", якую яна пісала амаль трыццаць пяць гадоў". Ключавыя радкі "Слова", якое з’явілася ў друку адначасна з “тэрмапілаўскай” публікацыяй, гучаць так:

*“Гарнуся!", Гарнуся!"...*
*Як гэта трэба было чытачу,*
*каб не здрадзіць сабе ў паняверцы!*
*Чытачу? Беларусі!! Усёй Беларусі!!*

*Хоць і не ўся Беларусь разумела,*
*якую дачку яна мае.*
*Якую прыгожую ў матчыным слове*
*ад Бога паэтку!*
*Якую нязломную духам*
*вялікапакутніцу ў Бога!*
*Якую заступніцу і абаронцу*
*Любові, Святла, Дабрыні!..*

Так, яна не толькі несла ў душы сваёй Любоў, Святло і Дабрыню, не толькі шчодра дзялілася імі, ды і мужна заступалася за іх, абараняла іх як найвялікшую духоўную каштоўнасць. Пра што красамоўна сведчаць яе сяброўскія лісты-пасланні, у прыватнасці тыя, што змешчаныя ў публікацыі "Гарнуся да вас удзячнай душою".

Анатоль ВЯРЦІНСКІ
*Мінск*

## ЯНА ЛЮБІЛА ПАЭЗІЮ І ЖЫЦЦЁ
## (успаміны пра Тамару Чабан)

Нарадзілася яна на самым сумежжы вясны і лета. З тых часоў шэсцьдзесят разоў абмывалі зямлю вясновыя ліўні, саграваді ласкавыя промні сонца, шэсцьдзесят разоў убіраліся ў квецень сады і гучалі над прасцягамі салаўіныя рулады. Шэсцьдзесят разоў... Ды толькі трацiну гэтых вёснаў і летаў Тамары Чабан не давялося ўбачыць на свае вочы, спазнаць, прыняць як дарунак лёсу, найвялікшую радасць быцця. Не стала яе ў адзін з сакавіцкіх азябла-пахмурных дзён дваццаць гадоў таму.

Лёс уладарыць над намі. Гэта яна, як вялікая прыхільніца рамантызму, ведала добра, заўсёды памятала аб тым, што ён, каварны і пераменлівы лёс, можа прынесці нечаканую вестку. Вестку *адтуль*. У апошнія гады ўсё часцей згадвала Алу Кабаковіч, Яўгенію Янішчыц, для якіх саракагадовы рубеж стаўся ракавым пераваламі. Сама ж зусім трохі не дайшла, не дацягнула і да гэтага перавалу, трагічную непазбежнасць якога, мабыць, прадчувала.

За гэты не такі і вялікі адрэзак часу, за чатыры няпоўныя дзесяткі гадоў Тамара Чабан даволі шмат паспела зрабіць у жыцці, выказаць свайго запаветнага ў слове, учынках, дзеях. Пакінуўшы па сабе добрую памяць у тых, хто яе ведаў асабіста, не толькі сваімі літаратурна-крытычнымі і літаратуразнаўчымі працамі, але сваімі адносінамі да людзей. Засталіся не толькі кнігі, артыкулы, рэцэнзіі; двое дзяцей – сын і дачка працягваюць несці ў свет часцінку яе характару, як стаўлення да жыцця і навакольных, яе нерастрачанага душэўнага запасу.

Тое, што Тамара Чабан звязала сваё жыццё з літаратурай, з даследаваннем паэзіі, прычым паэзіі найперш рамантычна ўзвышанай, скіраванай да духоўных вытокаў чалавечай асобы, абумоўлена, як мне думаецца, некалькімі прычынамі. Галоўная з іх – гэта, вядома, асабовыя якасці самой даследчыцы, яе праніклівае бачанне свету як увасаблення красы і быццёвай паўнаты, гарманічнасці. Для таго, каб пісаць пра паэзію, трэба мець здольнасці адчуваць яе знутры, каб змагчы настроіцца на адну душэўную хвалю з паэтам, пранікнуцца тымі ж пачуццямі і настроямі, помысламі і памкненнямі, што і ствральнік паэтычнага твора. Сёння ўсё больш увагі звяртаецца на сутворчасць чытача, яго здольнасць прымаць актыўны ўдзел у творчым працэсе. Крытык жа – гэта найбольш уважлівы, праніклівы чытач, якому дапамагаюць зразумець і па-сапраўднаму ацаніць твор пісьменніка не толькі аналітычныя здольнасці, але і асаблівы дар эстэтычнага суперажывання, калі створанае аўтарам успрымаецца як духоўна роднаснае, блізкае. Т. Чабан у поўнай меры валодала такім дарам, звяртаючыся ў сваіх працах да твораў тых паэтаў, якія былі ёй найбольш блізкімі, эстэтычныя погляды і густы якіх яна падзяляла.

Безумоўна, яна і сама была ў душы паэтам. Інакш і не магло быць. Зямля, якая яе ўзрасціла, напаіла сваімі жыватворнымі сокамі, была чарадзейнаю, незвычайнаю. Каб усвядоміць яшчэ адну з важнейшых прычын, паводле якой Т. Чабан было проста суджана пасяліцца назаўжды ў краіне Паэзіі, патрэбна зразумець, якія трывалыя повязі звязвалі яе з роднай зямлёй, дзівосна прыгожым азёрным краем – Глыбоччынай. Менавіта тут, сярод гэтых задуменна-ціхмяных краявідаў, дзе старыя шляхі-дарогі віюцца няўтомна між палавеючай збажыны і, быццам пацеркі, на іх нанізаныя блакітныя азярыны, і адбывалася далучэнне Тамары да цуду роднай прыроды, да цуду роднай паэзіі.

Разам з гэтай закаханасцю ва ўсё навакольнае, з адданасцю тутэйшаму, роднаму, свойскаму, прыходзіла і прага спазнання таго, што заставалася за даляглядам, што нязменна вабіла да сябе менавіта сваёй недасяжнасцю. Так нараджалася рамантычнае пачуццё паяднанасці з сусветным, універсальным. У гэтым, мабыць, нацыянальная адметнасць беларускага рамантызму, што ў ім трансцэндэнтнае, пазатутэйшае вельмі цесна спалучана, пераплецена з тым, да чаго можна дакрануцца рукой, акінуць позіркам.

Язэп Драздовіч, які калісьці вандраваў па тых жа шляхах-дарогах азёрнага краю, увасобіў у сваіх палотнах падрабязнасці гістарычнага быцця народа, з дакументальнай дакладнасцю адлюстраваў сапраўдныя краявіды і помнікі нацыянальнай культуры. І ў той жа час у яго жывапісных творах бачым рэальнасць фантастычную, вобразы, створаныя буйнай фантазіяй мастака – марсіянскія пейзажы, жыццё на Сатурне, таямнічыя вобразы нацыянальнай гісторыі...

Магчыма, якраз зачараванасць роднай зямлёй, імкненне разгледзець яе не толькі зблізку, але і з “вышыні птушынага палёту”, дае рамантычна настроенаму творцу крылы для духоўнага палёту. Гэтыя крылы ўяўлення патрэбны яму для таго, каб больш маштабна ўспрыняць, увабраць у поле свайго зроку ўсе праявы роднага, свойскага, таго, з чым ён звязаны радаводнай, генетычнай повяззю. Разам з тым такі ракурс бачання дае магчымасць супастаўлення таго, з чым трывала зжылася душа, з недасяжным і мройлівым.

Тэму дысертацыйнага даследавання Тамара Чабан абрала, зыходзячы з уласных прыхільнасцей, кіруючыся поклічам свайго сэрца. У выбары тэмы – рамантызм у сучаснай беларускай паэзіі – адсутнічалі якія-небудзь кан’юнктурныя матывы. Наадварот, такі напрамак даследавання не абяцаў “лёгкага жыцця” для аўтара.

Трэба ўлічваць асаблівасці гістарычнай эпохі, у якую ўступала Т. Чабан на шлях навуковай працы. Гэта былі яшчэ самыя глухія, застойныя часы пільнага ідэалагічнага нагляду над усёй сферай гуманітарыстыкі. Адзіна правільным, беззаганным і прымальным лічыўся толькі метад сацыялістычнага рэалізму.

Таму размова пра рамантызм, або хоць бы рамантычныя тэндэнцыі ў літаратуры сучаснасці, успрымалася з насцярожанасцю. Гэта цяпер можна свабодна разважаць пра авангардныя і постмадэрнісцкія плыні, дыскутаваць адносна ступені іх выяўленасці ў нацыянальнай літаратуры. Тады ж паняцце рамантызму даводзілася ўводзіць у літаратуразнаўчы ўжытак асцярожна, з пэўнымі агаворкамі, як з’яву, якая развіваецца ў сучаснай літаратуры ў агульным рэчышчы сацрэалізму.

З гэтай прычыны Т. Чабан давялося замяніць у назве дысертацыі слова рамантызм на рамантычныя тэндэнцыі. Такі ж падзагаловак (*Рамантычныя тэндэнцыі ў сучаснай беларускай паэзіі*) і ў кнізе “Крылы рамантыкі”, якая выйшла ў выдавецтве “Навука і тэхніка” ў 1982 годзе, яшчэ перад абаронай дысертацыі.

І ўсё ж нягледзячы на гэтую вымушаную саступку распаўсюджаным на той час уяўленням пра светапоглядныя дамінанты літаратурнага працэсу, Т. Чабан удалося выразна акрэсліць у сваёй працы сваё бачанне месца рамантызму ў сучаснай паэзіі, вызначыць яго як адзін з важнейшых для духоўнага жыцця грамадства напрамкаў літаратурнага развіцця.

Пачаўшы з таго, што праблема рамантызму і па сённяшні дзень

застаецца не да канца вырашанай і выклікае ажыўленыя спрэчкі ў літаратуразнаўчым асяроддзі, аўтар імкнецца разабрацца, у якім выглядзе гэты *няўлоўны дамавік* (па выразу П. Вяземскага) паўстае ў літаратуры другой паловы ХХ стагоддзя. Т. Чабан адзначае два асноўныя падыходы даследчыкаў да вырашэння дадзенай праблемы. Першы з іх зводзіцца да вылучэння ў межах рэалістычнай паводле свайго метаду літаратуры асобнай разнавіднасці рамантычнага пафасу, разгляду рамантыкі як асаблівага ладу светаўспрымання, выяўлення скіраванасці да ідэальнага. Другі канцэнтруецца на пытаннях стылявой адметнасці твораў, якая нясе ў сабе прыкметы рамантычнага светаадчування.

Т. Чабан бачыла пэўную абмежаванасць абодвух гэтых падыходаў, паколькі імі не ўлічвалася, на яе думку, самае істотнае – змястоўна-фармальнае адзінства рамантычнай плыні ў літаратуры. *Сапраўды, ёсць творы, што адлюстроўваюць рамантыку жыцця або рамантычны стан пісьменніка, застаючыся рэалістычнымі па метаду і мастацкіх сродках,* – заўважае даследчыца ў манаграфіі “Крылы рамантыкі”. – *Ёсць з’явы літаратуры, дзе рамантычныя элементы паэтыкі арганічна спалучаюцца з рэалістычнымі, утвараючы сінтэз. Але калі пісьменнік рамантычнага светаадчування рамантычнымі сродкамі мастацкага абагульнення ўзнаўляе нейкі момант жыцця або ўласнае адчуванне, то, відаць, недастаткова ў гэтым выпадку гаварыць толькі пра рамантыку або толькі пра рамантычную стылявую тэндэнцыю, якія ў творы выступаюць у непарыўным адзінстве* [1, с. 6].

Увага Т. Чабан у манаграфіі “Крылы рамантыкі”, якая, на вялікі жаль, засталася яе адзінай асобнай кнігай, таксама як і ў шэрагу артыкулаў, рэцэнзій, была скіравана перш за ўсё на даследаванне творчасці менавіта тых аўтараў, для каго рамантычнае ўспрыманне было натуральным станам выяўлення дачыненняў са светам і выражалася ва ўсёй паўнаце мастацкага ўвасаблення.

Грунтоўна разглядаецца ў кнізе творчасць У. Караткевіча – як паэта, мастацкі свет якога, мабыць, у найбольшай ступені адпавядае крытэрыям творчага метаду і паэтыкі рамантызму. Даследчыцу найперш цікавіць тое, якім чынам адбываецца адкрыццё паэтам гісторыі, спалучэнне сучаснасці з мінулым з дапамогай экспрэсіўных сродкаў паэтычнага выражэння. Адной з самых выразных адметнасцей мастацкага стылю паэта аўтар манаграфіі называе *жывапіс словам*, здольнасць моўнымі сродкамі перадаць каларыт эпохі. Характарызуючы слоўную палітру паэта, Т. Чабан заўважае: *Экспрэсіўнасць, выразнасць, патэнцыраванасць фарбаў, адсутнасць бляклых таноў нагадваюць майстроў фламандскага жывапісу* [1, с. 27].

Аналізуючы творы У. Караткевіча, Т. Чабан адзначала іх змястоўна-фармальную цэласнасць, адпаведнасць вобразнага ладу і структурнай арганізацыі тым мастацкім задачам, якія ставіў перад сабой аўтар. На яе думку, *кальцавая тэматычная будова* кнігі паэзіі У. Караткевіча “Мая

Іліяда” з’яўляецца несумненным адлюстраваннем аўтарскай канцэпцыі жыццёвага шляху героя. *Лірычны герой вяртаецца на радзіму пасля доўгіх вандраванняў. Але гэта не проста “вяртанне блуднага сына”. Герой адчуў сваю прыналежнасць да лёсу агульнага, лёсу Зямлі, зразумеў, што шлях да роднага, нацыянальна-непаўторнага – праз агульначалавечае* [1, с. 35].

У звароце У. Караткевіча да антычнай міфалогіі і біблейскіх матываў аўтар “Крылаў рамантыкі” бачыць характэрную для рамантызму схільнасць да выяўлення агульначалавечых матываў, якія ў творах паэта праецыруюцца на праблемы сучаснасці. Даследчыца адзначае, што ў засваенні анталагічнай культурнай спадчыны У. Караткевіч ішоў услед за М. Багдановічам, аднак пры гэтым падкрэслівае несупадзенне агульных мастацкіх установак гэтых аўтараў. *Калі М. Багдановіч бачыць у міфе ўніверсальнасць і гармонію, то У. Караткевіч шукае ў гарманічным незвычайнае, у класічным – выключнае, у міфе – адступленне ад міфа* [1, с. 37].

Успрыманне часу як філасофскай катэгорыі, характэрнае для паэтычнага светасузірання А. Куляшова, разглядаецца ў манаграфіі таксама як адна з праяў рамантычнай эстэтыкі. У творах паэта, як гэта пераканаўча паказвае Т. Чабан, выявілася драматычная супярэчлівасць паміж асабовым часам лірычнага героя і часам як універсальнай катэгорыяй. Менавіта ў такім ракурсе разглядалі праблему часу і рамантыкі, якія, як адзначае даследчыца, *востра адчувалі драматызм неадпаведнасці часу касмічнага, вечнасці і часу чалавечага, несумясцімасці велічы чалавечага духу, дзёрзскасці розуму з тым месцам, якое яму адведзена ў сусвеце, велічнасці чалавечых памкненняў і кароткачасовасці жыцця* [1, с. 47].

Аналізуючы ў сваёй кнізе творчасць, па сутнасці, усіх найбольш прыкметных беларускіх паэтаў другой паловы XX стагоддзя, Т. Чабан імкнулася выявіць своеасаблівае, індывідуальна-спецыфічнае, што характарызавала творы менавіта гэтага аўтара, і разам з тым агульнае для ўсіх, тое, што сведчыла пра наяўнасць у літаратурным працэсе тэндэнцый рамантычнага кшталту. Пошукі духоўнага ідэалу, гарманічнай паяднанасці з прыродай, народным светапоглядам і ладам жыцця былі пры гэтым галоўнымі характарыстыкамі і прыкметамі, зыходзячы з якіх вызначалася ступень далучанасці таго або іншага паэта да рамантычнага тыпу творчасці.

У спрэчках літаратуразнаўцаў наконт характару выяўлення рамантычнага ў сучаснай літаратуры Т. Чабан схілялася на бок тых даследчыкаў (Л. Цімафееў і інш.), хто разглядаў рамантызм як своеасаблівы ***тып творчасці***, які, таксама як і рэалізм, выяўляе ў сабе іманентна ўласцівыя мастацтву слова якасці і прыкметы. Уважлівым, праніклівым аналізам твораў сучасных паэтаў Т. Чабан даводзіла: рамантычна-ўзвышанае, прыўзнятае над паўсядзённасцю светаадчуванне, маральная і

эстэтычная пазіцыі аўтараў, якія палягаюць у сцвярджэнні ідэалаў дабра і красы, з'яўляюцца важнейшымі адзнакамі беларускай паэзіі другой паловы XX стагоддзя

У паэзіі, якая яе больш за ўсё хвалявала і давала падставы для роздуму і суперажывання, Т. Чабан перш за ўсё цаніла яскрава выражаную асабовасць, суладнасць унутранага свету паэта як чалавека з тым, што выяўляецца ім у мастацкім свеце яго твораў. Другі раздзел "Крылаў рамантыкі", у якім ідзе размова пра *рамантычнае адкрыццё асобы* ў беларускай паэзіі, пачынаецца з падраздзела, названага паводле вядомага выказвання паэта – *Жыві, як пішаш*. У гэтай максіме рускага паэта К. Бацюшкава – *Жыві, як пішаш, і пішы, як жывеш* – Т. Чабан бачыла квінтэсенцыю філасофіі рамантызму, выражэнне мастацкай праграмы творцы, у якой жыццёвае і эстэтычнае знаходзяцца ў нераз'яднальным адзінстве, не толькі ўзаемадапаўняюць адно аднаго, але і немагчымы, па сутнасці, паасобку. Зыходзячы з такіх крытэрыяў, даследчыца айчыннай паэзіі і фарміравала сваю канцэпцыю паэта як творчай індывідуальнасці, якая знаходзіцца ў гарманічнай суладнасці са светам і з уласнай душой.

Найбольш гарманічную спалучанасць чалавечых, душэўных якасцей і мовы, на якой выказваюцца паэтычныя настроі, уражанні і памкненні аўтара, Т. Чабан знаходзіла ў творчасці жанчын-паэтэс. Яна была, па сутнасці, першай, хто настойліва загаварыў пра ***жаночую паэзію*** як пра асаблівую разнавіднасць сучаснай лірыкі, асобную плынь у сучаснай літаратуры. Тады гэта выклíкала даволі скептычную рэакцыю ў некаторых апанентаў, запярэчанні зводзіліся да таго, што няма, маўляў, дастатковых падстаў для размежавання паэзіі на жаночую і мужчынскую, што такі падзел з'яўляецца штучным і надуманым. У той час яшчэ ніхто ў айчыннай гуманітарыстыцы не займаўся грунтоўнай распрацоўкай гендэрнай праблематыкі, тым больш у дачыненні да творчага працэсу. Т. Чабан жа падкрэслівала, што паэтэсы-жанчыны прыўносяць у творчасць уласцівыя менавіта ім псіхалагічныя, маральныя і эстэтычныя рысы. Якраз гэта і давала, на яе думку, дастатковыя падставы для таго, каб вылучаць жаночую паэзію як асобную і надзвычай адметную з'яву сучаснага літаратурнага працэсу. З'яву, якая самым натуральным чынам звязана з нацыянальнымі мастацкім традыцыямі, з вытокамі паэтычнай творчасці, з фальклорным тыпам светаадчування.

Як слушна заўважала Т. Чабан у кнізе "Сучасная паэзія і фальклор" (напісанай сумесна з аўтарам гэтых успамінаў), сувязь паміж індывідуальнай творчасцю беларускіх жанчын-паэтэс і эстэтыкай фальклору праяўляецца на генетычным узроўні, абумоўліваецца адметнасцю менталітэту, спецыфікай светаўспрымання жанчыны як захавальніцы роду, выразніцы родавай мастацкай памяці. Народная песня – вось той спрадвечны фальклорны жанр, у якім здаўна выяўляліся мастацкія інтэнцыі жанчыны-стваральніцы, яе імкненне выказаць свае ўласныя перажыванні праз традыцыйную вобразнасць.

У раздзеле “Творчасць беларускіх паэтэс у святле фальклорнай традыцыі” калектыўнай манаграфіі аўтар выразна вызначае як тое агульна-тыпалагічнае, што яднае народнае песеннае мастацтва з сучаснай жаночай паэзіяй, так і спецыфіку кожнага з гэтых спосабаў паэтычнага выражэння. Перад даследчыцай стаяла няпростая задача – адказаць на пытанне, якім чынам магчыма пагадзіць адкрытую суб’ектыўнасць, лірычную непасрэднасць і асабовасць жаночай паэзіі з яе пільнай увагай да фальклорнай паэтычнай традыцыі, для якой характэрна перш за ўсё выяўленне агульна-родавага, аб’ектыўнага, пазбаўленага індывідуальна-псіхалагічных прыкмет?

Несумненна, што менавіта ў творчасці жанчын-паэтэс найбольш яскрава і выразна праяўляюцца суб’ектыўныя фактары, дасягае высокай ступені эмацыянальны напал лірычнага перажывання. Гэтую асаблівасць жаночай паэзіі Т. Чабан абавязкова ўлічвала, яна падкрэслівала, што *творчасць паэтэс адкрыла новы духоўны свет, новы тып лірычнай гераіні, новыя, дагэтуль нязнаныя адценні пачуццяў* [2, с. 11].

Аднак тут якраз і ўзнікала самая галоўная супярэчнасць, над вырашэннем якой засяроджвалася даследчыца. Гэтае асноўнае пытанне яна фармулявала наступным чынам. *Такім чынам, «жаночая лірыка» звязана з індывідуалізацыяй, пашырэннем паэтычнага погляду на свет. Але ж як адбываецца яе ўзаемадзеянне з фальклорам, які па сваёй прыродзе «антыіндывідуальны», асноўная асаблівасць якога – у гранічнай абагульненасці лірычных сітуацый, пачуццяў, характараў?* [2, с. 11].

Вынікам паглыбленага роздуму над дадзенай праблемай сталася перакананне даследчыцы ў тым, што падобная супярэчлівасць не перашкаджае, а, наадварот, спрыяе выяўленню творчага патэнцыялу паэтэс, што для сучаснай паэзіі якраз неабходны зварот да тых прынцыпаў і падыходаў, якія падаюцца, на першы погляд, ёй неўласцівымі. *Адметнае, непаўторнае, задушэўна-асабістае – вось «поле дзейнасці» лірыкі, асабліва лірыкі «жаночай»,* – адзначала Т. Чабан і далей дадавала: *Але і яна не можа бясконца ісці па шляху індывідуалізацыі, не трапляючы пры гэтым у безнадзейны суб’ектывізм...* [2, с. 11].

Такім чынам, Т. Чабан прыходзіла да дыялектычнага разумення складанага ўзаемадзеяння ў літаратурным працэсе рознаскіраваных тэндэнцый і супрацьлеглых заканамернасцей. Пераконвалася ў тым, што для натуральнага развіцця літаратуры жыццёва неабходная гарманічная ўраўнаважанасць, якая дазваляла б унікнуць крайнасцей. Таму цалкам лагічнай, заснаванай на глыбокім веданні заканамернасцей літаратурнага развіцця, з’яўляецца яе думка аб тым, што *зварот да фальклору з яго абагульнена-родавым поглядам на свет дапамагае паэтэсам пераадолець камернасць і суб’ектывізм, знайсці выхад да агульначалавечага* [2, с. 12].

У працах Т. Чабан заўсёды спалучаліся падыходы тэарэтыка літаратуры і крытыка, тэарэтычныя развагі і абагульненні падма-цоўваліся ўважлівым аналізам канкрэтных твораў, разглядам заканамернасцей і

тэндэнцый літаратурнага працэсу ў гістарычнай перспектыве. Не адцягненыя разважанні і абстрактныя схемы займалі яе, а найперш жывы літаратурны працэс, жыццё паэтычнага слова ў рэальнай культурна-гістарычнай сітуацыі.

Як крытыка і як даследчыцу Т. Чабан перш за ўсё цікавіла, што рэальна дае зварот да духоўных і эстэтычных вытокаў сённяшняму дню літаратуры, якім чынам ён садзейнічае абнаўленню мовы сучаснай паэзіі. Яна была перакананa, што *звяртаючыся да ўстойлівых фальклорных формул, цытуючы або пераўтвараючы ці толькі намякаючы на іх, паэзія тым самым звяртаецца да векавой традыцыі з запытаннем аб нейкіх важных момантах чалавечага быцця* [2, с. 7 – 8].

У “Сучаснай паэзіі і фальклоры”, у шматлікіх артыкулах і рэцэнзіях, напісаных у 1980-я – на пачатку 1990-х гадоў, Т. Чабан уважліва разглядае, аналізуе як тое агульнае, што збліжае творчасць сучасных паэтаў, і ў першую чаргу жанчын-паэтэс, з анталагічнай традыцыяй, з глыбіннымі архетыпамі нацыянальнай мастацкай свядомасці, так і тое новае, адметнае, непаўторнае ў паэтычным асваенні свету і выражэнні асабовай індывідуальнасці, чым вызначаюцца стыль і паэтыка кожнага з аўтараў.

Пішучы пра адметнасць паэтычнага стылю, непаўторнасць лірычнага голасу духоўна блізкіх ёй аўтараў (такіх, як Данута Бічэль, Яўгенія Янішчыц і інш.), Т. Чабан імкнулася раскрыць перад чытачом не толькі змястоўную глыбіню іх твораў, але і выявіць характэрную для іх інтанацыю душэўнага гучання, меладычную выразнасць прамаўляемага. Паэзія цесна знітавана з музыкай, яна неадрыўна ад гучання, інтанацыі, мелодыі. І ў гэтым таксама, як паказвала Т. Чабан, выяўляецца сувязь сучаснай паэзіі з фальклорнай, народна-песеннай традыцыяй. У 1987 годзе ў часопісе “Неман” (№ 3) быў апублікаваны яе артыкул “Логос и мелос» са сціплым падзагалоўкам *Заметки дилетанта*. Падзагаловак гэты як бы гаворыць пра тое, наколькі сур’ёзнай лічыць аўтар праблему суадносін музычнага і паэтычнага мастацтваў. Гэта праблема, безумоўна, патрабуе грунтоўнага спецыяльнага даследавання, выпрацоўкі адпаведнага даследчыцкага інструментарыю. Але ж магчыма і непасрэднае ўспрыманне музыкі паэтычнага слова, праз судакрананне з пачуццёвымі хвалямі, якія зыходзяць з самой душы творцы. Успрыманне гэта ўласціва кожнаму, хто па-сапраўднаму адчувае паэзію, здольны ўлавіць стоеную музыку паэтычнага радка. Менавіта на такое, *дылетанцкае,* успрыманне і разлічана праца паэта.

Т. Чабан ў самай высокай ступені валодала здольнасцю ўспрымання *адзінай*, *унікальнай інтанацыі*, характэрнай, на яе думку, для кожнага верша. Яна чула гэту інтанацыю, гэту музыку, якія для яе тады мелі сапраўдную вартасць, калі вызначаліся натуральнасцю.

У другой палове 1980-х – пачатку 1990-х гадоў Т. Чабан працавала вельмі актыўна і напружана, многа сіл аддаючы прапагандзе роднай паэзіі, раскрыццю яе духоўнага і эстэтычнага патэнцыялу, выяўленню

сувязей паэтычнага слова з важнейшымі аспектамі сучаснасці. Пісала на многія актуальныя тэмы літаратурнага жыцця, якое ў тыя гады станавілася больш дынамічным і адкрытым. Ліквідоўваліся *белыя плямы* ў гісторыі айчыннай літаратуры, вярталіся забароненыя і забытыя імёны, да чаго, у меру сваіх магчымасцей, у прыватнасці як член рэкалегіі альманаха "Дзень паэзіі", прычынілася і Т. Чабан.

У прадмове да публікацыі вершаў "нашаніўскага" паэта Янука Дарашкевіча Т. Чабан пісала: *У філасофска-алегарычным вершы* "Сончык" *паэт нібы прадбачыць і свой драматычны лёс, і ахвярны лёс многіх беларускіх паэтаў, якія, нібы веснавыя кветкі, першымі абудзіліся, раскрыліся насустрач сонцу і якім наканавана было загінуць у віхурах войнаў, рэвалюцый, рэпрэсій, не пабачыўшы сваіх кніг, не здзейсніўшы творчых задум* [3, с. 231].

Здавалася, на ўсё хопіць сіл... Т. Чабан самааддана працавала ў той цікавы, напоўнены адкрыццямі, час над падрыхтоўкай "Дня паэзіі", літаратурна-крытычнага штогодніка "Вобраз". Шмат намаганняў прыклала, каб у "Дні паэзіі'88" з'явіліся адказы на анкеты вядомых людзей, прадстаўнікоў самых розных прафесій, пра іх дачыненні з паэзіяй. Цяпер гэта ўжо таксама гісторыя, як, напрыклад, шчырае, пранікнёнае, у чымсьці нечаканае выступленне выдатнага кінарэжысёра Міхаіла Пташука.

Глыбокім пранікненнем у таямніцы паэзіі характарызуецца дыялог крытыка Тамары Чабан і паэта Алеся Разанава, які быў змешчаны ў "Дні паэзіі'89". Пасля сустрэч і размоў з цікавымі, неардынарнымі субяседнікамі, з якімі зводзіў яе лёс, Т. Чабан захоўвала добрае, прыязнае ўражанне пра чалавека, адкрывала ў ім нешта раней невядомае, прываблівае. Да людзей яна наогул адносілася з усёй прыязнасцю, цеплынёй і сардэчнасцю. Гэта былі яе спавяданне, яе жыццёвая пазіцыя. Ёй большасцю плацілі тым жа. Вось, напрыклад, які аўтограф пасля працы над дыялогам "Паэзія – у спасціжэнні паэзіі"... пакінуў на сваёй кнізе "Вастрыё стралы" Алесь Разанаў: *Паміж Ісласчу і Мінскам – "у спасціжэнні паэзіі". Тамары Чабан, з якой мы распачалі дыялог пра тое, што не ўмяшчаецца ў словы, але жывіць словы, дзеля працягу. м. Ракаў. А. Разанаў.*

З захапленнем, хоць і з патрабавальнай увагай, пісала Т. Чабан пра паэзію маладых аўтараў, пра тых, хто быў надзеяй новага часу ў літаратуры. "*Авансы маладосці – і сталасці даўгі...*" і інш. публікацыі. Пра беларускую паэзію і яе месца ў сучаснасці пісала для маскоўскага часопіса "*Дружба народаў*", пастаянным аўтарам якога стала ў апошнія гады жыцця.

Лебядзінаю песняю Тамары Чабан як даследчыка літаратуры, глыбокага знаўцы паэзіі стала апошняя яе праца – артыкул-каментарый да першага тому Поўнага збору твораў Максіма Багдановіча "*Космас Вянка*". Там яна змагла, паспела сказаць многае з таго, што яна думала пра творчасць вечна юнага класіка нашай паэзіі.

Засталіся, на жаль, няздзейсненымі многія задумы, планы, мары. Там, на могільніку ў Ракаве, знайшла яна вечны прытулак пад разложыстаю сасной.

А дыялог працягваецца. Заўсёдны дыялог паэзіі і жыцця.

Яўген Гарадніцкі
*Мінск*

Літаратура

1. Т. К. Чабан, *Крылы рамантыкі: Рамантычныя тэндэнцыі ў сучаснай беларускай паэзіі*, Мінск 1982.
2. Т. К. Чабан, Я. А. Гарадніцкі, *Сучасная паэзія і фальклор,* Мінск 1988.
3. Дзень паэзіі’89, Мінск 1989.

## літаратуразнаўства

Да 55-годдзя Беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа”

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПОЛЬШЧЫ. Дынаміка развіцця ўнутранай крытычнай думкі (1958–1977)

ГАЛІНА ТВАРАНОВІЧ

На самым пачатку лета 1958 года адбылася вехавая падзея ў гісторыі беларускай літаратуры Польшчы. Гэта 8 чэрвеня ў Беластоку, па словах шматгадовага старшыні аб’яднання Яна Чыквіна, “сабраліся нікому тады яшчэ невядомыя прадстаўнікі розных пакаленняў, любіцелі і пачынальнікі прыгожага пісьменства, каб арганізацыйна аб’яднацца ды канчаткова афіцыяльна-адміністрацыйна заявіць аб сваёй прысутнасці ў культурным і грамадскім жыцці Беласточчыны”[1].

Арганізацыйны з’езд прагаласаваў за ўтварэнне літаратурнага аб’яднання пры рэдакцыі штотыднёвіка “Ніва”, якое мела працаваць семінарыйным метадам з творчым варштатам – Літаратурнай старонкай. Было абрана праўленне і неадназначна заяўлена: “Мы далёкія ад думкі, каб з нашай літаратурнай арганізацыі рабіць нейкую літаратурную няньку, якая мяняе пялёнкі растучым талентам. Аднак у нас паўстае неабходнасць стварэння такой арганізацыі, якая б выхоўвала літаратурныя таленты”[2]. Праз чатыры гады аб’яднанне атрымала вельмі адпаведную, трапную назву “Белавежа”, пад якой увайшло ўжо ў гісторыю літаратуры. І па-свойму сімвалічна, што Георгій Валкавыцкі – заснавальнік і звыш 30-гадовы рэдактар “Нівы”, а таксама хросны бацька пасляваеннага беларускага літаратурнага руху ў Польшчы – паходзіць якраз з Белавежы, асаджанай пасярод слыннай пушчы на польска-беларускай мяжы. Уласна “Белавежа” працягнула традыцыі, закладзеныя заходнебеларускай паэзіяй, а таксама паэтамі ваеннага перыяду, аб чым можа весціся асобная цікавая гаворка.

У дакладзе арганізацыйнага камітэта Беларускага літаратурнага аб’яднання ў Беластоку былі акрэслены прыярытэтныя лініі творчага развіцця арганізацыі. Падкрэслівалася, што беларуская нацыянальная меншасць са сваёй спецыфікай культурнага жыцця з’яўляецца часткай усяго польскага грамадства: “У сваіх творчых задумах мы павінны ўлічваць абставіны нашага жыцця, больш уважліва ўзірацца на яго, дакладней вывучаць нашую рэчаіснасць. У сваіх творчых пошуках мы не павінны аддзяляцца кітайскай сцяной ад усяго грамадства. (...) Кожны мастацкі твор павінен унесці хаця б самую найменшую частку ў агульнае культурнае будаўніцтва”. Невыпадкова фрагмент даклада, надрукаваны ў першым нумары Літаратурнай старонкі “Нівы”, называўся “Вучыцца, вучыцца, вучыцца”. Адзначалася, што неад’емнай часткай творчай працы пісьменніка з’яўляецца менавіта вучоба. Адукацыя, якая няспынна паглыбляе веды, агульная культура, зацікаўленасць жыццём – вось абавязковы шлях да ўзнікнення добрых твораў. І, зразумела, асаблівая ўвага звярталася на “моўны матэрыял”. Пісьменнік мусіць “адчуваць увесь пах роднай мовы, увабраць у сябе яе дух, заглянуць у яе невычэрпныя нетры”. Цалкам апраўданым уяўляецца і этычны матыў даклада, абумоўлены, пэўна ж, вопытам Г. Валкавыцкага, як стваральніка, рэдактара беларускага штотыднёвіка, на той час ужо з больш чым двухгадовым стажам: “Пачынаючы пісьменнік павінен вызначацца вялікай скромнасцю, крытычна ставіцца да ўсіх сваіх літаратурных спроб і ўсцяж іх дапрацоўваць. Калі паявіцца першы твор яго ў друку, гэта, зразумела, свайго роду дасягненне аўтара. Аднак гэта яшчэ не прычына для ўпэўненасці, што далейшыя творы павінны быць таксама добрымі”[3]. І, вядома, заяўлялася, што “неадлучным спада-рожнікам” кожнага з сяброў аб’яднання “павінны быць мастацкія творы выдатных пісьменнікаў”. Абавязкам кожнага было ўважліва чытаць польскі і беларускі літаратурны друк, знаёміцца з навінкамі беларускай і польскай літаратуры.

Першы ж нумар Літаратурнай старонкі распачынаўся “Адкрытым лістом” – зваротам да зацікаўленага літаратурнымі, творчымі справамі чытача беларускага штотыднёвіка: “Дарагія сябры! Пачынаем выдаваць літаратурную старонку. Ад сёння раскінутыя раней па цэлым тыднёвіку вершы, апавяданні, ці літаратурныя артыкулы будуць мець сваё месца.

Пакуль што літаратурную старонку будзем рабіць раз у месяц, але калі аўтарскі калектыў будзе ў стане забяспечыць нас матэрыялам *на адпаведным узроўні* (выдзелена – *Г. Т.*), каб выдаваць старонку часцей, зробім гэта неадкладна.

Хочам, каб літаратурная старонка гуртавала таленты.

Хочам, каб літаратурная старонка была творчай справаздачай нашых паэтаў, празаікаў, крытыкаў.

Хочам, каб літаратурная старонка была трыбунай і іншых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі – маляроў, скульптараў, кампазітараў.

Усіх, хто сябруе з намі – запрашаем да супрацоўніцтва”[4].

І фрагмент даклада, і адкрыты ліст былі не падпісаны, але, безумоўна, іх аўтарам з'яўляўся Георгій Валкавыцкі.

У адной са сваіх найзначных кніг “О назначении человека” выдатны рускі філосаф Мікалай Бярдзяеў сцвердзіў: “Цэнтр маральна-этычнага жыцця – у асобе, а не ў супольнасці. Асоба ёсць каштоўнасць, якая стаіць вышэй дзяржавы, нацыі, чалавечага роду, прыроды, яна, па сутнасці, не ўваходзіць у гэты рад”[5]. І, на жаль, пры ацэнцы эстэтычна-мастацкага феномена “Белавежы”, гэтага адзінага за межамі Беларусі беларускага літаратурнага саюзу, урэшце, беларускага культурнага руху сярэдзіны мінулага стагоддзя на Беласточчыне, асоба Георгія Валкавыцкага, яго грамадская, творчая дзейнасць яшчэ належна не ацэнена. Можна ўзгадаць тут, як пэўнае выключэнне, артыкулы Вольгі Шынкарэнкі “Праўда жыцця, ці Спраўджанае жыццё”(2003) і Веранікі Стральцовай “Жыццё, аддадзенае справе”(2007), а таксама раздзел “Аўтабіяграфічная проза” ў манаграфіі Анны Саковіч “Беларуская літаратура Польшчы. Стылістычна-жанравыя асаблівасці прозы <белавежцаў>” (2012), у якім значная ўвага ўдзелена якраз празаічнай творчасці стваральніка “Нівы” і “Белавежы”. Першым жа асэнсаваннем месца і ролі Г. Валкавыцкага стаў артыкул Я. Чыквіна, у якім Г. Валкавыцкі названы “бацькам і першым настаўнікам беларускага літаратурнага руху ў Польшчы”[6]. З шматлікіх, вартых увагі назіранняў, зробленых аўтарам, хочацца прывесці наступнае: “Г. Валкавыцкі фактычна адзіны з грамады беларускіх актывістаў 60—70-х гадоў вытрымаў выпрабаванне часам; зрабіў надзіва шмат добрага, *сябе для іншых ахвяруючы* (выдзелена – *Г.Т.*). Не чакаючы ні ад кога аніякай падзякі. Як мне здаецца, ён паступова, без спеху рэалізаваў закладзеныя недзе там, глыбока ў ім, у ягонай падсвядомасці ці можа надсвядомасці, нацыянальна-духоўныя патрэбы. Рэалізаваў бескарысліва”[7].

Георгій Валкавыцкі – выпускнік Літаратурнага інстытута ў Маскве, добра падрыхтаваны прафесійна, шчыра зацікаўлены ў выяўленні талентаў, узрошчванні іх, аказаўся тым своеасаблівым магнітам, які сабраў у адзін творчы калектыў самыя розныя індывідуальнасці. У сваіх аўтабіяграфічных нататках рэдактара “Віры” Г. Валкавыцкі ўзгадвае: “Я стаў старшынёй. Асноўным сваім заданнем лічыў стварэнне творчай атмасферы, у якой выспяваў бы талент. Ведаў, калі ён сапраўдны, заўсёды праб'е сабе дарогу, а калі яму падсобіць – праб'ецца хутчэй”[8].

Празаік, паэт, журналіст, грамадскі дзеяч Г. Валкавыцкі нарадзіўся 13 сакавіка 1923 года ў Белавежы. Літаратурныя здольнасці засігналізавалі аб сабе рана: у дапытлівасці, дзіцячых летуценнях, хатніх сачыненнях, што чыталіся настаўніцай услых і служылі ўзорам для іншых. Не без падстаў любімая выхавацелька, віншуючы падлетка з выдатным заканчэннем сямігодкі, пажадала яму літаратурных поспехаў. Настаўніца не памылілася і словы яе прагучалі ў добрую хвіліну. Аднак здзяйсненне ў творчасці, сістэматызаванае авалоданне ведамі адкладалася на няпэўны

час, бо бацькі не мелі з чаго плаціць за навучанне сына ў гімназіі. Пачыналіся жыццёвыя ўніверсітэты, ускладнёныя сацыяльна-палітычнай няпэўнасцю і ўрэшце другой сусветнай вайной. Так што па заканчэнні двухгадовых падрыхтоўчых курсаў пры Варшаўскім універсітэце на вучобу ў Літаратурны інстытут у Маскву выправіўся ў 1949 годзе малады чалавек з ладным жыццёвым вопытам, сфармаваным светапоглядам, здольным выкарыстаць перавагі і магчымасці жыцця ў вялікай культурнай сталіцы. Праз усё жыццё нясе Г. Валкавыцкі ўдзячную памяць пра гады свайго студэнцтва. І нездарма адной з першых штатных адзінак у толькі што створанай "Ніве" аказалася пасада ...паэта. Выпадак унікальны, але цалкам зразумелы ў святле біяграфіі рэдактара штотыднёвіка, які, разумеючы прыроду таленту, з піетэтам ставіўся да творчых асоб, нягледзячы на тое, быў перад ім селянін, вучань ці прызнаны мэтр.

Пра тое, што вяртанне Г. Валкавыцкага ў 1954 годзе на Беласточчыну было па-свойму лёсава значным як для яго самога, так і для беларускага культурна-грамадскага руху, гаворыць звыш паўвекавая дыстанцыя, пройдзеная "Ніваю" і "Белавежаю". Шчасліва супалі ў адным моманце грамадскія патрэбы і магчымасці асобы. Пэўна, маральна-этычная дамінанта набывалася Г. Валкавыцкім найперш у бацькоўскай хаце, у белавежскім асяроддзі, сярод цудоўнай пушчанскай прыроды. Далучанасць жа да сусветнай культуры, вучоба ў прызнаных майстроў слова развівала духоўна, эстэтычна, прафесіянізавала і, урэшце, акцэнтавала на вартасцях спаконнага, роднага. Думаецца, менавіта дзякуючы арганічнаму спалучэнню ўласнаасабовага і агульначалавечага выпрацавана была першым рэдактарам найбольш аптымальная канцэпцыя "Нівы" як грамадска-культурнага беларускага тыднёвіка, які б адлюстроўваў эканамічнае і садзейнічаў бы культурнаму развіццю, а таксама меў асветніцкія мэты і фарміраваў бы нацыянальную свядомасць. Паказальна, што рэдактар "амаль адчуваў дотык працягнутай з гісторыі рукі, таксама "адзінай" віленскай "Нашай Нівы". Шмат чаго ў нас знойдзецца супольнага – вынік той жа <адзінасці>"[9].

Сапраўды, тыпалагічныя паралелі паміж другім беларускім Адраджэннем (першае гукае з легендарнага "залатога" XVI-га веку) пачатку мінулага стагоддзя і своеасаблівым Рэнесансам беларушчыны ў другой палове 50-х гадоў на Беласточчыне ўражваюць. Так, дзея адбываецца тут у зусім іншым часе, які пакінуў за плячыма дзве сусветныя вайны, рэвалюцыю, новы падзел свету. Ды галоўныя накірункі дзейнасці "нашаніўскіх" адраджэнцаў, як бы лакалізаваўшыся на Падляшшы, аказаліся шмат у чым актуальнымі і запатрабаванымі. Уласна гэта тэма заслугоўвае асобнай праблемнай гаворкі. Між тым зараз звяртаем увагу менавіта на актывізацыю літаратурнай дзейнасці на Беласточчыне вакол "Нівы". Як у свой час "Наша Ніва" сталася своеасаблівым пісьменніцкім аб'яднаннем беларусаў у Вільні – друкаваліся на яе старонках

Цётка, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля і многія іншыя – так і “Ніва” беластоцкая вывела ў свет цэлую кагорту аўтараў. Магчыма, больш сціплага маштабу, але ж культурная цэласнасць ствараецца шматлікімі намаганнямі, а значэнне, месца кожнага творцы звычайна ацэньваецца найбольш адэкватна з дастатковай часавай перспектывы.

Аб тым, што рэдактар “Нівы” быў прафесійна падрыхтаваны рэалізаваць “нацыянальна-духоўныя патрэбы” засведчылі і яго “паэтычныя недыскрэцыі” пад назвай “На шырокія воды”, якімі завяршалася першая Літаратурная старонка. Цалкам дакладна, слушна, з поўным маральным правам на тое Г. Валкавыцкі адзначыў: “Часта само з’яўленне “Нівы” ў больш чулых сэрцах выклікала хваляванне, якое вылівалася на паперу ў выглядзе вершаў. Не аднаму гэтыя першыя вершы і былі штуршком да спробы сваіх сіл на паэтычнай ніве. Гэтак было з Уладзімірам Гайдуком, вершы якога не раз друкаваліся ў “Ніве”, гэтак было і з іншымі маладымі аўтарамі”[10]. З’яўленне “Нівы” стала стымулам да творчасці і тым, хто пісаў раней, як напрыклад, было з Андрэем Сошкам. Таксама “ўключыліся ў творчую працу пасля значнага перапынку” выпускнікі беларускіх школ, якія змяшчалі свае творы некалі ў сценгазетах, у прыватнасці, Віктар Швед і Дзмітрый Шатыловіч. Больш таго, зноў у паэзію вярнуліся, як Мікола Буцылін, тыя, хто пачынаў пісаць у міжваенны перыяд. “Гэтую стракатасць трэба мець на ўвазе, калі б хто хацеў зрабіць падсумаванне нашай паэтычнай творчасці”, – канстатаваў Г. Валкавыцкі. І далей заснавальнік “Белавежы” вельмі строга ацэньвае, па сутнасці ж, і сваю працу: “Вершаў друкавалі мы многа, аднак, як справядліва адзначалася на арганізацыйным з’ездзе літаратурнага аб’яднання, часта выходзілі яны ў свет у сырым выглядзе, былі недапрацаваныя. Склалася меркаванне, што нашы паэты затрымаліся ў развіцці”. Чаму так сталася? Г. Валкавыцкі называе прычыны як аб’ектыўнага, так і суб’ектыўнага характару: “Розная агульная падрыхтоўка, адсутнасць творчай дыскусіі, сяброўскай крытыкі абмяжоўвалі магчымасці паасобных аўтараў, застаўлялі іх таптацца на месцы”. Найвідавочней гэтая своеасаблівая стагнацыя, на яго думку, выяўляецца ў вузкай тэматыцы вершаў: “Бацькаўшчына (што змесціцца ў вокнах бацькавай хаты), родная прырода (якую бачым праз шыбы гэтых вокан, да якой не дакранешся і не панюхаеш), родная мова (якую любім, але ад якой язык дзірванее), – вось зачараваны трохвугольнік, у якім апынулася значная частка пачынаючых паэтаў”. З уласцівай Г. Валкавыцкаму тактоўнасцю, павагаю да кожнага, ён таксама зазначае, што, магчыма, ягоны “прысуд надта суровы, ды не сказаў я гэта аб усіх, нікога не назваў імем. І кожны можа сказаць <гэта не пра мяне>”. Можа сказаць, але ж падставы для роздуму з улікам псіхалогіі датклівай творчай асобы, і асабліва ў перыяд яе станаўлення, калі празмерная порцыя крытыкі можа знеахвоціць да далейшых пошукаў, былі агучаны. І, зразумела, не

супраць  згаданага тэматычнага трохкутніка выступаў Г. Валкавыцкі: “Бацькаўшчына, прырода, мова! Добра. Будзем пісаць. Але адкінем дэкларатыўнасць, выкінем са свайго слоўніка слова “люблю”, а любоў сваю пакажам у мастацкіх вобразах, у пошуках паэтычных дэталяў, у любоўных адносінах да роднага слова і ўсё ж такі, пашырым круг тэм, выплывем з магічнага трохвугольніка на шырэйшыя воды”. Такім чынам, ужо з самага пачатку  існавання “Белавежы” інтэлігентнасць, дасведчанасць, вопыт выпускніка Літаратурнага інстытута Г. Валкавыцкага адкрывалі магчымасці  плённага  творчага ўзрастання сябрам арганізацыі.

Варта нагадаць, што менавіта паэты беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа” сапраўды сталі пачынальнікамі прыгожага пісьменства на пасляваеннай Беласточчыне   Літаральна праз год пасля ўтварэння арганізацыі пабачыў свет першы “белавежскі” паэтычны альманах пад сімвалічнаю назваю “Рунь”. Была гэта не толькі першая беларускамоўная “паэтычная ластаўка”, а ўвогуле першы  паэтычны зборнік, які пабачыў свет у Беластоку ў пасляваенны час. “Беларускія літаратурныя сілы ў Польскай Народнай Рэспубліцы, – звяртаўся  да чытача яе ўкладальнік і рэдактар Г. Валкавыцкі, – толькі  што пачалі пускаць першыя парасткі, перад імі ўсе цяжкасці творчага станаўлення і нязведаныя далі рамантычнага падарожжа, якое вабіць і насцярожвае. (...) Тое, што мы першымі выйшлі абрабляць паэтычныя аблогі, павінна даць нашым паэтам бадзёрасці ў пошуках сваёй папараці-кветкі”[11]. Пад сціплай чорна-белай вокладкай “Руні” было сабрана 45 вершаў 17 аўтараў – настаўнікаў, вучняў, студэнтаў, сялян... Амаль усе яны незадоўга дэбютавалі на старонках “Нівы” і зборнік склалі вершы, напісаныя пераважна не раней 1956 года. Паўвекавое актыўнае жыццё  “Белавежы” сведчыць, што надзеі заснавальніка літаратурнага аб’яднання Георгія Валкавыцкага, выказаныя ў прадмове да “Руні”, цалкам спраўдзіліся. Рунь увабралася ў сілу, больш таго, закаласавала на агульнабеларускім палетку і творы “белавежцаў” ужо даўно досыць актыўна перакладаюцца на розныя мовы.

Між тым “Рунь” з самага пачатку была заўважана шырокай аўдыторыяй не толькі ў Польшчы. На выхад у свет першага “белавежскага” альманаха зычліва адазвалася як “Gazeta Białostocka”, назваўшы “Рунь” “беларускім падарункам у агульнадзяржаўную скарбніцу культуры”, так і – мінская “Літаратура і мастацтва”, украінская “Наша культура”, маскоўская “Литературная газета”, лодзінскі “Русский голос”, варшаўскія “Trybuna Literacka” і “Przyjaźń”.

Мае сэнс падрабязней разгледзець рэцэнзію пад назвай “Вясновая рунь”, якая сігналізавала ў Беларусі аб маладой пісьменніцкай арганізацыі і ацэньвала яе першы кніжны набытак. Рэдактар “Літаратуры і мастацтва” Янка Шарахоўскі  ўжо ў чарговым нумары 13 мая 1959 года, задаволіўшы  патрэбу беларускага чытача  найперш у сціслай інфар-

мацыі, перайшоў да непасрэднага тэматычна-ідэйнага аналізу "белавежскага" першынца. Адказваючы на пытанне, што ўяўляюць сабой творы, склаўшыя "Рунь", ён зазначыў: "У тэматычным дачыненні гэта перш за ўсё так званая асабістая і пейзажная, звязаная з жыццём вёскі, лірыка. Апрача таго ёсць некалькі вершаў, напісаных у традыцыях ранняга Купалы, некалькі вершаў з грамадска-палітычнымі матывамі, у тым ліку верш пра першы стрэл Аўроры і некалькі вершаў пра мір. Як бачым, зборнік не вызначаецца асаблівай разнастайнасцю. Між тым, можна было чакаць, што ў кнізе вершаў, прысвечанай юбілею Беларускай ССР, будзе што-небудзь сказана пра дасягненні беларускага народа і асабліва пра будаўніцтва сацыялізма ў Польскай Народнай Рэспубліцы. Відаць, паэты "Нівы" ў сваіх новых вершах будуць больш узнімаць грамадскіх тэм, будуць бліжэй да сучаснасці, да ўсіх лепшых працоўных і культурных здабыткаў рэспублікі, у якой яны жывуць"[12]. Падставаю для высновы аб прысвячэнні кнігі сталіся ўзнёслыя словы ўкладальніка і рэдактара "Руні" Г. Валкавыцкага, якімі ён распачаў зварот да чытача: "Толькі што прагучалі ўрачыстыя фанфары, аб'явіўшыя свету, што беларускі народ святкуе слаўны юбілей – 40-годдзе сваёй дзяржаўнасці, як рэха гэтых хвалюючых гукаў адбілася ад магутных вяршынь Белавежы і трапяткім подыхам пакацілася па нашай ніве.

І маем "Рунь". Як скромны падарунак вялікаму святу прыносяць свае вершы члены беларускага літаратурнага аб'яднання"[13]. Эмацыянальная шматзначнасць гэтага выказвання выдатнага беларускага адраджэнца Падляшша другой паловы мінулага стагоддзя, відаць, у перыяд кароткачасовай сацыяльна-палітычнай "адлігі" пасля выкрыцця культу асобы Сталіна і не магла быць расчытана ў Беларусі належным чынам: як усведамленне культурна-гістарычнай еднасці, як сведчанне гатовага разгарнуцца творчага нацыянальнага патэнцыялу, які прагнуў быць запатрабаваным вялікай Радзімай. І таму, зразумела, не імкнуліся паэты, згрупаваныя вакол "Нівы", непасрэдна распавядаць пра ідэалагічныя, вытворчыя дасягненні ды будаўніцтва новага сацыялістычнага грамадства.

Вершы Міколы Базылюка, Міколы Буцыліна, Алеся Барскага, Уладзіміра Гайдука, Міколы Красоўскага, Алеся Свіська і іншых ацэньваліся рэдактарам "ЛіМа" з пункту погляду найперш іх сацыяльнай, пазнавальнай, выхаваўчай значнасці, што было ўласна і зададзена на самым пачатку рэцэнзіі. І на сённяшні дзень дык ужо нават наіўнай падаецца заўвага адносна спосабу паэтычнага выказвання Яшы Бурша. Так, Я. Шарахоўскі адзначае, што ў вершы "Мальвіны цвітуць у гародзе" "арыгінальна трактуецца тэма кахання праз народны вобраз вышывальшчыцы. Толькі наіўным дзівацтвам, – працягвае рэцэнзент, – выглядае тое, што ў ім няма заглаўных літар, не пастаўлены знакі прыпынку". Відаць, амаль немагчыма было ўявіць, што такая своеасаблівая форма "адкрытага" тэксту прыжывецца аднак праз

дзесяцігоддзі і ў беларускай паэзіі метраполіі і якраз дзякуючы хіба ў значнай ступені знаёмству з творчасцю “белавежцаў”. Здзіўляе, што ў “лімаўскай” рэцэнзіі аказалася амаль абмінутай цікавая падборка вершаў А. Барскага. Даецца характарыстыка ўласна аднаго твора і, як падаецца, не найлепшага тут: “Верш А. Барскага “Сялянскі сум” цікавы тым, што ў ім услаўляецца “сталёвае ранне”, выказваецца як непазбежнае і патрэбнае тое, што “вясковую глуш, сялянскі сум /глынуць гарачым нутром машыны”. Рэцэнзент слушна згадвае як варты ўвагі верш, прысвечаны Максіму Танку, але ж заслугоўвалі таго, каб быць адзначанымі, і вершы А. Барскага “Дар”, “Вавёрка”, “Восень”.

Праўда, пры выразнай перавазе тэматычна-ідэйнага, нават ідэалагічнага, аналізу твораў Я. Шарахоўскі не абыходзіць і мастацка-эстэтычнае ўвасабленне зместу. Заўважае, напрыклад, што А. Свісёк “не пазбег дыдактыкі і рыторыкі, якія робяць мову нязграбнай і празаічнай”. Наймаладому з аўтараў “Руні” васемнаццацігадоваму У. Гайдуку напачатку закідае, што ён занадта традыцыйна выказвае сваю любоў да роднай краіны (“Родная краіна”), а вось верш “Дажынкі”, на думку рэцэнзента, “напісаны цікава” з выкарыстаннем фальклорнай формы дажыначных песень. Станоўчую і даволі дакладную, па-свойму актуальную для далейшай творчасці паэта, ацэнку дае Я. Шарахоўскі і наступным вершам У. Гайдука: “Пейзажныя вершы “Зіма ідзе” і “Снег” цікавы кожны па-свойму. Калі ў першым у традыцыйнай форме, знаёмай па паэзіі ранняга Купалы і Коласа, перададзена тое, як селянін чакае зіму, дык у другім аўтар імкнуўся да арыгінальнай паэтычнай мовы, да яркай вобразнасці”.

З выразнай сімпатыяй разглядае рэцэнзент вершы Дзмітрыя Шатыловіча. Вызначаючы іх як “творы эпічна-апавядальнай інтанацыі”, ён канкрэтызуецца на вершах “Ты ўжо забыла” і “Сланечнік”, каб адзначыць: “Задума значная, змястоўная і ажыццяўленне яе неблагое, паэтычнае”. Асаблівую прыхільнасць рэцэнзента, найперш дзякуючы актуальнасці тэматыкі, што ахоплівала і нацыянальныя пытанні, (вершы “Роднай мове”, “Янку Купалу”), і звярталася да сацыяльна значных падзей, праблем сучаснасці (“Першы выстрал Аўроры”, “Ніколі больш вайны”), заслужылі творы Віктара Шведа. Таму цалкам прадказальнай з’яўляецца выснова А. Шарахоўскага: “Такім чынам мы бачым, што В. Швед – паэт грамадзянскага тэмпераменту, паэт значных тэм. Застаецца пажадаць яму поспехаў на гэтым шляху, а заадно і яго сябрам – удзельнікам зборніка <Рунь>”.

Вядома, сёння лёгка рабіць закіды рэцэнзенту ў няслушнасці тых ці іншых ягоных сцвярджэнняў, але, відавочна, што прывітальнае слова “ЛіМа” прагучала вельмі своечасова. Можна сабе ўявіць, з якім нецярпеннем чакалі аўтары “Руні” водгукаў на свае вершы і таму ў цэлым добразычлівая, тактоўная рэцэнзія паэта і літаратуразнаўцы Я. Шарахоўскага была вельмі дарэчы і сталася своеасаблівым зачынам

крытычна-літаратуразнаўчай рэцэпцыі творчасці маладой пісьменніцкай арганізацыі ў Беларусі. Істотна, што рэцэнзія заканчвалася словамі: “Няхай не крыўдзяцца на мяне тыя аўтары, пра каго я не сказаў нічога, бо не так лёгка сказаць што-небудзь істотнае, калі імя прадстаўлена невялічкім і небагатым зместам вершам. А тым часам аўтар можа і цікавы, як творчая адзінка. Дык, мабыць, лепей пачакаць, калі такі аўтар будзе больш шырока надрукаваны”.

Так, аўтарам “Руні”, прадаўжальнікам традыцый прыгожага пісьменства на Беласточчыне ў канцы 50-х гадоў мінулага стагоддзя належыла яшчэ адбыцца ў творчым лёсе, рэалізаваць нацыянальны патэнцыял, атрыманы ад бацькоў і прадзедаў. І, відаць, нягледзячы на такую аператыўную рэцэнзію Я. Шарахоўскага, усё ж узнікненне беларускага літаратурнага аб’яднання ў Польшчы сталася для метраполіі як бы нечаканасцю, цяжка вытлумачальным фактам. Дасюль яшчэ беларусаў Польшчы часта называюць дыяспарай, не звяртаючы ўвагі на тое, што яны з’яўляюцца аўтахтонамі на сваёй роднай зямлі, нікуды не выязджалі, не эмігрыравалі і што гэта ж дзяржаўная мяжа ў чарговы раз пасунулася і зрабіла іх грамадзянамі суседняй дзяржавы. Шчыльнымі “памежнымі слупамі” ва ўспрыманні “Белавежы” ў Беларусі на працягу амаль трыццаці гадоў аказаліся ідэалагічныя ўстаноўкі, стэрэатыпы мыслення.

Па першым часе, што цалкам арганічна, спроба найаператыўнай ацэнкі творчасці, дзейнасці, перспектыў аб’яднання рабілася самімі “белавежцамі”. Вось на 22-ой Літаратурнай старонцы ў перадз’ездаўскай дыскусіі з разважаннямі “Што зрабіць, каб ад прыбытку галава не балела?” выступіў Я. Бурш: “<Ніва> сваім нараджэннем абудзіла дрэмлючы ў нашым народзе характэрны яму лірызм. Многія людзі рознага веку ўзяліся за пяро, каб дзяліцца сваімі перажываннямі і ўражаннямі з “Нівай”, а праз яе з “лірычнымі душамі” нашага насельніцтва”[14]. За 1956—1959 гады, як адзначыў Я. Бурш, на старонках “Нівы” выступіла са сваімі творамі каля сямідзесяці аўтараў. Каля сарака з іх надрукаваліся ў “Ніве” толькі аднойчы, і Я. Бурш залічвае іх “ хутчэй да аматараў, чым да стваральнікаў літаратурнага багацця”, а тыя, што далі падставы назваць сябе паэтамі ці празаікамі, а не “выказваюць дастатковай актыўнасці ў працы над дасканаленнем свайго майстэрства, не валодаюць тэмай, не выказваюць творчай ініцыятывы”, выклікалі ў Я. Бурша жаль. Прыводзіць ён нават статыстыку па гадах, колькі вершаў надрукавалі ў “Ніве” Андрэй Сошка, Уладзімір Гайдук, Віктар Швед, Алесь Свісёк. Літаратурная ж дзейнасць сяброў аб’яднання, упэўнены Я. Бурш, не можа абмяжоўвацца толькі выступленнямі на старонках “Нівы”: “Нашыя паэты здабылі сабе асаблівую папулярнасць аўтарскімі вечарамі, якіх адбылося шмат у 1959 годзе. За няпоўныя два гады (ад моманту арганізацыі літаратурнага аб’яднання) на Беласточчыне было праведзена каля 20 аўтарскіх вечароў і ў Варшаве 14. Гэтыя вечары зрабілі вельмі карысную прапагандную работу для нашага БГКТ і наогул

беларускай мастацкай культуры ў Польшчы”. Панаракаў Я. Бурш, што апошнім часам “неяк рэдка адбываюцца літаратурныя творчыя семінары, якія збліжаюць паэтаў у іх асабістых, шчырых размовах”. У сваю чаргу адзначыў, што вялікай радасцю для паэтаў і ўсяго беларускага насельніцтва стаў выхад “Руні”. Найбольшым жа клопатам, выказаным у артыкуле, было становішча з далейшай публікацыяй ужо аўтарскіх кніг. Відаць, што Я. Буршу набалела змагацца з “аўтарытэтамі” ў кіраўніцтве БГКТ: “Яша Бурш, маючы некалькі зборнічкаў у рукапісах, не можа быць выданы, бо не трымаецца традыцыйнай формы, незразумелы. Алесь Барскі, зразумелы, не можа быць выданы, бо (??) яшчэ не распрададзены зборнічак <Рунь>”, тыраж якога склаў 2000 экземпляраў і палова якога праз год пасля выдання чакала свайго чытача. Улічваючы колькасць беларускага насельніцтва на Беласточчыне, Я. Бурш прапаноўваў выдаваць аўтарскія кнігі паэзіі хоць бы па 200 асобнікаў, а не збіраць зноў творы розных аўтараў у агульную кнігу, як хацелі зрабіць “аўтарытэты”. І, зразумела, не мог Я. Бурш цалкам абмінуць праблему традыцыйнай і нетрадыцыйнай паэзіі, яркім прадстаўніком якой з’яўляўся сам. Спасылаўся ён на вопыт польскай паэзіі, а таксама на ўзрастаючыя ў культурна-мастацкім плане запатрабаванні часу, якому і адпавядалі якраз разнастайныя пошукі.

Паказчыкам сталасці кожнай літаратуры з’яўляецца гарманічнае існаванне ў ёй як паэзіі, так і прозы, што ўжо цудоўна ўсведамляў вялікі ідэолаг нацыянальнага адраджэння, гарачы абаронца роднай мовы Францішак Багушэвіч, які напрыканцы XIX стагоддзя, пасля выхаду сваіх эпахальных для развіцця беларускіх літаратуры і свядомасці паэтычных кніг “Дудка беларуская” і “Смык беларускі”, звярнуўся да прозы, апавядання. “Белавежа”, пачаўшыся ў асноўным з паэтычных жанраў, таксама паскорана паўтарала шляхі фарміравання новай беларускай літаратуры. Узгадаем, што змест “Руні” цалкам склалі вершы. Аднак досыць хутка з’явіліся падставы, каб ужо на 28-й Літаратурнай старонцы быў змешчаны артыкул Любы Філіпік (Раманюк) “Больш цікавых і змястоўных апавяданняў”, надрукаваны “з думкай, што ён дасць пачатак дыскусіі аб творчасці нашых аўтараў”. Аўтар артыкула адразу канкрэтызавалася з разглядаемым матэрыялам: “Мэтай данага артыкула не з’яўляецца падрабязны агляд усіх апавяданняў, надрукаваных у “Ніве”. Я хачу выказаць некалькі заўваг аб тых апавяданнях, якія мне ўдалося прачытаць у гэтым годзе”[15]. У прэамбуле ад рэдакцыі было заўважана, што друкуемы артыкул “не выказвае становішча рэдакцыі, а трэба яго разглядаць як артыкул дыскусійны”. Першапачаткова Л. Філіпік спыняецца на змесце і ідэі апавядання В. Рудчыка “Маленькі партрэт”, выказваючыся далей крытычна адносна арганізацыі сюжэта твора, дэкларатыўнасці выказвання галоўнага героя ў канцы апавядання: “Бачым тут пазбаўленую мастацкай формы мараль. У тым і выяўляецца нявопытнасць маладога аўтара”. Звяртае ўвагу крытык

і на станоўчы момант: “Віктар Рудчык умее набіраць эпітэты. Побач са словам “позірк” знаходзім наступныя эпітэты: тупы позірк, пытальны позірк, нічога не разумеючы позірк, здзіўлены позірк.

Дзякуючы ім аўтару ўдалося часткова раскрыць характар малога Міхася і яго адносіны да незнаёмага”.

На думку Л. Філіпік, няўдачнай спробай асэнсавання прыроды, паказу яе багацця з’яўляецца апавяданне Сакрата Яновіча “Сцяпан з Макаравага выгана”. Адзначаючы, што апавяданне перапоўнена “элементамі прыроды”, крытык з жалем канстатуе, што шматстайнасць гэтая “прыпаднесена чытачу ў неапрацаванай, сырой форме. Прырода ў апавяданні не звязана з чалавекам, яна існуе сама па сабе. (...) Сюжэт апавядання рыхлы і не павязан кампазіцыйна”. Некалькі ўстарэўшай называе Л. Філіпік тэматыку твора, спасылаючыся на тое, што на цяперашні час, “хіба, рэдка знойдзеш у нас вёску, дзе жнуць сярпамі”. На яе думку, трэба паказваць змены, якія адбыліся ў вёсцы: “Прапаведуючы новае, перадавое, трэба крытыкаваць старое, аджываючае”. Пры тым крытык выразна сведчыць і аб вельмі істотным моцным баку апавядання: “Аўтар умее пранікнуць у душу свайго героя, паказаць яго ўнутраны свет, яго імкненні і жаданні”. Шмат пытанняў выклікае ў Л. Філіпік і апавяданне Заставіна “Кандратаў сон”, што бачыцца крытыку многаслоўным, не цікавым па кампазіцыі і задуме, у якім: “Вельмі цяжка за другарадным, лішнім дабрацца да галоўнага”. А вось апавяданне Сымона Раманчука “Дзядуля” вылучаецца “як арыгінальнасцю задумы, так і мастацкімі якасцямі”. Аддаўшы належнае відавочным вартасцям твора, Л. Філіпік усё ж заўважае, што, на яе думку, аўтар надалей павінен пазбягаць моўных сродкаў, якія песімістычна ўздзейнічаюць на чытача. Аднак менавіта такіх твораў, як апавяданне С. Раманчука “Дзядуля”, хацелася б крытыку бачыць паболей на старонках “Нівы”.

16 кастрычніка 1960 года адбыўся Другі з’езд Беларускага літаратурнага аб’яднання пры газеце рэдакцыі “Ніва”. Старшынёй быў абраны Аляксандр Баршчэўскі. За час існавання арганізацыі выйшла 28 Літаратурных старонак, адбылося 36 аўтарскіх сустрэч. На 29-й Літаратурнай старонцы сваімі ўражаннямі адносна з’езда падзяліўся Віктар Рудчык, так і назваўшы свой артыкул “Пасляз’ездаўскія разважанні”. На яго думку, большасць членаў Літаб’яднання, “за выключэннем А. Барскага, В. Шведа Я. Бурша, не могуць, на жаль, пахваліцца шырэйшымі творчымі дасягненнямі”[16]. Крытыкаваў В. Рудчык тэматычную аднастайнасць паэтычных твораў, што выяўлялася ў зацыкленасці на адвечных тэмах – каханні і прыродзе. Ён безапеляцыйна заяўляў, што “(...) няма ніякага сэнсу перапяваць гэтага, што ўжо значна лепш зрабілі, напрыклад, Петрарка, Байран, Гётэ, Пушкін, Міцкевіч, Купала ці Колас. Да тых адвечных тэм трэба ўліць новы рытм, новую форму, каб пачуўся ў іх пульс нашай рэчаіснасці, нашага жыцця”. В. Рудчык заклікае паэтаў змагацца сваёй творчасцю за шчасце людзей,

быць паперадзе ўсіх падзей, паказваць трыумф чалавека над сіламі прыроды, стваральнае імкненне да міру. Пісьменнік не можа заставацца абыякавым назіральнікам змен, якія адбываюцца ў вёсцы. Аўтар разважанняў прапануе, напрыклад, “злажыць букецік твораў дабрадзейнаму трактару” – ён жа пракладае шлях лепшаму жыццю. Адказвае ён і на магчымы закід адносна таго, што такія творы прыніжаюць мастацкую вартасць верша: “А справа тут зусім не ў тым, – скажам мы гэткаму рупліваму за справы паэзіі чалавеку. Усё залежыць менавіта ад вынаходлівасці аўтара, ад мастацкага ўзроўню твора, які адкрыў бы цудоўным машынам, аблягчаючым працу чалавека, зялёную дарогу ў паэзіі”. Каб быць запатрабаванымі, паэты мусяць выйсці з вузкіх рамак асабістых перажыванняў на шырэйшыя прасторы жыцця. На думку В. Рудчыка, якраз гэта праблема не была разгледжана належным чынам на з’ездзе. І заканчвае ён свае развагі, вобразна-іранічна звярнуўшыся да калег па пяру: “Не дакучайце празмерна галлю пасівелай бярозкі. Давайце на месяц паляцім ракетай не толькі таму, што бачым там вочы сінія, чорныя або іншыя”.

Дарэчы будзе нагадаць, што творчай пляцоўкаю беларускага слова на Беласточчыне была не толькі Літаратурная старонка “Нівы”, але і Беларускія календары, што пачалі выходзіць з 1957 года. У першым з іх выбранымі вершамі прадстаўляліся беларускія паэты Я. Купала (“А хто там ідзе?”, “Я не паэта”), Цётка (“Вам, суседзі”), М. Машара (“У хаце”), З. Бядуля (“Думкі апоўначы...”), М. Танк (“Шапэн”), К. Буйла (“Люблю”), Янка Лучына (“Што думае Янка, везучы дровы ў горад”); даваўся біяграфічна-творчы зарыс біяграфій Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Максіма Танка, Піліпа Пестрака, Аркадзя Куляшова. Завяршала ж гэтае экспрэс-знаёмства з беларускай літаратурай падборка твораў беларускіх пісьменнікаў Польшчы, а менавіта апавяданне В. Баршчэўскага “Каляда” і вершы А. Сошкі (“За мір”), М. Красоўскага (“Месячная ноч”), М. Базылюка (“Як асыпецца ліст залаты”), Ул. Гайдука (“Захад сонца”). Такім чынам адразу закладалася традыцыя адной з змястоўных дамінант гэтага выдання БГКТ. У каляндары наступнага года былі надрукаваны вершы В. Шведа, Ул. Гайдука, Я. Дубіцкага, А. Сошкі, А. Макаля, А. Хлябіча. Праўда, у календары за 1959 год месца паэзіі па нейкіх прычынах не знайшлося, а ў наступным годзе ў рубрыцы “Фальклор” было змешчана пяць запісаў народных песень. Затое выданне календара за 1961 год спалучылася з “навукова-літаратурным альманахам”, у якім сярод іншага былі прадстаўлены і “Агляд публіцыстычна-літаратурнай спадчыны Кастуся Каліноўскага” (А. Баршчэўскі), і беларуская вусная народная творчасць Беласточчыны (М. Гайдук), і вершы А. Чабора, В. Кайкі, А. Барскага, Я. Бурша, А. Свіська, В. Шведа, і камедыя “Дзесяць гектараў” Я. Блізнюка і У. Цілюлькі, і “Каляндар” Дзядзькі Лявона.

Нарэшце ў календары за 1962 год з’яўляецца першае на старонках

гэтага выдання асэнсаванне творчай дзейнасці Літаратурнага аб’яднання, своеасаблівая справаздача старшыні “Белавежы” А. Барскага (Баршчэўскага) аб дзейнасці аб’яднання. У артыкуле “Літаратурныя дасягненні і літаратурныя заданні” найістотнейшым дасягненнем маладых пісьменнікаў, ададаючы належнае “Ніве”, ён вызначае трансляцыю жывога мастацкага слова ў шырокае кола чытачоў. Пачынальнікамі паэзіі і прозы на Беласточчыне старшыня “Белавежы” называе А. Сошку, В. Шведа і В. Баршчэўскага, выказаўшы занепакоенасць, што з іх толькі В. Швед працягвае надалей пісаць. Коратка спыніўшыся на творчасці В. Баршчэўскага, аўтар артыкула звяртае ўвагу на дыдактызм, зрэшты “характэрны для многіх з нас”, які “надзвычай яскрава выступіў у апавяданнях В. Баршчэўскага”[17]. Аднак менавіта В. Баршчэўскі “напісаў некалькі добрых апавяданняў, якія ў сваім часе належалі да найлепшых твораў, змешчаных у <Ніве>” (134). Вельмі хутка “літаратурная група” ўзмацнілася новымі маладымі асобамі, большасць якіх была мясцовага паходжання, а таксама старэйшымі з Беларусі, якія пасля вайны аказаліся ў розных месцах Польшчы. Было адзначана, што на Літаратурнай старонцы побач са слабымі творамі змешчаны шэраг “дасканалых празаічных і паэтычных спроб”. Да іх А. Барскі адносіць у першую чаргу “дасканалыя гумарыстычныя апавяданні “Дзядзька Фёдар” і “Кандратаў сон” Заставіна, “Кірмаш у Глыбокім” Дзядзькі з Лепля і “Дзядуля” Раманчука. Паэты, выступіўшыя на старонках “Руні”, становяць “ядро” беларускіх паэтычных сіл у Польшчы, хаця акрамя іх знойдзецца яшчэ некалькі несумненна здольных паэтаў”(134).

Для больш канкрэтнага знаёмства з творчасцю сваіх калег па пяру, тых, хто зацікаўлены “дасягненнямі літаратурнага маладняка”, старшыня “Белавежы” адсылае да “Нівы” і зборніка “Рунь”, засяродж-ваючыся на недахопах і пажаданых тэматычных перспектывах творчасці сяброў літаб’яднання. Адзначыўшы, што ў сваіх творчых пошуках кожны вольны выбіраць тэмтыку, якая найбольш адпавядае яго схільнасцям, густам, унутраным патрэбам, ён падкрэслівае, што неабходна лічыцца з канкрэтнымі палітычна-грамадскімі ўмовамі. Аднак самае павярхоўнае знаёмства з творчасцю “белавежцаў” сведчыць аб тым, што ў ёй пераважаюць “асабістыя матывы і прыродаапісальная лірыка”. І старшыня літаб’яднання цвяроза ўсведамляе, што гэта цалкам нармальна і нават заканамерна, бо “наша надзвычай скромная літаратурная практыка” не можа прывесці да стварэння цалкам новых вобразаў, тыпаў герояў, таму “мы мусім ісці па праложаных ужо шляхах”. Такім чынам, А. Барскі заклікае не ставіць заведама недасягальных мэт, а імкнуцца адпавядаць сваёй часапрасторы: “Думаю, што галоўным нашым заданнем павінна быць ілюстрацыя сацыяльнага побыту беларусаў у Польшчы. Творы нашы павінны даносіць да чытача акрэсленыя палітычныя і грамадскія ідэі. Ідэі новага павінны запанаваць у нашых творах поўнасцю. Зразумела, што мы далей павінны апісваць прыроду. Прыроды

нельга аддзяліць ад жыцця народа. Па майму суб'ектыўнаму перакананню, у нашых вершах, апавяданнях, нарысах і публіцыстыцы павінны мацней загучэць белавежскія матывы. Не думаю, каб трэба было выкідаць з нашых твораў такія адвечныя паэтычныя рэквізіты, як месяц, жоўтыя асеннія лісты ці кроплі рос – рэквізіты, якія іграюць значную ролю ў нашых літаратурных спробах" (135). Ды далей зноў гучыць перасцярога адносна ўспрыняцця жыцця "выключна з вышыні месяца і праз прызму сакавітых рос", акуляраў "з жоўтых асенніх лістоў". Адным з найбольш актуальных заданняў, як бачыцца старшыні "Белавежы", з'яўляецца "адкрыццё зялёнага святла для сацыяльнай і нацыянальнай праблематыкі". Перакананне А. Барскага аб тым, што "няма нічога больш індывідуальнага як літаратурны твор, але няма нічога больш грамадскага як літаратурны твор", гучыць амаль ва ўнісон з лейтматывам ці не ўсіх славянскіх, прынамсі ўсходнеславянскіх, літаратур адносна грамадскай значнасці літаратуры, ролі яе ў сацыяльна-гістарычных працэсах. Адзначае А. Барскі слабую сувязь творчасці "белавежцаў" з беларускай вёскай, што пакуль няма вершаў, "якія ілюстравалі б жыццё селяніна, імкненні беларускай моладзі, побыт беларусаў, жывучых у гарадах". Праўда, у гэтай па-свойму пафаснай крытыцы як бы забываецца ён пра прысутнасць у "белавежскіх" шэрагах, напрыклад, паэта-селяніна Ул. Гайдука. Аўтар артыкула прыходзіць да празрыстай высновы: "Нашыя пошукі мусяць цесна звязвацца з жыццём народа, з якога мы вышлі і да якога заўсёды вяртаемся". І на заканчэнне ён звяртаецца з просьбай да чытачоў, каб выказаліся, чаго ж яны чакаюць ад сваіх літаратараў, каб параілі, "аб чым мы павінны пісаць у сваіх вершах, апавяданнях, сцэнічных творах" (136).

Артыкулу А. Барскага "Літаратурныя дасягненні і літаратурныя заданні" папярэднічала важкая фальклорная частка, прадстаўленая народнымі песнямі, казкамі, прыказкамі і прымаўкамі, загадкамі, сабранымі студэнтамі беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта і Завочнай Настаўніцкай Студыі, а таксама вучнямі Беларускага Бельскага ліцэя, выбраныя А. Баршчэўскім і М. Гайдуком. А вось следам за развагамі пра "Белавежу" слова было дадзена самім "белавежцам". У жанры дзённікавых запісаў выступіў С. Яновіч ("Тры дні канікул"), з вершамі – А. Барскі, А. Свісёк, В. Швед, Я. Бурш, М. Гайдук, Я. Хлябіч, з апавяданнем – В. Баршчэўскі ("Русалка"). Завяршалася літаратурная частка календара гумарыстычнымі творамі А. Баравога, В. Шведа, А. Самасея, да якіх А. Барскі, як і да фальклорнай часткі, напісаў кароткі уступ, вызначаючы ў ім пазітыўную ролю гумарыстычнага жанру ў жыцці чалавека: "Усміхаючыся забываем аб тых прыкрасцях і клопатах, якімі поўнае жыццё амаль кожнага чалавека. Смеючыся робімся лепшымі. Затым часта ўсміхайцеся, ад гэтага прыгажэем, ад гэтага маладзеем. А хто ж не хоча быць маладым?"[18]. Трэба адзначыць, што літаратурная частка ў далейшых нумарах Беларускага календара стала

амаль адным з яго абавязковых складнікаў. Уласна рэдакцыйную калегію Календара звычайна па чарзе складалі і сябры “Белавежы”, якая ўваходзіла ў БГКТ.

Між тым 38-я Літаратурная старонка “Нівы” прысвячалася значнай падзеі ў жыцці літаб’яднання: нарэшце ў 1962 годзе пабачыла свет першая аўтарская кніга. Быў гэта паэтычны зборнік “зразумелага” (Я. Бурш) Алеся Барскага “Белавежскія матывы”. З нагоды выхаду кнігі інтэрв’ю “З Алесем Барскім за круглым сталом” правёў сам Г. Валкавыцкі, а Мацей Канапацкі аператыўна выступіў з кампетэнтнай, разгорнутай рэцэнзіяй. Падзякаваўшы за віншаванне, у адказ на згадку, што А. Барскі пачаў пісаць пазней за другіх, а з кнігай аказаўся першым, паэт памяркоўна адзначыў: “Тое, што вырастае раптоўна, даволі хутка вяне. Першая кніжка можа стацца апошняй”[19]. І “выдаў” сябрам па літаб’яднанню “рэцэпт на хуткае паўстанне зборнікаў паэзіі”: “Хай умакаюць свае аўтаручкі ў белавежскіх крыніцах”. Адказваючы на пытанне пра свой літаратурны ідэал, А. Барскі зазначыў: “Сярод пісьменнікаў Максім Багдановіч, сярод літаратурных відаў – лірычны верш, сярод герояў – дзяўчына...” Ці нечаканымі для субяседніка аказаліся развагі аўтара “Белавежскіх матываў” адносна яго планаў на будычыню? “Планаў не маю, творчай сістэмы таксама. Настрой падказвае, што пісаць. Часта падказвае такое, чаго я і сам не спадзяваўся. Часам маўчыць на працягу некалькіх месяцаў. Я не хвалююся, чакаю. Не ведаю, якія ён мае планы. Так ці інакш, я паслушны волі настрою”, – сказаў А. Барскі. Відаць, Г. Валкавыцкі, які таксама сябраваў з музамі паэзіі і друкаваўся пад псеўданімам Юрка Зубрыцкі, мог адказаць гэтаксама на сваё ж пытанне, бо што найперш, як не натхненне, вызначае нараджэнне мастацкага твора.

М. Канапацкі сваю рэцэнзію “Першая размова” распачаў са згадкі, што знаёмства чытача з Алесем Барскім адбылося нядаўна – толькі ў 1959 годзе, а змешчаныя на Літаратурнай старонцы і ў зборніку “Рунь” яго вершы аказаліся “добрай творчай заяўкай”. Крытык падкрэсліваў, што валоданне моўным матэрыялам і вобразнасць твораў “вылучылі Барскага адразу сярод жменькі беларускага літаратурнага маладняка ў Польшчы”[20], згаданы былі і шматлікія літаратурныя вечары, падчас якіх паэт выступаў з сваімі новымі творамі. Аднак менавіта зборнік вершаў, выдадзены Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства, дазволіў “убачыць Барскага ва ўвесь рост яго маладога таленту”. Далейшы глыбокі аналіз “Белавежскіх матываў” засведчыў, што “Ніва” мае ў сваім штаце таленавітага, удумлівага крытыка. Першая размова аб гэтым аўтарскім першынцу “белавежцаў” вялася на сур’ёзным прафесійным узроўні, які выключаў кампліментарнасць, паверхневую апісальнасць. Найперш М. Канапацкі засяродзіўся на тэме кахання, адзначыўшы, што якраз “каханне і становіцца найчасцей пэршакрыніцай паэтычнай творчасці, яе выпрабаваннем, уступаючы толькі значна пазней

месца другім хвалюючым паэта жыццёвым з’явам. Дык вось у Барскага дзе-нідзе ў трактоўцы гэтай тэмы адчуваецца аднастайнасць прыёмаў і паэтычных хадоў. Абвятшалыя эпітэты, збяднелыя вобразы, тое, што ўжо перапетае і забывае, сустракаем у паасобных вершах зборніка”. Слушнасць сваіх заўваг крытык падмацоўвае канкрэтнымі прыкладамі-радкамі. І тут жа выказвае шчырае шкадаванне, што патрапілі яны ў паэтычную кнігу, бо “паасобныя творы Барскага зусім добрыя. Падкупаюць чытача сваёй свежасцю і вобразнасцю”. Паэтычныя ж хібы “выкліканы хутчэй недастатковай патрабавальнасцю да сябе, чым няўмеласцю”.

З відавочнай прыемнасцю адзначае М. Канапацкі, што прырода-апісальная лірыка А. Барскага прываблівае чытача “сапраўднай паэтычнай атмасферай”, што асабліва датычыць вершаў “Айчына” і “Вечар”, у якіх матывы прыроды пераплятаюцца з матывамі хатняга кутка і юнацкага кахання. Звяртае ўвагу крытык на тое, як вырашаецца А. Барскім актуальная праблема адносін дзяцей вёскі, якія апынуліся ў горадзе, да сваёй малой Радзімы. У шэрагу вершаў А.Баркі выходзіць за межы асабістых перажыванняў, трывожачыся за лёс зямлі, бо “жыве ў той час, калі міру пагражаюць пачварныя намеры падпальшчыкаў новай вайны, (...) калі нельга маўчаць, быць бяздзейсным”. Значных поспехаў, на думку рэцэнзента, паэт дасягае ў трактоўцы тэмы інтэрнацыяналізму: “Асаблівай эмацыянальнай нагрузкай вызначаецца злабадзённы сваёй тэмай верш <Куба>”. Высока ацэньваецца ў рэцэнзіі цыкл вершаў пад назваю “Па слядах КПЗБ Грамады”, у якіх “аўтар атаясамліваецца з барацьбітамі гэтых партый, уводзіць сябе ва ўмовы іх астрожнага жыцця”. Дамінуюць, аднак, у першай кнізе А. Барскага малюнкі роднага, “сагрэтыя лірычным пачуццём, напоўненыя свежым подыхам белавежскай краіны”. Цалкам ва ўнісон добразычлівай патрабавальнасці, захапленню паэтычнымі знаходкамі А. Барскага прагучаў своеасаблівы падрахунак “Першай размовы”: “Яго першы паэтычны зборнік з’яўляецца перш за ўсё сур’ёзным творчым здабыткам самога аўтара. Прадстаўленыя ў “Белавежскіх матывах” творы сведчаць аб несумненных здольнасцях маладога творцы. Здзіўляе ў зборніку шырокі тэматычны дыяпазон вершаў, параўнальна значная іх колькасць з рознымі стылёвымі і жанравымі разнавіднасцямі. І тут нейк падсвядома агортвае аўтара гэтых слоў трывога за далейшы лёс паэзіі Барскага. Ці часам ён проста не бавіцца рыфмай і мастацкім сродкам, ці сапраўды сур’ёзна трактуе сваю творчасць? Столькі ж у зборніку стракатасці і вопытаў. Надта ж хочацца, каб паэт развеяў гэтыя сумненні і парадаваў сваіх чытачоў ужо ў недалёкай будучыні новым зборнікам”.

Рэцэнзент “Белавежскіх матываў” М. Канапацкі з 1957-га па 1964 год працаваў у рэдакцыі “Нівы”, адыходзячы, праўда, у беларускую рэдакцыю Радыё Беласток. Прысутнічаў ён і на арганізацыйным з’ездзе літаратурнай арганізацыі, з’яўляючыся ў яе шэрагах ці не адзіным

літаратуразнаўцам, крытыкам. Публікацыі выпускніка рускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, які абараніў першую ў гісторыі факультэта працу па беларускай тэматыцы, М. Канапацкага аб польска-беларускіх літаратурных узаемадачыненнях, аб канкрэтных аўтарах, літаратурных з'явах значна ўзбагачалі тагачасную "Ніву", яе Літаратурную старонку. Больш таго, сур'ёзнымі вынікамі пошукаў, асэнсавання прыцягвалі яны ўдзячную ўвагу і ў Беларусі. Г. Валкавыцкі ў сваіх "Вірах" прыводзіць як прыклад ліст выдатнага даследчыка прафесара Сцяпана Александровіча: "Я лічу (і не толькі я, а і многія літаратуразнаўцы Савецкай Беларусі), што "Ніва" робіць вельмі важную і каштоўную справу, змяшчаючы цікавыя артыкулы М. Канапацкага, багатыя фактычным матэрыялам"[21]. Варта згадаць назвы хоць некаторых з іх: "Янка Купала – вялікі прыяцель польскай літаратуры", "Беларускі фальклор – жыватворчая крыніца балад Адама Міцкевіча", "Успомнім Янку Лучыну", "Нацыянальнае пытанне ў творчасці Францішка Багушэвіча", "Кароткі гістарычны нарыс аб беларускіх мусульманах", "Стагоддзе беларускага перакладу <Пана Тадэвуша>", "Даклад аб польска-беларускіх узаемаадносінах", "Арцём Вярыга-Дарэўскі", "<Трэцяя ракета> на польскай мове". Дыяпазон інтарэсаў М. Канапацкага сапраўды ўражвае. І даўно наспелую, важную справу зрабіла ў 2011 годзе "Ніва", выдаўшы своеасаблівы збор твораў гэтага шчырага падзвіжніка на беларускай культурна-літаратурнай ніве[22].

Шкада, што патэнцыял М. Канапацкага, аб чым сведчаць яго "ніўскія" артыкулы, не выкарыстоўваўся больш актыўна ўнутры літаратурнага аб'яднання, а дэфіцыт прафесійнай крытыкі аднак востра адчуваўся і самімі "белавежцамі". Так, на наступнай 39-ай Літаратурнай старонцы слова зноў узяў Я. Бурш. У нататках "Не толькі вершы і апавяданні" аўтар згадваў, што Літаратурнай старонцы аб'яднання ў чэрвені споўніцца чатыры гады, чаго цалкам дастаткова каб "здабыць пэўную вопытнасць і акрэсліць сваю мэту"[23]. Ды, на яго думку, тое, што змяшчаецца на Старонцы, адлюстроўвае "менш, чым мінімум тых праблем, якія павінны жыва цікавіць членаў літаб'яднання. Як да гэтага часу мы амаль што агранічыліся да публікавання вершаў і апавяданняў". І робіць далей вельмі істотную заўвагу: "За амаль чатыры гады на літстаронцы не паказалася ні адной палемікі між нашымі аўтарамі. Адсутнічае таксама крытыка, якая павінна памагчы нам знайсці прычыны застояў у некаторых месцах нашай творчасці". Далей Я. Бурш выказваў цалкам каструктыўныя прапановы адносна зместу "Трыбуны літаратурнага аб'яднання". Хацеў бы ён бачыць інтэрв'ю з членамі арганізацыі, "каб ад іх даведацца чагосьці больш аб поглядзе не толькі на тэму мастацтва, але і на праблемы сённяшняга дня, чым тое, што яны гавораць у вершах ці апавяданнях". Абавязкам "белавежцаў" мусіла б стаць рэцэнзаванне цікавейшых твораў беларускай літаратуры, што садзейнічала б прапагандаванню беларускай кнігі. Панаракаў Я. Бурш і на тое, што мала на Літстаронцы змяшчаецца перакладаў з іншамоўных

літаратур: “Пераклады ж маюць вялікае значэнне ў працы літаратара”. Далей, уласна вярнуўшыся да ўжо выказанага, амаль з горыччу ён канстатаваў: “Адсутнічаюць удумлівыя спрэчкі на розныя літаратурныя праблемы, якія павінны нам шмат выясніць дыскусійных пытанняў і памагчы ў рашэнні блізкіх і цяжкіх для нас спраў”. Варта было б, на думку Я. Бурша, “навязаць кантакты з равеснікамі нашымі ў польскай літаратуры, а таксама пісьменнікамі Савецкай Беларусі”, прадстаўляючы іх на Літаратурнай старонцы. Такім чынам у кароткім матэрыяле былі выпуклены вузлавыя моманты агульнага развіцця літаратурнага аб’яднання. Праўда, падаецца, што ў гэтакім крытычным, завостраным падыходзе Я. Бурша да спраў літаб’яднання выявіўся пэўны максімалізм – своеасаблівае імкненне апярэдзіць непазбежны працэс станаўлення творчай арганізацыі, калі “высокае неба ідэалу” (А. Вярцінскі) набываецца кожным творцам паасобку, а не ў калектыўных намаганнях. Ды і тая ж Літаратурная старонка сведчыць аб рэгулярных семінарах аб’яднання, літаратурных конкурсах. Значыць, арганізацыя паступова ўбіралася ў творчую сілу, а крытычны імпэт Я. Бурша, відаць, апяраджаў магчымасці маладой “Белавежы”.

Аднак “белавежскі“ час выспеліў і сапраўдную літаратуразнаўча-крытычную палеміку. У 48-м нумары Літаратурнай старонкі “Белавежы” ў “Ніве” пад назвай “Больш інтэнсіўнасці” быў надрукаваны скарочаны даклад старшыні літаб’яднання А. Барскага на справаздачна-выбарным сходзе 6 кастрычніка 1962 года. Сімптаматычна, што распачынаўся ён з разваг пра “дыскусіі аб характары, сэнсе, змесце і форме верша”. Аўтар сцвярджаў, што традыцыйная паэзія рыфмы і рытму перажывае несумненны крызіс, абумоўлены канфліктам паміж “імкненнем паэтаў да вычварнай, незразумелай архітэктонікі вобразаў верша, з аднаго боку, і чытача, які не намерваецца ламаць галаву над тым, каб у канцы канцоў пераканацца, што вершы гэтыя не толькі адмаўляюцца ад лагічнай формы, але і часта лагічнага зместу”[24]. А. Барскі лічыць, што форма старой паэзіі аджыла свой час і пошукі новых форм з’яўляюцца неабходнасцю, але ж “паэт у сваіх пошуках павінен вычуваць межы творчай свабоды, каб не ступіць лішняга кроку і не паляцець у бездань недарэчнасці абсалютнага суб’ектывізму і поўнага разрыва з чытачом”.

Звярнуўшыся да “эскізных рысункаў-партрэтаў некаторых членаў нашага аб’яднання”, выпускнік Лодзінскага ўніверсітэта, які на той час працаваў ужо ў Варшаве і меўся праз чатыры гады абараніць кандыдацкую дысертацыю па творчасці Якуба Коласа, Аляксандр Баршчэўскі (паэт Алесь Барскі) праз тры гады пасля выхаду “Руні” і “лімаўскай” рэцэнзіі на яе, як і Я. Шарахоўскі, характарызуючы творчасць В. Шведа, назваў паэта прадстаўніком найбольш традыцыйнай паэтычнай школы: “Яго вершы нібы жыўцом выняты з купалаўскай паэтычнай стыхіі”. Было падкрэслена, што В. Швед – самы папулярны паэт з “белавежцаў”, што ведаюць яго па цэлай Беласточчыне. Прычыну такой папулярнасці

А. Барскі бачыў у наступным: “Паэзія Шведа амаль цалкам пазбаўлена вузкага суб’ектывізму (...). Швед піша заўсёды аб справах аб’ектыўных, рэальных, агульна вядомых, для ўсіх зразумелых і даступных. (...) Можна спрачацца аб вартасці паэзіі Шведа. Калі аднак прыняць, што асноўным мерылам вартасці твора з’яўляецца ацэнка масавага чытача, дык няма ніякіх сумненняў, што Швед паэт значнай рангі і вялікага грамадскага значэння”.

У значнай ступені іначай, чым у “лімаўскай” рэцэнзіі, гучыць на літаратурнай старонцы “Белавежы” ацэнка творчасці Я. Бурша, што відавочна абумоўлена самім літаратурна-культурным кантэкстам існавання беларускага аб’яднання, магчымасцю непасрэднага знаёмства з польскай літаратурай, непасрэдна адкрытай заходнееўрапейскім уплывам. А. Барскага, у адрозненне ад Я. Шарахоўскага, ніякім чынам не бянтэжыць і форма верша Я. Бурша. “Вузкі суб’ектывізм – гэта галоўны элемент паэтычных канцэпцый Бурша, – адзначае старшыня “Белавежы”. – Суб’ектывізм гэты чыніць яго паэзію незразумелай шырокаму колу чытачоў. І таму не можа быць гутаркі аб шырокай папулярнасці Яшы ў беларускім асяроддзі. Няма аднак ніякіх сумненняў, што вершы яго стаяць на высокім мастацкім узроўні. Маюць яны арыгінальны непаўторны сэнс, унутраную індывідуальнасць, уласную буршаўскую філасофію, без якой не можа быць гутаркі аб высокай мастацкай паэзіі. Думаю, што варта толькі цешыцца, што ў нашым асяроддзі знаходзіцца чалавек тыпу Бурша, які з’яўляецца звяном, звязваючым традыцыю з новымі пошукамі сучасных паэтаў”.

Уносіць свае карэктывы А. Барскі і ў характарыстыку творчасці А. Свіська, адзначаючы, што яна “становіць” “асобную карту”, што “няма сярод нас паэтаў, якія маглі б перагнаць Свіська ў майстэрстве малявання перажыванняў і спецыфікі быту настаўніцкага асяроддзя”. Адзіны верш “Сад” яшчэ ліцэіста Янкі Дубіцкага (Яна Чыквіна), змешчаны ў “Руні”, як і Янкі Беразаўца, Зосі Бусловіч, Тодара Грушкі, Уладзіміра Дарашкевіча, не стаўся падставай для ацэнкі твораў паэтаў у “ЛіМе”, але, як ужо згадвалася, Я. Шарахоўскі прадбачыў, што і гэтыя аўтары могуць мець адметны творчы патэнцыял. У “ніўскай” публікацыі А. Барскага пацвярджалася слушнасць прагучаўшай з Мінску надзеі: “Цікавай індывідуальнасцю творчай манеры ў паэзіі і прозе адзначаецца Янка Дубіцкі. Творчасць яго – гэта глыбокі аналіз унутраных перажыванняў, псіхічных камплікацый і станаў, якія ў перакананні аўтара з’яўляюцца галоўным рухавіком чалавечага дзеяння. Дубіцкі творыць прозу глыбока псіхалагічную, пераймаючую чытача сваім гуманным зместам. У яго паэзіі выступаюць прыгожыя радкі, параўнанні і вобразы”. Вершы маладога паэта, па словах А. Барскага, “належаць, несумненна, да высокамастацкай паэзіі”. Звяртае А. Барскі таксама ўвагу “на надзвычай арыгінальны гумар Заставіна”, цікавыя вершы Д. Шатыловіча і шкадуе, што абодва аўтары пішуць вельмі рэдка, а вось В. Баршчэўскі і Сошка

перасталі пісаць наогул. Адзначаецца: “Нямала ўнеслі ў нашую творчасць С. Яновіч, Я. Хлябіч, Мікалай і Уладзімір Гайдукі, а таксама многія іншыя аўтары”. І заканчвалася публікацыя А. Барскага “заахвочваннем да большай інтэнсіўнасці ў творчасці”.

Дарэчы, якраз на Трэцім з’ездзе Літаратурнага аб’яднання ў справаздачным дакладзе А. Барскага прагучала думка аб спалучэнні Літаратурнага аб’яднання з беларускімі мастакамі і журналістамі. Было вырашана выбраць назву арганізацыі. З агучаных трох слушна спыніліся на “Белавежы” , а з дыстанцыі паўстагоддзя нават дзіўна ўсведамляць, што ў якасці альтэрнатывы прапаноўваліся яшчэ назвы “Пошукі” і “Рунь”. У выніку з 4 кастрычніка 1962 года была ўдакладнена назва Літаратурнай старонкі, а менавіта: “Аўтаномная старонка літаратурна-мастацкага аб’яднання <Белавежа>”.

Ужо праз два выпускі Літаратурнай старонкі А. Барскі выступіў з прапановай аб дыскусіі “Якой павінна быць паэзія?”. Сапраўды, гісторыя ўзнікнення крытычнай думкі непарыўна звязана з самім нараджэннем мастацкага тэксту, выкліканымі ім у слухача (чытача) адносінамі, эмоцыямі, якія паступова, разам з эвалюцыяй прыгожага пісьменства, афармляліся ў выказванні самага рознага кшталту і ўрэшце выкрышталізаваліся ў літаратуразнаўства, крытыку. “Адносіны гэтыя да сёння выступаюць у форме мысленных рэакцый, вусных дыскусій, друкаваных палемік і разважанняў. Кожная з гэтых форм каштоўная і цікавая. Таму што дае пісьменніку магчымасці глянуць на свой твор чужымі вачыма тых, для каго піша ён свае вершы ці прозу. Такім чынам кожная крытычная заўвага ці выказванне можа стацца сродкам удасканальваючым мастацкую літаратуру. Да найменш цікавых належаць тут выказванні саміх паэтаў, якія найчасцей у такой ступені “закаханыя” ў сваёй творчасці, што апрача апалогіі, пахвалы і захаплення нічога ад іх не пачуеш. У гэтым сэнсе паэты значна ўпадабняюцца да матак, якім здаецца, што іх дзеці найцікавейшыя, найпрыгажэйшыя і найразумнейшыя. І вось, калі такі паэт-матка пераканаецца, што адносіны іншых людзей да яго верша-дзіцяці зусім супраціўлеглыя яго ўласным ацэнам, даходзіць да такога ўнутранага абурэння і злосці, што перастае “тварыць” увогуле або стараецца пісаць згодна з пастулатамі чытача. Як бачыце, як першы так і другі вынік карысныя, бо вызваляюць нас ад слабой паэзіі і гарантуюць паяўленне лепшых вершаў”[25]. Далей старшыня літаб’яднання канкрэтызаваў шэраг праблем, якія, на яго думку, варта было б абмеркаваць: “1. Якой павінна быць паэзія 2. Наватарства і традыцыі ў паэзіі 3. Ці патрэбна вершам рыфма 4. Якая тэматыка павінна дамінаваць у паэзіі: а/ прырода б/ каханне в/ грамадска-палітычная праблематыка г/ польска-беларускае супрацоўніцтва д/ вобразы з гістарычнага мінулага е/ візія будучага ж/ жыццё настаўніцтва з/ сучасная вясковая моладзь і/ хібы і заганы чалавечых характараў 5. Які ж тып верша найбольш поўна адказвае такім густам: кароткі верш, доўгі

верш, паэма, верш з гумарыстычнымі элементамі 6. Ацэнка творчасці беларускіх паэтаў ў Польшчы: а/ што ў гэтай паэзіі належыць да каштоўных здабыткаў б/ што павінна быць адкінута як пазбаўленае мастацкай вартасці, в/ якія пастулюеш формы кантактаў паэтаў з чытачамі г/ ці павінны ісці нашы паэты за манерай, пануючай у сучаснай польскай паэзіі". Дзеля ажыўлення дыскусіі меркавалася друкаваць побач з крытычнымі матэрыяламі розныя тыпы вершаў, каб чытачы маглі паразважаць аб спецыфіцы і вартасцях "розных паэтычных гатункаў, творчых напрамкаў і манер".

Варта ўзгадаць, што на пачатку 60-х гадоў у Беларусі "аблічча тагачаснай крытыкі пачало вызначацца палемічным жанрам у яго разнастайных формах"[26]. Міхась Мушынскі падае ў сваім асэнсаванні крытыкі і літаратуразнаўства перыяду дэмакратычнага абнаўлення (1956—1965) цікавыя факты. Так, калі з 1956 па 1959 год у беларускай перыёдыцы адбылася толькі адна дыскусія (з удзелам А. Адамовіча і Т. Хадкевіча), то на працягу 1960—1965 гадоў дыскусіі ішлі бесперапынна. "Вось толькі асобныя з іх: аб маладой паэзіі (студзень – красавік 1960 г.), аб майстэрстве (студзень – чэрвень 1961 г.), "Наш сучаснік у жыцці і ў мастацтве" (сакавік –ліпень 1961 г. ), аб тэатральным мастацтве, аб становучым героі ў беларускіх п'есах (1962), "Пісьменнік і час" (кастрычнік 1962 – май 1963 .), аб сучасным беларускім рамане (1963—1964 гг.), аб праблемах дзіцячай літаратуры (чэрвевь – лістапад 1965 г.)"[27]. Дыскусію "Пісьменнік і час" наконт традыцый і наватарства ў беларускай літаратуры распачаў на старонках "Літаратуры і мастацтва" Міхась Стральцоў. Была гэта, па сутнасці, спрэчка "з ахоўнікамі застарэлай нарматыўнасці ў разуменні дагматычна прынятых традыцый, ідэалагічных пастулатаў"[28].

Так што ў адзін і той жа час па абодва бакі мяжы ва ўнісон беларускія пісьменнікі разважалі, спрачаліся аб прынцыпова важных для прыгожага пісьменства пытаннях.

Слова ў шчырай, нават гарачай гаворцы, узялі Віктар Швед, Юрый Фарына, Іван Чыквін, Яша Бурш, Францішак Берніковіч, Віктар Рудчык, Сымон Раманчук і іншыя. Творчы вопыт старэйшых і маладзейшых "белавежцаў" ужо даваў падставы для разваг, пэўных высноў. Дыскусія засведчыла аб сур'ёзнасці намераў, патэнцыяле беларускіх літаратурных сіл Польшчы. І вопыт гэтай палемікі, як і далейшых унутраных спроб, падыходаў асэнсавання пытанняў літаратурнага працэсу, спецыфікі менавіта "белавежскага" творчага жыцця, адлюстраванага пераважна на "Літаратурнай старонцы" "Нівы", у "Беларускіх календарах", з'яўляючыся проста абавязковым пры разглядзе феномену "Белавежы" – яе шматгадовага станаўлення, развіцця, мусіць быць урэшце прааналізаваны і сістэматызаваны. Бо без яго, немагчыма абысціся пры стварэнні цэласнай гісторыі ўсяго беларускага прыгожага пісьменства. Беларускае ж літаратурнае аб'яднанне ў Польшчы, безумоўна, прадстаўляе сабой

неад'емную, арганічную частку агульнага беларускага літаратурнага руху, пачынаючы з другой паловы мінулага стагоддзя.

Першым аб сваім разуменні праблем традыцый і наватарства ўзяў слова Віктар Швед, адзін з найвопытнейшых на той час "белавежцаў". Відаць, патрэба выказацца саспела ў ім яшчэ да абвяшчэння дыскусіі, а стымулам таму сталася справаздачнае выступленне А. Барскага, у якім паэзія В. Шведа была асаджана ў традыцыйную паэтычную школу, названа "архаічнай". І В. Швед пачынае з абароны "старой традыцыйнай формы паэзіі", нават з абурэннем канстатуе, што "найбольш модны цяпер той паэт, які ў сваёй творчасці найменш зразумелы. Сучасныя модныя паэты не карыстаюцца папулярнасцю ў шырэйшым крузе чытачоў (...) Будучы ў пагоні за нейкай вычварнай формай, губляюць па дарозе змест і сэнс верша"[29]. В. Швед лічыць неапраўданым чаканне "сучасных модных паэтаў", што чытач будзе падцягвацца да ўзроўню іх мастацкага мыслення. Так што прадстаўнікам новай паэтычнай школы няма чаго разлічваць на шырэйшае кола чытачоў. Пра сябе паэт заяўляе: "Я, напрыклад, з'яўляюся староннікам такой паэтычнай формы, якая з'яўляецца найбольш зразумелай, найбольш даступнай чытачу. Разлічваю на больш масавага чытача". Аднак, паэт мае на ўвазе і той факт, што чытач між тым "пачынае штораз глыбей цаніць і разумець паэзію. Наш чытач усё часцей становіцца незадаволеным, калі паэт пакідае ўсе свае думкі наверсе, калі над вершам не трэба задумоўвацца". Значыць, усё ж імкнецца адкрыць у вершы штосьці прыхаванае, што б памагала лепш зразумець яму самога сябе... Адпаведна, лічыць В. Швед, паэт, каб быць запатрабаваным са сваёй творчасцю, мусіць пастаянна быць "у пошуках як новага зместу, так і новай формы верша". Крыўдзіць В. Шведа тое, што яго называюць "кансерватарам, няздольным вырвацца з зачараванага кола рыфмы", якая нібы замінае паўнавартаснаму паэтычнаму выказванню. Паэт слушна падкрэслівае, што да вольнай формы верша звярталіся і ў ранейшыя часы, што, акцэнтуецца ён, "справа не так у форме, як у характары мастацкага мыслення паэта, якое ўбірае ў сябе ўсю разнастайнасць сучаснага жыцця". Найгалоўнае для паэта, на думку В. Шведа, якраз ведаць жыццё і праўдзіва адлюстроўваць яго ў сваёй творчасці, а мастацкае "ўвасабленне новага зместу непарыўна звязана з пошукамі новай формы верша". Адзначаючы, што нельга пазбегнуць "жыватворчагу ўплыву нашай класікі", паэт не збіраецца пры тым "аддацца поўнасцю ў палон літаратурным традыцыям і стацца іх эпігонам". В. Швед усведамляе, што літаратурная справа не з лёгкіх і не заўсёды пошукі прыносяць поспехі. Самакрытычны ён пры ацэнцы сваёй творчасці: "Добра ведаю, што маёй паэзіі надта далёка да дасканаласці. Шмат яшчэ ў ёй прымітывізму, расцягнутасці, абагульненняў, пустаслоўя. З гэтымі паважнымі недахопамі вяду пастаянную барацьбу". Звяртае В. Швед асаблівую ўвагу на тое, што верш павінен

быць кароткім і змястоўным, апелюючы пры гэтым да слоў маладога, але на той час ужо аўтарытэтнага рускага паэта Андрэя Вазнясенскага. І прыярытэтам для В. Шведа з'яўляецца не адмаўленне ад рыфмы, "а адыход ад апісальніцтва, абагульненняў, уласцівых маёй паэзіі – вось мае імкненні. Больш базаваць на дэталях, не паказваць цэлага прадмета, а перадаваць пачуцці, думку, настрой, якія выклікае гэты прадмет". Урэшце, падводзячы вынікі сваіх разваг, падставы для таго, каб паэт мог называць сябе сучасным, В. Швед выводзіць з вывучэння і праўдзівага адлюстравання ў творчасці інтэлектуальнага багацця сучаснага чалавека і шматграннага жыцця народа. Гэтае шчырае выступленне аднаго з найвопытнейшых паэтаў "Белавежы" прагучала як своеасаблівае яго паэтычнае крэда. Лапідарна была акрэслена, па сутнасці, праграма творчага развіцця.

Наступную Літаратурную старонку адкрыў дыскусійны артыкул "Крыху аб паэзіі" студэнтаў філалагічнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта Юрыя Фарыны і Івана Чыквіна. Маладыя філолагі (у будучым прафесура!) найперш задумаліся над месцам і роллю ў літаратурным працэсе крытыкі, якая, з'яўляючыся сапраўды добразычлівай, можа стаць "маяком для мастака". "Змяняюцца літаратурныя гатункі, "чыста" літаратура зліваецца з філасофіяй і маралістыкай, распадаюцца фабулы і г. д. Так як крытыка неаддзяліма ад літаратурных твораў і яна адчувае гэтыя змены: граніцы паміж крытыкай і белетрыстыкай заціраюцца. Але якое б месца ні займаў у літаратурным жыцці крытык, трэба ведаць, што дагэтуляшні міф аб крытыку, як аб аўтарытэтным суддзі твора разрушыўся, паколькі кожны крытык судзіць можа толькі ў граніцах выказваемага ім эстэтычнага кодэксу. Найбольшыя аднак правы застаюцца за самім аўтарам"[30]. З максімалізмам маладосці аўтары заяўлялі, што мастацка-эстэтычнае ўвасабленне вобразу сучаснасці патрабуе ад паэта выкарыстання "зусім новых сродкаў". І спасылаліся таксама на аўтарытэт А. Вазнясенскага: "...будущее за ассоциациями". Студэнты Варшаўскага ўніверсітэта перасцерагалі, што многімі паэтамі паэзія яшчэ разумеецца як хроніка, бытапісальніцтва: "Яны пішуць у старых формах, хоць і аб новым". Пагаджаючыся, што: "Добрая паэзія такога тыпу – значны ўклад у літаратурны фонд", крытыкі зазначалі, што для ўмоўна кажучы традыцыяналістаў "астаецца адно пытанне: <што сказаць?>", а вось "для паэтаў-асацыяцыстаў важнае і другое пытанне: <як сказаць?>, праз што яны часам пападаюць у фармалізм, пачынаюць недарэчную балбатню". Такім чынам, аддавалася належнае і традыцыйнаму і наватарскаму ў літаратуры, хоць дадаткова адзначалася, што так званая новая паэзія нясе ў сабе "інтэлектуальна-эмацыянальны ладунак", вельмі цікавая ў сваіх пошуках і, што істотна, пішацца "для адукаванага чалавека" і знаходзіць такога чытача ўсё часцей.

Выказаўшы свае канцэптуальныя погляды на развіццё сучаснай паэзіі,

у другой частцы артыкула Ю. Фарына і І. Чыквін рашуча акцэнтаваліся непасрэдна на вопыце “белавежцаў”: “Беларуская паэзія ў Польшчы, хаця яна прадстаўляе сабой рунь, густа заросшую зеллем, цікавая тым, што яна ад самага пачатку свайго нараджэння расце ў двух напрамках. Адзін з іх прадстаўляе Віктар Швед, паэт перад усім грамадска-палітычнай праблематыкі, па форме верша – традыцыяналіст. Другі напрамак вызначаецца творчасцю Яшы Бурша, паэта, які імкнецца да творчай свабоды”. Маладыя крытыкі канкрэтызаваліся якраз на творах узгаданых аўтараў. На падставе аналіза верша В. Шведа “Галінка бэзу”, звяртаючы ўвагу на “недапрацаванасць” радкоў, яны адзначалі: “Відавочна, не паэт валодае формай, а форма ім. В. Швед стараецца напоўніць збанок, калі трэба збанок і ляпіць, і напаўняць яго”. Вельмі ўдалы, на думку Ю. Фарыны і І. Чыквіна, верш “Вятрак” “псуе найвыразней чацвёртая зваротка, у якой аўтар, не давяраючы чытачу, дакладна раскрывае сэнс верша”. Згадваючы слушнае меркаванне самога паэта аб растучай патрабавальнасці чытача, выказанае паэтам на папярэдняй “Літаратурнай старонцы”, аўтары артыкула закідаюць яму, што ў вершы “Медны коннік” ён стараецца падаць адначасова максімум інфармацыі: паказаць і помнік цара, і горад, і асобу цара, і гісторыю горада, а таксама сваё стаўленне да Пятра І. Адным словам, замест творчага пераасэнсавання і імпульсу для разваг чытач атрымлівае сухі пералік розных з’яў. Пры тым адзначаецца, што вось у вершы В. Шведа “Закляты ў камені”, наадварот, адна дэталь “раскрывае ўсю жудасць атамнай вайны”. Крытыкі падкрэсліваюць таксама, што В. Швед “патрапіць напісаць добры верш, не выясняючы падтэксту”, аб чым сведчаць, напрыклад, “Нашыя прыгажуні”. Перш чым перайсці да кароткага разгляду твораў “наватарскай” лініі, Ю Фарына і І. Чыквін канстатуюць, што “сённяшні чытач не задавальняецца параўнаннямі ўчарашняга дня”, заклікаючы прадстаўнікоў “традыцыйнай” паэзіі быць больш арыгінальнымі пры ажыццяўленні мастацкай ідэі.

Маладыя крытыкі, зразумела, усведамляюць, што сам зварот да “новых” форм не гарантуе мастацка-эстэтычнай якасці паэзіі. І тут выказваюць слушныя прэтэнзіі да некаторых вершаў яркага прадстаўніка другога вызначальнага “белавежскага” накірунку – да Яшы Бурша. Пагоня за арыгінальнасцю, як і Пракрустава ложа рыфмы, таксама “даводзіць да нелагічнасці”. Што значыць: “бярэмем праменні зжынаю”?! Генеральна, на думку крытыкаў, Я. Бурш у сваіх вершаў “захоўвае раўнавагу, ён зразумелы, хоць гаворыць абстрактамі”. Аднак, закідаюць яму Ю. Фарына і І. Чыквін, што паэт “зачастую паўтараецца”. Прыводзяць прыклад, што на сем яго вершаў толькі ў двух няма “пялёсткаў” і “летуценняў”.

Заканчваецца артыкул “Крыху аб паэзіі” досыць памяркоўна і, можна сказаць, акадэмічна, высноваю, слушнаю на ўсе часы існавання паэзіі: “Напэўна не форма верша перашкаджае паэзіі, а рамесніцтва, якое

замяняе мастацтва. Не "выгляд" верша сведчыць аб яго навізне, але заложаная ў ім думка і новае ўспрыманне з'яў". Такім чынам за кожнай творчай індывідуальнасцю прызнавалася права выбару адпаведнага якраз ёй спосабу творчага выказвання. Хоць варта зазначыць, што агульны пафас артыкула варшаўскіх студэнтаў, нягледзячы на іх імкненне захаваць парытэт паміж усталяваным здаўна і новым, выдаваў, што ім усё ж бліжэйшая, больш адпавядае паэзія менавіта "наватарская".

У сваю чаргу выразна заманіфеставаў творчыя прынцыпы ў дыскусійным артыкуле "Будучыня ў пошуках", змешчаным побач, на той жа Літаратурнай старонцы, Яша Бурш. За яго спіною, народжанага ў 1929 годзе ў Баранавічах, была ўжо Варшаўская акадэмія мастацтва (1957 г.), быў досыць багаты жыццёвы вопыт. У блізкай перспектыве (1964 г.) мусіла пабачыць свет яго, адна з першых "белавежскіх", кніга паэзіі. Выразная назва "Прамень думкі" лапідарна засведчыць аб галоўным паэтычным прыярытэце аўтара, яго ўвазе найперш да ўнутранага, асобаснага ў чалавеку. Сваё паэтычнае крэда сціпла, але пераканальна, паэт выкажа вершам "Вершы": "Сваю далонь/ злучыў з пяром/ пахам гваздзікаў/ тушам дзён/ на кветках/ на блакіце незабудак/ пішу перажыванні/ каліграфую/ матывы пачуцця". Трэба падкрэсліць, што ў дыскусіі на старонках "Нівы" ўзяла слова асоба, для якой творчасць была ўласна зместам усяго жыцця. Я. Бурш разважаў, сыходзячы з вопыту мастака і паэта. (На жаль, з сярэдзіны 70-х гадоў ён цалкам прысвяціў сябе жывапісу).

"Характэрнай рысай усялякай творчасці ёсць прага пошукаў, незадавальненне з пройдзенага, крытычныя адносіны да канонаў і нязменнасці ў перспектыве часу. Нягледзячы на папулярнасць пэўных адзінак пры жыцці, ішоўшых выцертым шляхам, чалавецтва забываецца пра іх, а будучыня набірае пашаны да людзей у сваім часе выклятых за "авантурызм", "дзівацтва", "пачварнасць", якія творча адышлі ў цаліны чалавечай псіхікі і грамадскіх адносін. Прыглядаючыся ў гісторыі ўсім пераходам, ад аднаго мастацкага кірунку да другога, бачым вострую барацьбу між імі і наватары дорага аплачваюць сваю перамогу"[31], – так з выказу свайго разумення, па ўсім відаць, сутнасна важных для яго момантаў, распачаў гаворку ў сваім артыкуле Я. Бурш. Далей ён сведчыў: "Творчая адзінка сваёй мэтай існавання лічыць абавязкам уносіць хаця б мінімум новага, уласнага ў рэчаіснасць. Творчая адзінка надзвычай цэніць здольнасць абстракцыйнага мышлення, якое вызваляе пачуццё свабоды, неабходнай да аб'ектывізацыі ўсякіх працэсаў, ідэй, густаў, вызваляе ўпэўненасць, ахвоту пошукаў і чар надзей, сілы да рэалізацыі сваіх візій". Я. Бурш звяртае ўвагу на своеасаблівую ролю мастака ў грамадстве, якая звязана з псіхалогіяй творчасці, зазначаючы, што "хаця мастак і звязаны эмацыянальна з асяроддзем, але ж глядзіць на людскія зносіны з перспектывы, без якой убачыць істоту іх немагчыма, каб у сваім уяўленні аб'ектыўна адлюстроўваць кантрасты жыцця, дзе адны

погляды пры супастаўленні з другімі набіраюць іншага сэнсу”. І што вельмі важна: Я. Бурш усведамляе адказнасць мастака за сваю дзейнасць і час, у які яму выпала жыць, і толькі з такой унутранай пазіцыі можа быць адшуканы “сэнс нашай рэчаіснасці”. Поспех у любым мастацтве абумоўлены шчырасцю самавыяўлення, у працэсе якога ўзнікае адзіна магчымая асабовая мастацка-эстэтычная матэрыя, раскрываецца сусвет чалавечай душы. Некалі ж і вялікі Леў Талстой выразна выказаўся: “Будзьце шчырымі і будзеце індывідуальнымі”. “Белавежац” Я. Бурш пераканальна канстатаваў: “Без вялікай шчырасці, спрэчак, зычлівай крытыкі, штурму фантазіі кожная галіна мастацтва кастнее”.

У наступнай частцы свайго артыкула Я. Бурш спрабуе разабрацца, што ж уяўляе сабой рэалізм – “метад”, “паставу”? І з разуменнем сутнасці справы сцвярджае: “Аднак калі рэалізм разумець як адлюстраванне аб’ектыўнай рэчаіснасці, дык неабходна гэтую рэчаіснасць паказаць як найшырэй, з усімі адценнямі фантазіі і кантрастамі фактаў, матывамі нашай свядомасці і з’явамі, уцякаючымі нашай кантролі. Між чалавекам-творцам і аб’ектыўнасцю прыроды дзейнічаюць грамадскія правы, эстэтычныя густы, ідэалогія, палітычная неабходнасць і т. п., якія застаюцца актыўнымі адносна чалавечых пачуццяў. Кожны чалавек, звязаны з творчаю працаю, знаходзіцца пад націскам дзеяння вышэй успамянутых фактаў сярод акрэсленай грамадскасці, у акрэсленым перыядзе часу і твор, які паўстае ў даным моманце, ёсць часткаю пануючай рэчаіснасці незалежна ад таго, ці абцяжаны ладункам эмоцыі, фантазіі ці сухіх фактаў”. Я. Бурш перакананы, што перавага пры пераўтварэнні рэчаіснасці ў мастацка-эстэтычную матэрыю мусіць аддавацца не канкрэтным здарэнням і іх вынікам, а найперш – перажываннням, ілюзіям, расчараванням. Адным словам, таму, як уплываюць падзеі на душэўны стан чалавека, яго пачуцці. Аўтар артыкула “Будучыня ў пошуках” прыгадвае, што літаратура мінулага і сучаснасці дае дастаткова прыкладаў таму, калі “амаль фантастычнае прадстаўленне паўсядзённасці больш гаворыць аб рэчаіснасці, чым натуралістычнае апісанне. Няма рэчаіснасці і няма творчасці без удзелу фантазіі. А тады рэалізм трэба лічыць як адну з магчымых форм выражэння, аднак не адзіную”. Перакрэсліванне псеўдарэалістамі іншых творчых метадаў акрэсліваецца Я. Буршам як вульгарнасць і дагматызм. Погляды ж аб тым, якімі павінны быць літаратура і мастацтва, мусяць выпрацоўвацца не “пры круглым стале афіцыйнасці”, а “на падставе канкрэтных кніжак, карцін, п’ес”. У згадванні эпохі Рэнесансу, як перыяду найвялікшай мастацкай свабоды, выяўляецца перакананасць Я. Бурша ў тым, што і сучасная эпоха дае чалавеку самыя разнастайныя магчымасці для рэалізацыі ў творчасці. І яму выдаюцца абсурднымі погляды людзей, якія, сцвярджаючы, што “сацыялістычная культура” павінна быць багацейшаю за папярэднія, адначасова абмяжоўваюцца ад мастацкіх дасягненняў мінулага. Паэт усведамляе важнасць мастацка-

эстэтычнай спадчыны і пры тым ідзе далей: “Мы павінны прысвячаць усё больш увагі новым формам і новаму зместу ў мастацтве. Паэзія без новых форм не можа выявіць чытачу зусім іншай псіхічнай канструкцыі і іншых жыццёвых дасведчанняў новага зместу, ані розных поглядаў на нашу рэчаіснасць”. Назва артыкула “Будучыня ў пошуках” цалкам дакладна акрэслівала і пафас, і змест артыкула Я. Бурша. Ён сапраўды імкнуўся выкласці сваё разуменне сутнасці паэзіі, не звяртаючыся да канкрэтных прыкладаў, імёнаў, не выказваючы нараканняў на тое, што хтосьці адмаўляе ягоны спосаб паэтычнага выказвання. Найважнейшым для яго было дагукацца да чытача, а найперш, хіба, да калег па пяру. Адзначаючы, што сучасная паэзія насычана элементамі розных культур, што яна “рэтраспектыўная, збунтаваная, радыкальная па зместу”, што прысвячае вялікую ўвагу слову, не баіцца слоў “наватвораў”, стараецца вярнуць слову сэнс, “утрачаны ў дыялогу між духам і розумам”, што роля сучаснай паэзіі і яе характар “накідаюць ёй шорсткасць і незразумеласць”, Я. Бурш зазначае, што гэта і некаторыя іншыя моманты даюць падставы некаторым крытыкам залічыць яе, паэзію, да элітарнай. І вось з гэтым паэт рашуча не пагаджецца: “Элітарнай яна не з’яўляецца, хаця для ўсіх і не ёсць даступнай. Галоўнай мэтай яе не селекцыя чытача, а стварэнне новых вартасцей на грунце каштоўнай старыны. Вялікім яе клопатам ёсць фармаванне і ачышчэнне маральных і эстэтычных якасцей”. Заканчвае свой артыкул Я. Бурш словамі аптымістычнай надзеі ў тое, што зменшаныя ад часу Адраджэння “сэнс і значэнне” паэзіі набяруць сілы, каб “пралажыць пэўны шлях у будучыню”, бо паэзія “ўжо знайшла спосаб ахаплення людскіх дасведчанняў. Характарызуе рысы чалавечага лёсу нашых дзён”.

На чарговай 52-й Літаратурнай старонцы выступіў з палемічнымі развагамі “Якая мае быць паэзія” Францішак Берніковіч, “прыязны нам мазурскі віленчук”[32]. З самага пачатку ён спаслаўся на словы Адама Мальдзіса, выказаныя ім якраз у “лімаўскай” дыскусіі “Пісьменнік і час”: “Кожны сапраўдны мастацкі твор – гэта абавязкова крок уперад. Уперад і ўверх у нязведанае”[33]. Інтэрпрэтуючы гэта выказванне як заданне кожнаму мастацкаму твору “спрыяць фарміраванню грамадствам новых прагрэсіўных поглядаў”, Ф. Берніковіч задаецца пытаннем: “Якую ж у гэтым выпадку выбраць форму?” І адказвае: “Думаю, што форма паэзіі – гэта справа яе стваральнікаў. Але што датычыць яе зместу, дык гэта ўжо справа агульнаграмадская. Грамадства перш за ўсё цэніць паэзію не за яе форму, але за яе змест. Як яна звязана з нашым жыццём, што яна прыносіць новага ў тое жыццё. Таму сапраўдны мастак слова не можа абмяжоўвацца ў сваёй творчасці да некалькіх выбраных праблем. Жыццё – гэта не адна праблема, гэта цэлае іх скупенне, якія між сабой мяжуюць, сутыкаюцца і пранікаюць”. На думку Ф. Берніковіча, паэзія мусіць вучыць чалавека разумець прыроду, якая з’яўляецца асновай чалавечага матэрыяльнага жыцця і фарміруе эстэтычныя пачуцці, так

неабходныя ў штодзённым жыцці. Зразумела, значнае месца ў паэзіі належыць тэмам кахання і гістарычнай мінуўшчыны, а таксама ў “беларускай паэзіі ў Польшчы павінна быць месца і праблеме польска-беларускага супрацоўніцтва”. Аўтар артыкула ўпэўнены, што няма сярод насельніцтва Беласточчыны таго, хто не захапляўся б вершамі “маладога, але імклівага ў пошуках новай тэматыкі сваіх твораў паэта Віктара Шведа”. Паэзія Алеся Барскага знамянуецца наватарскай формай і ўсё большай дасканаласцю. Творчасць Яшы Бурша не для кожнага з’яўляецца яшчэ зразумелай, але, як адзначае Ф. Берніковіч, аўтар многа працуе, аб чым сведчаць яго апошнія творы, як верш “Надзея”. “Важная справа аднак, каб мастацкі твор не губляў задуманага аўтарам зместу і сэнсу, што, на жаль, у наватарскай паэзіі нярэдка здараецца,” – робіць выснову аўтар разваг і выказвае “пажаданні ў адрас нашых беларускіх паэтаў (...): пісаць сапраўды мастацкія творы, тэматыка якіх будзе поўнасцю адлюстроўваць жыццё беларускага грамадства ў Польшчы”.

На сённяшні дзень такі ледзь не сацыяльны заказ і выпукленне грамадскай функцыі паэзіі як бы і не мае патрэбы ў каментарыі і сведчыць у значнай ступені аб тамтэйшай сацыяльна-грамадскай атмасферы з яе мінусамі і плюсамі. Аднак развагі Ф. Берніковіча цікавыя, паказальныя, можа быць, якраз з пункту погляду станаўлення літаратурнага аб’яднання, стварэння нацыянальнага культурнага асяроддзя. Ужо згадвалася, што Г. Валкавыцкі, шукаючы форму беларускага штотыднёвіка, абапіраўся на вопыт славутай “Нашай Нівы”. Вопыт вельмі паказальны, індывідуальны, але і па-свойму ўніверсальны. У своеасаблівых умовах сярэдзіны XX стагоддзя зноў адбываўся працэс абуджэння, актывізацыі беларускай свядомасці, гэтым разам лакалізаваны на Падляшшы. Паскорана праходзіліся ўсе этапы сталення і літаратурным аб’яднаннем. Нібы з “нашаніўскай” пары вырастаюць пафас, сутнасны змест многіх тагачасных публікацый на Літаратурнай старонцы. Беларускаму Рэнесансу і ў XVI-ым, і на пачатку XX стагоддзя былі ўласцівы духоўнасць, сур’ёзнасць намераў, у значнай ступені абумоўленыя складаным сацыяльна-гістарычным лёсам, неабходнасцю барацьбы народа за сваю тоеснасць. Свядомая арыентацыя Г. Валкавыцкага на адраджэнскую газету пачатку XX стагоддзя аказалася цалкам апраўданай. У адпаведнасці з іншымі сацыяльна-палітычнымі ўмовамі, праблемамі працягваліся традыцыі другога беларускага Адраджэння. Своеасаблівы беларускі рэнесанс на Беласточчыне разгортваўся згодна з выпрацаваным беларускім канонам. І між тым хочацца ўзгадаць заўвагу Уладзіміра Калесніка, што “Белавежа” адносінамі між сябрамі аб’яднання нагадвае яму “нашаніўскае” згуртаванне[34].

Нібы не ўступаючы непасрэдна ў палеміку з Ф. Берніковічам адносна таго, якой мусіць быць тэматыка паэзіі, Віктар Рудчык у развагах “Арлы без крылаў” адразу агаворваецца, што не мае намеру выпісваць

“рэцэпты” паэтам, якія жывуць у межах сучаснай Польшчы. Падкрэслівае ён, аднак, што ў спрэчцы аб паэзіі, на яго думку, трэба “мець на ўвазе функцыю, прыпадаючую паэтычнай творчасці ў канкрэтных умовах”[35]. В. Рудчык лічыць, што цывілізацыйныя працэсы паўплывалі на змест паэзіі, і калі пры адсутнасці сродкаў масавай інфармацыі верш у даступнай і лёгкай форме “адначасова бавіў і інфармаваў, з’яўляўся фактарам шырокага ўздзеяння на грамадства”, дык зараз паэзія вызваленая “ад яе інфармацыйнага, павествавальнага характару”. Такім чынам карэнна змянілася функцыя паэзіі: “Сучасны чытач, на маю думку, шукае ў паэтычным творы адлюстравання сваіх як найбольш інтымных, глыбока закрытых, чыста асабістых перажываняў, адлюстравання свайго псіхічнага стану”. Менавіта таму В. Рудчыку падаецца “нейкім анахранізмам” эпічная апісальная форма верша, якая сустракаецца сярод радкоў В. Шведа і часам А. Барскага. Далейшыя развагі В. Рудчыка сведчаць аб глыбокім, у добрым сэнсе класічным, разуменні ім прыроды паэзіі. Адзначаючы, што верш нараджаецца пад уздзеяннем рэчаіснасці, у якой знаходзіцца паэт, аўтар артыкула акцэнтуецца на тым, што знешняе “паэт прасейвае праз сваё, яму аднаму ўласцівае, адзінае сіта. Вынік, зразумела, залежыць ад паэтычнага таленту пегасаўскага слугі, ад яго здольнасці адчування акружаючай рэчаіснасці, ад багацця, урэшце, яго асабістых перажыванняў. Верш, нават аптымістычны, радасны родзіцца з болем, як дзіця, і ў болю пачынае сваё жыццё”. Кранаецца тут В. Рудчык сапраўды святога святых, відаць, маючы на ўвазе той эмацыянальны збытак радасці або болю, хвалявання ў душы паэта, кожнай творчай асобы, вынікам вызвалення ад якога з’яўляецца ўзнікненне мастацкага твора. І як прыклад згадвае вершы “Белавежскія хлопцы” А. Барскага, “Беласточчына” В. Шведа і верш без назвы аб маці Я. Бурша. Развагі В. Рудчыка сведчылі і аб творчым патэнцыяле аўтара добрых апавяданняў, якія друкаваліся ўжо ў мінскай “Маладосці”, з чым калегі віншавалі яго на Літаратурнай старонцы. Таму цалкам невыпадковая і вобразнасць у яго развагах пра паэзію: “Верш звязаны з паэтам, як дзіця праз пупавіну звязана са сваёй маці. Жыццё і кшталт верша залежаць тады ад складу крыві, якая наплывае праз ніці, звязваючы яго са сваім стваральнікам. Верш нельга адарваць ад найбольш скрытых перажыванняў аўтара. Калі гэта здараецца, верш затрачвае свой твар, застаецца бязвыразным, штучным”. Згадваючы нядаўняе выступленне В. Шведа ў “белавежскай” палеміцы адносна яго вернасці традыцыйнаму сілаба-танічнаму вершу, В. Рудчык гаворыць, што і няма патрэбы ў адыходзе ад гэтай класічнай формы: “Важна толькі тое, што змешчана ў той традыцыйнай форме, які лагічны сэнс надае ёй паэт”. На заключэнне, уласна як для тлумачэння досыць іранічнай назвы артыкула, якая не карэспандуе ўсё ж з сур’ёзным яго зместам, аўтар зычыць сябрам паэтам, якія “напэўна з’яўляюцца арламі беларускай інтэлігенцыі, пражываючай у Польшчы”, знайсці

“элексір на буйнейшы рост крылаў”.

У красавіку 1963 года пабачыў свет даўно ўжо чаканы школьнымі бібліятэкамі зборнік “Мой родны кут”, прызначаны ў асноўным для вучняў пачатковых школ, у якіх вывучалася беларуская мова. Склалі кнігу пераважна вершы і проза аўтарства мясцовых літаратараў і найперш членаў “Белавежы”. М. Канапацкі, як і па выхадзе ў свет першай кнігі А. Барскага, выступіў з вельмі аператыўнай, грунтоўнай рэцэнзіяй. Адразу звяртае на сябе ўвагу пазіцыя, з якой быў разгледжаны змест “Майго роднага кута”: “Вершы і апавяданні трэба лічыць, несумненна, асноўным фондам зборніка. Яны, як правіла, павінны захапляць, узбагачаць унутраны свет юнага чытача, у высока мастацкай форме расказаць яму аб жыцці. Ды, урэшце, літаратура для дзяцей павінна быць яшчэ больш цікавай і займальнай, чымсьці літаратура для дарослых. У нашым выпадку, на жаль, не ўсе аўтары дакладна разбіраюцца ў задачах, якія ставіць перад імі таго роду творчасць”[36]. Звяртае ўвагу рэцэнзент на празмернае захапленне словамі з памяншальна-ласкальным адценнем В. Шведа, Я. Хлябіча, А. Свіська і Я. Бурша: “Шчыра кажучы, млосна робіцца, калі чытаеш без перапынку аб <каточках>, <пясочках>, <свінках>, <боціках>”. Між тым, нагадвае М. Канапацкі, дзеці “вельмі любяць, калі з імі размаўляюць як роўны з роўным, калі звяртаюцца да іх дарослыя адкрыта і шчыра, не прысядаючы перад імі”. Засцерагае ён і ад “назойлівай” дыдактыкі, якой “грашыць” верш М. Гайдука “Як здаровым хочаш быць...”. Наракае крытык і на аўтара першай уласнай кнігі ў “белавежскім” асяроддзі: “Хацелася б нам і лепшага твора ад Алеся Барскага, які сваім вершам “Мой родны кут” адкрывае зборнік. Мова тут наогул бедная, нейкая бясколерная. Мы не павінны забываць, што ў дзяцей вельмі развіта паэтычнае ўспрыйманне навакольнага жыцця, што толькі творы, напісаныя з добрым мастацкім густам, якія ў сапраўдным паэтычным вобразе ўзнаўляюць хараство родных пейзажаў, могуць выклікаць уражанне ў хоць і малога, але вельмі патрабавальнага чытача”. Паэма ж А. Барскага “Мікола”, нягледзячы на выкліканыя недапрацаванасцю пэўныя непаладкі ў паасобных месцах, у цэлым уяўляе сабой цікавую з’яву ў зборніку: “Твор напісаны з пэўнай эмацыянальнай нагрузкай, дзеянне тут гнуткае і вартае ўвагі нашага дапытлівага чытача”.

На думку рэцэнзента, больш пашанцавала зборніку з прозай. Як найлепшае вылучыў ён апавяданне В. Рудчыка “Сямейны талісман”, вартасным творам назваў апавяданне Я. Блізнюка “Памірыліся”. Звярталася ўвага на ўдалыя апрацоўкі М. Гайдуком народных казак і легенд, пачэрпнутых з мясцовай народнай творчасці. Вось тут якраз М. Канапацкі падкрэсліў як станоўчы момант, “што аўтар аддаў нейкую долю ўвагі і павучальнаму характару твораў”. Так, у легендзе “Пра золата і зайздрасць” “кляймуецца людская прагнасць, якая вядзе да самых найгоршых учынкаў”. Асобна спыніўся рэцэнзент на “Абразках з жыцця

Кастуся Каліноўскага” А. Баравога, адзначыўшы, што аўтар “у лёгкай форме дае нам карцінкі з жыцця і дзейнасці беларускага нацыянальнага героя. (...) Каштоўнае і тое, што дзея ў “Абразках...” разгортваецца пераважна на фоне Беласточчыны”. Аналізуючы другую частку зборніка “Мой родны кут”, якую складае цыкл артыкулаў “Пазнай сваю бацькаўшчыну”, М. Канапацкі адзначае, што “жывой і вобразнай моваю” напісаны матэрыял Ул. Юзвюка, які здолеў наладзіць сувязь са школьнікамі. Артыкул В. Склубоўскага пра барацьбу беларусаў у міжваенны час за асвету на роднай мове “хутчэй нагадвае апавяданне, якое напэўна з цікавасцю прачытае наш школьнік”. А вось Ул. Паўлючуку, які піша аб апошняй вайне на Беласточчыне і падзеях 1939 года, на думку рэцэнзента, “не ўдалося наладзіць сувязі са школьнікамі і ў сэнсе мовы, нагадваючай звычайную канцылярщчыну, і ў сэнсе перадачы зместу”. Апрача таго ў паасобных месцах адчуваюцца “паспешлівасць і абыякавае стаўленне да фармуліроўкі аўтарскіх думак”, што прыводзіць часам нават да бяссэнсіцы. Прыхільную ацэнку М. Канапацкага заслужылі гутарка Л. Раманюк аб беларускай мове і яе мясцовых гаворках, а асабліва артыкул В. Шведа аб стане беларускай дзіцячай літаратуры ў пасляваеннай Польшчы, якім, на думку рэцэнзента, варта было распачаць зборнік і які “трапна і паслядоўна ўвёў бы ў змест выдання”. Як вельмі слушныя ўспрымаюцца заўвагі адносна выбару твораў, як лепшых тых жа аўтараў, так і літаратараў з Беларусі, перакладаў з польскай мовы. Вельмі крытычна ацаніў М. Канапацкі і мастацкае афармленне выдання, уключна з папяровай вокладкай, не разлічанай на доўгае карыстанне. Прысуд рэцэнзента гучаў сурова: “На цэлым зборніку “Мой родны кут” ляжыць адбітак паспешлівасці і недапрацаванасці. (...) Калі ўжо было задумана таго роду выданне, трэба было б з большай дбайнасцю падысці да гэтага вельмі сур’ёзнага мерапрыемства”. Сама ж рэцэнзія М. Канапацкага, як разгледжаны раней яго водгук на “Белавежскія матывы” А. Барскага, сведчыць аб яго прафесіяналізме, літаратуразнаўчай кампетэнтнасці, мастацкім гусце, а таксама добрым веданні мясцовага культурна-гістарычнага кантэксту.

У асобе Сымона Раманчука “Белавежа” мела вельмі цікавага, перспектыўнага празаіка, але сапраўды неспавядальныя шляхі Гасподнія. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю ў Педагагічным ліцэі ў Бельску, ён скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску, настаўнічаў у Міхалове. Аднак духоўныя пошукі прывялі яго ў Хрысціянскую тэалагічную акадэмію ў Варшаве і з 1981 года былы “белавежац” з’яўляецца архіепіскапам Лодзінскім і Познаньскім. Творчасць С. Раманчука “белавежскага” перыяду ўсімі сваімі аспектамі сведчыць аб яго выразнай светапогляднай пазіцыі, якая выяўляецца праз сцвярджэнне ўсёй вобразнай сістэмай апавяданняў маральна-этычнага ідэалу, дасягаемага ўрэшце толькі тэацэнтрычным бачаннем свету.

У “белавежскай” палеміцы С. Раманчук выступіў з дыскусійным

артыкулам “Куды мы ідзём?” на 55-й Літаратурнай старонцы. Цікава, што яго біяграфічная нататка, змешчаная ў літаратурным альманаху “Белавежа, № 1” заканчваецца досыць нечаканым сцвярджэннем: “Вершаў не пісаў ніколі”[37]. І артыкул у “Ніве” С. Раманчук распачынае з прызнання, што паэтам ён, на жаль, ніколі не быў, але паэзію вельмі любіць. Ды прачытанае ім апошнім часам выклікае ў яго вялікія засцярогі, як напрыклад, вершы маладых паэтаў, надрукаваныя ў “Штандары маладых” (8.11.1963), тэмай якіх з’яўляецца “сексуальны акт (!)”. С. Раманчук не заклікае да цэнзуры, але ж нагадвае, што “Літаратура заўсёды мела ўплыў на фарміраванне поглядаў, характараў людзей. (...) Літаратар павінен заўсёды бачыць свайго чытача, ведаць, хто яго чытач і чаго ён, чытач, патрабуе. Скажаце: гэта ўгодніцтва. Не, я зусім не заклікаю нашых паэтаў пісаць толькі аб чаромусе, кветках, сінім небе і белых воблачках, хаця і гэта рэчы самі па сабе прыгожыя. Слухаць свайго чытача – гэта перш за ўсё ўстанавіць з ім сувязь, не выракаючыся сваіх поглядаў, тэмаў, форм вершаскадання”[38]. Аўтар артыкула адзначае, што “Ніву” чытаюць перш за ўсё на вёсцы, якая сапраўды лепш разумее і больш любіць класічную, значыць сілаба-танічную, форму вершаскладання. І вяскоўцам трэба тлумачыць сучасную паэзію, што найперш мусяць рабіць настаўнікі, “тады толькі можна будзе сказаць: далоў старыя формы! Хаця... хто ведае, як будзе?

О, чую абурацца многія! Сябры, не разумець, ці не любіць бязрыфменную і бяззнакавапрыпынкавую паэзію – зусім не значыць быць адсталым! Можна цудоўна ведаць літаратуру і не любіць навізны, як і любіць усім сэрцам навізну, не ведаючы зусім літаратуры, што, зразумела, ужо вельмі дрэнна. Няхай растуць паэты і няхай растуць чытачы!” Канстатуючы, што беларускім паэтам у Польшчы яшчэ доўга заставацца маладымі, С. Раманчук перасцерагае, каб у выпадку няўдачы не кідаліся на некага: “Не б’ем Яшу Бурша за тое, што не ўсё ў яго вершах зразумела, не нападайма і на В. Шведа, што недзе ў яго вобраз не ўдаўся”. І так як пра А. Барскага і В. Шведа гавораць часцей, С. Раманчук звяртаецца да “элітарнай” паэзіі Я. Бурша, спыняецца на некалькіх вершах, добразычліва, але і крытычна аналізуючы іх з пункту погляду вобразнай дакладнасці і ўнутранай сутнасці. Індывідуальнае асэнсаванне паэтам рэчаіснасці, зразумела, вітаецца аўтарам артыкула. Больш таго, сыходзячы і з уласнага творчага вопыту, С. Раманчук сцвярджае: “Калі ты паэт, празаік – шукай новыя формы, старайся зацікавіць чытача, але рабі гэта толькі тады, калі адчуваеш унутраную патрэбу і сілу. Сілу, каб умець дабіцца свайго, даказаць сваю рацыю. Памятай, пішаш не толькі для сябе!” Для падмацавання сваіх меркаванняў С. Раманчук звяртаецца да слоў Л.М. Талстога аб тым, што сапраўдным крытыкам пісьменніка з’яўляецца вялікая публіка, а не крытыкі, якія ацэньваюць толькі тэхніку. Задача ж сапраўднай крытыкі бачыцца вялікаму рускаму класіку ў тым, каб адшукаць і паказаць у творы прамень святла, без якога твора няма

ўвогуле. І напрыканцы свайго дыскусійнага артыкула С. Раманчук выказвае сваё своеасаблівае маральнае крэда пісьменніка: "Ёсць у тваіх творах гэты прамень святла – значыць ты на добрай дарозе, значыць тое, аб чым пішаш – блізкае і дарагое сэрцу кожнага чалавека. А гэта – самая высокая ўзнагарода для цябе, паэт, для цябе, празаік!"

Відавочна, што "белавежская" дыскусія "Якой павінна быць паэзія?" садзейнічала творчаму росту, кансалідацыі літаратараў. Невыпадкова Я. Бурш артыкул "Наша паўгоддзе" пачаў з такіх слоў: "У апошні час "Белавежа" набрала акрэсленага характару – выказвае магчымасці і недахопы нашых аўтараў. Узбагацілася тэматыка паэтычных і празаічных твораў"[39]. Так, апрача традыцыйных тэм пра лёс чалавека, адносіны між бацькамі і дзецьмі літаратары звярнуліся да асэнсавання барацьбы новага са старым, "пачалі вабіць мацней філасофскія задуменнасці і праменні фантазіі, праніканне ў будучыню і заглыбленне ў дзяцінства". Гэтая разнастайнасць тэматыкі, на думку Я. Бурша, асабліва важны паказчык у плане роста літаб'яднання і паасобных аўтараў, што пацвярджаецца далей зваротам да паўгадовай канкрэтыкі Літаратурнай старонкі, а менавіта да твораў А. Барскага, Я. Чыквіна, У. Гайдука, В. Шведа, С. Раманчука, Ю. Геніюша.

Так, Я. Бурш лічыць, што А. Барскі на сённяшні дзень "іншы, чымсьці ў "Белавежскіх матывах" – багацейшы па форме, глыбейшы". Як станоўчы момант падкрэсліваецца "адыход ад матываў кахання з эратычным адценнем, а збліжэнне да інтымных сыноўскіх зносін з бацькамі, да філасофскага роздуму, да ўяўлення сябе сярод людзей, з'яў і прадметаў", часцейшы зварот да дзяцінства. У сваю чаргу "камертонам" у творчасці Я. Чыквіна бачыцца Я. Буршу "псіхіка маладых людзей, студэнцкай моладзі, яе спецыфічная ўражлівасць, самадзейнасць". Далейшая характарыстыка твораў Я. Чыквіна сведчыць аб дакладным вычуванні Я. Буршам спецыфікі творчасці менавіта гэтага паэта: "З лірыкі Чыквіна дыхае свежасцю, неастуджанай дыстанцыяй. Лірыка Чыквіна насычана пратэстам супраць няўхільных з'яў – неспрыяючых чалавеку, вельмі эмацыянальная. Паасобны верш Чыквіна – гэта не справаздача з канкрэтнага факту, а асабістае перажыванне". Лірычным героем У. Гайдука з'яўляецца селянін, "вельмі натуральны, загартаваны цяжкаю працаю, чалавек моцны, як дрэва, зросшае з глебаю". "Гайдуковая праца, каханне і песня жывуць у своеасаблівым пейзажы", жывым, зменлівым, які рэальна малюе новае жыццё вёскі – "без публіцыстычнага перабольшання". Характарызуючы форму вершаў паэта-селяніна, Я. Бурш звяртае ўвагу на недапрацаванасці, што выяўляецца ў непаслядоўнасці ў выкарыстанні нерыфмаванага верша, але пры тым аўтар артыкула задаецца па-свойму рытарычным канстатацыяй-пытаннем: "Яго вершы часта сырыя, вуглаватыя – мо таму дынамічныя, жвавыя?" Вельмі прыхільна гаворыць Я. Бурш пра творчасць В. Шведа, звяртаючы ўвагу на тое, што: "У Шведавай творчасці гучыць падзяка

народанай уладзе за магчымасці развіцця народнай культуры і вывучэнне роднай мовы. Швед амаль ужо майстар у тэхніцы складання верша". Пахвалы заслугоўвае паэт "і за тое, што тэматыка яго твораў вынята з штодзённага сялянскага жыцця, за ўніклівасць у дробязі сумныя і светлыя радасці простага вяскоўца".

Разгляд набытку празаікаў Я. Бурш распачынае з характарыстыкі апавядання С. Раманчука "Чалавек", у якім аўтар "вельмі добра паказаў сілу і шляхетнасць чалавека". Я. Бурш дакладна заўважае: "Аўтар хоча верыць людзям і гэтую веру ўкладае ў вусны герояў". Творчай удачай бачыць Я. Бурш апавяданне Ю. Геніюша "Як знайсці хулігана", асаблівага цікавае сваёй праблематыкай. "Апавяданне пабудавана з абсурдаў, а як жа блізкае праўды. Геніюш паказаў, як па-рознаму людзі адчытваюць адно і тое ж паняцце". І заканчвае Я. Бурш свае нататкі пра чарговае "белавежскае" паўгоддзе своеасаблівым перагукам з заключнымі радкамі артыкула С. Раманчука "Куды мы ідзём?", звязанымі з талстоўскім промнем святла: "Крытычных заўваг мы не шкадуем сабе на літаратурных семінарах. Хацеў я затрымацца на добрых, карысных момантах творчасці нашых аўтараў, каб кінуць прамень святла на іх цяжкую дарогу".

Літаратурная старонка амаль усяго першага дзесяцігоддзя свайго існавання сведчыць аб вялікай, шчырай заангажаванасці Я. Бурша ў жыццё „Белавежы". На жаль, дасюль як яго творчасць, так і роля ў кшталтаванні арганізацыі, застаюцца неацэненымі. Уваходзячы ў склад рэдкалегіі Літаратурнай старонкі, Я. Бурш сістэматычна выступаў з артыкуламі разнастайнай тэматыкі. Праз шэсць нумароў пасля ацэнкі "белавежскага" паўгоддзя з'яўляецца яго рэфлексія "Цяплічныя ўмовы – непасрэдным крокам у зазнайстве", у якой ён разглядае "справу літаратурнай нянькі ў <Белавежы>"[40]. Пачынаючы са спасылкі на даклад, агучаны на арганізацыйным З'ездзе літаб'яднання, а непасрэдна на словы, што яно "не збіраецца быць літаратурнай нянькай для маладых аўтараў", Я. Бурш звяртае ўвагу на спецыфічнасць "белавежскай" сітуацыі ў параўнанні з іншымі літаратурнымі асяродкамі: "Гэта "нянька" працуе грамадскім чынам. Таму займаецца справай "пялёнак" тады, як наладзіць хаця б мінімум сродкаў да жыцця. Па-другое, гэтая "нянька" сама не так далёка адрасла ад "пялёнак" і замест чытаць лекцыі аб "добрых засадах" – часта нырае ў бесклапотнасць. Па-трэцяе, ад "нянькі", працуючай грамадскім чынам, сорамна дамагацца апошняй кроплі поту..." Выдзяляецца гэта "нянька" сярод іншых, на думку Я. Бурша, адсутнасцю дыстанцыі і зазнайства, клопатам за згуртаванне членаў літаб'яднання ў творчы калектыў. Уласціва ёй гатоўнасць прыняць у шэрагі літаб'яднання кожнага, хто мае ахвоту пісаць, не звяртаючы нават увагі на ўзровень яго творчасці, "зыходзячы з засады – лепш сто разоў памыліцца, чымсьці здагадкамі і сумненнямі змарнаваць эвентуальны талент". Я. Бурш усведамляе, што такі падыход да творчасці

“не можа быць карысным і спрыяць узроўню літстаронкі сёння і цяжка прадбачыць ці такі падыход запэўніць узровень у будучыні, тым больш, што многія з юных аўтараў атаясамліваюць факт паяўлення іх твораў у друку з узроўнем іх творчасці, які ўпаўнаважвае да спачывання на лаўрах, упівацца назваю паэта ці пісьменніка і дыктаваць умовы рэдкалегіі – “як не будзеце друкаваць, не буду пісаць!” або абражацца за тое, што рэдкалегія “не пазналася” на іх творы і не пусціла твор у друк”.

Прыхільнасць рэдкалегіі да маладых аўтараў, тое, што ім бывае вельмі ж лёгка надрукавацца, тлумачыцца Я. Буршам не заніжанасцю мастацкіх крытэрыяў, а найперш клопатам згуртавання “пісьменніцкіх сіл вакол беларускай літаратуры ў Польшчы”. Ён слушна падкрэслівае, што ад саміх маладых аўтараў залежыць, якім чынам яны выкарыстаюць прыхільнасць праўлення літаб’яднання да іх твораў: будуць самааддана працаваць, каб з-пад іх пяра выходзілі высокамастацкія рэчы, або “кожную сваю спробу будуць лічыць геніяльнай” і любым коштам будуць яе “прапіхаць у друк”. І ў гэтым сваім артыкуле Я. Бурш выказвае хваляванне, што аслабляецца творчая актыўнасць некаторых “белавежцаў”. Адразу агаворваючыся, што не мае на думцы “заганяць паэтаў і празаікаў да творчасці, як да сякеры ці лапаты”, ён цалкам слушна разважае, між іншым, і з пазіцыі вопыту вельмі цікавага мастака: “Творчасці планаваць, у даслоўным сэнсе нельга, яна стыхійная і ў залежнасці ад тэмпераменту аўтараў у адных (...) б’е фантанам, у другіх плыве шырокім цячэннем праблем.

Ёсць і моманты дэпрэсіі, хістанняў або проста чалавек не ведае, чаму не можа выказаць ні думкі, ні намаляваць вобраза. Але такія станы наглядаюцца ў людзей, якія маюць за сабою вялікую літаратурную дарогу, перад цяжкай чарговай мэтай, а як мы спатыкаемся з успамянутымі з’явамі пяць крокаў за стартам, дык выглядае гэта як вялікае непаразуменне...

Літаратура як кожная галіна мастацтва. Зайздросная – прагне мець аўтара на ўласнасць, і як аўтар не з’яўляецца геніем, у якога мастацтва на паслугах, павінен аддаць каласальную частку свайго жыцця на авалоданне прынцыпамі літаратуры – наравістай штукі. Сярод нас бывае паразнаму”. Відаць, рэагуючы на пэўныя нараканні з шэрагаў “белавежцаў” адносна сціплых магчымасцей Літаратурнай старонкі, Я. Бурш заклікае найперш зрабіць “салідныя творчыя запасы”, напісаць дастаткова вершаў і апавяданняў, а тады клапаціцца пра “прыдзел для нашай творчасці”.

У сваю чаргу Іван Чыквін, рэдактар Літаратурнай старонкі № 84, у рэфлексіі ”Навеяна восенню” у працяг дыскусіі аб беларускай літаратуры ў Польшчы, а таксама разваг Я. Бурша, выявіў досыць крытычнае бачанне творчага плёну аб’яднання. Адзін з першых і наймаладых “белавежцаў”, маючы за сабой ужо філалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта і планы далейшай літаратуразнаўчай прафесіяналізацыі, задумаўся над тым, чаго ж паспела дасягнуць “Белавежа” за сем гадоў свайго існа-

вання. У кантэксце развіцця іншых літаратур гісторыя беларускага літаб'яднання ў Польшчы, безумоўна, выглядала як "вельмі і вельмі малая". "Праўда, вялікасць літаратуры не заўсёды можна мераць радыусам яе дзеяння (хутчэй уздзеяння), але літаратуры, скажам, не ўніверсальныя, прыгавораны на меншую або большую прыніжанасць. І гэта прыніжанасць наказвае. Наказвае ёй быць такой, а не іншай, браць у суседзяў з навейшых мадэляў і ўзораў (...). Зразумела, знаёмства з сусветнай літаратурай неабходнае, але не ў тым справа. Справа ў тым, што літаратуры малыя мала цікавяцца сабою і сваёй пройдзенай дарогай. А стварэнне традыцыі надзвычай патрэбнае на кожных пачатках. Нам таксама"[41].

Неабходнай умовай стварэння традыцыі, а найперш плённага творчага жыцця "Белавежы" бачыцца аўтару "Навеяна восенню" актыўны ўдзел у гэтым жыцці "крытыка, які быў бы вагонаважатым і кантралёрам у адной асобе; крытыка, які рашаў бы справы дэбюту, які паказваў бы – і ўжо не ананімна, але на канкрэтах – філасофскія мелі, беспардонна вытыкаў бы аўтару яго лёгкі сентыменталізм, вялую паэтычнасць, пагоню за сучаснасцю, снабізм і г.д.". Пытанне аб глыбока прафесійным, эстэтычна чуйным крытыку-кансультанту не аднойчы ўздымалася ў "белавежскім" асяроддзі. І тут яшчэ раз хочацца са шкадаваннем узгадаць пра недастаткова рэалізаваны ў гэтым аспекце патэнцыял М. Канапацкага.

Акідваючы вокам сямігадовую гісторыю "Белавежы", прыгадвае І. Чыквін выхад у свет альманаха "Рунь", задаецца пытаннем, чаму з сямнаццаці аўтараў друкуюцца зараз толькі чацвёра – шасцёра: "Чаму адышлі або друкуюцца надта рэдка такія людзі, як Уладзімір Гайдук, Дзмітры Шатыловіч ці Андрэй Сошка? Кожны ж з іх нёс у літаратуру свой асабісты свет перажыванняў, і іх трэба было затрымаць у нашым літаратурным атачэнні. Адышлі, бо феадальная раздробленасць у літаратуры спрыяе спрэчкам, інтрыгам, а людзям чулым многа не трэба..." Расчараваны І. Чыквін тым, што за сем гадоў існавання "Белавежы" пабачылі свет толькі паэтычныя кнігі А. Барскага і Я. Бурша, якія, аднак, на яго думку, не былі адпаведна адрэцэнзаваны.

З максімалізмам, такім відавочным сёння, аўтар "Навеяна восенню" канстатуе: "Вось гэта і ўся наша паэзія, уключаючы яшчэ вершы розных аўтараў, раскіданыя па календарах і літаратурных старонках. Трэба прызнацца: за гэтых сем гадоў мы многа не напісалі. У нас няма чым пахваліцца, няма яркіх талентаў, якія зварушылі б цаліну брацкіх душ новым і словам, і сюжэтам". Але ж пры тым далей, ужо мажорней, зазначаецца, што ўсё ж "пасля сутыкнення з беларускай паэзіяй чытач не адчувае пустога месца. Ён выносіць нейкае ўражанне. Ён не абыякавы да яе".

Выказвае І. Чыквін і цікавыя меркаванні, якія датычаць непасрэдна саміх сутнасных момантаў тагачаснай беларускай літаратурнай твор-

часці ў Польшчы: “Чатырох – шэсць паэтаў, якія больш-менш рэгулярна друкуюцца ў літстаронцы, не звязаны ні з Беласточчынай – цаліной для літаратуры, ні з другімі тыпова беларускімі праблемамі. Адна істотная сувязь для нас – гэта мова. І толькі. Таму што Беларусь і ўсё, што беларускае, у нас на другім плане. Гэта толькі частка нашага свету. Наш свет куды шырэйшы! А вынікае ён, іменна, з факту прыніжанасці, якая вісіць над малымі літаратурамі. Беларускія паэты ў Польшчы шырэй адчуваюць людскую супольнасць, чымсьці сваю нацыянальную з’яднанасць. Нашыя праблемы і перажыванні так далёка абагульнены, так яны агульнаачалавечыліся, што творы на першы погляд паражаюць нас сваёй безідэйнасцю. А ідэйнасць ёсць, толькі яна ў шырокім аспекце”. Такім чынам робіцца ўласна спроба акрэсліць ідэйна-праблемную спецыфіку беларускай літаратуры Польшчы – феномен якой праз некалькі дзесяцігоддзяў стане аб'ектам асэнсавання і польскага і беларускага літаратуразнаўства і крытыкі. Не забыўся І. Чыквін і аб празаічнай творчасці, адзначаўшы, што проза цясней, чым паэзія звязана з прастораю, на якой узнікае. Ды празаікі-”белавежцы” яшчэ не пабачылі ніводнай сваёй кнігі, а між тым, варта звярнуць увагу на апавяданні С. Раманчука, М. Гайдука, Ю. Геніюша, У. Паўлючука, М. Лобача і іншых. “Вельмі цікавай і непаўторнай з’яўляецца мініяцюрная па форме, пружыністая зместам і сакавітая моваю проза С. Яновіча.

Перад зімовым сном хочацца пачытаць альманах прозы”, – заканчвае сваю рэфлексію “Навеяна восенню” І. Чыквін, які, дарэчы, і сам выступаў на Літаратурнай старонцы з апавяданнямі. Сапраўды, артыкул будучага шматгадовага старшыні “Белавежы” прасякнуты вiдавочным клопатам, трывогай пра далейшы лёс беларускай літаратуры ў Польшчы, а своеасаблівы яго максімалізм плённа рэалізуецца на сучасным этапе існавання “Белавежы”.

Між тым у 1965 годзе Літаратурнае аб’яднанне робіць прыгожы падарунак сабе і ўсім прыхільнікам беларускай творчасці: выходзіць у свет літаратурны альманах “Белавежа” № 1. У нататцы ад выдавецтва зазначалася: “У гэтым альманаху друкуюцца вершы, апавяданні і сцэнічныя творы дваццаці двух паэтаў і празаікаў, а таксама пяці мастакоў – членаў літаратурна-мастацкага аб’яднання “Белавежа”; даюцца кароткія біяграфічныя звесткі пра іх. Асобна даецца аўтабія-графічны нарыс аб жыцці і творчай дзейнасці вядомага беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага”[42].

У адрозненне ад “белавежскага” першынца “Руні” ў літаратурным альманаху шырока была прадстаўлена якраз проза. Можна сказаць, у значнай ступені гэта быў альманах з дамінацыяй менавіта празаічнага жанру. З апавяданнямі выступілі Алесь Барскі, Васіль Баршчэўскі, Антось з Лепля, Мікола Гайдук, Юрка Геніюш, Уладзіслаў Дваракоўскі, С. Заставін, Мікалай Лобач, Уладзімір Паўлючук, Сымон Раманчук, Віктар Рудчык, Вінцук Склубоўскі, Янка Целушэцкі, Сакрат Яновіч.

Паэтычную “Белавежу” прадстаўлялі Алесь Барскі, Яша Бурш, Уладзімір Гайдук, Юрка Зубрыцкі (Г. Валкавыцкі), Алесь Свісёк, Янка Чыквін, Дзмітрый Шатыловіч, Віктар Швед. Невыпадкова аператыўная рэцэнзія выдання пад назвай “Малады ўзлёт”, напісаная навукоўцам-літаратуразнаўцам з Мінска Міколам Прашковічам і змешчаная на 91-й Літаратурнай старонцы, была прысвечана найбольш аналізу празаічнага “белавежскага” плёну. “Беларуская літаратура ў Польшчы вельмі маладая, па сутнасці, усе пісьменнікі, якія грунтуюцца вакол “Нівы”, пачынаючыя. Тым не менш яны ўжо дасягнулі значных поспехаў, асабліва ў паэзіі, – пісаў рэцэнзент. – Мы, чытачы з Савецкай Беларусі, ужо мелі шчасце пазнаёміцца са зборнікам “Рунь”, з мастацкімі творамі ў “Беларускіх календарах”, сістэматычна чытаем “Літаратурныя старонкі” “Нівы”, цяпер жа атрымалі літаратурны альманах “Белавежа” № 1.

Сам па сабе выхад зборніка знамянальны. Варта таксама адразу падкрэсліць, што ў некаторых маладых празаікаў Беласточчыны пачынае вырысоўвацца, няхай яшчэ і не вельмі акрэслена, свой творчы почырк”[43]. Асабліва спадабаліся крытыку апавяданні М. Гайдука на гістарычную тэматыку: “М. Гайдуку ўдалося жыва намаляваць карціны жыцця нашых продкаў, іх імкненні, думы, побыт”. М. Прашковіч зычыць пісьменніку і далей творча працаваць менавіта ў гэтым накірунку, а ўлічваючы, што сам рэцэнзент спецыялізаваўся на навуковым асэнсаванні беларускай літаратурнай мінуўшчыны і менавіта з патрыятычнага пункту погляду, што супярэчыла тагачаснай канцэпцыі інтэрпрэтацыі беларускага культурна-гістарычнага шляху (і сталася пазней прычыный драмы яго жыцця), да парады варта было прыслухацца. Уласна далейшая творчасць М. Гайдука, цікавая, шматстайная спадчына, пакінутая ім, засведчылі, што М. Прашковіч меў рацыю, высока ацэньваючы ўжо яго раннія творы. Звяртае М. Прашковіч увагу і на апавяданні А. Барскага, адзначаючы, што ён перш за ўсё паэт, “але і апавяданні яго маюць пэўнае значэнне” і перш за ўсё цікавым па задуме бачыцца крытыку твор “Лянарда”.

У тэматычным плане “белавежская” проза развівалася ва ўнісон з празаічнымі жанрамі ў Беларусі. Так, на працягу амаль усёй другой паловы мінулага стагоддзя найчасцей аб’ектам асэнсавання пісьменнікаў аказваліся ваенная і вясковая тэматыка, што вынікала з самой рэчаіснасці. Другая сусветная вайна забрала кожнага трэцяга жыхара Беларусі, пакінула па сабе незагойныя раны. Пісьменніцкія ж шэрагі, амаль знішчаныя за дзесяцігоддзі культу асобы і ваенныя гады, папоўніліся найперш маладымі людзьмі, якія маглі разам з Янкам Сіпаковым сказаць: “Усе мы з хат”. Папоўніліся тымі, каму ў значнай ступені адпавядалі пошукі галоўнага героя са знакавай для другой паловы мінулага стагоддзя аповесці Міхася Стральцова “Сена на асфальце”. “Белавежскую” літаратурную сябрыну таксама ж склалі творчыя асобы, народжаныя ў хатах і якія імкнуліся паяднаць у сабе перавагі горада і вёскі, што, зразумела, знаходзіла яскравае выяўленне ў

творчасці. Вось і М. Прашковіч заўважае, што ў альманаху “Белавежы” вялікае месца займаюць тэма вайны і першых пасляваенных гадоў: “Сярод твораў гэтай тэматыкі, бясспрэчна, першае месца належыць апавяданню “Пралеска” Вінцука Склубоўскага (...). Аўтар з тонкім псіхалагізмам, з вялікім майстэрствам паказаў шлях чалавека ад простага вясковага хлапца да палітычнага злачынцы, здрадніка радзімы”. Крытык адзначае, што з добрым густам напісаны апавяданні Ул. Паўлючука “Чарадзейнае шкельца”, “Чалавек” С. Раманчука, добра чытаюцца апавяданіі С. Заставіна. Асобна спыняецца ён на мініяцюрах С. Яновіча: “Напісаныя добраю, сакавітай мовай, закранаюць глыбокія філасофскія пытанні. У некаторых з іх аўтар уздымаецца да шырокіх грамадскіх і чалавечых абагульненняў. “Сыну”, “Валошка”, “Салдату”, “Бярозка ля акна”, “Сын” і іншыя напоўнены глыбокім лірызмам, роздумам над лёсам сваёй зямлі і народу, гуманізмам”.

Станоўча ацэньвае М. Прашковіч і паэзію, прадстаўленую ў альманаху, адразу адзначаючы, што некаторыя паэты ўжо “набылі свой творчы почырк”, што датычыцца ў першую чаргу, на яго думку, А. Барскага і Я. Бурша. Вершы А. Барскага “напісаны самымі разнастайнымі памерамі, але ўсе з аднолькава добрым майстэрствам ў цэлым”, што ўласціва і асацыятыўнай, ускладнёнай лірыцы Я. Бурша. “Прыкметна заўважаецца рост І. Чыквіна”, – адзначае рэцэнзент і працягвае далей. – Тое ж самае можна сказаць і пра паэзію В. Шведа, Ул. Гайдука, А. Свіська, Дзм. Шатыловіча, Ю. Зубрыцкага. У цэлым, безумоўна, пакідае яна добрае ўражанне. Аўтары валодаюць, як кажуць, пяром (...)”. Зразумела, добразычлівае стаўленне да творчасці сяброў літаб’яднання было для іх вельмі важным. Тым больш, што ў другой частцы сваёй рэцэнзіі М. Прашковіч звярнуў увагу і на “хваробы росту”, выдзеліўшы тры пазіцыі. Першая заўвага датычыла моўнай культуры. У прыватнасці, звярталася ўвага на ўжыванне не беларускіх слоў, пабудову сказаў, не ўласцівую беларускай мове і давалася парада: “Відаць, аўтарам у гэтых адносінах трэба яшчэ шмат вучыцца чысціні і прыгажосці мовы, па-першае, у народа, па-другое, у лепшых майстроў беларускай літаратуры, празаікам перш за ўсё ў Чорнага, Мележа і Брыля, паэтам – у Купалы, Танка, Панчанкі, Караткевіча, Барадуліна і інш.”. Наступная заўвага адносна “няўменне аўтараў раскрыць псіхалагічна паводзіны герояў”, недастаткова глыбокага псіхалагізму была адрасавана празаікам. Рэцэнзент раіў ім вучыцца ў лепшых празаікаў-псіхолагаў “і зноў жа перш за ўсё ў Чорнага, Мележа і Быкава”. Як трэці агульны недахоп М. Прашковіч вызначыў тое, што “многія творы вельмі нязначныя па сваёй тэматыцы. Хочацца, каб аўтары больш смела закраналі найбольш надзённыя праблемы жыцця, смялей іх вырашалі”. Генеральна пагаджаючыся з шаноўным рэцэнзентам, усё ж хочацца аспрэчыць апошнюю яго заўвагу, бо тэматычны дыяпазон творчасці “белавежцаў” ад самага пачатку вызначаўся разнастайнасцю, у якой істотна

судакранаўся з творчасцю калег з метраполіі, але ж меў і выразны асабовы характар, вызначаны сацыяльна-гістарычнай спецыфікай, самой псіхалогіяй памежжа, што часта не бралася і не бярэцца ў разлік пры разглядзе феномена “Белавежы”.

На жаль, не магло рэалізавацца напоўніцу і заключнае пажаданне М. Прашковіча: “Хочацца пажадаць аўтарам паспрабаваць свае сілы ў больш буйных жанрах”. Відавочна, для стварэння буйной эпічнай формы патрэбны як талент, раманнае мысленне, так і час, вольны ад асноўнай працы. Аднак, трэба адзначыць, што ў активе “Белавежы” на сённяшні дзень ёсць цэлы шэраг цікавых аповесцей: Г. Валкавыцкага, С. Яновіча, Я. Жамойціна, В. Петручука, М. Андрасюка.

Між тым праз шэсць нумароў распачатая М. Прашковічам на Літаратурнай старонцы гаворка пра альманах была працягнута ў артыкуле “Добры пачатак” М. Гайдуком, які канкрэтызаваўся на творах С. Яновіча, змешчаных якраз у № 1 “Белавежы” і таксама высока ацэненых М. Прашковічам. Найперш, нібы адказваючы на зычэнні мінскага рэцэнзента, М. Гайдук адзначыў, што, па-першае, “белавежцы” доўгі час, мабыць, будуць мець магчымасць друкаваць толькі невялікія па аб’ёму творы, а па-другое, “пераходзіць да вялікіх палотен можна толькі тады, калі мы ў малых літаратурных формах дасягнем майстэрства вялікай пробы. Практыкаванне ў малых формах дазволіць нам павучыцца сапраўднаму пісьменніцкаму майстэрству знаходзіць у агульным і вылучаць з яго самае істотнае і яскравае адзінкавае, будаваць твор скандэнсавана, выпрацоўваць рэльефную і ўздзейнічаючую на чытача вобразнасць, усямерна клапаціцца пра наш слоўнік”[44].

М. Гайдук паставіў перад сабой мэту глянуць на творы С. Яновіча менавіта з пункту гледжання мастацка-эстэтычных крытэрыяў, якім мусяць адпавядаць малыя літаратурныя формы, а “Яновіч запрапанаваў чытачу шырокі тэматычны і жанравы дыяпазон твораў”: вершы ў прозе, лірычныя сцэнкі, сатырычныя замалёўкі. Аднак у альманаху яны не сістэматызаваны, што замінае чытачу ў адэкватным успрыняцці кожнага жанру, а вось: “Пасля іх жанравага і тэматычнага ўпарадкавання даецца заўважыць, што ў кожным з жанраў ёсць у С. Яновіча яскравыя мастацкія здабыткі і не менш выразныя хібы і няўдачы. Пры гэтым, – падкрэслівае М. Гайдук, – не будзе лішнім сцвердзіць, што аўтару ўсе тры жанры ў роўнай ступені даступны і авлоданы ім”. Глыбіня зместу і мастацкая завершанасць у вершах “Салдату”, “Прыехаў”, “Бярозка ля акна”, “Доня-дочанька”, “Валошка”, “Сны” і некалькіх іншых дасягаюцца, на думку рэцэнзента, дзякуючы таму, што аўтар выдзеліў у іх “тыя дробязі надзённасці, праз якія і побач якіх мы праходзім з халоднай абыякавасцю, а яны ж вельмі часта складаюць змест нашага жыцця”. Адзіна, раіць М. Гайдук сябру па пяру, каб пазбягаў у лірычнай прозе “нарачытага дыдактызму”. У сваю чаргу апрача ўдалых твораў ёсць і такія, “у якіх аўтар кранае істотныя і хвалюючыя праблемы нашай

рэчаіснасці, аднак мастацкая н е д а п р а ц а в а н а с ц ь у вялікай меры зніжае іх вартасць, для прыкладу: мініяцюра “Хата” пазбаўлена развітай вобразнасці і пуэнты (канцоўка “Наша хата цацы”, па сутнасці, пазбаўлена зместу)”. Звяртаецца ўвага на лексічныя неадпаведнасці, як у творы “Фэст”. Цалкам станоўча адзываецца М. Гайдук аб сатырычных замалёўках, бачачы ў іх “найбольшы лік сапраўдных паўнавартасных здабыткаў . Адметныя іх рысы – гэта тэматычнае багацце, майстэрства дыялогу і ўменне канструяваць вобразы”. Нягледзячы на пэўныя адзначаныя недахопы, М. Гайдук падкрэслівае ў заключэнне, што ў асобе С. Яновіча літаб’яднанне мае “ўжо цалкам сфармаванага і ўмелага мініяцюрыста, ад якога можна патрабаваць і належыць спадзявацца дасканалых твораў. Зарука гэтаму той шляхетны ідэал чалавека чулага, высакароднага і прыгожага, які стварае аўтар, асуджаючы агідныя праявы людской натуры. Яновіч настойліва не хоча ўспрымаць чалавека такім, якім той ёсць. Ён патрабуе ад людзей “ачышчэння ад усялякай скверны” ў імя таго светлага, шчаслівага і велічнага, да якога яны пакліканы самім жыццём. Гэта здаровы і надзейны пункт апоры добра пачаўшага свой творчы шлях пісьменніка”.

Аб тым, што аб’яднанне беларускіх пісьменнікаў “Белавежа” адыгрывала значную ролю ў літаратурным жыцці Беласточчыны, засведчыла з’яўленне ў 1966 годзе зборніка-альманаха “Kształty myśli“ (“Кшталты думак”), які выйшаў дзякуючы грашовай падтрымцы Беластоцкага таварыства культуры і Ваяводскага праўлення Саюза вясковай моладзі. Кнігу ў звыш ста старонак, на якіх былі прадстаўлены 15 аўтараў, згуртаваных у Беластоцкім аддзеле карэспандэнцыйнага клуба маладых пісьменнікаў, падрыхтавалі да друку Ян Чыквін, Сакрат Яновіч і Эдвард Ярашэвіч. Гэта было першае калектыўнае выданне Клуба. В. Рудчык у нататцы “Паэтыцкія парасткі” адзначыў, што выйшлі “Кшталты думак” “якраз тады, калі на старонках “Gazety Białostockiej” закончыліся заўзятыя спрэчкі аб нашай рэгіянальнай літаратуры, а дакладней аб тым, што яе няма”(45). З перспектывы сённяшняга дня такая спрэчка падаецца нават больш, чым дзіўнай, бо ці ж “белавежскія” калектыўныя “Рунь”, “Белавежа” ды аўтарскія кнігі А. Барскага, Я. Бурша, шматгадовая Літаратурная старонка “Нівы” не былі сведчаннем актыўнага літаратурнага жыцця на Беласточчыне... Апрача аўтараў, знаёмых чытачу па старонцы “Белавежа” (Я. Бурша, Я. Чыквіна, С. Яновіча, Э. Ярашэвіча, А. Казберука і В. Шведа, якія дэбютавалі на польскай мове), засведчылі аб сваім творчым патэнцыяле іншыя “беластоцкія маладыя пісьменнікі”. Творы С. Яновіча былі надрукаваны на беларускай мове разам з перакладам на польскую мову Э. Ярашэвіча, які, аднак, В. Рудчык назваў “механічнай, а не творчай перадачай зместу”. Аўтар нататкі канстатуе, што большасць вершаў альманаха напісана “сучаснай формай” і нічога не маючы супраць яе, сведчыць, што цяжкавата разабрацца ў змесце і сэнсе паасобных вершаў, з чаго вынікае далёка не кампліментарная, але і

памяркоўная выснова: “Адно можна сказаць адкрыта: паэтыцкіх шэдэўраў дарэмна шукаць у гэтым зборніку. Часам атрымоўваецца толькі густая сечка са слоў. Ніхто аднак не павінен патрабаваць шэдэўраў у тых, хто на цяжкім творчым шляху ставіць свой першы крок. Хопіць, калі знойдзецца хаця адзін твор, які без нацяжкі можна назваць сапраўдным вершам. А гэта адносіцца па-мойму да ўсіх аўтараў. У многіх сярод іх можна выявіць па некалькі добрых вершаў”. Такім чынам, паэтычны альманах “Кшталты думак” “даказаў наяўнасць літаратурнага маладняка на Беласточчыне”, а што з яго вырасце, пакажа час і, магчыма, некаторыя аўтары, выказваў спадзяванне В. Рудчык, “патрапяць заваяваць сабе трывалае месца ў польскай сучаснай літаратуры”.

На працягу пэўнага часу сапраўды побач з беларускамоўнай літаратурай на Беласточчыне, вобразна гаворачы, у засені яе, будзе ўзрастаць польскамоўнае прыгожае пісьменства. Без перабольшання можна адзначыць, што цягам яшчэ некалькіх дзесяцігоддзяў пісьменнікі “Белавежы”, як найстарэйшай тутэйшай літаратурнай арганізацыі, будуць, безумоўна, вызначаць літаратурнае жыццё на Беласточчыне. Яскравае выяўленне знайшоў гэты працэс на Літаратурнай старонцы. Вось 6 жніўня 1967 года на ёй друкуецца артыкул “Адчуванне часу” рускага паэта Васіля Качнова з Лодзі пра творчасць В. Шведа. У гэтым жа годзе пабачыла свет першая паэтычная кніга паэта “Жыццёвыя сцежкі”, што, відаць, і стала падставай для рэфлексій прыхільніка паэзіі аднаго з вопытнейшых паэтаў “Белавежы”. “Па-сапраўднаму хвалююць строгія, лаканічныя, поўныя ўнутранага напружання вершы Віктара Шведа, – піша В. Качноў. – Паэт Віктар Швед ідзе ў рэчышчы традыцыі беларускай і рускай лірыкі з яе характэрнай асаблівасцю перадаваць настрой лірычнага героя цераз прыроду. Ды і праз прывычныя для Шведа вобразы, інтанацыі ўладна пранікае паэтычная думка, якая фіксуе прыкметы часу, раскрывае асобу сучасніка”[46]. Аўтар артыкула адзначае, што паэту ўдаецца знайсці найбольш патрэбныя словы не толькі паводле зместу, але і па гучанні. В. Качнову падабаецца, што непазбежны ўплыў польскай паэзіі В. Швед падпарадкоўвае вымогам беларускай паэтычнай традыцыі: “Верш Віктара Шведа сатканы з музыкі жывой беларускай мовы, з тонкіх адценняў чалавечага настрою. Яму падуладна стыхія вуснай народна-паэтычнай творчасці (...)”. Крытык адзначае, што В. Швед “любіць слова і вобраз, шукае яго”, а гэтыя ж пошукі змушаюць паэта “быць наглядальнікам падзей і жыцця”. Больш таго, някідкія, спакойныя ў плане выяўлення пачуццяў вершы В. Шведа сваёй асабовасцю дапамагаюць усвядоміць сутнасць традыцыі. Звяртаецца ўвага на тое, што патрыятызм у паэта з’яўляецца таксама паэтычным паняццем, глыбокім па сваім змесце, які выяўляецца ў любові да сваёй Беласточчыны і ўсёй Беларусі. Дакладна фармулюе В. Качноў сутнасныя моманты, якімі вызначаецца тэматычна-ідэйны змест творчасці: “Светасузіранне Шведа акрэслена не толькі веліччу і прыгажосцю

роднай прыроды, а ў першую чаргу цяжкімі гадамі вайны і працы. (...) Грамадзянскія і народныя матывы ў яго лірыцы займаюць вядучае месца нават у вершах для дзяцей”. Пажаданне ж, выказанае рускім паэтам напрыканцы добразычлівага артыкула, адносілася да ўсіх “белавежцаў” і амаль напрамую карэспандавалася з класічнай “нашаніўскай” парой, запаветамі наймаладога беларускага класіка Максіма Багдановіча: “Няхай у пошуках жывой вады для творчасці паэты “Белавежы” часцей прыпадаюць да старых крыніц роднай Беларусі, а таксама не баяцца запазычанняў і ўплываў, без якіх не можа развівацца ніводная культура”.

У 1968 годзе Беларускае літаратурнае аб’яднанне ў Польшчы адзначыла свой першы дастаткова важкі юбілей – “Белавежы” споўнілася дзесяць гадоў. Дзевятага чэрвеня адбыўся святочны семінар, а ў краса-віцкім нумары часопіса “Кантрасты” пабачыў свет артыкул старшыні літаб’яднання А. Баршчэўскага “Дзесяцігоддзе <Белавежы>”. Гэты ж артыкул быў надрукаваны ў Беларускім календары за 1969 год. Уяўляў ён сабой, зразумела, канцэнтраваны агляд эвалюцыі развіцця беларускага літаратурнага руху на Беласточчыне. Узгадвалася, што сваім узнік-неннем “Белавежа” ў значнай ступені была абавязана з’яўленню БГКТ і заснаванню яго органа “Нівы. Безумоўна, спробы творчасці на беларускай мове, якія і сталіся падставаю для ўзнікнення адзінай такога кшталту літаратурнай арганізацыі нацыянальнай меншасці ў Польшчы, існавалі на Беласточчыне здаўна. А. Баршчэўскі прыгадвае, што галоўным ініцыятарам і арганізатарам літаратурнага аб’яднання быў рэдактар “Нівы” Г. Валкавыцкі. Яму ж належыць і ініцыятыва выдання і рэдактарства першага агульнага альманаха “Рунь”. Так сталася, што з сямнаццаці аўтараў “Руні” каля дзесяці больш пра сябе не заяўлялі. Аднак на змену ім прыйшлі “аўтары, надзеленыя бясспрэчным літаратурным талентам”[47]. Прычым з вышэйшай гуманітарнай адука-цыяй. Не абмяжоўваючыся канстатацыяй падзей, А. Баршчэўскі звяртаецца да мастацка-эстэтычнай характарыстыкі першапачатковай творчасці членаў літаб’яднання: “Трэба аднак сказаць, што паэтычная форма ўзнікшых у той час вершаў даволі простая. Набліжаецца яна ў многіх выпадках да формы той аматарскай беларускай паэзіі, якая паяўлялася ў вясковым ці школьным асяроддзі ў першыя гады народнай улады. Найбольш тыповымі прадстаўнікамі такога стылю ў паэзіі сталіся Сошка, Швед, Шатыловіч. У іх творчасці маем дачыненні з пастаяннай дамінацыяй зместу над формай. Праблематычны абсяг гэтага зместу даволі шырокі, датычыць ён і перамогі над фашызмам, і новых магчымасцей вёскі падчас народнай улады і перспектываў моладзі, і барацьбы за мір. Пафаснасць, эмацыянальнасць і шчырасць гэтай паэзіі вялікія, аднак у сэнсе фармальным не робіць яна ніякага кроку наперад у параўнанні з ранейшымі дасягненнямі беларускай паэзіі. Выключэннем з’яўляецца тут, несумненна, паэзія Я. Бурша – галоўнага эксперыментатара ў галіне паэтычнай творчасці”(172).

За два першыя гады існавання літаб’яднання арганізацыя значна папоўнілася беларускімі паэтамі з розных рэгіёнаў Польшчы. Час патрабаваў таксама ўвядзення новых форм дзейнасці. Так, на з’ездзе 1962 года было прынята рашэнне аб пераходзе аб’яднання пад непасрэдную апеку Галоўнага праўлення БГКТ. Так як да літаратараў далучыліся і мастакі, арганізацыя атрымала назву “Літаратурна-мастацкае аб’яднанне <Белавежа>”. Два разы на год пачалі праводзіцца семінары “Белавежы”, арганізоўваліся аўтарскія сустрэчы з чытацкай аўдыторыяй. Да несумненных дасягненняў дзесяцігадовай часавай дыстанцыі А. Баршчэўскі залічыў наступныя кніжныя выданні: “<Рунь>” – зборнік 17 аўтараў, “Фельетоны Дзядзькі Лявона” – зборнік фельетонаў Станіслава Вагуркі, “Мой родны кут” – зборнік прозы і паэзіі для дзяцей 12 аўтараў, “Белавежскія матывы” – зборнік паэзіі Алеся Барскага, “Альманах <Белавежа>” – зборнік паэзіі і прозы 22 аўтараў, “Прамень думкі” – зборнік паэзіі Яшы Бурша, “Жыццёвыя сцежкі” – зборнік паэзіі Віктара Шведа, “Жнівень слоў” – зборнік паэзіі Алеся Барскага. Падрыхтаваны да выдавецтва зборнікі І. Чыквіна, С. Яновіча, А. Барскага. Выйдуць яны у свет у найбліжэйшыя гады” (173). Пабачыла свет звыш 140 выпускаў Літаратурнай стронкі, значная колькасць твораў змяшчалася ў Беларускіх календарах. На працягу дзесяці гадоў “белавежцы” правялі звыш 700 аўтарскіх сустрэч.

Напрыканцы свайго святочнага справаздачнага артыкула А. Баршчэўскі зноў звяртаецца да агульнай характарыстыкі творчасці сяброў літаб’яднання: “(...) хацелася б падкрэсліць, творчасць членаў “Белавежы” засталася творчасцю глыбока заангажаванай. Праблематыка Беласточчыны ў далейшым дамінуе ў прозе і ў паэзіі. Няма ў гэтай паэзіі ні хвараблівага песімізму, ні безнадзейнасці, ні нігілізму. Аўтары, глыбока зросшыся з сваёй зямлёй і сваім народам, стараюцца па сіле сваіх магчымасцей, як найболей адбіваць у сваёй творчасці характэрныя з’явы з мінулага і сёняшняга дня Беласточчыны. Не азначае гэта, што творчасць “белавежцаў” замыкаецца выключна ў коле Беластоцкага рэгіёну. У ніякім выпадку нельга акрэсліць усю нашу творчасць як з’яву рэгіянальную. Не чужыя нашым аўтарам праблемы агульначалавечыя, хаця выяўлены яны найчасцей праз прызму перажыванняў і дасведчанняў герояў з Беласточчыны” (174).

Найбольш актыўнымі членамі “Белавежы” старшыня называе сярод паэтаў Шведа, Бурша і Чыквіна, а сярод празаікаў – Раманчука, Гайдука, Яновіча, Рудчыка, Дваракоўскага, падкрэсліваючы, што кожны з гэтых аўтараў ужо мог мець сваю выдадзеную кнігу. Перашкодай таму вельмі павольны “цыкл прадукцыі кніжкі”, які “цягнецца цэлымі гадамі”, аднак старшыня выказвае амбітныя планы адносна выдання ў наступным дзесяцігоддзі 30–40 пазіцый. “Хочацца такім чынам яшчэ больш падкрэсліць і зрабіць наглядным факт нашай актыўнай прысутнасці ў культурным жыцці Беласточчыны і ўсёй краіны” (174).

Вельмі важкім, дакладным і пацверджаным наступным развіццём “Белавежы” бачыцца заключны абзац артыкула: “Канчаючы, хочацца падкрэсліць вялікую разнароднасць творчых стыляў паасобных аўтараў “Белавежы”. Непаўторная індывідуальнасць творчага почырку належыць да галоўных дасягненняў нашага аб’яднання, свабода пошукаў, магчымасць эксперыменту, адсутнасць шаблонных установак з боку адміністрацыі будуць спрыяць, несумненна, узнікненню твораў, якія сваёй шматграннасцю пакажуць жыццё ў яго шматлікіх адценнях і праявах” (174). Наступныя дзесяцігоддзі “Белавежы” пацвердзілі справядлівасць надзей і высноў тагачаснага старшыні літаб’яднання.

Выданне аўтарскіх кніг сяброў літаб’яднання сведчыла аб тым, што “Белавежа” набывала выразную асабовасць. Літаратурная ж старонка “Нівы” сапраўды адлюстроўвала як шматстайнасць творчых пошукаў, так і станаўленне крытычна-літаратуразнаўчай думкі. Відаць, І. Чыквін быў адным з тых, хто найвастрэй усведамляў важнасць для плённага творчага жыцця непасрэднай прысутнасці ў арганізацыі крытыка. Прынамсі, ужо з пачатку 60-х гадоў, як ужо згадвалася, звяртаў увагу на неабходнасць крытычнага асэнсавання твораў, а таксама пасяхова рэалізаваўся ў іпастасі крытыка сам. Адзін з цікавых прыкладаў таго ўяўляе публікацыя “Дыялог паэта з крытыкам”, якая складаецца з дзвюх частак. У першай, пад назвай “Інтэрпрэтацыя”, І. Чыквін задаецца пытаннем адносна відаў асэнсавання твора: “Крытык рэканструюе не толькі гіпотэзу цэласці твора, але і кантэкст. А кантэкст мае дваякае значэнне. З аднаго боку – гэта круг гістарычна-літаратурных умоў, з другога – на ўзнікненне літаратурнага твора вялікае значэнне мае культура аўтара, яго густы, уражлівасць на традыцыі і паэтычныя школы і г.д.”[48]. І вось у залежнасці ад таго, што больш цікавіць і падкрэсліваецца крытыкам, выдзяляюцца гістарычна-літаратурныя і крытычна-літаратурныя інтэрпрэтацыі. І. Чыквін усведамляе, што рэзкага падзелу паміж гэтымі “інтэрпрэтацыямі” няма: “гісторык літаратуры заўсёды глядзіць праз прызму сучаснасці і сваіх густаў”. У другой жа частцы пад назвай “Адно для ўсіх” аўтар “Дыялога паэта з крытыкам” аналізуе – уласна рэалізуе на практыцы тэорыю, выкладзеную ў “Інтэрпрэтацыі” – верш з васьмі радкоў У. Гайдука “У полі плача...”, змешчаны на гэтай жа Літаратурнай старонцы. І. Чыквін слушна заўважае: “ У вершы няма фабулы – сюжэт разыгрываецца ўсюды і нідзе, і таму такая фабула мае сэнс агульны, сэнс сімвалічны. Можна затым інтэрпрэтаваць твор у шырокім аспекце”, што і робіцца далей з праніклівай увагай да ўсіх сэнсавых нюансаў верша. Архетыповыя матывы восені, прамінання сапраўды “расшыфроўваюцца” крытыкам у адпаведнасці з паэтычным светам твора і яго магчымасцямі своеасаблівага герменеўтычнага вычування-тлумачэння, абумоўленымі яго ж асабовасцю: “Лірычны герой, напоўнены думкамі аб чалавечым прамінанні, ведаючы, што ён часціца прыроды, не бунтуецца супроць яе

правоў, а паддаецца яе кругазвароту. Як жа прадоўжыць чалавеку сваё існаванне ў прыродзе, у часе? Зразумела, трэба “пасеяць” сябе. Таму ён ідзе на “шэрыя загоны”. Уважлівы чытач вычувае, што гэта не проста загоны поля, наша зямля, а нешта іншае, а менавіта – тая штодзённая (таму і ”шэрая”) праца, дзе кожны чалавек у нейкай ступені адраджаецца і адначасова гіне, як зерне, укінутае ў раллю, гіне само, выдаючы мноства другіх. Нездарма ў творы паяўляецца слова <магіла>”. Малады паэт І. Чыквін разглядае верш маладога паэта У. Гайдука і ім абодвум яшчэ далёка да “асенняга” перыяду жыцця, “аднак людзей уражлівых часта наведваючы “асенні сум” неўмаліма вядзе туды ж – на магілу залатога лета”. Ды верш, падкрэслівае крытык, ніякім чынам не песімістычны, не напісаны ў тоне катастрафізму, бо выяўляецца ў ім разуменне дыялектыкі прыроды. “А чалавеку толькі таму цяжэй і сумней жыць, бо ён свядомы свайго прамінання, сваёй “зямной” гісторыі. Чалавек спагадае іншым жывым формам прыроды настолькі, наколькі яны – несвядомыя – нагадваюць чалавеку аб пастаянным абмене ў прыродзе. І прызнакі іх нетрываласці чалавек пераносіць на сябе (параўнанне з ападаючымі лісцьмі ці птушкамі ў пралёце”). Цікава тлумачыць І.Чыквін самы пачатак верша, згадваючы, што калі “загоны”, на якіх чалавек “сее” сябе, з’яўляюцца яго працай, “то поле – у такім аспекце – будзе часам, у якім мы жывём, а вецер – чалавекам. Як мота да верша паэт з самага пачатку канстатуе: чалавек жыве так нетрывала і так коратка, як вецер. Слова “валачобнік” – паэтычная акраса, канкрэтызуючая вецер у духу сялянскай філасофіі”. І завяршаецца гэта міні-рэцэнзія аднаго верша таксама філасофскай развагай аб тым, што “жыццё чалавека мае сэнс, таму што яно падпарадкавана аднаму для ўсіх праву прыроды – нетрываласці”.

На пачатку ліпеня 1968 года ўрэшце пабачыла свет першая “белавежская” аўтарская кніга прозы, а менавіта “Загоны” Сакрата Яновіча, якую склалі лірычныя абразкі, замалёўкі, апавяданні. У кароткім эмацыянальным слове да чытача рэдактар кнігі Мікалай Гайдук, адзначыўшы, што героямі твораў С. Яновіча з’яўляюцца беларусы Беласточчыны, добразычліва падкрэсліў: аўтар “Загонаў” – “аб’ектыўны і сумленны мастак. Ён усяцэла заглыбіўся ў бездань жыццёвых канфліктаў нашага сучасніка, вынес іх з топелі штодзённшчыны на святло дня і стварыў магчымасць чытачу даць ім уласцівую ацэнку”[49]. Зразумела, што гэты першы зборнік твораў С. Яновіча, па словах М. Гайдука, “кветка, граючая ірдзістымі колерамі” і выдыхаючая водары “свойскасці нашага беларускага беластоцкага загона жыцця”, быў увогуле прыняты з энтузіязмам і захапленнем і асабліва сябрамі па літаратурным аб’яднанні. Так, Янка Целушэцкі, адзначыўшы, што аб “Загонах” С. Яновіча пісалася ў шэрагу часопісаў і тыднёвікаў краіны, прызнаўся ў рэфлексіі “Аб кніжцы Сакрата Яновіча”, што кніжку прачытаў за два вечары і вельмі ўдзячны аўтару. У дакліvых героях

аповесцей С. Яновіча ён нібы пазнаў самога сябе, які аказаўся паміж вёскай і горадам ды яшчэ з драматычнымі праблемамі першага кахання. Адной з істотных вартасцей кнігі, на думку Я. Целушэцкага, з’яўляецца яе тэматычная адкрытасць у сучаснасць, што садзейнічае непасрэднаму кантакту з чытачом, схільнасці яго да рэфлексіі, суперажывання. Эканомнымі сродкамі пісьменніку ўдаецца стварыць багатыя вобразы, адлюстраваць настрой герояў, драматызм іх лёсу. Урэшце, што вельмі істотна, выклікаць роздумы ў чытача над жыццёва важнымі пытаннямі[50].

Праз некалькі нумароў Літаратурнай старонкі (№ 131) гаворка пра празаічнага “белавежскага” першынца зноў працягнулася ў рубрыцы “Адгалоскі”. Гэтым разам з нататкамі “Яшчэ раз пра <Загоны>” выступіў рэдактар беларускага радыё ў Беластоку Станіслаў Пазнанскі. “<Загоны > – кніжны дэбют Сакрата Яновіча – цікавая і арыгінальная проза, – так ва ўнісон з Я. Целушэцкім распачаў ён сваю міні-рэцэнзію. – Апавяданні, змешчаныя ў зборніку – гэта пераважна лірычныя замалёўкі суб’ектыўнага характару. Але гэты суб’ектывізм апавяданняў Яновіча не кідаецца ў вочы, паколькі аўтарскія назіранні пакрываюцца з нашымі ўласнымі і чытач гэта выразна адчувае”[51]. Заслуга мастака выяўлялася якраз у тым, што ён не навязваў чытачу сваіх думак, а толькі далікатна іх прадстаўляў, што стварала ўражанне, нібыта гэта ўласныя думкі і пачуцці чытача, якія аўтар толькі па-мастацку аформіў. Асабліва выдзеліў С. Пазнанскі “кароценькія апавяданні-мініяцюры, якія стаяць на мяжы між прозаю і паэзіяй. У большасці такіх апавяданняў кожнае слова выважанае і мае сваё, адно толькі месца ў творы і толькі на гэтым месцы яно мае свой сэнс. У гэтых кароценькіх апавяданнях Яновіч праявіў сябе як мастак, які не змарнаваў ніводнага слова, а кожны ўзмах рукі прыдае твару нейкае новае значэнне. Але і ў большых празаічных формах мастак не губляецца. Маю на ўвазе навелы “Таня” і “Ён і іншыя”, якія ў пэўным сэнсе з’яўляюцца працягам першай часткі зборніка. Асабліва апошняе, дзе кожнае сутыкненне галоўнага героя з “іншымі” мае свой самастойны і глыбокі змест”. Аднак С. Пазнанскі апрача вартасцей звяртае ўвагу і на пэўныя недахопы. Так, на яго думку, апавяданне “Экскурсія” па-мастацку ўсё ж не аформлена: “У адрозненне ад іншых не хапае яму філасофскай глыбіні, а сам змест не прадстаўляецца цікава, застаецца ўражанне, што аўтар яго не закончыў”. Адзначыўшы, што “Пісьмы з вёскі” сведчаць аб добрым веданні аўтарам псіхікі селяніна і вясковай праблематыкі, С. Пазнанскі заўважае, што іх мастацкі ўзровень ніжэйшы за ўзровень апавяданняў, а да таго ж праблематыка “Лістоў” паўтараецца. А вось апавяданні, змешчаныя ў раздзеле “Дзядзькаў соннік”, з’яўляюцца цікавымі, багатымі добрым гумарам і сатырай.

У наступным нумары Літаратурнай старонкі ў той жа рубрыцы “Адгалоскі” ўражаннямі “Чалавек ідзе за сонцам” адносна “белавежскага” кніжнага празаічнага дэбюту дзяліўся Сымон Раманчук. Шчыра радуючыся плёну калегі па пяру, ён вельмі высока ацэньваў творчасць

аўтара “Загонаў”: “Сакрат піша таксама па-свойму, інакш чымсьці хто-небудзь з нас. Ёсць у ім нешта ад Чэхава і ад Бабеля, можа нават і ад Хемінгуэя, але галоўнае, што ў ім ёсць – гэта ён сам. Са сваім светам думак, перажыванняў, светам пісьменніцкай фантазіі. Пісаць, быць пісьменнікам – гэта мастацтва, пісаць коратка, але цікава, займальна – гэта вялікае мастацтва.

Сакрат піша коратка, але ў кожным яго сказе відавочны то радасць, то жаласлівасць, то стома, то ўцеха – смех, то слязіна бліскучая, скупая. У жыцці, як на загонах у агародзе, усё бывае – і людзей сустрэнеш, і пустазелле. Людзі бываюць усялякія, па-рознаму думаюць, па-свойму жывуць, свае погляды на свет маюць. І Сакрат усё гэта заўважае, усё бачыць і чуе, а найважнейшае – умее сказаць аб бачаным, сказаць умела, цікава”[52]. Гэтыя развагі аб творчасці С. Яновіча маюць асаблівую вартасць, бо вядуцца з пункту погляду празаіка, які міжволі параўноўвае спосаб стварэння мастацка-эстэтычнай мадэлі рэчаіснасці ім і калегам. Яму, напрыклад, бліжэй паказ шырокай плыні жыцця “больш разліўны характар людзей, літаратурных персанажаў і пейзажаў”, таму многія з твораў С. Яновіча “былі б толькі планам, накідам, задумай, але гэта не абазначае, што фрагментарнасць, адарванасць, нейкая нават часам незакончанасць, урывачнасць, з’яўляюцца рэччу кепскай і непатрэбнай”. Зварот С. Яновіча да кароткіх форм абумоўлены, па перакананні С. Раманчука, ніякім чынам не модай на “міні” і “мікра”, а адпаведнасцю менавіта гэтых форм яго творчай індывідуальнасці.

Наступная творчая характарыстыка аўтара “Загонаў” таксама ў значнай ступені сведчыць і аб самім С. Раманчуку: “Сакрат па-свойму ацэньвае і асэнсоўвае свет, людзей, прыроду, самабытнасць таго кутка Беласточчыны, якую ад вякоў насяляюць беларусы, увабраўшыя ў сябе спадчыну мінулага, узбагаціўшыя сваё, беларускае, польскім элементам, на які таксама ўчынілі свой жыватворчы ўплыў, прыдаючы ўсяму польскаму своеасаблівы беластоцка-беларускі адценак”.

С. Раманчук спецыяльна акцэнтуецца на душэўнай уражлівасці сябра па пяру, што бачыцца яму неабходнай рысаю кожнай творчай асобы. Ён выказвае словы шчырай радасці з нагоды выхаду кнігі, “добрай кнігі” і нагадвае, што напісанае ім у ніякім разе не рэцэнзія, ён не адчувае сябе крытыкам: “Тое, што я сёння напісаў – гэта радасць за Сакрата, за тое, што найважнейшае ў яго – чалавек; гэта падзяка яму за тое, што ён патрапіў узварухнуць сэрцы сваіх чытачоў, за тое, што, як пісаў некалі Лучына аб Багушэвічу, “сярод братоў нашых знаходзяцца людзі з кахаючым сэрцам і баляшчай груддзю”.

Дзякуй табе, Сакрат! Поспехаў табе, Дружа, Які ідзеш за сонцам, Які ідзеш да людзей, Які ідзеш разам з імі!” – так эмацыянальна-ўзнёсла закончыў С. Раманчук свае развагі, інспіраваныя выхадам “Загонаў”.

Напрыканцы 1969-га – напачатку 1970 года “Белавежа” ўзбагацілася двума аўтарскімі зборнікамі паэзіі: выйшлі кнігі Я. Чыквіна “Іду” і

“Святая студня”. Зразумела, такая падзея не магла быць абмінутай на Літаратурнай старонцы. У красавіцкім яе нумары В. Рудчык выступіў з артыкулам “Аб паэзіі Яна Чыквіна”. Адразу аўтар задаўся пытаннем, якое ж месца ў паэтычных “белавежскіх” шэрагах займае Ян Чыквін. Сваю сцяжыну ў “творчым гушчары” знайшлі А. Барскі, Я. Бурш, В. Швед. Я. Чыквін “таксама пайшоў сваёй дарогай. Ад Віктара Шведа адрознівае яго больш глыбокае адчуванне і больш частае выкарыстанне метафары як асноўнага матэрыялу да пабудовы паэтычнага вобразу; Алесю Барскаму супрацьстаўляе ён спакайнейшы тон сваёй паэзіі; са сцяжынкай Яшы Бурша размінаецца сваімі прыхільнымі адносінамі да традыцыйнага паэзіятварэння, выпрабаванага пад пяром самых ясней-шых зорак на небе гісторыі літаратуры”[53]. Досыць строга падыходзіць крытык да зборніка “Іду”, выдзяліўшы з сарака трох змешчаных у ім вершаў толькі каля дваццаці, якія прывабілі асабіста ягоную ўвагу. Спаслаўшыся на пошук паэтам адэкватных слоў, “якія проста, але праўдзіва і глыбока адлюстравалі б наша жыццё”, В. Рудчык гатовы кардынальна скараціць некаторыя творы. А вось у зборніку “Святая студня” “перагавораных” твораў крытык амаль не бачыць: “Тут паэт праяўляе свядомую адказнасць за эканомію слова (...)”. Асаблівай увагі з мастацкага пункту погляду, на думку В. Рудчыка, заслугоўваюць паэма “Беларуская дзяўчына” (зборнік “Іду”) і цыкл санетаў “Святая студня” (зборнік “Святая студня”). “Такога тыпу твораў дарэмна шукаць у зборніках іншых “белавежцаў”. Паэма “Беларуская дзяўчына” сваімі сямю часткамі-раздзеламі пераконвае нас, што спакойнае, сапраўднае шчасце можна знайсці сярод сваіх родных, блізкіх людзей.

А санеты?.. Гэта зусім іншая рэч. Ян Чыквін спакусіўся на выса-кародную справу: напісаў свае “крымскія” санеты, якія яўна адгукваюцца на вядомы шэдэўр гэтага роду ў польскай літаратуры. Дакладна ацаніць вынікі гэтай спробы тут немагчыма, бо дзеля гэтага неабходна правесці падрабязны параўнаўчы аналіз. Агульна можна сказаць, што аўтар даў нам твор дакладна прадуманы і скампанаваны ў адну неразрыўную цэласць. Ды і сэнс яго вельмі глыбокі”. В. Рудчык дакладна вызначае, што героем твораў Я. Чыквіна. “яго тыпам” з’яўляецца “інтэлігент беларускага паходжання, свядомы сваёй нацыянальнай прыналежнасці, чалавек, загублены ў шматлюднай ананімнасці вялікага горада”, які адчувае сябе свабодным і шчаслівым, калі вяртаецца ў сваё пад-пушчанскае дзяцінства. Не знаходзіць В. Рудчык у кнігах Я. Чыквіна вершаў, у якіх гучалі б “стыхійныя грымоты”, якія адзываліся б гневам, нылі б безвыходным болем і канстатуе, што яны “адлюстроўваюць малы рэалізм нашай сучаснасці”.

Між тым побач з развагамі В. Рудчыка аб паэзіі Я. Чыквіна на Літаратурнай старонцы размясцілася новая рубрыка “Зуброўнік Янкі Дубіцкага”. Георгій Валкавыцкі, з галавой заняты рэдагаваннем “Нівы”, прапанаваў маладому аўтару дзвюх паэтычных кніг папрацаваць з

“маладняком” – адказваць на пытанні пачаткоўцаў. Вельмі шкада, што “Зуброўнік”, як экспрэс-форма творчай вучобы, разнастаіў толькі чатыры Літаратурныя старонкі. І на гэтым этапе патэнцыял Янкі Дубіцкага як дарадцы, кансультанта, які стараўся дапамагчы малодшым калегам ва ўзрошчванні іх творчых здольнасцей, аказаўся далёка нявыкарыстаным. Магчыма, многія з пачаткоўцаў былі негатовыя да сур’ёзнай гаворкі. Варта прывесці некалькі прыкладаў. Вось Я. Дубіцкі звяртаецца да С. С. з Гайнаўкі: “Вы імкнецеся гаварыць пра справы вялікія, нават грандыёзныя ў сваіх агульнадзяжаўных ці агуль-нанародных маштабах, аперыруеце паняццямі высокімі. Але таму, што няма ўласнага вопыту, твору не хапае жыццёвай праўды. Твор “Дзе ж вы, хлопцы?” – гэта агульшчына і рыторыка ў дрэнным значэнні слова. Не выкарыстаем”[54]. Ці адказ на пошту В. Л. з Плёсак: “Невядома, чаму маладыя людзі ўсё часцей прысылаюць да нас вершы, напісаныя ў форме верлібра (вольнага верша). Сапраўдны верлібр, як і ўсе сапраўдныя творы, вымагае вялікай працы – хто ведае, ці не большай, як пры класічных формах. Вашыя верлібры – гэта празаічны набор слоў з ніякай думкай. Чытаць, вучыцца, працаваць – вось які павінен быць ваш лозунг. І больш патрабавальнасці да сябе”[55]. Так супала, што побач з першым “Зуброўнікам” быў надрукаваны і дэбютны верш Надзеі Артымовіч “Ой, ляцелі гусі”, а ў “Зуброўніку” ж адказ, відаць, ёй жа – Н. А. з Варшавы: ”Дзякуем за мілы ліст. Заахвочваем пісаць далей. Прысылайце нам матэрыялу больш і часцей (...)”[56]. Што ж, арганізацыйны, выдавецкі, настаўніцкі патэнцыял Я. Дубіцкага рэалізуецца напоўніцу на працягу даўгатэрміновага знаходжання (ад 1989 года) Я. Чыквіна на пасадзе Старшыні Літаратурнага аб’яднання.

Несумненнай падзеяй для “белавежцаў” стаў – услед за Алесем Барскім – прыём у Саюз польскіх пісьменнікаў Сакрата Яновіча, што адбылося ў лютым 1970 года. І якраз амаль на дванаццацігоддзе “Белавежы” на Літаратуранай старонцы адбылася размова паміж С. Яновічам і Я. Чыквіным. Хочацца падкрэсліць, што пад назваю “Хачу пісаць добра” знайшло месца не інтэрв’ю, а менавіта непасрэдная гаворка паміж выдатнымі “белавежцамі”, якія ўжо мелі свой творчы задзел, у якім пазнаваўся іх патэнцыял, далейшы плён. У разгорнутых пытаннях-развагах Я. Чыквіна выяўляліся яго светапогляд, разуменне механізму творчых працэсаў. У сваю чаргу С. Яновіч адказваў надзвычай адкрыта, шчыра. Як, напрыклад, на пытанне, ці не стаў ён “глядзець на людзей з вышыні Парнасу”: “Думаю, што не. На свет гляджу я па-ранейшаму. Але разам з гэтай, як ты назваў, прафесіяналізацыяй, паявілася не ўпэўненасць, а наадварот няўпэўненасць, перапалох ад таго, каб не напісаць дрэннага, горш таго, што напісаў. Страх гэты бярэцца ад жадання пісаць толькі лепш. Тое, што рабіў дагэтуль, мела характар выпадковы. Цяпер аб выпадковасці нельга гаварыць. Хачу пісаць добра і абавязкова добра”[57]. Значную цікавасць уяўляюць развагі С. Яновіча ў

адказ на пытанне аб міфе, які ці не пачаў ён ствараць вакол сябе: “Так, стараюся ствараць. І не пярэчу яго нарастанню. Але ці ўжо ён існуе? Можа, парасткі... (...) Рацыю існавання міфа я бачу перш за ўсё ў папулярызацыі таго, што я раблю. Пішучы, я хачу аказаць акрэслены ўплыў на людзей. У прысьпяшэнні гэтага трэба дазволіць нарастаць міфу. (...) У міфе я бачу магчымасць фармавання беларускага культурнага субстрату, у цэментацыі беларусаў. І таму не варта перашкаджаць нарастанню міфаў у адносінах да іншых людзей, бо гэтыя міфы – як магнітнае поле – прыцягваць малыя часцінкі. Нам гэта, безумоўна, патрэбна”. Арганічна ўваходзіць у міф, на думку С. Яновіча, і параўнанне яго творчасці з творчасцю прызнаных майстроў слова, “будуе рэспект да мяне, як аўтара”.

Зразумела, узнікла пытанне адносна таго, як успрымае аўтар “Загонаў” шматлікія водгукі аб ягонай кнізе і якая гаворка аб яго літаратурным першынцы ўяўляецца яму важнай і канструктыўнай. Найбольш пажаданай была для С. Яновіча “пахвала, якая ўзмацняла б, прысьпяшала, згушчала мой уплыў на асяроддзе, не чакаючы гадоў, а найхутчэй”, пры чым пахвала – не проста выказаная, а “даказаная”. На закід адносна таго, што С. Яновічу лепш удаецца кароткая форма, а даўжэйшыя творы (“Таня” і “Ён і іншыя”) “няўдачныя”, ён адказваў: “(...) Мне хочацца даць белетрыстыку чытачу, хочацца запоўніць недахоп жанраў. Вершы маюць малы ўплыў. На вёсцы верш ідзе ў форме дэкламацыі або аўтарскай сустрэчы. Падставай чытальніцтва якраз, на мой погляд, з’яўляецца белетрыстыка – апавесць. І тое, што гаварыў у імпрэсіях, захацеў сказаць у шырэйшых жанрах. Але займаюся гэтым насілу. Гэта я адчуваю. І таму толькі схільны згадзіцца з няўдачамі.... Хаця мне гэта баліць. Вельмі хочацца даць добрую белетрыстыку. Пісаць аповесці буду, але асноўныя сілы захаваю на кароткі жанр, імпрэсіі”. Знамянальна, што ўсведамляючы свае пакуль што нявыспеленыя магчымасці, С. Яновіч кіруецца менавіта патрэбамі самога беларускага літаратурнага руху, свядома змушаючы сябе пісаць аповесці, каб узбагаціць жанравую палітру “Белавежы”. На яго думку: “Наш літаратурны рух страшна аднабаковы. Адны паэты. А яны ж не створаць пачуцця вартасці беларускага слова ў шырэйшым разліве. Яны абмяжоўваюць гэту вартасць да асяроддзя элітарнага, бо гэта вынікае з самой прыроды чытання паэзіі”. Што ж, аповесць С. Яновіча “Сярэбраны яздок” разам з апавяданнямі, замалёўкамі, гумарэскамі праз восем год пабачыла свет у мінскім выдавецтве “Мастацкая літаратура” (1978). У слове “Замест пасляслоўя” прызнаны майстр слова Янка Брыль, звярнуўшы ўвагу і на “недахопы росту”, адзначыў: “Для прозы Сакрата Яновіча, я паўтараю, характэрны добрае веданне жыцця, удумлівае пранікненне ў яго глыбінны змест, шчырыя пошукі сацыяльнай справядлівасці, любоў да чалавека працы, адчуванне красы прыроды і роднага слова”[58]. У той жа “Мастацкай літаратуры” была выдадзена ў 1992 годзе аповесць “Сама-

сей”, таксама прыхільна прынятая крытыкай і чытачамі. У прыватнасці, выдавецкая анатацыя сведчыла, што твору ўласцівы “глыбокі псіхалагізм, вобразная сакавітая мова”. Такім чынам, творчыя пошукі і смеласць аўтара “Загонаў” спрычыніліся да яго ўласнага і “белавежскага” поспеху. Праўда, на жаль, пры інфармацыі пра аўтара ў першай і другой кнігах адзначалася толькі тое, што С. Яновіч з’яўляецца членам Саюза польскіх пісьменнікаў, як урэшце і ў выпадку з’яўлення аўтарскіх кніг іншых “белавежцаў”, што, зразумела, не садзейнічала папулярызацыі інфармацыі пра дзейнасць Беларускага літаратурнага аб’яднання ў Польшчы сярод чытацкай аўдыторыі Беларусі.

Праз шэсць гадоў пасля выхаду першага літаратурнага альманаха ў Беластоку прыхільнікі беларускамоўнага прыгожага пісьменства атрымалі літаратурны альманах “Белавежа” № 2. Распачынаўся ён фрагментам перакладу “Пана Тадэвуша” Адама Міцкевіча на беларускую мову, зробленым Браніславам Тарашкевічам, а заканчваўся кранальнымі ўспамінамі Людмілы Войцікавай (Зоські Верас) аб апошніх месяцах жыцця ў Мінску Максіма Багдановіча. Творчую справаздачу перад чытачом трымалі сямнаццаць літаратараў, а таксама мастакі Віктар Кабац і Анатоль Корзун. З рэцэнзіяй альманаха ў двух нумарах Літаратурнай старонкі пад псеўданімам Ігнат Снарскі выступіў Мікалай Гайдук. Найперш ён звярнуўся да разгляду жанру, у якім ужо паспеў сцвердзіцца і сам. Нататкі “Празаічныя творы “Белавежы” распачыналіся з канстатацыі таго, што некалькі гадоў таму выказваліся нараканні “на тэматычнае ўбоства нашай прозы, на недахоп твораў, прысвечаных сучаснасці. Цяпер жа тэматычны дыяпазон прозы даволі шырокі”[59]. Тут і апавяданні М. Гайдука гістарычнай праблематыкі, і апавяданні В. Склубоўскага аб пакаленні, увайшоўшым у актыўнае жыццё ў міжваенны час і зведаўшым пакуты ваеннага часу, абцяжараным у мірным жыцці пякучай памяццю, і апавяданні М. Красоўскага, У. Паўлючука, С. Раманчука, В. Рудчыка аб людзях і праблемах сучаснасці. “І ў пошуках формы таксама заўважаем ў “белавежцаў” некаторы зрух. Побач з пераважна традыцыйнымі ў пабудове апавяданнямі знаходзяцца тут таксама спробы ўнесці некаторыя канструкцыйныя змены, якія робяць твор больш напружаным, уздзейнічаюць на чытача, як напрыклад, “Пацалункі Кастухі” В. Рудчыка ці “Восень жыцця” С. Раманчука”.

Асобна акцэнтаваўся Ігнат Снарскі на творах У. Дваракоўскага “На світанні” і В. Склубоўскага “Забойцы”, у якіх разгорнута тэма злачынстваў, што “ўчыняла рэакцыйнае падполле ў 1944—1947 гадах на Беласточчыне над тымі людзьмі, якія актыўна ўключыліся ў працэс пабудовы новага грамадства. Праўда, у У. Дваракоўскага тэма вырашана надта ж фрагментарычна, аўтар абмяжоўваецца толькі да паказу прычын, якія прымушалі сялян хапацца за зброю, каб даць належны адпор бандам. Затое ў В. Склубоўскага створаны больш паглыблены вобраз гэтай барацьбы”. І далей рэцэнзент працягвае, што В. Склубоўскі наогул “за-

прапанаваў у альманаху добрую прозу”, амаль усе апавяданні яго “глыбокія і хвалюючыя”. Міхась Красоўскі (дзядзька Квас), “наш народны творца” ў апавяданні “Небывалы баль” удала, дасціпна паказаў “выхаваўчыя магчымасці старэйшага пакалення”. Адвечная праблема чалавецтва, ці варта жыць, уздымаецца С. Раманчуком у апавяданні “Восень жыцця”, хоць, на думку Ігната Снарскага, пісьменнік “загубіў свайго героя – аўтара дзённіка – даволі нематывавана, хоць яго герой – гэта тыповы чалавек, якому цяжка знайсці сувязь з іншымі людзьмі”. Істотныя праблемы беларускай вёскі разгледзеў у сваіх апавяданнях “Жменя зямлі” і “Пацалункі Кастухі” В. Рудчык. І калі з рэалізацыяй тэмы ў другім творы рэцэнзент пагаджаўся, прынамсі, не зрабіў заўваг, то “Жменя зямлі” выклікала пэўныя нараканні: “І хоць апавяданне не мае засцярог з мастацкага боку, аднак трактоўка тэмы здаецца мне ўсё ж стэрэатыпнай. Вельмі ж аднабакова паказаў у ім аўтар “гарадское вучонае” маладое пакаленне, якое нібыта толькі і чакае тых двухсот тысяч з прадажы гаспадаркі, каб купляць сабе за іх футры, піяніна ды легкавыя машыны. Гэта погляд старэйшага пакалення. Ён не зусім адпавядае жыццёвай праўдзе. Маладым людзям, што працуюць у горадзе, таксама належыцца права на сваё жыццё, заслужаны адпачынак (і над Балатонам таксама), на вольную хвіліну. Не можа ж вечна вісець над імі абавязак парабкавання ва ўсе нядзелі ды водпускі на так званай “бацькаўшчыне”, з якой і старым і маладым раней ці пазней усё ж трэба будзе развітацца. Напэўна, у жыцці здараюцца і такія выпадкі, як у апавяданні В. Рудчыка, але не яны з’яўляюцца тыповымі для нашай сучаснасці. Часцей за ўсё “гарадскія” забіраюць старых з сяла да сябе, не атрымаўшы ні зламанага граша з тых нібыта малаком ды мёдам плывучых двухсоттысячных “зарэчанак”, апякуюцца бацькамі, даюць ім і стол і дом”. Тут хочацца, аднак, дадаць, што імклівая ўрбанізацыя Беларусі ў пасляваенны час спрычынілася да ўзнікнення разыходжанняў паміж дзецьмі і бацькамі, да заняпаду вёскі, нават яе дэградацыі, што, вядома, знайшло адлюстраванне ў цэлым шэрагу твораў беларускіх пісьменнікаў. В. Рудчыку ж удалося паказаць драму чалавека, які не ўяўляе сабе існавання па-за сваёй зямлёй, а яговыя дзеці, у сваю чаргу, ужо належаць новаму спосабу здзяйснення ў жыцці. І няма сэнсу шукаць вінаватых у гэтай сітуацыі, бо яна невырашальная ў рамках аднаго чалавечага лёсу. Аднак невыпадкова літаратура атрымала вызначэнне чалавеказнаўства і апелюе да святая святых чалавека – яго душэўнага, духоўнага патэнцыялу.

У наступным нумары Літаратурнай старонкі Ігнат Снарскі выступіў з артыкулам “Паэзія ў “Белавежы”. З задавальненнем, як і ў выпадку прозы, ён канстатаваў, што параўнанне першага і другога альманахаў сведчаць аб тым, што і для паэтаў шэсць гадоў не прайшлі дарэмна: “Цяпер у кожнага аўтара няцяжка ўжо вызначыць яму толькі ўласцівы свет паэтычных уяўленняў, кола хвалюючых яго тэмаў і выпрацаваную

ім своеасаблівую сістэму вобразаў. А гэта ўжо выразны крок наперад у літаратурна-мастацкім аб'яднанні "Белавежа"[60]. І далей рэцэнзент разважае цалкам прафесійна і дакладна, што цалкам невыпадкова, бо, варта нагадаць, у актыве М. Гайдука была вышэйшая філалагічная адукацыя, набытая ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Мінску. "Другім не менш важным крокам "белавежцаў" з'яўляецца выразны адыход некаторых з іх ад традыцыйнай сілаба-танічнай сістэмы верша. Усё часцей і часцей аўтары імкнуцца адкрываць для сябе новыя магчымасці версіфікацыі. Гэтыя пошукі часам спалучаюцца з паглыбленнем метафорыкі. Хоць тут, на мой асабісты погляд, часам даходзіць і да надзвычайнай герметычнасці вобразаў, якія становяцца проста незразумелымі для чытача і ўспрымаюцца як звычайнае вычварэнне немаведама чаго. Таму ў пошуках метафар таксама варта знаць меру (...) і мець на ўвазе звычайных чытачоў, якія шукаюць паэзіі свежай, але даступнай і зразумелай". Іначай можна страціць чытача, што, на думку Ігната Снарскага, пагражае Яшу Буршу.

Досыць падрабязна характарызуюцца ў артыкуле тры тэматычныя падборкі А. Барскага ("Палетак", "Пад дрэвам" і "Мадонна"), кожная з якіх, на думку рэцэнзента, па-свойму цікавая тэматычна. У вершах першага з іх, напрыклад, адкрываецца непаўторная прыгажосць адухоўленай аўтарам роднай прыроды. Аднак выказвае Ігнат Снарскі і заклапочанасць, тонкае назіранне: "Пабудова верша ў Барскага прыемная і сугестыўная, асабліва ў дэкламацыі, але ці можна ўсе тэмы вырашаць адной і той самай формай па ўзору фабрычнага канвеера? Каб часам гэта неператварылася ў фармальную манатонію!.."

Паэзія Я. Бурша была прадстаўлена ў альманаху 28 вершамі, якія, па сутнасці, маглі б скласці паэтычны зборнік. Варта нагадаць, што ў першым альманаху (1965) было надрукавана 42 творы паэта. Так што цалкам несправядліва, што ў гісторыі беларускай літаратуры ў Польшчы Я. Бурш застаеццца аўтарам адной кнігі "Прамень думкі" (1964). Ігнат Снарскі адзначае, што Я. Бурш займальна адкрывае перад чытачом багацце сваіх адчуванняў. "Ён імкнецца выказаць мімалётны зрух людской думкі і паразважаць над істотнай жыццёвай праблемай. Робіць гэта ў форме паглыбленай метафары, часам нечаканай і таму хіба ж арыгінальай і ўздзейнічаючай на чытача – удумлівага і схільнага да разважанняў". Праўда, такая своеасаблівасць вершаў Я. Бурша абцяжарвае іх успрыняцце на слых, кантакт са слухачом, што абмяжоўвае і аўдыторыю прыхільнікаў творчасці паэта, а на першым этапе існавання "Белавежы" значную ролю ў папулярызацыі беларускай літаратуры ігралі якраз аўтарскія сустрэчы.

Асабліва прыхільна адзываецца Ігнат Снарскі аб творах паэта-селяніна з Гайнаўшчыны У. Гайдука, якія "вельмі прыемна ўзбагачаюць паэтычную палітру <Белавежы>". Усе вершы невялікай падборкі У. Гайдука "свежыя і ірдзістыя, як кропелькі расы чэрвеньскай раніцы".

Адпаведную форму верша для выяўлення кожнай тэмы знайшоў Ю. Зубрыцкі. І рэцэнзент выказвае шкадаванне, што яго паэтычная творчасць так “скупа” прадстаўлена ў альманаху. Аднак і да змешчанага “поўнасцю можна аднесці прыказку: <мал залатнік ды дораг>”. Вельмі сціпла, толькі некалькімі вершамі, запрэзентаваў сябе ў альманаху А. Свісёк. Увагу Ігната Снарскага прыцягнуў верш “Прывіды настаўніка” з прысвячэннем Я. Буршу, у якім апявалася праца педагогаў і для вырашэння гэтай тэмы “аўтар знайшоў свежыя сродкі паэтычнага выразу”. Вандроўку па сваіх паэтычных уяўленнях прапанаваў чытачу Я. Чыквін. Рэцэнзент вызначае яго роздумы “над усеагульным працэсам прамінання” як “сімпатычныя і даволі зручна аформленыя”. В. Швед звярнуўся да старадаўняй формы трыялета, якую ўдалося яму аднавіць “зграбна і лёгка”. “Асабліва глыбокі сярод яго трыялетаў “Мне да шчасця нямнога трэба...”, які ўзрушае нас шчырасцю і пераканаўчасцю”. Адзначае як удалыя рэцэнзент і вершы “Буслы” і “Ружы” ды робіць выснову, што “Шведа ў альманаху маем мала, але сапраўды добрае”. Асобна спыняецца Ігнат Снарскі на падборцы Леапольда Танкевіча, як на новым сакавітым голасе “Белавежы”, які “радуе сваёй паэтычнай сталасцю”, вершы якога “даступныя, прасякнутыя лірызмам”. Робіць рэцэнзент і заўвагу, што паэту пагражае небяспека “многаслоўя”. Увогуле ж у асобе Л. Танкевіча “Белавежа” “папоўнілася шмат-абяцаючым аўтарам”. Станоўча ацэньвае Ігнат Снарскі “жменьку вершаў для дзяцей Зосі Стаськевіч і Віктара Шведа”, бо гэта “прыемныя” і “надта ж патрэбныя для нашага асяроддзя” творы. І на заканчэнне агляду паэзіі другога нумару альманаха “Белавежы” рэцэнзент зычыў аўтарам ”больш інтэнсіўнай і плённай працы над вершамі, якіх у нас усё яшчэ малавата”.

Відавочна, напрыканцы 60–70-х гадоў ініцыятыву ў асэнсаванні “белавежскай” творчасці пераняў у Я. Бурша ды іншых М. Гайдук. Наступным крытычным матэрыялам за рэцэнзіяй альманаху на снежаньскай Літаратурнай старонцы стаў артыкул “Плён году”, падпісаны тым жа псеўданімам Ігнат Снарскі, у якім рабіўся падрахунак зробленга за год. Усведамляючы, што “ў мастацтве твораў не ацэньваюць паводле іх колькасці”[61], Ігнат Снарскі прыводзіць статыстыку, якая сапраўды ўяўляе сабой цікавасць і шмат сведчыць аб творчым жыцці “Белавежы” і далейшых яе перспектывах. Так, у дванаццаці нумарах Літаратурнай старонкі выступілі 22 аўтары, якія апублікавалі 88 вершаў, у тым ліку два пераклады з польскай мовы, а таксама 8 празаічных мініяцюр-абразкоў. Сярод аўтараў прадстаўлены 9 дэбютантаў, якім належыць 30 твораў. Найбольш плённымі былі Алесь Барскі (26 вершаў) і дэбютантка гэтага года Зося Сачко (9 вершаў). Не адазваліся ні адным вершам іншыя, заўсёды вельмі актыўныя, як В. Швед, Я. Бурш, А. Свісёк. Яшчэ горш справа з празаічнымі творамі, якіх увогуле не было на Старонцы, “бо мініяцюры К. Бандарука і С. Яновіча цяжка аднесці да чыста празаічных

твораў, яны  – творы з пагранічча паэзіі і прозы". Адзіным светлым праменем у гэтай сумнай карціне  Ігнат Снарскі  бачыць "даплыў у "Белавежу" значнай колькасці маладых літаратурных сілаў з абяцаючымі творчымі задаткамі".

Уважліва прыглядаецца аўтар артыкула і да "мастацкай палітры <Белавежы>". Найперш ён звяртаецца да характарыстыкі твораў найплённага паэта Літаратурнай старонкі года: "У гэтым годзе ў непараўнальна большай меры, чым ва ўсёй сваёй ранейшай творчасці, А. Барскі запрапанаваў глыбокую па свайму зместу грамадзянскую, філасофскую і пейзажную лірыку, адмаўляючыся зусім ад любоўнай тэмы (ніводнага верша аб каханні!). І не будзем таіць, што гэты радыкальны тэматычны паварот А. Барскага нас вельмі радуе, бо нельга ж увесь час успрымаць свет праз туман любоўнага ап'янення, хоць яго апафеоз жаночага цела і варты быў пахвалы. Цяпер мы ўбачылі лірычнага героя А. Барскага вольнага ад сексуальнай дамінанты, і ён стаў нам больш блізкі і прывабны. Балючы і трывожны яго свет пошукаў, перажыванняў і расчараванняў. Толькі прырода нямая ды нязменная ў сваёй прыгажосці і сэнсе існавання – вось ідэал, да якога заўсёды звяртаецца лірычны герой паэта і знаходзіць у ёй нейкі душэўны спакой".

Крок наперад, па ацэнцы Ігната Снарскага, зрабіў У. Гайдук  "прыемным трыялетам "Жняя", сумнай баладай "Максім Зарэчны" і кволенькай пакуль што спробай шукання новай тэмы і формы ў "Шуканні сэнсу", хоць, здаецца нам, кірунак яго пошукаў павінен усё ж ісці да выкарыстання фальклорных матываў". Ю. Зубрыцкаму аўтар "Плёну года" раіў звяртацца найперш да кароткіх форм, "у якіх ён дае скандэнсаваную думку ў прадуманай лаканічнай постаці", адзначыўшы, што больш  яму даспадобы  "маленькая цацка "След", чым даўжэзныя разважанні над "Адамавай памылкай". Адканстатаваўшы, што ў Л. Танкевіча назіраецца "павольны паварот да змены тэмы (дагэтуль пераважна прыродаапісальнай) і формы (рэгулярнай сілаба-тонікі) на філасофскія разважанні і сучасны танічны верш",  Ігнат Снарскі падкрэсліў, што любуецца ён усё ж традыцыйнымі "Пацеркамі".  Так і З. Стаськевіч  "дала ўзор і прыклад усім "белавежцам" таго, якія дасканалыя рэчы можна ствараць у традыцыйнай сілаба-тоніцы". Яе ўсяго трох твораў дастаткова было, каб выявіўся талент паэтэсы і ёсць усе падставы, каб смела заявіць, што яе творы – "адзін з найбольшых, калі не самы найбольшы, са здабыткаў сёлетніх нумароў "Белавежы". Дасканалымі  па вымове і форме называе Ігнат Снарскі мініяцюры-абразкі "Карты" і "Забава" К. Бандарука, сцвярджаючы, што "К. Бандарук выразна перарос свайго літаратурнага настаўніка С. Яновіча".

Асобна спыняецца аўтар артыкула на такой  "свежай з'яве" ў жыцці "Белавежы", як напісанне твораў мовай дыялектаў. Запачаткавана яна была ў 1971 годзе Я. Кірызюком  і знайшла значны працяг. "І гэта нас радуе, што маладыя творцы адкрылі прыгажосць свае роднай гаворкі,

шануюць яе, і імкнуцца выказваць у ёй задушэўныя думы і пачуцці, – і далей Ігнат Снарскі выказвае вельмі важнае пажаданне. – Але ўсё ж варта, каб яны не абмежаваліся гаворкай і імкнуліся ўдасканальваць сваё валоданне беларускай літаратурнай мовай. Гэта пашырыць іх творчыя гарызонты і павялічыць кола чытачоў”. На жаль, не было прынята даведама гэтае пажаданне некаторымі аўтарамі, якія праз нейкі час, здрадзіўшы свайму дэбюту на Літаратурнай старонцы “Белавежы”, папоўнілі шэрагі ўкраінскіх паэтаў.

Нягледзячы на сціпласць вынікаў года, прадстаўленых Літаратурнай старонкай, Ігнат Снарскі выказаў “на заканчэнне крыху аптымізму. Усё ж плён адыходзячага літаратурнага года ў “Белавежы” выразна ўзбагаціў наш літаратурны загончык, хоць мо і не ў такой меры, як належала б спадзявацца ад <белавежцаў>”.

Сапраўды сціплым надалей аказалася і крытычнае асэнсаванне “белавежскай” творчасці. Толькі праз сямнаццаць нумароў на Літаратурнай старонцы з’яўляецца матэрыял, які ў адпаведнасці са сваёй назвай, мусіў быць літаратуразнаўча-крытычным. У. Малашкевіч выступіў з рэфлексіямі “<Мары мае – лугі зялёныя>. Чалавек і прырода ў паэзіі Алеся Барскага”. Аднак вершы паэта найперш пацвярджалі развагі аўтара аб сумных наступствах цывілізацыі і аб перавазе жыцця на прыродзе, аздаблялі распавяданыя ім гісторыі. Заяўленая тэма рэалізавалася толькі ў адным абзацы: “Цяпер ужо можна зразумець, што лірычны герой вершаў Алеся Барскага – гэта чалавек, якога душыць гіганцкі паток інфармацыі. Ён стаў сухім і злым ад непамерна вялікай колькасці абавязкаў, яго ўсё больш нервуе прагрэсія стандартызацыі жыцця. Усё гэта павялічваецца яшчэ тым, што чалавек гэты – выхадзец з вёскі! Ён смуткуе па родным куце, дзе ранкі пачынаюцца ўсходамі чыстага сонца, дзе цвітуць духмяны бэз і язмін”[62].

Пасля значнага перапынку толькі 3 кастрычніка 1976 года на Літаратурнай старонцы з’яўляецца крытычны матэрыял: кароткая рэцэнзія Міхася Шаховіча “З думкай аб драмгуртках” на зборнік сцэнічных твораў, выдадзеных Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Першы зборнік такога кшталту пабачыў свет яшчэ ў 1957-ым, другі – у 1969 годзе. Рэцэнзент акцэнтуецца на тым, для якога гледача ставяцца п’есы. Пэўна ж, для чалавека вясковага, “які не любіць вялікай філасофіі і навуковай блытаніны, які не любіць углыбляцца ў справы, чужыя яму. Найбольш блізкае яму тое, з чым сутыкаецца ў штодзённым жыцці, што хвалюе яго і ўсю вёску, што безупынна стукае ў дзверы яго хаты”[63]. Таму аўтар п’есы мусіць добра знаць асяроддзе, пра якое і для якога піша свой твор. Згадаўшы, што для двух папярэдніх зборнікаў не было надта з чаго выбіраць, М. Шаховіч зазначае, што склалася ўражанне, нібыта глядач найлепш успрымае камедыі, што ў пэўнай ступені і слушна. Аднак усё ж “справа не столькі ў гумары, колькі ў тэме, яе яснасці і блізкасці”. Трэці зборнік склалі п’есы

мясцовых літаратараў С. Яновіча і Ю. Геніюша. “Тэмы таксама ўзяты з нашай штодзёншчыны, а каб выклікаць большае зацікаўленне гледача, апранулі іх у вопратку смеху”. Рэцэнзент раіць карыстальнікам, перш чым ставіць п’есу, удумліва прачытаць кароценькі ўступ, каб зразумець галоўнае ў творы. Цікава, што М. Шаховіч дыстанцыруецца ад мастацкай ацэнкі твораў, “бо суд аднаго ніколі не будзе справядлівым”. Ён перакананы, што найадэкватней ацэняць кнігу тыя, да каго яна скіравана. Між тым М. Шаховіч заўважае якраз істотнае у практычным плане: тое, што творы разглядаемага зборніка “добра прыстасаваны да вясковай сцэны. Няма вялікай колькасці дзеючых асоб, няма праблем з дэкарацыяй і вопраткай”, а таксама частага пераносу дзеяння з аднаго месца ў другое. І вельмі ў час выйшла гэта кніга, якраз да зімовай пары, калі ажыўляецца праца драмгурткоў. Здаецца, гэтай кароткай рэцэнзіяй малады паэт М. Шаховіч дэбютаваў на Літаратурнай старонцы і як аўтар крытычных матэрыялаў.

Сакавіцкая ж Літаратурная старонка 1977 года засігналізавала аб новым этапе ў крытычна-літаратурным асэнсаванні творчасці “белавежцаў”, а менавіта аб набываючай стабільнасць зацікаўленасці ёю польскіх калег. Ян Леанчук, малады паэт з-пад беластоцкіх Лубнікаў, выступіў з артыкулам “Паэтычны плён <Белавежы>”, у якім выказаў цікавыя назіранні над гадавым паэтычным працэсам літаб’яднання, што спарадычна ў розныя гады рабілася самімі “белавежцамі”. Перш чым перайсці да канкрэтнай характарыстыкі набыткаў ці страт года, Я. Леанчук спрабуе па-мастацку вобразна акрэсліць, што ж у агульным плане з’яўляецца аб’ектам творчасці, крыніцай натхнення сяброў літаб’яднання: “У вершах, надрукаваных у “Ніве”, можна знайсці фантазіятворства, узнікшае на базе ўяўлення, здольнага рэальнае здарэнне адзець у вопратку мастацкасці, уводзячы лірычнае ўспрыняцце ў псіхалагічныя пошукі. Часта асновай твораў з’яўляецца рэалістычны касцяк, на які паэты накінулі плашч творчай фантазіі. З’яўляецца гэта цікавай спробай дасягнення “сэнсу слова”. Адсюль у вершах “белавежцаў” назіраецца выразны зварот да сімвалізму, скрываючага пад словам як значком змест умоўны, або ўвогуле незразумелы, новы”[64]. Адзначае Я. Леанчук, што паэты “Белавежы”, несумненна, знаюць сваю спадчыну з часоў “Нашай Нівы” ці ранняга “Полымя” і змаглі пераняць вопыт сваіх папярэднікаў і “ўліць” яго “ў новую рэчаіснасць”. Гэты факт прыводзіць да “думкі аб сумеснай лініі польскага аўтэнтызму, прапагандаванага астжэшаўскай “Okolicą Poetów“ (Ostrzeszów Wielkopolski – *Г. Т.*)і паэтамі літстаронкі “Белавежа”. Калі паэты з-пад “зоркі аўтэнтызму” для свайго літара-турнага руху стваралі тэарэтычную базу, то “белавежцы” стваралі літа-ратурны клімат з творчасці, не сціснуты ніякімі рыгарыстычнымі рамамі”.

Звярнуўшыся непасрэдна да вынікаў 1976 года, Я. Леанчук найперш адзначыў, як важны момант, шэсць дэбютаў (Агнія, Я. Брацкі, Ваву, В.

Квапіш, Х. Саўко і Б. Смыла), што адбыліся на працягу года на Літаратуранй старонцы, а гэта "сведчыць аб моцных карэннях літаб'яднання, здольных выпускаць свежыя парасткі, якія ўзбагачаюць такую цікавую з'яву ў нашай літаратуры". Выразную "філасофскую паклажу", якая выяўляецца ў пытаннях экзістэнцыянальнага характару пра сэнс жыцця, памяць, выдзеліў польскі калега ў творчасці М. Шаховіча. Другой цікавай з'явай назваў ён творчасць Зосі Сачко, якая часта чэрпае тэматыку сваіх вершаў з фальклорных крыніц, а яны ж з'яўляюцца састаўной часткай вясковай культуры. "Адсюль у творчасці выразна зазначаецца казачнасць, але казачнасць у рэаліях беларускай вёскі". Вартай увагі бачыць Я. Леанчук творчасць І. Баравік, творы якой "найлепш адлюстроўваюць так званую "жаночую творчасць", праяўляючыся ў аналізе ўнутраных станаў". У вершах Н. Артымовіч уздымаецца адвечная праблема жыцця і смерці. Спосаб стварэння вобраза лірычнага героя дае падставы Я. Леанчуку залічыць паэтэсу да плыні катастрафізму.

Свядома абмінуў у сваім аглядзе аўтар "Паэтычнага плёну" творчасць А. Барскага, Я. Бурша, Я. Чыквіна, С. Яновіча, якія, на яго думку, творча цалкам сфарміраваліся і набылі сваё адметнае месца ў літаратурным жыцці, а таксама празаічныя творы М. Гайдука. Зразумела, на сціплай газетнай прасторы артыкула было проста немагчыма вычарпальна ахарактарызаваць усе творчыя індывідуальнасці, мастацкія з'явы. Аднак, што варта падкрэсліць, Я. Леанчук выдзеліў сапраўды важныя, істотныя моманты "белавежскага" літаратурнага працэсу на працягу чарговага гадавога адрэзку часу.

Наступнай нагодай для працягу гаворкі Я. Леанчука пра "белавежскую" паэзію стаў выхад паэтычнай кнігі Я. Чыквіна "Неспакой" (Беласток 1977). У рэфлексіі "Чыквіна восень і неспакой" ён цалкам дакладна, мабыць жа, сыходзячы і са свайго паэтычнага вопыту, вызначае некаторыя істотныя дамінанты творчага свету Я. Чыквіна. Пачынае з ідэальна-рамантычнага па сваёй сутнасці канону пейзажу дзякуючы якому паэту ўдаецца павесці чытача ў даляглядзы, "што ўзбагачаны пазнакамі іншых культур, шырокімі магчымасцямі. Прытым трэба сказаць, што нашы вяртанні да роднай прыроды ачалавечваюць яе, пераўтвараючы ў люстра нашай жа асабовасці (*І час стаяў, як ракіты на лузе*...) "[65]. Своеасаблівым космасам, на думку Я. Леанчука, з'яўляюцца ў паэзіі Я. Чыквіна час, памяць, айчыннае. Вяртанні ў гэты космас "з горкіх вандраванняў" "служаць выкрыццю існасці таго, што хоча ён сказаць нам, па-свойму, вядома. (...) Вечны Хронас, здаецца, ачышчае кожнага з нас ды аднаўляе зацiхлую любоў, аднаўляе яе на дарогах тых вяртанняў (...)". Спрэчнымі ўяўляюцца, аднак, сцвярджэнні Я. Леанчука адносна таго, што Чыквін, атаясамліваючыся з веліччу прыроды, "не прызнае веры ў <другі бераг>" і прытрымліваецца цалкам пантэістычнага ўспрыняцця свету. Хутчэй за ўсё выяўляюцца ў "Неспакоі", як і ва ўсёй

творчасці паэта, адносіны да свету як вялікай тайніцы, Горняя крыніца якой з'яўляецца прычынаю ўсяго – і чалавека, і кожнай з'явы прыроды. У значнай ступені мае рацыю, відаць, Я. Леанчук, тлумачачы назву кнігі: "Неспакой у паэта нараджаецца ў выніку ягонага дарослага сутыкнення са сваім даўнім светам дзяцінства, вяртанні да якога набылі асабліва трагічны рыс, які ўзнікае з усё мацнеючай у ім адчужанасці да радаслоўнай вёскі. І гэта ўжо вяртанні толькі на ўскрай таго лугу, якога больш ніколі не пяройдзем (...)". Адзначае рэцэнзент, што "Чыквін, з незвычайнай прэцыёзнасцю, умее рабіць пуэнту". Нягледзячы на тугу па Аркадыі маленства, Я. Чыквіну ўдалося пазбегнуць "мялізнаў сентыменталізму", якія асабліва падсцерагаюць дзяцей зямлі, "якая перажывае гвалтоўнае землятрасенне ад цывілізацыйных зрухаў і паводкі цунамі". Прыгожаю ж "пуэнтаю" размовы пра "Неспакой" можна лічыць словы Я. Леанчука: "Вельмі цяжка пісаць пра творчасць выдатнага паэта, якім, несумненна, з'яўляецца Ян Чыквін. Пісаць аб ім, аб тым цудоўным, што стварыў ён, гэта тое ж, што спрабаваць коратка напісаць пра свет цэлы! Пра ягоную веліч ды ўпадак, цудоўнае ў ім ды подлае, і г.д. – Немагчыма!". Аддадзена было рэцэнзентам належнае і дбайнасці рэдактара кнігі С. Яновіча і мастака А. Хомчыка.

Як ўжо было зазначана, у 1977 годзе аналіз творчасці "белавежцаў" набывае якасна новы характар, што знаходзіць выяўленне і на Літаратурнай старонцы, і ў Беларускіх календарах. У адрозненне ад ранейшай спарадычнай цікавасці да "Белавежы" польскіх даследчыкаў, літаратараў – цяпер наробак "белавежцаў" усё часцей становіцца аб'ектам іх сталай увагі. Такім чынам, можна сказаць, заканчваецца першы, непасрэдна "белавежскі", перыяд гісторыі літаратуразнаўча-крытычнай думкі і распачынаецца новы этап асэнсавання творчасці беларускіх пісьменнікаў Польшчы.

Галіна Твархановіч
*Беласток-Бельск*

Спасылкі:

1. Ян Чыквін, Беларускі літаратурны рух у Польшчы, „Ніва" 1991, № 51, с. 4, 7
2. Вучыцца, вучыцца і вучыцца, "Ніва" 1958, № 26, с. 3
3. Тамсама
4. Тамсама
5. Н.А. Бердяев, О назначении человека, Москва 1993, с. 63
6. Ян Чыквін, Тастамент Георгія Валкавыцкага, "Ніва" 1998, № 18, с. 5
7. Тамсама
8. Георгій Валкавыцкі, Віры. Нататкі рэдактара, Беласток 1991, с. 47
9. Тамсама, с. 13

10. Георгій Валкавыцкі, На шырэйшыя воды, “Ніва” 1958, № 26, с.3
11. Г. В., Да чытача, (у:) Рунь. Зборнік вершаў, Беласток 1959, с. 6
12. Янка Шарахоўскі, Вясновая рунь, “Літаратура і мастацтва” 1959, 13 мая; тое ж: “Ніва” 1959, № 22, с. 3, 4
13. Г. В. Да чытача, (у: ) Рунь, с. 5
14. “Ніва” 1960, № 14, с. 3
15. “Ніва” 1960, № 42, с. 3
16. “Ніва” 1960 № 49, с. 3
17. Беларускі каляндар 1962, с. 133. Далей пры спасылцы на гэты артыкул у дужках падаецца старонка.
18. Беларускі каляндар 1962, с. 153
19. “Ніва” 1962, № 6, с. 3, 4
20. Тамсама
21. Георгій Валкавыцкі, Віры, с. 67
22. Увесь свет Мацея Канапацкага. Выбар і рэдакцыя тэкстаў Лена Глагоўская, Беласток 2011
23. “Ніва” 1962, № 9, с. 3
24. “Ніва” 1962, № 44, с. 3, 7
25. “Ніва” 1963, № 1, с. 3
26. Гісторыя беларускай літаратуры ХХ стагоддзя. У чатырох тамах, Мінск 2001, т. 3, с. 194
27. Тамсама
28. Тамсама, с. 136
29. “Ніва” 1963, № 1, с. 3, 4
30. “Ніва” 1963, № 5, с. 3
31. “Ніва” 1963, № 5, с. 3, 7
32. Георгій Валкавыцкі, Віры, с.86
33. “Ніва” 1963, № 9, с. 3
34. Владимир Колесник, Близкость дальнего, «Нёман» 1994, № 11, с. 57
35. “Ніва” 1963, № 14, с. 3
36. “Ніва” 1963, № 18, с. 3, 4
37. Белавежа №1. Літаратурны альманах, Беласток 1965, с. 171
38. “Ніва” 1963, № 22, с. 3, 7
39. “Ніва” 1964, № 49 , с. 3, 4
40. “Ніва” 1965, № 23, с. 3, 5
41. “Ніва” 1965, № 49, с. 3
42. Белавежа № 1. Літаратурны альманах, Беласток 1965, с. 3
43. “Ніва” 1966, № 27, с. 3, 4
44 . “Ніва” 1967, № 1, с. 3
45. “Ніва” 1967, № 6, с. 3
46. “Ніва” 1967, № 32, с. 3
47. Беларускі каляндар, 1969, с. 172. Далей пры спасылцы на гэты артыкул у дужках падаецца старонка.
48. “Ніва” 1969, № 9, с. 3
49. Мікалай Гайдук, Да чытача, (у: ) Сакрат Яновіч, Загоны, Беласток 1969, с. 6
50. “Ніва” 1969, № 36, с. 3
51. “Ніва” 1969, № 44, с. 3
52. “Ніва” 1969, № 49, с. 3

53. “Ніва” 1970, № 14, с.3
54. Тамсама
55. “Ніва” 1970, № 18, с. 3
56. “Ніва” 1970, № 14, с. 3
57. “Ніва” 1970, № 23, с. 3
58. Янка Брыль, Замест пасляслоўя, (у:) Сакрат Яновіч, Сярэбраны яздок, Мінск 1978, с. 187
59. “Ніва” 1972, № 6, с. 3
60. “Ніва” 1972, № 10, с. 3, 6
61. “Ніва” 1972, № 49, с. 3, 4
62. “Ніва” 1974, № 18, с. 3, 4
63. “Ніва” 1976, № 40, с. 5
64. “Ніва” 1977, № 10, с. 3, 5
65. “Ніва” 1977, № 45, с. 3

# СТРАТЭГІЧНЫЯ КІРУНКІ ТВОРЧАСЦІ МАСТАКА СЛОВА: Пра Янку Сіпакова

**Мікалай Мішчанчук**

Да гэтага перамаўляліся зрэдзь пасля прыёму ў Саюз беларускіх пісьменнікаў (1995 год), калі ён, светлы, знешне – спакойны і разважлівы, а ў душы – юнак, адзіны з трох “рэкамендатараў” сядзеў каля мяне ў “прадбанніку” да авальнай залы Дома літаратара, чакаў падліку галасоў камісіяй, супакойваў: “Не хвалюйцеся, Мікалай Іванавіч! Усё будзе добра!” А мог жа сказаць проста: “Мікола”. Не сказаў. Бо быў (як цяжка, балюча вымаўляць-вырываць з сэрца гэтае слова!) надзвычай інтэлігентным, далікатным чалавекам. Перамовы надоўга перапыніліся пасля майго ад’езду ў Берасце на новае месца службы дзецям, нашай будучыні.

У пачатку лістапада 2010 года я прыехаў у Мінск рабіць аперацыю – шунціраванне, замена сардэчнага клапана. Рашыўся: “Быць ці не быць!” Па тэлефоне (быў ахутаны трывогай, думаў пра будучыню) чую Яго голас: “Добры вечар, Мікалай Іванавіч! Як вам пачуваецца?” Распытаў пра ўсё: “дзе?”, “што?”, “калі?”, “як?” Падтрымаў маё рашэнне пра аперацыю, ухваліў за смеласць. Пра сябе – ні слова. І толькі пасля настойлівых роспытаў з нейкай, я сказаў бы, унутранай засяроджанасцю (відаць, цяжка было прызнавацца, не хацелася турбаваць суразмоўцу) выціснуў з сябе: “У мяне такая ж хвароба. Трэба рабіць такую ж аперацыю. Але не буду. Хай ідзе, як ідзе”. І замаўчаў. Што я мог параіць яму? Каб пайшоў маім шляхам? Тады б, можа, і ўбярогся на колькі гадоў ад трагічнага наканавання. Раіў зрабіць тое, што і я. Шкадую, што не вельмі настойліва. Шкадую… Прашу прабачэння ў родных Яму людзей.

І вось Яго няма. Добрага чалавека. Роднага чалавека. З пакалення дзяцей вайны: караткевічавага, барадулінскага, гілевічаўскага, казькоўскага, гаўрусёўскага. А мы, крыху маладзейшыя, пакуль яшчэ тут, з тымі, хто жыве, працуе, кахае. Мы не змагаліся за пасады. Мы ўзнімаліся ў космас, глыталі дарожны і зоркавы пыл казахстанскай цаліны, верылі ў прышэсце светлай камуністычнай будучыні. Нас баранілі ад несправядлівасці мудры Танк, разважны Шамякін, чулыя да чужога болю Юрэвіч і Бярозкін. Іх няма з намі. Прыйшоў наш час бараніць, а не бараніцца і сысці з арэны жыцця амаль безыменнымі…

* * *

Светлым промнем, які годна вянчае чалавечы і пісьменніцкі шлях, шлях мастака-мысляра, філосафа і тонкага лірыка, сталася кніга Янкі Сіпакова “Маладым вецер” (2011). Яна па-свойму высветліла і ладны загон літаратурнай нівы ў цэлым, якая прыкметна зацемрылася, спахмурнела,

ахінулася воблакам жалю, скаргі, трагедыйнага расчаравання на зломе стагоддзяў. Што гэта так, доказаў звышдастаткова: проза пачатку XXI стагоддзя, прадстаўленая творамі Васіля Быкава, Віктара Казько, Таісы Бондар, маладзейшых і маладых авангардыстаў; паэзія Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Вярцінскага, Васіля Зуёнка, Алеся Разанава, Сержа Мінскевіча ды іншых аўтараў. А колькі драматызму і адчування безвыходнасці, бесперспектыўнасці руху ў жахлівую невядомасць было ў кнізе самога Янкі Сіпакова "Тыя, што ідуць", у творы, які даў ёй назву? Ды пры ўсім трагізме, пры ўсёй наяўнасці змрочных фарбаў паэзія і проза слыннага аўтара высвечвалася знутры праменьчыкам дабра і цяпла, упэўненасцю, што жыццё выкіроўваецца на пазітыў, а не толькі на негатыў… Зборнік вершаў "У поўдзень, да вады" (1976) грунтуецца на разгортванні ў часе і прасторы двух вобразаў -канцэптаў (як стала модна гаварыць і пісаць) – Поўдзень і Вада. Першы з іх акцэнтуе ўвагу рэцыпіента на сэнсавых значэннях святла, вышыні, росквіту, а не прыцемкаў, вечару, тым больш ночы, песнярамі якіх былі Яўген Баратынскі, а за ім многія іншыя прыхільнікі элегійнай паэзіі – рускія паэты-сімвалісты (у іх ліку А. Блок), нашы М. Багдановіч, Н. Арсеннева, А. Куляшоў (зборнікі "Новая кніга", "Хуткасць"), Максім Танк (асаблівa кніга "Errata"), Я. Янішчыц, Т. Бондар, іншыя. Другі азначае жыццё, атавізм, пра які некалі марыў і натхнёна пісаў тэарэтык "маладнякізму", а затым і ўзвышэнства А. Бабарэка. Такім чынам, Жыццё, Святло, Росквіт сышліся ў назве гэтага зборніка паэта[1].

Унікальнае выданне "Веча славянскіх балад" (1973) прасякнута настроем "мужнага аптымізму", які, насуперак традыцыйнаму трагедыйнаму пафасу жанра, вынікае з дзеяння твораў, з маральнай перавагі (а лепш – перамогі) дабра над злом. Амаль у кожнай баладзе паэт пакідае пляцоўку, дзе гняздуюцца, мацуюць крылы для наступнага ўзлёту Праўда, Справядлівасць, Дабро. Як у "беларускай баладзе" XVII стагоддзя "Чубы". Як у "польскай баладзе" XX стагоддзя "Мячык". Нават у самым, на мой погляд, трагедыйным па змесце творы – аповесці "Тыя, што ідуць", – у якім надзвычай "згушчана", скандэнсавана сітуацыя безвыходнасці і бесперспектыўнасці таго, што адбываецца ў ірэальным жыцці: невідушчыя рухаюцца наперад і будуюць па начах дамы, у якіх ім не давядзецца жыць, крынічыць аўтарскі "стратэгічны" аптымізм. Рух бязмоўных, як цені, людзей, невідушчых, на чале з Вадаром, нібыта Рух у Нішто і ў Нікуды. Але ці будзе так вечна, бясконца? Не! З'явіўся сярод іх, пазбаўленых правоў ведаць, куды

1. Параўнаем назвы папярэдніх: "Сонечны дождж" (1960), "Дзень" (1968), "З вясны ў лета" (1972), назвы кніг прозы: "Спадзяванне на радасць" (1983), "Сад людзей" (1985) і стане зразумелай агульная канцэпцыя жыцця, створаная выдатным майстрам.

кіруецца іх шлях, выпадковы спадарожнік, відушчы. І народзіцца ў яго з дачкою Вадара відушчы сын. І, хутчэй за ўсё, стане ён будучым лідэрам тых, што ідуць. І адкрыецца перспектыва не бязмэтнага, а мэтавага руху наперад. І стануць відушчымі многія, калі не ўсе, невідушчыя. Зноў сіпакоўскае бачанне (прадбачанне?) зменаў у жыцці да лепшага. Зноў трагічны сюжэт “разломваецца”, разбураецца на нашых вачах дотыкам “лазера” – веры ў будучыню, у перамогу гармоніі, у пераадоленне тупіковай сітуацыі. Як і ў купалаўскім “Прароку”, герой якога – пясняр сутыкаецца з невідушчымі, як краты, заклапочанымі штодзённымі побытавымі турботамі людзьмі, але не адмаўляецца ад барацьбы за іх празрэнне, нават у сітуацыі, калі сэрца яго паранена вострым, як лязо, пытаннем сляпых рабоў абставінаў: “Па колькі нам дасі чырвонцаў, // Калі мы пойдзем за табой?” Цяжкі, але не безнадзейны працэс празрэння раскрываецца і ў купалаўскай драматызаванай паэме “На Куццю”, дзе пасля дакладаў ганцоў – Гусляра, Святара, Ваяра – пра тое, што народ можа перамагчы здранцвенне, варта толькі абудзіць яго сумленне, Князь выказвае ўпэўненасць у пазітыўным ходзе далейшых падзей і з чыстым сэрцам, як кажуць у народзе, вяртаецца ў іншасвет.

Такая ж самая сітуацыя магчымасці пераадолення невідушчасці, трагічнай безвыходнасці раскрываецца ў многіх (выключэнне хіба “Сцяна” ды некаторыя прытчы, выкананыя ў чыста экзістэнцыяльным ключы) аповесцях Васіля Быкава. Хлопчык у будзёнаўцы з “Сотнікава”, выхаплены з натоўпу вачыма смяротніка, імем якога названы твор; бомба, перазахаваная Сцепанідай Багацькай, што “чакае свайго часу”, у “Знаку бяды”, Віктар Платонаў, выратаваны партызанам Леўчуком, які, відаць, не страціць годнасць у суровых абставінах і прадоўжыць змаганне папярэднікаў за іх пераадоленне; Валодзька з апавядання “На Чорных лядах”, якому бацька – камандзір купкі слуцкіх паўстанцаў, што вырашылі па сваёй волі пайсці з жыцця, каб не здзекаваліся з іх пераможцы, перадае эстафету барацьбы за волю, адзінага з аднадумцаў пакідае жыць – знакавыя вобразы класіка нашай (а больш правільна – агульнаеўрапейскай, калі не сусветнай) літаратуры, годны працяг пошукаў беларускімі мастакамі слова шляхоў празрэння, пазбаўлення духоўнай невідушчасці народа.

Як бачым, у сваіх пошуках шляхоў празрэння нацыі Янка Сіпакоў не адзінокі. І не яму належыць першынства ў гэтым кірунку. Акрамя Янкі Купалы, да з’яўлення яго выдатных шэдэўраў, Ф. Багушэвіч зместам абсалютнай большасці сваіх твораў заклікаў беларускі народ да празрэння праз захаванне сваёй годнасці, сваёй культуры, сваёй мовы, свайго радаводу. Ды не будзем аддаляцца ад постаці выдатнага прадстаўніка філалагічнага пакалення, сапраўднага майстра.

* * *

Кніга “Малады вецер” мае падзагаловак “Мужчынскія апавяданні”, які вызначае яе адрасата і адначасова нязмушана паказвае на жанравую адметнасць змешчаных у ёй твораў – мужчынскі “характар”, мужчынскі “пафас”, урэшце – мужчынскую пазіцыйнасць паводле адносінаў да таго, што дзеецца ў творах. Назва яе, як і некаторых апавяданняў, адпавядае аўтарскаму светла аптымістычнаму настрою, яго канцэпцыі інтымнага, індывідуальна-адметнага, гуманістычнага па змесце асабістага жыцця, кахання як вяршыні высакародства: “Малады вецер”, “Віва, Лета!”, “Зеленавокая”, “Перад пацалункам”, “Белыя воблакі”. Уяўляю, колькі давялося ўдумліваму, засяроджанаму ў сабе, не кожнаму адкрытаму (пры сустрэчах не раз чуў з яго вуснаў адно і тое ж: “Мікола, не люблю выступаць перад публікай. Лепш што-небудзь напішу за гэты час”) і знешне нібыта суроваму аўтару пераજыць, каб спыніцца ўрэшце на канцэптуальна свежай, непаўторнай назве… “*Малады* вецер” – гэта вылучэнне на першую пазіцыю і руху, а не застыгласці, і прагі маладосці, а не скаргаў на, бывае, ранняе пасталенне (пастарэнне?), на няўдалае жыццё… *Малады* вецер – гэта імкненне адчуць і перадаць подых рэчаіснасці, якая пастаянна абнаўляецца, поўніцца свежым подыхам, яе рытмічную пульсацыю… Малады вецер – гэта, як кажуць адукаваныя людзі, “у піку” поглядам тых пісьменнікаў, што недаацэньваюць пазітыўны пачатак у жыцці, ужо ў маладым узросце культывуюць смерць, змярцвеласць, успрымаюць дараванае маці жыццё, як цяжар, навязаны кімсьці абавязак. Готыкай, аплодненай “змрочнай пост-мадэрнавай ironіяй” назвала стыль (як змястоўна-фармальную катэ-горыю) паэткі Таццяны Нілавай Ірына Шаўлякова. І яна мае рацыю: маладая (асабліва постмадэрнавая) паэзія выкіроўваецца ў бок, супрацьлеглы сіпакоўскаму. Пацвердзім наш тэзіс цытатай, якая мае абагульняльны характар:

XXI ст. –
эпоха катастрафізму,
цынь–ізму, не–а–гуманізму
і практыцызму.
Вырай гарыць,
душы думаюць,
што грэшныя
ад нараджэння,
хоць ніколі
і не нараджаліся…
А вырай гарыць –
звыкла, у сонцападзе…

Больш таго, прыхільнікі сучаснага авангардызму часта пераводзяць аповед пра самае святое для чалавека і чалавецтва, такія паняцці, як Радзіма, Каханне, у гіперсаркастычны план, ставяць сябе, такім чынам, вышэй за вечныя катэгорыі жыцця, як гэта робіць Усевалад Гарачка:

Вялізная *пачвара* –
Радзіма –
Калісьці глынула мяне.
І цяпер
Паціхуператраўлівае
І яшчэ хоча,
Каб я яе за гэта
Любіў.

Яшчэ раз падкрэслім, што канцэпцыя ў творчасці ў цэлым жыцця ў кнізе Янкі Сіпакова аптымістычная. Пра гэта сведчаць літаральна ўсе апавяданні, амаль кожная сцэна ў іх, сюжэты, якія заканчваюцца перамогай дабра над злом, чуласці і душэўнай мяккасці над чэрствасцю.

* * *

Вельмі многа, шчыра, мякка і цёпла, я сказаў бы, у танальнасці пушкінскага паслання А. Керн, мележаўскай любасці да жанчыны, рыцарскага захаплення яе смеласцю – гэта ўжо як бы ад сябе, па-свойму (у А. Пушкіна гэтага няма, у І. Мележа “гендэрныя сцэны”, як стала модна пісаць, паказаны ў эпічным ключы), лірычна-ўзнёсла апаэтызаваны ў Янкі Сіпакова ўзаемаадносіны мужчын і жанчын, выказана захапленне “слабым” полам. Узяць хоць бы згаданую вышэй баладу “Вяселле”, яе простую, аднак шматзначна, шматгранна насычаную канцоўку, якая выклікае “выбуховае” суперажыванне ў рэцыпіента:

Госцейкі п’яныя,
Бачыце, вунь
Па мяне ад пана,
Па рабу так рана
Бяжыць цівун, –
Бо ўжо сонца ўзышло-о-о…

А колькі сапраўднага, нязмушанага пачуцця ў Яго вянку санетаў “Жанчына”! Параўноўваць наяўную, адкрытую жаноцкасць зместу вянка, яго тонкі псіхалагізм, павышаную экспрэсіўнасць і мяккую, я сказаў бы – “закругленую”, без вострых вуглоў лагоднасць можна хіба што з той, што поўніць вершы выдатных паэтак Яўгеніі Янішчыц ды Раісы Баравіковай (мне больш вядомых), з асобнымі вершамі (асобнымі!) Аркадзя Куляшова (“Алеся”), Максіма Танка (“Ave, Maria!”), П. Броўкі (“Пахне чабор”). Прадоўжыць рад не бяруся. Сцвярджаю першае, што засталося ў памяці са студэнцкага і пазнейшага часу. Працытую радкі, якія не могуць не закрануць толькі канчаткова зачарсцвелую душу:

Няма нічога ласкавей на свеце,
Як чуць тваё святочнае імя,
Цябе, яшчэ нядократнаю, стрэціць
І позірк сарамлівы пераняць.

І са спакусаю змаганне весці,
І зразумець, што свет твой – чысціня,

І лаяць вусны – іх жа не адвесці,
Іх, нібы хваляванне, не суняць.

Рыцарам у адносінах да жанчын паэт застаецца і ў сваёй апошняй па часе кніжцы прозы з надзвычай прадуманымі, “важкімі”, шматзначнымі загалоўкам і падзагалоўкам – “Малады вецер: Мужчынскія апавяданні”. Гэта адчулі ўкладальнікі зборніка, заснавальнікі выдавецтва “Чатыры чвэрці” ў межах “Бібліятэкі часопіса “Гаспадыня”: “<…> новая кніга пісьменніка <…> глыбока, ярка і вельмі цнатліва, трапятліва-пранікнёна раскрывае адну з самых складаных і вечных тэм – тэму кахання”.

Мужчына – герой і наратар усіх апавяданняў, змешчаных у кнізе. Іначай і быць не магло – апавяданні ж мужчынскія. Часцей малады, а то і “сярэдняга” веку па ўзросце, ён малады ў сваіх пачуццях да жанчыны. Дзівіцца, а, бывае, малітоўна (іншае слова цяжка знайсці) глядзіць на яе, баючыся апячы поглядам, пакрыўдзіць адным-адзіным рухам, як у апавяданні, якім адкрываецца калаж, – “Суседка”. А яна, што вяртаецца з Дыксана дадому, смела, на вачах у пасажыраў, туліцца, нібы ў сне, да яго, абдымае яго, як самага блізкага чалавека, і, урэшце, бярэ абодвум білеты да Ленінграда, дзе жыве. Твор гэты – просты сюжэтам (сустрэліся выпадкова, гэтаксама павінны былі развітацца), але псіхалагічна складаны: знерваваны перажываннямі, што такая прыгажуня цэлы тыдзень належала іншаму, а цяпер вось, радая, з вялізным бярэмам кветак вяртаецца дадому (“Яму было непрыемна, што той мужчына, які застаўся за Палярным кругам, дарыў ёй кветкі, насіў яе на руках, што маладзіца была шчаслівая ў яго абдымках, што яна і тут, у самалёце, усё яшчэ пахне ім і дыхае ім”), ён не можа паверыць у фінале твора ў сваё такое выпадковае, такое нечаканае і светлае шчасце (“Мужчына аж здрыгануўся – яна як ўсё роўна чытала яго думкі! Ён нейкі час яшчэ пастаяў моўчкі, потым узяў з яе рук білеты, прабег па іх вачамі, зноў згарнуў квіткі і абодва паклаў сабе ў кішэню”.). Аказваецца, жанчына не любіла свайго мужа. А ён усю дарогу раўнаваў яе да яго. Жанчына ў творы – лідэр. І, як кажуць, знешне (“Гэта была сама харашыня”), і псіхалагічна, “унутрана” гатовая да выканання місіі лідэрства да канца. Яна не толькі прымае рашэнне парваць з мінулым, як гэта робіць Мележава Ганна Чарнушка, але і мужна здзяйсняе яго (“Даруйце, там чарга была… Я ўзяла два білеты да Ленінграда… Я там жыву. <…> Я не люблю яго. <… > Таго, да каго вы мяне раўнуеце”).

Вобраз жанчыны ў апавяданні, як некалі нам, студэнтам, мой незабыўны настаўнік прафесар С.І. Карабан гаварыў пра лермантаўскую княжну Мэры (перакажу слова ў слова), што яе вобраз “абліты паэзіяй”. Крыху няскладна, але надзвычай сэнсава значна, сэнсава ёміста сказана. Як не хапае нам менавіта такіх твораў, у якіх жанчына на крылах паэтавай, мастакоўскай фантазіі ўзносіцца на высачэзны трон. Яна вартая гэтага. Пад уплывам *такога погляду* апісанне не толькі яе, а інтэр’ера, носіць не другарадны, а першасны пасля партрэта жанчыны характар,

робіцца запамінальным, яскравым. Як, напрыклад, у апавяданні “Элен” – зноў пра выпадковую сустрэчу героя – члена беларускай дэлегацыі падчас адпачынку з жанчынай, якая лагодна пляскала далонямі па вадзе сажалкі, карміла фарэлек. Усе “кавалкі” інтэр’еру ў гэтым, як і ў іншых апавяданнях, “сашчэпленыя”, з’яднаныя выпадковай, кульмінацыйнай (“вяршыннай”, як у рамантыкаў) сітуацыяй, якая з’яўляецца ў пачатку аповеду: “Кажуць, для таго, каб нарадзілася тое нечаканае, але жаданае пачуццё паміж ім і ёю, трэба, каб абавязкова нешта чыкнула. <…> Проста, каб нешта чыкнула – і ўсё…” Кожны міні-эпізод, кожная міні-ацэнка (часта – штрыховыя) выконваюць ролю “падаграваючай”, узмацняючай развіццё нечакана “нечага” – кахання – мастацкай дэталі. У апавяданні “Суседка” – гэта звыш – багаты і пышны, рэдкі для Паўночнага краю букет кветак у руках маладзіцы; яе “поўныя і пульхныя каленцы”, што вызваліліся з-пад палоскі “ці то летняй спаднічкі, ці то тоненькай сукеначкі”; яе грудкі, якія, нібы жывыя, датыкаюцца да мужчыны: “Адна яе грудка торкнулася яму ў сарочку і заціхла, а другая выбавілася з сарафанчыка наверх і з-пад шлейкі здзіўлена і, як яму прымроілася, сарамліва назірала за тым, што робіцца ў самалёце”. У творы “Элен” вяршынны “рух” пачуцця (бунтоўны, дынамічны, дыхтоўны!) падмацаваны яшчэ больш яскравымі (эратычна-прывабнымі, а не натуралістычнымі дэталямі-“дзеямі” (у “Назваслоўі” М. Гарэцкага, некаторыя творы Ул. Дубоўкі пазначаны найменнем “дзеяпесні”): “Жанчына неяк <…> далікатна, па-дзяцінаму, як малая, пляскала абедзвюма далонямі па вадзе”; “іхнія рукі з рыбкамі на далонях пад вадою сустрэліся, сутыкнуліся, *прыгарнуліся* (дзеяслоў – дэталь?! – *М. М.*) адна да адной. <…> Між рукамі віравала нейкая незнаёмая яму да гэтага энергія, ад якой, здавалася, вось-вось забурліць вада”; “яны зноў жа *сустракаюцца вуснамі* і, не перапыняючы пацалунка, спяшаюцца да берага – ён, як плыў, так і плыве, а яе *аднымі вуснамі падпіхвае* туды, дзе яна толькі што ўваходзіла ў возера”.

Дэталі – залацінкі жывой запалярнай прыроды надаюць годнасць і маладую ветранасць пачуццю, што ўзнікае ў сэрцах нібыта жанатага мужчыны Паўла і дзяўчыны, якая толькі-толькі “вылузалася” з свайго ўзросту, з дзіўным імем Нечы. Вось яно – тлумачэнне светласці і недакранальнасці злу – дэталізаванае апісанне прыгажосці запалярнай тундры ў вясновым росквіце і буйненні, адпаведных настрою закаханых. Неператўзыдзены, бадай, нікім малюнак мастака слова, выдатнага Майстра: “Перад ім было разліўное мора пурпурных жаркоў – шыкоўных запалярных кветак. Ветрык, які часам усхопліваўся ў тундры, чапаў жаркі ў розных месцах адразу і таму здавалася, што яны, як дураслівыя дзяўчаткі, збіраюцца ў купкі, каб пашаптацца, пашушукацца ды разбегчыся. А калі ён, заняўшы цэлую паласу, згінаў, распіхваў перад сабою краскі, Паўлу здавалася, што гэта сам вецер босенькімі ножкамі бяжыць па іх” [с. 41]. Прырода, ажыўленая, расквечаная жаркамі, так

падобнымі на гарэзлівых дзяўчатак, і тут, і ў іншых выпадках з гэтага і другіх твораў *адпавядае* настрою героя і гераіні (гарэзлівай, хоць і амаль дарослай дзяўчыны). У прыродзе (перш за ўсё ў гэтым творы) ёсць месца маладому ветру (на поўначы ён іншым быць не можа), які сімвалізуе свабоду, радасць, развейвае-адсейвае ўсё змрочнае з месца, дзе адбываецца сустрэча закаханых. Прырода нібы паскарае "працэс" эвалюцыі пачуцця да кульмінацыйнага пункту, аберагае яго ад злосных позіркаў, чорных сілаў, мабілізуе герояў на рамантычныя, "ухіленыя" ад акаляючай жорсткай існасці, дзёрзкія ўчынкі (не зважаць на прысутных, цалавацца і абдымацца на вачах у мужа, кідаць ўсё дзеля Яе ці Яго, калі нешта ўрэшце "чыкнула").

Несумненна, галоўнай, скразной дэталлю дзеля стварэння агульнай гуманістычнай аўры ў творах Янкі Сіпакова з'яўляецца дэталь партрэтная, якая ўключае ў сябе знешнасць жанчыны, яе манера трымацца, тон гаворкі і г. д., праз якія высвечваюцца высакароднасць, непасрэднасць, апантанасць, пяшчотнасць, самаахвярнасць жаночай натуры. Штрых да штрыха, кавалачак да кавалачка, мазок да мазка дадае ў кожным творы аўтар да партрэта прыгажуні, выштукоўвае яе прывабную скульптуру, засяроджвае ўвагу на "гендэрных" участках маладога (а ў апавяданні "Ой, сівы конь бяжыць" і сталага) чалавечага, жаночага цела.

Звернемся да невялікага эксперыменту – выпішам у рад найбольш важкія, на наш погляд, дэталі мастацкага "пашыранага" партрэта сіпакоўскай Жанчыны, каб убачыць шматграннасць і ў той жа час выразнейшую тыповасць (*выштукаванасць* – тут больш падыходзіць як тэрмін "скульптурны") і антычную рэнесансавую сэнсава-формавую яе напоўненасць. У дужках пададзім імя гераіні і назву твора ў нашым пераліку: "яе вочы, вусны, нос, валасы, лебядзіная шыя ядналіся ў <…> пяшчотную гармонію", "поўныя і пульхныя каленцы", "Адна яе грудка торкнулася яму ў сарочку і заціхла, <…> другая выбавілася з сарафанчыка наверх <…> і сарамліва пазірала за тым, што робіцца ў самалёце" (Суседка – "Суседка"); "такая гожая, такая ўбраная і прычасаная маладзіца", "шчырая ўсмешка", "ветліва ўсміхнулася", "на шчочках у яе з'явіліся ямачкі", "нецярплівыя рукі" (Элен – "Элен"); "У тундры дзяўчынка <…> адчула сябе жанчынаю і трымалася гаспадыняю", "ішла побач, гордая і недаступная", "поўныя і вільготныя, растуленыя ўсмешкай вусны" (Нечы – "Нечы"); "лёгкая, тонкая, стройная, зграбная, вабная, з далікатным тварам, якімі ў свой час звычайна ўпрыгожвалі дарагія брошкі на касці", "маладое, пругкае, гарачае цела" (Яна – "Экскурсія"); "Яе грудкі, цвёрдзенькія, кругленькія і загарэлыя", "сасочкі-ягадзінкі", "гладзенькі, аксамітны жывоцік", "пагорачкі, такія кругленькія, далікатныя і вабныя" (Люся – "Верталёты"); "невысочанькая, поўненькая, як наліваная пампушачка – аказалася рухаваю, вясёлаю і гаваркой", "Яе галасок быў вельмі жаноцкі, прыемны і ласкавы, смех – шчыры і дабрадушны", "Была простаю і нязмушанаю:

спакойна, не спяшаючыся, павольна ўзмахвала рукамі, ласкава дакраналася далонямі да вады, злёгку варушыла ўсім целам” (Ліда Піражок – “Селішча”). Закончым рад урыўкам – фантазійным сном пра жанчыну героя апавядання “Ы, Ы, Ы” Дзяніса, у якім яна паўстае найбольш выразнай, акрэсленай, рамантызаванай асобай, блізкай да гераіні паэмы Янкі Купалы “Яна і я”: “Спакуслівая постаць манекеншчыцы”, “ногі – загарэлыя, пруткія, вабныя”, “Грудзі, туга абцягнутыя сукенкаю. Яны – як навонку, на іх быццам нічога і няма”, “узбуджаныя вінаградзінкі нецярпліва напінаюць тканіну”, “гнуткае, тугое цела”, “засмяглыя, пульхныя вусны – на іх чамусьці сонечны зайчык. Як прыліп усё роўна і зараз трымціць, адрываючыся. І пасмачка – завіток валасоў, што зманліва спадае на левае вока”. Такая светлая і “рэльефная” постаць гераіні апавядання Марысі не можа не прываблівацъ героя, уплывае на духоўны стан закаханых: “Пад імі – прымятыя кветкі. Яе спінаю прымятыя. Над імі – агромністае неба, якое ён трымае сваёю спінаю”; “Ён любіў цяпер усё, што поўзала побач і лятала над імі”; “Радасць паланіла іх, пяшчота і жаданне напоўніла іхнія целы. І асабліва душы”.

Вывады чытач можа зрабіць сам. Янка Сіпакоў не проста абагаўляе жанчыну: ён экспануе, як на выставе, яе – крыніцу сапраўднай прыгажосці і гармоніі. І завяршае сваю працу Паэта, Мастака ў апавяданні, якое так і называецца – “На выставе”.

* * *

У літаратуры многіх народаў свету пазнейшай пары (перыяду выпрацоўкі прыёмаў пісьма постскласічнай эпохі) склаўся стэрэатып “мускульнага” (мужчынскага – скажам так) тыпу героя, які па-свойму рэзка і безапеляцыйна бароніць гераіню, даводзіць рэўнасць да экстазу, вынікам якой з’яўляецца нярэдка забойства каханай жанчыны. За прыкладамі далёка хадзіць не будзем. Алека з пушкінскіх “Цыганаў” забівае Земфіру, якая паспытала вольнага кахання; Арбенін з лермантаўскага “Маскараду” таксама ні за што (як позна гэта зразумеў!) пазбаўляе жыцця Ніну; герой паэмы Янкі Купалы “Нікому” забівае каханую, каб не дасталася панічу; бязлітасны да сваёй жонкі Ганны мележаўскі Яўхім Корч і г. д. Прыклады выпадковыя, можна было б прывесці больш характэрныя, ды найбольш стандартным і ў многім тыповым стаўся ў плане рэалізацыі рэўнасці ў межах трохкутніка “ён – яна – сапернік” раўнівец Атэла з шэкспіраўскай аднайменнай драмы. Падобная сітуацыя, калі герой-мужчына не можа ўзвысіцца вышэй сябе, узняцца над сваёй рэўнасцю выключана і з паэзіі, і з прозы, і з новай кнігі Янкі Сіпакова. Толькі ў адным творы – “Экскурсія” Янка не на яве, а ў мроі – думцы-трызненні актыўна дэманструе сваю адвагу перад нечакана сустрэтай Ёю – каханай, упісанай у музыку сталактытаў, застыглага каменнага вадаспаду, нападаючы на мужа прыгажуні: “Янка кінуўся на

Слана, паваліў яго на шэры вапняк і раз'юшана таптаў, таптаў, таптаў нагамі. Не, ён так не зрабіў… Ён толькі так падумаў". Падобныя звышнапружаныя трагедыйныя сітуацыі ў межах вечнай тэмы кахання выключаны з сіпакоўскай канцэпцыі жыцця і тым самым змест твораў "працуе" на гарманічны тэкст, на гармонію стылю ў цэлым. У "Маладым ветры" няма нават спробы з боку мужчыны зрабіць замах на жанчыну – святая святых. У Янкі Сіпакова рэўнасць – з'ява імпульсіўная, імгненная, часовая, "мяккая", гнеў раўніўца хутка астуджваецца. Ды было б перад кім згінацца-прыніжацца: сапернікі закаханага ў чужую Прыгажосць нейкія прывідныя, няўклюдныя і знешне (у былым мужу Лідачкі з апавядання "Селішча" Ігару запомнілася толькі адна дэталь – "ягоны вялікі жывот, які, здаецца, сцякаў на самыя калені"), а муж Яе з "Экскурсіі" сапіць і топчацца ззаду, не паспявае за экскурсантамі, адхілены ад музыкі жыцця і кахання, што віруе наўкол – у падземных пячорах і наверсе, у гротах і над застыглым вадаспадам. Сапернік Янкі, валадар прыгожай істоты – нібы мёртвы сярод жывых, нібы лішні – не выпадкова фігуруе пад мянушкай "Слон". Ён выключаны з канцэпцыі "маладой ветранасці" і рухомай, хоць і ў форме застыглага дынамічнага малюнка, агульнай карціны жыцця.

* * *

Рух пісьма, стылю як яго вызначальнай дамінанты, ажыццяўляецца ў кнізе Янкі Сіпакова па "сілавых лініях": Слова – Музыка – Фарба – Скульптура. Слова пастаянна кантактуе з гукам, "зрастаецца" з фарбамі, набывае аб'ёмістасць. На практыцы дасягаецца не толькі паралелізм (гэта бясспрэчна), але няпоўны ці амаль поўны сінкрэтызм відаў мастацтва. Гэтаму працэсу спрыяе рэтраспекцыя ў антычнасць, у сярэднявечнае адраджэнне, у пазнейшы час – у перыяд Сярэбранага веку. У беларускай літаратуры гэта першая трэць ХХ-га, у рускай – канец ХІХ – першыя два дзесяцігоддзі наступнага за ім стагоддзя. Няпоўны сінкрэтызм абумоўлены найперш выкарыстаннем мастацкага прыёму паралелізму. У выніку слоўны аповед у асобных творах разгортваецца паралельна з развіноўваннем музычнай мелодыі. Музыка каментуецца (удакладняецца, "расшыфроўваецца", пацвярджаецца) словам, "апранаецца" ў слоўную "сукенку", ахутваецца слоўнай аўрай, а слоўны тэкст набывае адзнакі мелодыі, пачынае "гучаць", ісці на павышэнне ці паніжэнне, вар'іруецца, рытмізуецца паводле законаў мелодыкі. Падобнага эфекту Сіпакоў дасягае ў апавяданні "Ой, сівы конь бяжыць…"

Сюжэт твора надзвычай просты… Праз дзесяцігоддзі сустрэліся выпускнікі школы – сталыя, самастойныя людзі. Афіцыёзу належнага, заўсёднага не было. Затое было сяброўскае застолле. Былі песні. Было адраджэнне даўняга пачуцця Баркаўца да Мілы – яшчэ школьнай сімпатыі. Хацелася вярнуцца ў маладосць насуперак часу: "Цела – пасівела, а душа ж – з крыллямі, хоць ёй і нялёгка падымаць над зямлёю

ўсё тое, што ўжо сівагаловае…” Адраджэнню пачуцця ў апавяданні спрыяе музычная мелодыя. Згадка пра выбар яе ў пачатку апавядання – падчас кульмінацыі застолля – настройвае чытача на негатыўнае ўспрыманне шаблонных, трафарэтных хадоў (“Паспрабавалі спяваць “Школьны вальс” <…> і не траплялі нават у мелодыю”; “Нехта завёў “Касіў Ясь канюшыну”, але і гэтая песня ў іх не загучала”). Зацягненыя мелодыі “перакрываюцца” ў творы шырокай, як марская хваля, народнай песняй. Яна гучыць у душы і Баркаўца, і Мілы. Таму замест вітальных слоў, ужо пасля сустрэчы выпускнікоў, сталы мужчына спявае гэтую мелодыю па тэлефоне, і чуе ў адказ голас роднага чалавека: “І ўсё ж потым, пасля сустрэчы, калі ён пазваніў у гарадок, дзе жыла Міла, Баркавец замест прывітання зноў жа заспяваў:

Ой, сівы конь бяжыць,

І яна адразу ж падхапіла:

На ім бела грыва”.

На такім шматзначным пункце стрыманага, можа, нават балючага, затоена-элегічнага перажывання заканчваецца твор, у якім апавядальная слоўная плынь “падтрымліваецца”, узмацняецца сумна-трывожна-ўрачыстай музычнай мелодыяй.

Закаханага ў незнаёмую безыменную прыгажуню (у творы імя яе, як і ў купалавай паэме “Яна і я”, як у сімвалічнай лірыка-філасофскай споведзі А. Куляшова “Цунамі”, – Яна) героя апавядання “Экскурсія” Янку ўвесь час, пакуль працягваецца “ходка” ў падземныя гроты, суправаджае “нейкая ціхая, спакойная, светлая-светлая музыка”, якая “нібыта запаўняла сабою ўсю гэтую неабдымную пячору” і, дзякуючы якой, “лёгка ішлося і лёгка дыхалася”. Толькі зрэдзь, калі паміж ім і Ёю аказваўся яе муж, радасная мелодыя перапынялася. З большай сілай музыка загучала для героя твора ў пячоры, дзе “са столі звісалі, як ледзяшы, як смакатулькі (колькі пяшчоты ў гэтым слове! – *М. М.*), сталактыты, а ім насустрач з долу падымаліся, цягнуліся ўгору сталагміты”, якія прасякнутыя яркімі колерамі, ператвараліся ў светламузыку, якая лілася “велічна і ўрачыста”, як царкоўны арган. І, нарэшце, у невялікай падземнай зале з асаблівай акустыкай і Янка, і Яна пачулі музыку, што “гучыць сама сабою”. А напаследак, як зачараваны, Янка слухаў “Эпіталаму Нерону” – Яе любімы твор – нібыта ў Яе выкананні. Музыка зачаравала героя, сталася сімвалам (атачэннем) радаснага і светлага кахання: “І напраўду пачуў Яе музыку. Вясельная песня гучала спачатку ціха, спакойна, а потым, набраўшы моцы, стала напорыстай, бурнай, нецярплівай <…>”.

Культ музыкі, культ мелодыі як сімвалаў гармоніі парушаецца толькі ў адным творы з новай кнігі Сіпакова – у апавяданні “Верталёты”, дзе інтымныя, светлыя пачуцці Антона і яго нявесты Люсі, што прыехалі ў Піцунду адпачыць перад вяселлем і прагнуць блізкасці, перапыненыя, літаральна разарваныя гукамі сталёвых птушак – гэта трывожная,

“жалезная” эпоха імкнецца перапыніць традыцыю многіх стагоддзяў, чыніць перашкоды на шляху закаханых. Яна ўрываецца ў іх свет гулам і грукатам: “І раптам над дахам загрукацела так, што задрыжэлі сцены, зазвінела шкло ў вокнах, захісталася нават люстра пад столлю. Усё навакол гуло і калацілася. Гэты грымотны, як навальнічны, гул спяшаўся за верталётамі <…>”. Працягваючы думку пісьменніка, заўважым, што гэта “жалезны”, тэхнакратычны час імкнецца парушыць гармонію асабістых узаемаадносінаў людзей, накладвае свой адбітак на святая святых – Каханне. Янка Сіпакоў, падобна аўтару паэмы “Цунамі”, бароніць асабістае жыццё, інтымныя чалавечыя ўзаемаадносіны ад выдаткаў тэхнічнага прагрэсу, ад трывог ужо не ХХ, а ХХІ стагоддзя. Верталёты – прывіды жахлівага монстра, страшыдлаў, за якімі мроіцца аўтаматызацыя, рабатызацыя жыцця, паступовае выцясненне жывога інтэлекту штучным.

Завяршэннем сінтэзу слова, музыкі, фарбы і скульптурнай аб’ёмістасці становіцца ў кнізе “Малады вецер” апавяданне “На выставе”. Знаўца выяўленчага мастацтва і скульптуры (антычнага, сярэднявечнага, мадэрнісцкага), імя якога не названа аўтарам, – проста мужчына спяшаецца раней за іншых агледзець экспанаты і раптам сам-насам аказваецца з саперніцай, якую не тое што ўзненавідзеў, але ўзлаваўся на яе. Агульныя інтарэсы, цікавасць да шэдэўраў прымірылі яго з незнаёмкай. Апавяданне заканчваецца на высокай музычнай ноце: “Ён ужо шанаваў яе і абараняў незнаёмку ад усялякіх эмоцый. Калі яна спускалася па прыступках з музея, мужчына, як закаханы, далікатна падтрымліваў жанчыну пад локаць”.

Аглядаючы карціны і скульптуры, наведвальнік (герой апавядання) звяртае ўвагу на тое, як спалучаюцца ў шэдэўрах рух, аб’ём, як нараджаецца сапраўдная прыгажосць з халоднага ружовага мармуру: “спакойна, сарамліва, але ўпэўнена выходзіла, выбіралася навонкі пышнацелая жанчына”. А наратар, апавядальнік, каментуючы перажыванні героя, даводзіць аповед да паэтызацыі, “падпарадкоўвае” слова мастацкай выяве. Празаічнае пісьмо рытмізуецца, набывае дадатковае эмацыйнае адценне: “Мастак тонка адчуваў мармур / – спрадвечны матэрыял скульптараў. / Той слухаўся яго / і падпарадкоўваўся яму. / Ён струменіў, пеніўся, цёк, / рабіўся пяшчотным / і нават забываўся, / што ён усяго толькі камень”.

У апавяданні “На выставе” наперад “выходзіць” аб’ёмістасць скульптурных кампазіцый і карцін мастакоў Сярэднявечча, Адраджэння і пазнейшых часоў, не застыглая, а рухомая. І на першым плане ва ўсіх мастацкіх творах высвечваюцца “кропкі” прыгожага жаночага (радзей – мужчынскага) цела: грудзі, ногі, рукі, галава, якія выдаюць і пажадлівасць, і сарамлівасць, і страсць, і цнатлівасць, такую прыгажосць, што (датычна карціны Рэнуара пра купальшчыц) мастак “не мае сіл, каб прыкрыць” яе.

Герой апавядання захапляецца творамі Рубенса, П'ера Банара, Мікеланджэла, Гагена, скульптурамі Арысціда, Маёля, Радэна. Пісьмо набывае характар вершаванай прозы, мастацкія творы "ажываюць" у слове, праз слова "прарастаюць" выразныя, "аб'ёмістыя" постаці людзей, у першую чаргу – жанчын. Часткі цела прадстаўніц прыгожага полу (грудзі, вочы, вусны, стан) паказваюцца перад чытачом ва ўсёй сваёй красе, літаральна ажываюць на яго вачах. Як, напрыклад, рукі вось у гэтым урыўку – найцудоўным вершы ў прозе: "А рукі! Бачыце, як яны працуюць. / Здзіўляюць і прыцягваюць да сябе. / Яны чуткія і асцярожныя, / ласкавыя і пяшчотныя, / уважлівыя і далікатныя. / Ці то дапамагаюць садзіцца, / ці то закінутыя за галаву, / ці то пакладзены на бёдры, / ці то папраўляюць каралі на шыі.

Ці гэтак жа, / як ёсць у "Сёстрах", / узнятыя далонямі да неба.

Ці то сарамліва / засланяюць твар – / як у "Дзяўчыне, якая сядзіць".

Рукі, пакладзеныя пад сябе. / Рукі, паднятыя да плеч. / Рукі за галавою.

Рукі, пакладзеныя на калені. / У іх аголеная схавала, утапіла свой твар. / Гэта "Ноч або мара".

Так паэтычна, узнёсла, у дынаміцы, а не ў застыглай форме рэпрэзентуе ў дадзеным выпадку творчасць скульптара Маёля – "вялікага каменячоса", "утаймавальніка мармуру", "прыхільніка прыгожага жаночага цела" мастак слова. І ўсё апавяданне "На выставе", і іншыя творы з "Маладога ветру" ўяўляюць цэласную карціну (скульптуру прыгажуньжанчын, з'яўляюцца своеасаблівым гімнам у словах, фарбах, мармуры жаноцкай прыгажосці, "харашыні" (улюбёнае слова пісьменніка).

* * *

Чытачу твораў з новай кнігі Сіпакова можа падацца, што аўтар стварае культ цела – прыгожага, гарманічнага, за кошт страты фактару духоўнасці, яе адлюстравання ў той самай хай сабе і гарманічнай, цялеснай абалонцы. У свядомасці некага, магчыма, прамільгне крамольная думка: "А ці не злоўжывае пісьменнік натуралістычнымі сцэнамі, шмат увагі надаючы (як у "Верталётах", "Зеленавокай", "Кошцы", "Перад пацалункам") праблеме інтымных (сексуальных, часам падпарадкаваных інстынктам) узаемаадносін?" Аднак падобнай небяспецы паказу трывіяльнага, даведзенага да стандарту сексуальнага экстазу пісьменнік шчасліва пазбягае, як бы сарамліва спыняецца перад парогам, што аддзяляе натуралістычнае пісьмо ад рэалістычнага. Ствараецца ўражанне, што лаканічныя сцэны інтымнага характару падпарадкоўваюцца не толькі цялеснаму, але і ўнутранаму, духоўнаму культу. З кожнай з іх "вымалёўваецца" характар "моцных" жанчын, якія ахвярна бароняць сваю чалавечую годнасць, у тым ліку помстай блізкім людзям за іх здраду… Так, як гэта робіць гераіня апавядання "Зеленавокая" Ларыса, аддаючыся спадарожніку па купэ Аляксандру Смачнаму менавіта таму,

што вырашыла адпомсціць мужу за яго нявернасць. Прытым – з яго дазволу. Выпадковае "збліжэнне" герояў засталося імгненнем, не паўплывала на жыццё Ларысы, якая ў фінале твора апраўдваецца за свой учынак перад Аляксандрам: "Я вельмі кахаю свайго мужа. – І паўтарыла яшчэ раз. – Вельмі кахаю. Вельмі. Так што не крыўдуй на мяне, Саша".

Як бачым, Ларыса захоўвае высокі статус жанчыны, якая здольная толькі на часовы, імпульсіўны ўчынак, несувымерны з маральным кодэксам вернасці мужу. Разам з тым, абачлівая, здольная даравацць "грахі", яна застаецца ў рамках агульнапрызнаных паводзінаў з блізкімі людзьмі, дэманструе сваю вышэйшасць перад мужчынамі. Тое ж самае можна сказаць і пра гераінь іншых твораў, якія, пераадольваючы бар'ер непаразумення з боку людзей, што паддаліся няспешнаму рытму асабістых сямейных узаемаадносінаў, робяць нязвыклыя для іншых учынкі, аказваюцца здольнымі на каханне з першага погляду і застаюцца духоўна прыгожымі і чыстымі ў сваіх нечакана ўзніклых пачуццях.

Культ жаночага цела, кахання (у большасці імгненнага), такім чынам, падпарадкаваны ў Янкі Сіпакова ідэі гартавання духу, вызвалення з ланцугоў негатыўных абставінаў. Як гэта было даўней у эпохі Антычнасці і Адраджэння. Апавяданні з кнігі "Малады вецер", на мой погляд, з'яўляюцца адной з удалых спробаў захаваць чалавечае (гармонію рытму, гуку, фарбы, слова ў прадметна-цялеснай, жывой форме) у эпоху кланіравання і рабатызацыі, стварэння спрыяльных умоў для дзеяння не жывога інтэлекту, не духоўнай і мускульнай сілы, а аўтаматычных рухаў робатаў, аўтаматаў. Дзякуючы сіпакоўскім творам (а ён не адзінокі, з ім побач іншыя рэалісты, рамантыкі) адбываецца вяртанне літаратуры да вытокаў – да неасінкрэтычнага мастацтва.

* * *

Многія творы Янкі Сіпакова, пачынаючы з ранняй лірыкі і заканчваючы апошняй кнігай малой прозы, ствараюць эфект абярогу ад чужога вока, ад неіндэфікаванай, не самадастатковай індывідуальнасці і даволі нівеліраванай, трафарэтнай масы. Яго героі перажываюць тое самае, што перажываў (яшчэ студэнтам – малады вецер!) і я, сустрэўшы на Новы год незнаёмую прыгажуню, якая праз два месяцы стала маёй адзінай (у 2011 годзе адзначылі залаты юбілей!) любай дзяўчынай. Героі твораў Сіпакова – гэта своеасаблівая варта каля скульптурнай кампазіцыі Жанчыны – сімвала Кахання, Цнатлівасці, Прыгажосці. Па асацыяцыі згадваецца задума А. Талстога рамана пра перамогу Каханнем усіх катаклізмаў, нават смерці, якая вылілася канчаткова ў трылогію "Блуканне па пакутах". Блізкай да пазіцыі гэтага пісьменніка прытрымліваўся і Б. Пастарнак – аўтар рамана "Доктар Жывага", ідэя якога – культ Кахання, сямейнага дабрабыту, супрацьпастаўленне іх сацыяльным канфліктам эпохі. Дарэчы, верш Юрыя Жывагі (аўтара рамана) "Зімовы вечар" пераразвоньваецца-перагукваецца сваім зместам,

эратычнай сцэнай з тонкім і далікатным сіпакоўскім “натуралізмам”. Можна згадаць і вершы Гарсія Лоркі, цудоўныя пераклады якіх зроблены Рыгорам Барадуліным, у якіх культывуецца “цялеснае” каханне. У гэты самы рад можна паставіць і верш Максіма Танка “Ave, Maria!”, і паэму Янкі Купалы “Яна і я”. Усе названыя аўтары ваяўніча ўступаліся за Жанчыну, аберагалі яе ад зглазу, узнімалі на недасяжную вышыню. Янка Сіпакоў стварыў аўру свету, недатыкальнага пошасці, чарноццю, самадастатковага і незалежнага ад змрочных ці будзённа-шэрых абставінаў, і ўпісаў у яе постаці годных, “аўтаномных” герояў і гераінь.

Няма светлага чалавека, дарагога мне (і не толькі!) Янкі Сіпакова. Але застаўся Яго след – яскравы, адметны, выразны, чысты. Засталіся яго творы “на добрую навуку”.

Мікалай Мішчанчук
*Брэст*

# ЧАЛАВЕК І ПРЫРОДА
# Ў ЭКЗІСТЭНЦЫЙНАЙ КАРЦІНЕ СВЕТУ
# НІНЫ МАЦЯШ
# (паводле кнігі паэзіі “У прыгаршчах ветру”)

*У якой палітычнай сістэме вы хацелі б жыць?*
*У пчалінай.*
*Алесь Разанаў (з інтэрв’ю)*

**Генадзь Праневіч**

Чалавек і прырода – гэтая тэма займае асаблівае месца ў духоўнай і экзістэнцыянальна-быційнай карціне свету, прадстаўленай у апошняй, падрыхтаванай яшчэ самой аўтаркай, кнізе вершаў Н. Мацяш “У прыгаршчах ветру”. У кантэксце гэтай тэмы, праз асэнсаванне ўсеахопных дачыненняў чалавека са светам прыроды як уласным мацярынскім улоннем, разглядаюцца ўсе іншыя аспекты жыцця – палітычныя, сацыяльныя, культурныя, лёс радзімы і ўласны лёс лірычнай гераіні, фарміруецца эстэтычны ідэал, вырашаюцца філасофскія праблемы жыцця і смерці, сэнсу чалавечага існавання і прызначэння.

Пры гэтым прырода і заключаныя ў ёй мажлівасці для бясконцых і разнастайных жыццёвых праяў (дасканалых і анамальных, прыгожых і пачварных) ёсць для паэткі ўніверсальны і найбольш пераканаўчы мастацкі спосаб спазнання чалавека і грамадства, дзе дзейнічаюць адны і тыя ж законы, якія злучаюць у адзінае цэлае дух і матэрыю, быццё і небыццё.

У вершы “З думкай пра бацьку” Н. Мацяш нездарма суадносіць матыў развітання са светам з вобразам птушынага выраю, які адкрывае для гераіні містычную “наўскую старану”, дзе адбываецца яе сустрэча з бацькам.

Чародка ластавак на правадах
звярае й мой кірунак выраёвы
у вечных ловах часу негульнёвых, –
чародка ластавак на правадах...

Бы ў родным доме, ў наўскай старане
зноў папрыгадваем з Табой радзіну,
паўглядваемся ў лёс, у крыж Радзімы,
бы ў родным доме – ў наўскай старане. [1, с. 17]

Свет чалавечы і свет прыродны, свет жывых і тых, што сышлі з твару зямлі, выступае ў яе паэзіі як цэласны і непадзельны, аб’яднаны адзіным Боскім Промыслам, духам Боскага Тварэння. Паэтка свабодна і нязмушана перамяшчаецца і падарожнічае ў ім, рухаючыся ад сузірання цуду ідэальнай прыроднай геаметрыі дзьмухаўца і перажывання тра-

гічнай няпэўнасці яго лёсу, да філасофіі прыроды, якая сцвярджае матэрыяльнае адзінства свету (мы ўсе з вады) і зусім рэальнага для яе працягу духоўнага дыялогу з сябрамі, што пакінулі гэты свет (“Паўдзён”. Памяці Васіля Сахарчука). Свет жывой прыроды і духоўны іншасвет фізічнага небыцця, для яе такія ж сутнасныя рэчы, як і наш рэальны свет чалавечы. Межы паміж імі вельмі ўмоўныя, іх практычна няма, як няма межаў паміж жывым і нежывым, матэрыяльным і духоўным. Галоўнае для паэткі – адкрыць калідоры гэтай сувязі, прайсці праз патаемныя вароты Часу, знайсці і занатаваць прыкметы і знакі роднасці і адзінства ў рэчах, здавалася б, аб’яднаных толькі сугуччам гукаў.

*Лотаць, лат**а**к, латат**а*** –
залітых лужкоў пеката
ад самага малку й туды,
дзе давычэрпваюцца гады –
залатым напамінкам:
*і ты – з вады.* [1, с. 15]
(“*Лотаць, лат**а**к, латат**а**…*”)

Назіраючы за колазваротам зменаў пораў году і надвор’я, прыродных біялагічных цыклаў сну і абуджэння, смерці і адраджэння, паэтка шукае і знаходзіць супакаенне ў прымірэнні і згодзе з адвечнымі законамі прыроды, агульнымі для чалавека і звера, кветкі і дрэва. Белы колер у яе – гэта колер чысціні, кахання, спакою, аднаўлення і радасці жыцця; чорны – трывогі, сну і смерці. “Перацепянелая, у сцюдзёным дыху чарнабелля, утрапёная да каранёў” засынае пад вокнамі шыпшына (“Шыпшына ў студзені”). І той жа студзеньскай парою пад зоркай кахання Мілавіцай снежнай беллю расцвітаюць усе дрэвы ў гаі і “замірае сэрца ў тубылкі чысцечай дасканалаю заспетае” (“Пад зоркай Мілавіцай”). Любоў і каханне, пэўная паэтэса, – вось ключ да пазнання красы свету і прыроды, якія адкрываюцца яе шчыраму, любячаму сэрцу ва ўсёй чысціні Боскага Першатварэння.

Ранак. Узлесак. Снег нечапаны,
вуснамі ветру прыцалаваны,
небам дагледжаны,
ў неба загледжаны,
голлем атулены,
долам прытулены…

Снежань. Узлесак. Бель і сінеча.
Боская спакайнеча… [1, 20]
(“*Ранак. Узлесак. Снег нечапаны…*”)

Нездарма ў вершах Н. Мацяш вельмі моцна гучаць інтанацыі і рытмы “Калевалы” – жамчужыны карэла-фінскага эпасу, у якім адлюстравалася непарыўнае адзінства чалавека і прыроды, усе стварэнні якой размаўляюць паміж сабою на адной мове – на мове першатварэння. Таму ўсім яго героям – людзям, рыбам, травам, каменням і скалам – ёсць аб чым

запытацца і што сказаць адно аднаму, як гэта адбываецца і ў паэзіі Н. Мацяш, лірычная гераіня якой выдатна разумее мову птушак, матылёў, яшчарак, раслін і кветак. Ці паспяхова дашукваецца іх патаемных кодавых знакаў і шыфраў, аднатаваных Творцам ў іх паводзінах і прыродных функцыях.

Вось яна дапытваецца ў гаспадара падземных хадоў і нораў:

Поўша! Хто ты ёсць? Які ты?
Ці ў мадэлі твайго свету
насамрэч няма мне месца
з сакавітаю травой
і пяшчотаю шматквецця?

Што, сляпко, хацеў сказаць ты
гэтым следам сваім цёмным? [1, с. 56-57]

( *“Поўх”* )

У Н.Мацяш свой непаўторны паэтычны слоўнік прыроды, свая асаблівая – тонкая, не заўсёды відавочная – эстэтыка ўваходжання ў свет прыроды, яго спасціжэння і паэтычнай інтэрпрэтацыі, якія часам патрабуюць ад чытача пэўнай фантазійнасці ўяўлення. Узяць бы хоць яе верш “Сястрычка”, у якім сінічка ўспрымаецца як нейкі давераны душэўны двайнічок гераіні у свеце прыроды, якому прыдумваецца мультыплікацыйная “біяграфія” меншай сястрычкі з саламянымі завушнічкамі, кантычкай з трыма нескладанымі ноткамі для спеваў… “Сінічка – усмешкі маёй рукавічка” – прызнаецца паэтка ў канцы верша.

Такім чынам, у спасціжэнні прыроды Н. Мацяш не абмяжоўваецца чыстым сузіраннем: у ім парадаксальна прысутнічае і адбіваецца наш чалавечы свет – найперш людзі са сваімі загадкавымі лёсамі, характарамі, пэўным псіхалагічным тыпам паводзін і г. д., яскравыя аналагі якім знаходзяцца ў свеце прыроды. Пры гэтым паэтка часта здзяйсняе амаль непрыкметную для вока карэкцыю, падмену традыцыйнага для літаратуры прыёма ачалавечвання прыроды на яго супрацьлегласць – пагружэнне чалавека ў свет прыроды з мэтай больш глыбокай і сутнаснай характарыстыкі свайго героя.

Гонкі, тонкі, маўклівы,
роўны, немітуслівы,
на эмоцыі неўрадлівы:
павітаўся – і ўсё, бывай,
і ў гняздоўе сябе самога…

Чорны бусел лёсу людскога,
не захопнік ён, не ваяр –
толькі ролі сваёй,
толькі волі сваёй,
толькі долі сваёй
гаспадар. [1, с. 38]

(“*Чорны бусел*”)

Свет чалавечы вельмі моцна карэлюе, звязаны са светам прыроды адзіным законам Боскага Тварэння. Развагі-асацыяцыі над прыроднай сутнасцю і функцыяй раслін, дрэў, зьяркоў, прадстаўленых на шырокай палітры Маці-Прыроды, і пошукі іх чалавечай апрадмечанасці складаюць змест шматлікіх вершаў зборніка. Так, вараннё ў яе – "… нялюбае – // за карканне агіднае, // за ўбор пануры, // а наймацней – за злое падабенства // з усякім цёмным страхам чалавечым" ("Вараннё"). Захапленне і, адначасна, боязь-трывогу выклікае ў аўтаркі дзьмухавец сваёй дасканалай, далікатнай формай, накрэсленай вялікім Геаметрам – Маці-Прыродаю. Ды яшчэ няпэўным, дрыготкім лёсам, залежным ад кожнага павеву ветра, здольнага ў адзін міг разбурыць і знішчыць дзівосны цуд прыроды ("Абдуванчык").

Схільнасць да парадаксальнага адкрыцця філасофіі разнастайных прыродных з'яў матэрыяльнага свету збліжае некаторыя вершы Н. Мацяш ("Травінка", "Бусел" і інш.) з "Казкамі жыцця" Я. Коласа, вершаказамі А. Разанава. Відавочна, што ў фарміраванні такога вось парадаксальнага ракурсу бачання ўзаемадачыненняў чалавека і прыроды не абышлося таксама без уплыву паэзіі бельгійца Франсуа Жакмэна, зборнік паэзіі якога "Поры году" выйшаў у перакладзе Н. Мацяш. Аднак у сваіх паэтычных адкрыццях, у сваім "чалавечым" адчытванні кнігі прыроды Н. Мацяш – цалкам арыгінальная, а філасафічнасцю, заглыб-ленасцю ў нацыянальны свет і стыхію нацыянальнага светаразумення дык выказвае цалкам непаўторнае бачанне свету. Напрыклад (пра яш-чарку):

Тут была – тут няма…
… Як па адлёце душа:
ненаяўная толькі таму,
што няўгледная… [1, с. 59]
("*Яшчарка*")

Пра ластаўку:

Заручаная даўніною
з тутэйшым краем, як і мы,
шчыруе ластаўка вясною,
адпрэчваючы ўціск зімы. [1, с. 62]
("*Ластаўка*")

Такім чынам, свет прыроды ў Н. Мацяш цікавы не толькі сам па сабе, але найперш сваёй уключанасцю праз кола асацыяцый і сімвалічных знакаў ў кола чалавечага жыцця, сацыялізаваных, нацыянальна апрадмечаных чалавечых памкненняў і жаданняў, як вось гэты тутэйшы бусел-бусько – сціплы хатні сімвал краю.

Бусько, буся,
чорна-ч***ы***рвана-белы
герогліф жыцця,
пацалунак прыроды,
якога баяцца
балотныя жабы і гады.

Пацалунак вясны
ззімелым
Палессю і мне. [1, с. 60]
( “*Буся*”)

У сусветнай літаратуры адным з самых змястоўных, сацыяльна адаптаваных прыродных сімвалаў-знакаў, які дэманструе еднасць чалавека і прыроды, з’яўляецца пчала – паэтычны вобраз-універсалія жывога Сусвету з яго прагай радасці, сонца, асалоды, з прыроджаным калектывісцкім кодам еднасці, роўнасці ў доступе да вынікаў калектыўнай працы, абавязках па падтрыманні парадку і чысціні, супольнай абароне ад знешняга ворага і ўсякіх іншых ахвотнікаў да набыткаў і вынікаў чужой працы.

У дачыненні да Н. Мацяш, пчала – гэта не проста прыгожае ўвасабленне, метафара ці параўнанне, але ключавы архетыпны знак яе чалавечай асобы і творчай індывідуальнасці, які прадстаўляе надзвычай моцныя ў яе творчасці сямейна-родавыя, матчына-апякунскія, яднальныя і збіральніцкія матывы і традыцыі, надзвычай моцныя ва ўсёй сусветнай літаратуры, скразныя – у беларускай.

Я чую ў паэзіі Н. Мацяш высокі і чысты звон заляцелай, можа, з тутэйшага саду, а, можа, з садоў антычнасці, з песень Сафо і Анакрэонта – мядовай пчалы кахання і любові, хмельны нектар якой, назбіраны з духмяных кветак тутэйшых палёў – шыпшыны і сланечніка, канюшыны і незабудак, кружыць галовы ўсім закаханым.

Пчалы манастырскай – Еўфрасінневай – суровай посніцы і маці-ігуменні, апякункі і заступніцы ўсіх пакрыўджаных і абяздоленых, прагнай не толькі манастыр свой, але ўвесь род і народ свой бачыць, як “адзіную душу”.

Паспалітай Скарынавай – дбайнай і рупнай збіральніцы, мёдам мудрасці біблейскай напоенай на спажытак тутэйшым людзям, дбалай аб парадку, спакоі і дабры паспалітым для ўсіх. Законам прыроджаным настаўленай бараніць “ульев своих”, ні жыцця, ні скарбаў сваіх не шкадуючы.

Рупнай Багдановічавай пчалы-самотніцы, што “ўмее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветах” – палыну і дзядоўніка, блёкату і татарніка, што густа пасеяліся на адвечным полі нашага жыцця.

А яшчэ Купалавай – адпорнай усім “зладзеям пчольных прац”, дзяржаўна згуртаванай у сваім вуллі, “як адна сям’я”.

У паэзіі Н. Мацяш, і сапраўды, выразна прысутнічае моцна закаранёны ў свядомасць архаічны сямейна-родавы архетып адносін і дачыненняў да свету, выбудаваны паводле філасофіі натуральных чалавечых дачыненняў да жыцця, свету, прыроды, традыцыйных каштоўнасцяў і вартасцяў сялянскага жыцця і быту, узбагачаных духоўна-інтэлектуальнымі здабыткамі еўрапейскай культуры. Паводле некаторых сваіх канструктыўных элементаў і прынцыпаў, гэтая сістэма нечым моцна

нагадвае прыродную мадэль пчалінага рою альбо пчалінага вулею з важнейшай арганізуючай і дамінантнай у ёй роляй пчалы-маткі, устаноўкай на максімальную працааддачу кожнай асобінкі пчалінага рою, узаемадапамогу і супольную абарону ад трутняў і іншых "зладзеяў пчольных прац" (Я. Купала), падтрыманне стэрыльнай чысціні і парадку ўнутры жытла і г. д.

Гэтая мадэль праецыруецца на грамадскія і асабістыя стасункі людзей, іх філасофію жыцця і паводзіны. Нездарма, успамінаючы бацьку – чалавека, "улюбёнага ў поле", паэтка бачыць яго непарыўна з'ядналым са светам прыроды, улучаным праз "пчаліную" сярэдзінку ў самы цэнтр прыроднай трыяды свету.

З улюбёным у поле
даверліва перамовіцца хоча
кожнае каліва, кожнае зерне, –

вось чаму і няма *Табе* выйсця
з птушына-пчаліна-расліннага Бабілёну. [1, с. 23]
("*Улюбёны ў поле*")

Уплывала на гэткі расклад веданне і назіранне за прысядзібнай пасекай і пчалярскімі справамі бацькі, ці гэты вопыт падсвядома закараняўся ў структуру мастацкай памяці паэткі з традыцый народнага жыцця і сямейна-родавай этыкі, але ён складае вельмі важны элемент паэтычнага светаадчування Н. Мацяш. Невыпадкова, што і сярэдзінна-апагейны – восьмы – санет свайго вянка санетаў "Бабіна лета", прысвечаны гісторыі труднай, няпростай любові двух закаханых, паэтка таксама выбудавала цалкам паводле "пчалінага сцэнару".

Было няроўным лета і ў пчалы.
Бы ў нас з табой. То сонца, то залева.
Заточвалася ў вулей свой ззалела,
Пакуль мінецца сцюжы подых злы.

І пчолы лета й нашага ў вуллі.
Жывыя тым, што ўшчыраваць змаглі.
Святоўна-блаславёны ўзятак іхні! [1, с. 74]
("*Бабіна лета*" )

І ў далейшым паэтка не раз і неаднойчы будзе выкарыстоўваць "пчаліныя" аналогіі і вобразныя асацыяцыі для выяўлення сваёй маральнай пазіцыі, ацэнкі і характарыстыкі людзей і грамадскіх з'яў, беручы за ўзор той разумны парадак і лад, які ўтвараюць пчаліная сям'я, рой, вулей, як найбольш дасканалая форма сацыяльных сувязяў унутры пчольніка – каб больш рэльефна былі відаць шчарбіны і праявы ненатуральнай навываратнасці ў жыцці грамадства і міжасабовых стасунках людзей.

Усё нейкія пільныя справы ды справы,
усё нейкая пільная праца ды праца.

Сардэчная ўвага звялася да похапку,
пяшчота і мара згарнуліся ў вокрык.

І толькі ля вулля, з сям'ёю пчалінай,
лепіш соты гармоніі між сабою і светам… [1, с. 40]
(“*Похапак*”)

І нават сімволіка ўлюбёнага белага колеру ў Н. Мацяш, колеру чысціні, цноты і любові падпарадкавана пчалінаму архетыпу: “Неставала гэтай белаты (снегу – *Г.П.)* // сэрцу, як пчале рабочай цвету…” [1, с. 19].

Хрысціянскі свет, да якога належыць паэтка, філасофіяй і маральнымі нормамі якога кіруецца ў сваім жыцці, зусім не пярэчыць такому прыроднаму, па-сутнасці, язычніцкаму разуменню архітэктонікі жыцця і свету, падпарадкаванага волі і агульнаму закону адзінага Бога-Творцы. Больш за тое, прысутнасць той самай, крыху мадыфікаванай мадэлі пчольніка можна ўгледзець у дзейнасці хрысціянскага манастыра і яго насельнікаў з іх духоўнай місіяй быць для міру прыкладам чысціні і святасці, узорам маральных цнотаў і дабрачыннасцяў, актыўна ўздзейнічаць на яго этыкай “тружания” і духоўнага падзвіжніцтва, аднак не змешвацца з мірам, не забруджвацца ад яго. Пры гэтым – і там і там – фунцыю ачышчальнага сродка, стэрылізатара і засцярогі ад інфекцый, граху і духовай гнілі выконваюць воск і васковыя свечкі. І там і там – на розных узроўнях сацыяльнай іерархіі – устойлівасць заведзенага парадку і сістэмы духоўных каштоўнасцяў падтрымліваюцца, дзякуючы прыроднаму генетычнаму коду, пры дапамозе манастырскага статута альбо маральнага закона, што дзейнічае ўнутры чалавечых супольнасцяў і асобнага чалавека.

Для Н. Мацяш наяўнасць такога ўнутранага маральнага закона, які абапіраецца на фундаментальныя асновы светабудовы, які злучае яе з высокім небам ідэала, следаванне яму – рэч важнейшая, найпрынцыповейшая, якая надае ўстойлівасць і сэнс яе чалавечаму і творчаму жыццю; па-за якім свет для яе рушыцца і падае ў трагічную бездань хаосу. Ці не таму так часта звяртаецца яна ў сваіх літаратурна-крытычных эсэ да сутнасных “статутных” філасафем сваіх духоўных настаўнікаў і карыфеяў мастацкай творчасці, як А. дэ Сэнт-Экзюперы, Я. Брыль, В. Шымборска, Л. Кастэнка і інш., жыццёвая філасофія і эстэтычныя прынцыпы якіх вызначаюцца маральнай акрэсленасцю і цэласнай завершанасцю, складаюць падмурак і яе светапоглядных асноў.

Паказальны каментарый да “Маленькага прынца” А. дэ Сэнт-Экзюперы, дзе яна піша пра гэты выдатны твор французскага рамантыка і гуманіста як пра “люстэрка філасофіі, духоўнага досведу пісьменніка, яго этыка-эстэтычных прынцыпаў. Кодэкс маралі, які выспавядаў і цягам уласнага жыцця сцвярджаў Экзюперы”. А тлумачэнне, што значыць “свая планета”, суправаджае маральным настаўленнем маленькаму чытачу: “Гэта значыць, той куточак, дзе ты жывеш, бавішся, працуеш. Не

паскудзь, не капрызнічай, будзь ветлівы і паважлівы, – твае думкі ды ўчынкі – таксама твая "планета", твой сусвет, і ён павінен *быць даладным, прыбраным і прыгожым*" [3, с. 1–2]. Прыярытэт духоўных каштоўнасцей над абездухоўленымі, спажывецкімі адносінамі да жыцця адзначае яна і ў вобразна сфармуляваных пісьменнікам, маральных максімах: "*відушчае толькі сэрца, самага галоўнага вачыма не ўбачыш*", "*мы, ў адказе за тых, каго прыручылі*" і інш.

Цікава, што звяртаючыся ў эсэ да асобы Я. Брыля, Н. Мацяш таксама акцэнтуе ўвагу на жыццёвых прынцыпах пісьменніка, цялеснай і маральнай чысціні свайго духоўнага настаўніка і куміра, які яшчэ ў юнацтве даў сабе зарок жыцця: *не піць, не паліць, не лаяцца, паважаць людзей і не знацца са злыднямі, трымацца сумленнасці, праўдзівасці і чалавечнасці*! "Богам з вялікай літары, – успамінае Н.Мацяш – для Брыля нязменна былі сумленне, чалавечнасць. <…> Іван Антонавіч *інтуітыўна* ведаў пра Сусвет нешта *значна істотнейшае*, чым акадэмічныя святары. Гэта была вельмі цэласная натура. Ён арганічна не прымаў любых праяваў фанатызму альбо "моды" на верніцтва, але чулай душой і жывым мастакоўскім словам, молячыся на велічную красу прыроднага свету, ніколі не адвяргаў неспазнаных тайнотаў Жыцця" [2, с. 4-5].

Можна сказаць, што і для Н. Мацяш вельмі важныя такія вось адпраўныя, цвёрда ўсталяваныя прынцыпы і правілы, якія ўтвараюць фундамент яе рэальнага паўсядзённага жыцця, у якім выпрабоўваецца прынцып адзінства "слова і справы". Вобразна кажучы, у паэткі ёсць нейкі зыходны, даволі суровы і аскетычны маральны "статут", у нечым падобны да манастырскага, які акрэслівае яе дарогу ці, лепш сказаць, вызначае пэўны напрамак яе руху і духоўнага ўзыходжання да "высокага неба ідэала". Праўда, калі паэт Алег Бембель (Зніч), пра духоўнае яднанне і "адзіннасць" з якім гаворыць паэтка ў вершы ("Дарога"), дабраахвотна падпарадкаваў сваё жыццё манастырскаму статуту і сочыць гэты свет з-за манастырскага муру, дык духоўны манастыр Н. Мацяш унутры яе самой, заключаны ў наканаваным ёй лёсе, які яна прыняла як Боскае наканаванне – як пакаранне і пасланніцтва адначасова. Пагадзіць і прымірыць у сабе зямное і боскае, злучыць у сабе мір і манастыр, жыццёвы аскетызм затворніцы і чалавечую адкрытасць свету, памножаную на духоўную пасіянарнасць паэткі і актыўнай грамадскай дзеячкі – такое ўдавалася нямногім.

Э. Кант некалі гаварыў пра два цуды, якія існуюць у свеце: зорнае неба над галавой і маральны закон унутры нас. Гэты апошні прысутнічае ў жыцці і паэзіі Н. Мацяш як унутраны закон існавання, як спосаб парадкаваць свой духоўны свет, вызваляць яго ад мізэрнага, дробязнага, наноснага, выстройваць свой духоўны космас паводле вышэйшых чалавечых і Боскіх цнотаў і дабрачыннасцяў. Узіранне ў высокае неба ідэала, у свет ідэальных каштоўнасцяў, сувымярэнне іх з прыроднай рэчаіснасцю і ўнутраным маральным законам, "напісаным Богам у сэрцы

адзінага кожнага чалавека” (Ф. Скарына) – вось тая сакральная сфера, у прасторы якой шукае разгадкі Боскага Промыслу і сэнсу ўласнага лёсу творчы дух паэтэсы.

Замест падсумавання-resume

Цяпер рэдка здараецца пачуць у паветры, над палеткамі самавітае гудзенне руплівай і гаспадарлівай рабочай пчалы. Усё больш лезуць у вочы стракатыя, пераціснутыя ў таліі, вульгарна расфарбаваныя вялізныя грудастыя восы-мутанты на пару з калматымі, зарослымі густой шэрсцю чмялямі, ды ашалелыя шэршні-рокеры, што з раніцы да вечара бязмэтна ганяюць туды-сюды перад задзіўленай публікай на сваіх траскучых матацыклетах… Але як жа чуйна і радасна вырознівае вуха ў расперазанай і разамлелай атмасферы нястрымнага гульбішча непаўторны голас пчалы-працаўніцы, карміцелькі-маці і старэйшай сястры, што з рання да вечара – з палянкі на палянку, з кветкі на кветку – працуе на халодную восень і лютую зіму, на сябе і на суседа, на блізкую радню і на ўвесь свой вулей…

Такім жа пачуццём шчырай і руплівай пчалінай сям’і, старадаўнім духам спрадвечнай людской сябрыны адорвае чытача і паэзія Ніны Мацяш, ставячы ва ўзаемазалежны гуманістычны кантэкст чалавека і пчалу, аднаўляючы тым самым спрадвечную раўнавагу, баланс паміж чалавекам і прыродай.

Генадзь Праневіч
*Брэст*

ЛІТАРАТУРА

1. Ніна Мацяш, *У прыгаршчах ветру: вершы, пераклады, эсэ,* Мінск 2009.
2. Ніна Мацяш, *У прасторы сяброўства і ўдзячнасці,* (Цыт. паводле рукапіснага варыянта зборніка “У прыгаршчах ветру”).
3. Ніна Мацяш, *Мой Экзюперы,* (Цыт. паводле рукапіснага варыянта зборніка “У прыгаршчах ветру”).

# “УЗНЁСЛАЕ ДУШЫ МАЛЕННЕ”
# (Паэзія Галіны Тврановіч)

**Анжэла Мельнікава**

Вершы Галіны Тварановіч[1] – гэта ўзор паэзіі філасофскай, роздумнай, скіраванай да спасціжэння самых галоўных ісцін, абсалютных каштоўнасцей. Творы паэтэсы літаральна адпавядаюць запавету святога апостала Паўла (з Паслання да Каласянаў): “Браты, калі ж вы ўваскрэслі з Хрыстом, шукайце таго, што ў **вышынях**, дзе Хрыстос сядзіць праваруч Бога; пра тое, што ў вышынях, думайце, а не пра зямное <…> Таму зрабіце мёртвымі тое, што зямное ў целе вашым: распусту, нячыстасць, моцнае захапленне, дрэнныя памкненні і хцівасць, якая з’яўляецца ідалапаклонствам”. Менавіта такія творы супрацьстаяць, згодна Б. Вышаслаўцаву, “спекуляцыі на паніжэнне”, гэтай духоўнай катастрофе нашага часу. Галіна Тварановіч шукае ***горняга***:

Іісус –
    Айчына.
Горняй мары –
    Жальба і надзея.
У бясконцасць –
    Працяг жыцця [Бя: 13].

У вершы “Адной Айчынаю і шляхам” паэтэса прамаўляе: “Адна дарога на ўсіх – угору” [Бя: 170].

Настаяцельніца Спаса Ефрасіньеўскага манастыра ў Полацку ў лімаўскім інтэрв’ю сказала: “Добрая кніга тая, якая вядзе да Бога”. Творы Галіны Тварановіч прасякнуты пошукам галоўнага, вышэйшага, сапраўднага, субстрату жыцця, **Існага**:

Як памагчы той кволай
завязі духоўнага,
схаванай у душэўным,
якім сеецца напачатку
кожны век чалавечы,
памагчы,
каб вызваліць Існае?.. [Бя: 19].

Гэта пошукі свайго прызначэння, усведамлення **Волі** Госпада, пошук адказаў на пытанні: хто мы, куды ідзем, якая мэта гэтага шляху, што за мяжой жыцця і смерці: “Пакутна і радасна // шукаю штодня адказ // на адведзеным мне кавалку свету” [Бя: 19].

Пра вартасць літаратуры трэба меркаваць перш за ўсё па змястоўнасці твораў, іх “ідэйнай скіраванасці”: што яны нясуць у свет, які іх пасыл? Духоўныя матывы заўсёды надаюць творам глыбіню, арыентуюць чытача на абсалютныя каштоўнасці. У свой час Ніна Мацяш наступным чынам выказалася пра паэзію Галіны Тврановіч: “Твая

лімаўская падборка цікавая тым, чым і прыцягвае мастацтва: нетрафарэтнасцю, адметнасцю выяўленага аўтарам свайго духоўнага свету”[2].

Духоўная паэзія звяртаецца да лепшага ў чалавеку, арыентуе на спасціжэнне Галоўнага, на пошук свайго прызначэння. Архіепіскап Сан-Францыскі Іаан (Шахаўскі), які таксама выступаў як паэт, пісаў пра паэзію як найвышэйшую праяву чалавечага духу і самы кароткі шлях да Бога: “Поэзия есть гимнологическое преодоление всех стёршихся силлогизмов и словесных обозначений, переставших открывать мир... В ней является само бытие, которое более ценно, чем всё то, что может быть им выражено...”[3].

Аналагічныя выказванні рабіў С. Аверынцаў: “В чём же ещё вековечная суть назначения поэта, если не в том, чтобы перед лицом ужаса обрести не черноту, а целение, не сарказмы, а псалом, не хулу, а хвалу?”[4].

З канца 80-х гадоў мінулага стагоддзя ў літаратуры постсавецкіх краін адбываецца імклівае адраджэнне хрысціянскай традыцыі, духоўнай плыні ў паэзіі, існуе даволі глыбокая навукова-крытычная рэцэпцыя такой літаратуры. Нават з’явіўся тэрмін “рэлігійнае літаратуразнаўства”. Вылучаюцца такія разнавіднасці рэлігійнай паэзіі, як “метафізічная паэзія”, духоўная паэзія, філасофска-рэлігійная лірыка[5], рэлігійная паэзія містыцызму, нерэлігійная паэзія біблейскай тэматыкі, псеўдадухоўная паэзія, а таксама “праваслаўны кітч” (вершы, дзе пануюць царкоўна-рэлігійныя рэмінісцэнцыі, але адсутнічае глыбока-ўнутранае перажыванне біблейскіх падзей).

Адносна размежавання метафізічнай і філасофска-рэлігійнай паэзіі рускі даследчык Святлана Скорык адзначае: “Не хацелася б, каб метафізікаў блыталі з філасофска-рэлігійнымі лірыкамі. У апошніх ніколі не ідзе гаворкі пра сваё “таямнічае Пасвячэнне” і нейкіх “бязмежных ведах”, іх паэзія звернута перш за ўсё да голасу сумлення. Калі гэта і не праваслаўны “вузкі шлях”, то, ва ўсякім выпадку, ён здольны прывесці туды ж. А абцяжарванне тканіны верша нібыта-эзатэрычнымі (а на справе – проста цьмянымі) выслоўямі нічога не даюць ні сэрцу, ні розуму, не здольныя заахвоціць чытача ні ўспомніць аб душы, ні задумацца над праблемамі маралі і светабудовы, калі іх царкоўны разгляд яго не задавальняе”[6].

Таксама трэба адзначыць, што менавіта рэлігійнае літаратуразнаўства звярнула істотную ўвагу на такі тып аўтарскай эмацыйнасці, як “удзячнае прыманне свету і сардэчнае ўзрушанне” (В. Я. Халізеў)[7]. Да гэтага навукоўцамі разглядаліся такія тыпы аўтарскай эмацыйнасці, як гераічнае, ідылічнае, сентыментальнае, рамантычнае, трагічнае, камічнае, іранічнае.

Не маючы намеру паглыбляцца ў тэарэтычныя праблемы, важна адзначыць, што сутнасць духоўнай паэзіі, да якой належыць творчасць Галіны Тварановіч, – у арганічным спалучэнні эстэтычнага і рэлігійна-містычнага складніка.

Духоўная скіраванасць паэзіі Г. Тварановіч выяўляецца не проста ў **тэматыцы** вершаў (“Вялікдзень”, “У храме”, “О, Госпадзе, Ісусе Хрысце!”, “Троіца. Духаў дзень”, “Да споведзі”, “Няўжо апошняй сечы”, “Крыжа засень”, “Золак, світанне” etc), але перадусім у іх напоўненасці хрысціянскім **зместам** (“Ці выратуюцца добрыя”, “Пасля, ужо пасля ўсяго”, “Якою мушу быць”, “Адчыняецца неба насустрач”, “Трывай, душа, трывай”, “Не прапусціць, не зблытаць ані з чым”, “Ён наперад ведае” etc). Хрысціянскія матывы, евангельскія вобразы з’яўляюцца арганічнай часткай духоўна-маральнай прасторы, у якой асэнсоўвае сябе Галіна Тварановіч. Зварот да вобразаў Святога Пісання ў паэтэсы – не проста крыніца агульнакультурных метафар, сімвалаў, алегорый, а выяўленне спецыфікі асабістага духоўнага пошуку. Для Галіны Тварановіч важна сказаць пра іншую рэальнасць, якая супрацьстаіць штодзённаму, часоваму.

Творы Паэтэсы пазбаўлены сухога дыдактызму і маралізатарства, гэта не проста пераказ мастацкім словам біблейскіх сюжэтаў, а перадача ўнутранага вопыту, адлюстраванне глыбокіх духоўных **намаганняў,** напружанае самапазнанне:

У святло,
у світанне
мяне прывялі
жахлівая незваротнасць
і вялікі сум
аб той хвілі,
    калі
маё адзінае жыццё,
    зусім неўпрыкмет,
імклівым часам падманутае,
мусіць апасці лісцем сухім
пад крокі наступнікаў <…>
Толькі – о, літасць! <…>
Душа зведала Вечнасць [Бя: 5].

У творах Галіны Тварановіч – **разважанні пра Вечнасць, Веру, Надзею, Любоў**, **Існае,** тое адзінае, што здольнае ўратаваць (“Маўчанне Госпада”, “Калі набягае раса нябесная”, “Душа ў абалонцы плоці”, “А можа вось зараз”).

Словы Існае, Вышэйшы, Вечнасць найчасцей сустракаюцца ў вершах паэтэсы: “Растулены ў Вечнасць час”, “яна струменіць у Вечнасць, туды, // дзе губляюцца час і прастора зямныя”.

Вядомы хрысціянскі прапаведнік А. Шмеман пісаў: “Вечнасць – не знішчэнне часу, а яго абсалютная сабранасць, цэльнасць, аднаўленне. Вечнае жыццё – гэта не тое, што пачынаецца *пасля* часовага жыцця, а адвечная прысутнасць усяго ў цэласнасці”[8].

Менавіта глыбокае пранікненне ў сутнасць хрысціянскага вучэння дазваляе Галіне Тварановіч выказацца, па словах А. Шмемана, пра “во-

пыт вечнасці тут і цяпер”

… бо ўсё, нат век – імгненне,
водбліск зорнае стыхіі.
І мы спяшаемся, ляцім
у неўміручыя прасторы –
бясконцасць вечнага
цяпер [Бя: 81].

Хрысціянства супрацьстаіць свету мітуслівому, спажывецкаму, скіраванаму на поспех, задавальненне ўсялякага кшталту амбіцый і т. п., што Галіна Тварановіч акрэслівае як “ ілжывую бясконцасць тлумнага дня”. Адсюль і заклікі спыніцца, засяродзіцца, задумацца над сваім жыццём, жаданнямі, вынікамі.

Толькі напружанае ўнутранае жыццё дазваляе паэтэсе выказацца пра “невыпадковасць імгнення”.

Увогуле, многія выразы з вершаў Галіны Твaрановіч мусілі б стаць крылатымі: “побач з мамай дом паўсюль”, “сіротамі свет заселены”, “бясконцасць вечнага цяпер”, “свята здзяйснення лёсу”, “агледзіны душы”, “ручніком часу асушаны слёзы”, “вучыць непазбежнасць”. І ўрэшце – “мы – вечныя, // пакуль нас сабою засланяюць // нашыя мацяркі” [Бя: ].

Галіна Твaрановіч спавядае **этычныя хрысціянскія каштоўнасці**:

Божа! <…>
Навучы мяне быць удзячнаю.
Дай мне сілы на добрае.
І адымі, калі мыслю благое [Бя: 8].

Вось і “ўдзячнае прыманне свету і сардэчнае ўзрушанне”, паводле В. Халізева.

Паэтка звяртаецца да Вялікай Ахвяры Хрыста:

бо аднойчы,
і мяне ратуючы, –
быў раскрыжаваны
самы светлы ў Сусвеце
Чалавек… [Бя: 20].

Вершам Галіны Твaрановіч уласціва спалучэнне глыбіні сімвалічных абагульненняў з глыбока эмацыяльным перажываннем хрысціянскіх ісцін. Паэтычнае асэнсаванне атрымлівае хрысціянскі погляд пра заканамернасць, невыпадковасць усяго, што з намі адбываецца, пра Вышэйшую **Задуму** пра кожнага з нас:

Усё, ці ж не ўсё ў прыродзе,
сэнсам адзіным, суцэльным,
з кропкі адной скіравана
і ўвасабляецца, несумяшчальнае бы,
выпадковае на чалавечы розум… [Бя: 164].

Вершы Галіны Твaрановіч – споведзь **пра пакаянне,** пра зварот да **сапраўднага шляху**, пра барацьбу са злом унутры сябе:

Пекла й рай,
дабро й зло,
цемра й святло –
усё гэта я,
тое ражно,
што папярок устае
Боскай святой задумы
аб чалавеку [Бя: 50].

Паэтэса піша пра вечнае і штодзённае змаганне на полі чалавечай душы:

Зялёная галінка душы –
нямая сведка замовы
віхурыстага памкнення
з марудлівым здзяйсненнем
мусіць ці не штодня
страсаць попел нябыту … [Бя: 52].

Гэта і ёсць той “вузкі шлях”, што вядзе да Бога.

Галіна Тварановіч шукае першародную цэльнасць чалавечай асобы. У вершы “Вогненная сутнасць свячы” паэтэса нагадвае пра “спрадвечную сутнасць” кожнага з нас:

Мо гэтак у кожным з нас
гарачае немаўлятка духу
натужліва трызніць аб крылах,
каб у час скарыстаць
сваю спрадвечную сутнасць [Бя: 58].

У вершы “Не прапусціць, не зблытаць ані з чым” – пра адпаведнасць / неадпаведнасць чалавека Боскай задуме:

Запісана ад нараджэння быць
праверанай душы на вернасць
таму, пра што адно здагадваешся тут [Бя: 148].

Менавіта пакора волі Усявышняга, пакаянне ва ўласнай недасканаласці вылучае сапраўднага верніка. Заснавальнік канцэпцыі логатэрапіі В. Франкл сцвярджае: галоўная мэта чалавечага жыцця – не самарэалізацыя, а свядомы пошук сэнсу ўласнага жыцця. Для хрысціяніна сэнс індывідуальнага існавання таксама не ў самарэалізацыі, а ў адпаведнасці Волі Божай, у Спатканні са Хрыстом (“Я – Шлях, Ісціна”):

Што мушу рабіць,
каб спраўдзіць наканаванае ад веку,
ды не заблытаць свой лёс,
а Спатканнем шлях зямны завершыць? [Бя: 78].

Галіна Тварановіч адначасова дакладна і ўзнёсла сфармулявала гэта як “свята здзяйснення лёсу”. У вершах паэтэсы – і матывы пакаяння, і вера ў Боскую міласэрнасць (“З дня ў дзень”, “Ён наперад ведае”), і надзея на выратаванне:

Каб жа толькі прасторы
                    мне стала
Сусвету гулкага

дар жыццядайны

прыняць… [Бя: 18].

І адчуванне пустэчы ад **страты ўсведамлення Боскай прысутнасці**:

вусцішна, сцюдзёна.
Пазаві мяне,
Божа! [Бя: 9].

Чэслаў Мілаш у эсэ “Зямля Ульра” пісаў пра “дэзынтэграцыю каштоўнасцяў” у сучасным свеце. Творы Галіны Тварановіч нагадваюць, імкнуцца скіраваць да сапраўдных каштоўнасцей.

Скразная ў паэзіі Г. Тварановіч – тэма **пакоры** (“Трывай, душа, трывай! <…> // няма другога шляху // у росныя блакіты”, “не абяцала, не дакарала”, “пякучае трыванне”, “мой ціхі голас, // што ў пакоры распавядае”. Катэгорыя пакоры з’яўляецца ключавой у хрысціянскім вучэнні. Як і цярпення, трывання (“ратункам мігціць адно трыванне”):

Выбіраю расхінутую прастору,
дзе цярпенне ўваходзіць у цуд,
а цуд мацуе цярпенне [Бя: 73].

Толькі той, хто “пільнуе сваю душу”, здольны адчуць сваю грахоўнасць:

а перш віны пазбыцца за
няўдзячнасць прад Жыццём
у шчасці мне дазволь” [Бя: 132].

Вершы Галіны Тварановіч – гэта і выяўленне асабістага **духоўнага ўзрушэння,** рэлігійнага перажывання (“У святло”, “Маўчанне Госпада”, “У храме”, “Сваім слабым, мітуслівым словам”, “Верую”). І асэнсаванне духоўнага зместу хрысціянскага вучэння, **ідэй пра Бога, яго валадарства**:

Хрыстовай крывёю асвечаны
У зорную Існасць парог [Бя: 28].

Хрысціянскі вектар паэзіі Галіны Тварановіч праяўляецца і праз зварот да вобразаў Хрыста (“Адтуль, здалёк”), Багародзіцы (“Сына плоць смяротную”). Паэтычнае асэнсаванне атрымліваюць **вобразы святых** (“О вы, лагодныя пакутнікі”, “Самотны паэт трагічнага часу”, “Паводле свяціцеля Феафана”, “Святая Петка”, “Святы Сава”).

Вершы Галіны Тварановіч сведчаць пра глыбокую **ўкаранёнасць** паэтэсы **ў Хрысціянства,** хрысціянскія каштоўнасці, пра глыбока ўсвядомлены асабісты выбар, паколькі сэнс хрысціянскіх запаветаў адкрываецца толькі таму, хто спрабуе жыць у адпаведнасці з імі (“усё існае нараджаецца ў пакуце”, “спазнаць аковаў слодыч, // у ланцугах – размах крылаты, // паслушэнства –

крынічны
вольны
шлях”) [Бя: 24].

Паэтэса нагадвае, што кожны чалавек – **пакліка,** вырваны з Нябыту, што жыццё кожнага мае вялікі сэнс, трэба толькі імкнуцца

адшукаць гэту задуму Усявышняга пра нас**:**

Углядаецца ў абрысы мае душы,
Кінутай Ім аднойчы зернем
у раллю жыцця
тутэйшага [Бя: 9].

Галіна Тварановіч піша пра **чалавека як пра вобраз і падабенства Божае:**

іскрынка творчая заззяла
у істоце чалавечай – Божай… [Бя: 65].

Успрымае кожнага, згодна з хрысціянскім вучэннем, вышэй за сябе:

Кожны мною сустрэты, – лепшы.
У ім зіхціць таямніца [Ут: 32].

Чалавек жыве ў свеце, дзе існуюць пакуты, страты. Паэтэса падкрэслівае іх маральна-творчы патэнцыял: яны спрыяюць сталенню, уздымаюць над мітуслівасцю будзённага. Аднак адчуць праз пакуты прысутнасць Вышэйшага – задача, на якую здольны далёка не кожны.

Вершы Галіны Тварановіч якраз прасякнуты ўсведамленнем рэальнасці Вышэйшага ("Зрушацца няўмольныя пласты"), якое праяўляецца перш за ўсё ў любові, адчуванні прыгажосці, радасці паразумення. І паэтка здольная гэту радасць выказаць словамі. Яе вершы валодаюць моцнай сугестыўнай сілай. **Радасць** – адна з асноўных катэгорый у хрысціянстве. Апостал Павел пакінуў такі запавет: "Радуйцеся заўсёды ў Госпадзе; і йзноў кажу: радуйцеся" [Флп. 4:4-7]. Аўтарытэтны хрысціянскі прапаведнік А. Шмеман падкрэсліваў: "Радасць таму мае такое важнае значэнне, што яна ёсць вынік адчування Боскай прысутнасці. Нельга ведаць, што Бог *ёсць,* і не радавацца. І толькі ў адносінах да яе з'яўляюцца сапраўднымі, правільнымі, плённымі і страх Божы, і пакаянне, і пакора" [Ш: 297].

Творы Г. Тварановіч сведчаць пра **"вынашанасць", выпакутаванасць** духоўных ісцін:

…усё існае нарджаецца ў пакуце,
бо аднойчы,
і мяне ратуючы, –
быў раскрыжаваны самы светлы ў Сусвеце
Чалавек… [Бя: 20].

Галіна Тварановіча піша, што толькі ў **сцішанасці**, унутранай засяроджанасці дае адчуць сябе Гасподзь ("Прамяністае імгненне", "Скрозь кожны дзень"):

Скрозь кожны дзень
у ціхай лагодзе
я б хацела праходзіць [Бя: 70].

Толькі адасобіўшыся ад выпадковага, мітуслівага, вызваліўшы ўнутраны зрок, магчыма спасцігнуць, зразумець таямніцу быцця. Што адпавядае хрысціянскаму вучэнню (пра гэта пераканаўча сказана ў кнізе мітрапаліта Антонія Суражскага "Пра малітву"):

Ды анёл ціха падказвае:
“Глянь, вунь тваё горняе
б’ецца крыламі аб столь
цеснай чалавечай галубятні.
Цішэй шукай дзверы –
у сябе” [Бя: 53].

Эпітэт “ціхі” – адзін з самых частотных у паэтэсы: “мой ціхі голас”, “цішынёю вачэй”, “кветкі ціхай пяшчоты”, “у цішы добра чутно”, “а ціхамірнасць шукае хоць шчыліну, // каб душу наталіць жывою вадою”.

Царква вучыць, што гардыня – адзін з самых вялікіх грахоў (у паэтэсы – “гардыні-бездані шэрай вырачкыся”), а шлях да сябе, самапазнанне магчымы толькі праз **самаадрачэнне**:

Спазнаць аковаў слодыч,
у ланцугах – размах крылаты,
паслушэнства – крынічны
вольны
шлях [Бя: 24].

У хрысціянскім вучэнні катэгорыя **Часу** атрымлівае спецыфічнае разуменне. Пакуты Хрыста на крыжы – вынік і нашых грахоў (“За нас раскрыжаваны, за нас спакутаваны”). Галіна Тварановіч уздымаецца да містычнага ўсведамлення далучанасці ўсеагульнай і ўсечасовай, а таксама ўласнай да Біблейскіх падзей:

Хрысце, даруй нам, няверным,
нямоглым,
за бясконцасць пакуты Твае… [Бя: 26].

Біблейскія падзеі ўспрымаюцца як падзеі асабістага духоўнага жыцця. Услухоўванне ў сябе, глыбокая ўнутраная работа выхоўваюць усведамленне ўласнай грахоўнасці, не дазваляюць заспакоіцца, трапіць у палон задаволенасці сабою, абыякавасці. Галіна Тварановіч “пільнуе сваю душу” ад граху, робіць “агледзіны душы”, таму і нараджаюцца такія вершы, як “Усё. Спапеленыя мажлівасці”:

І раптам:
пранізлівы смутак –
аднойчы Раскрыжаваны
зноў трымціць
болем-пакутаю.
У маёй руцэ –
Цвік [Бя: 16].

Адсюль такая **чуйнасць**, міласэрнасць пісьменніцы да ўсяго жывога, здольнасць адчуць боль іншага. Невыпадкова Ніна Мацяш у адным са сваіх лістоў наступным чынам звярнулася да Галіны Тварановіч: “Дарагая – і мне – дабратой невычэрпнаю, спагадлівасцю заўсёднай, светлынёю жывільнай”[9]. Своеасаблівым маркерам духоўнай паэзіі якраз з’яўляецца яе дабратворны ўплыў на душу і пачуцці чалавека. Наяўнасць такой паэзіі сведчыць пра аксіялагічныя арыенціры літаратуры.

На жаль, сёння такія творы, творы, дзе прысутнічае ***запытанне***, якія скіраваны па-за межы патрэб свету матэрыяльнага, мітуслівага, незапатрабаваныя.  Як чытачамі, так і крытыкай. Дробязнае, мітуслівае перамагло. У тым ліку і ў літаратуры. У тым ліку і ў нашай. На слыху – эпатажнае, кідкае, змаганне амбіцый. Карпаратыўнасць. На жаль, нават самыя паважаныя і здольныя пісьменнікі не пазбеглі гэтага. Як выказаўся Л. Галубовіч, “іерархію і вядомасць (ад слова весці) вызначаюць не аб’ектыўнасць незалежнай крытыкі (ці хоць бы яе незалежная суб’ектыўнасць), а паспешлівыя і прагматычныя высновы і ацэнкі абслугоўваючай касты літаратурных журналістаў (не толькі ў літаратурна-мастацкіх, але і ў перыядычных грамадска-палітычных СМІ) разам з прабіўнымі магчымасцямі і кар’ернымі здольнасямі саміх паэтаў (барацьба за выступы, выезды за мяжу, міжнародныя стыпендыі, прэміі, выданні, пасады)…”[10]. Таму ў ценю сапраўды вартае, глыбокае, змястоўнае.

Галіна Твардовіч пазбягае мітуслівасці, пошласці (“сумую заўжды па // непасрэднасці галубінай // у шчырай прасторы душы”).

Базавай у хрысціянскім вучэнні з’яўляецца  **катэгорыя любові:** “Прыказанне новае даю вам, каб вы любілі адзін аднаго; як Я узлюбіў вас, каб і вы адзін аднаго любілі” [Ян. 13:34]. Не абмінае тэмы любові і Галіна Твардовіч (“Прыкмячаю часам, як аднекуль”, “Не падыходжу”, “Гасподзь Бог”, “Дасканалай Любові”). На старонках кніг паэтэсы рассыпаны: “ратуе Любоў”, “як у Любові знайсціся”:

Моцы малю, каб дачакацца
міласэрнае самае ўлады –
улады Любові Хрыстовай
над роснай зямлёю… [Ут: 12].

Сцішанай і ўдумлівай паўстае Галіна Твардовіч і ў вершах, прысвечаных **каханню**. “Пытаюцца пра цябе // кветкі ціхай пяшчоты”;

І зноў твой дзень абміне
маю агністую пяшчоту,
мой дзіцячы давер.
Абміне мой ціхі голас,
што ў пакоры распавядае,
як тужліва й самотна мне –
без  цябе [Бя: 41].

Ул. Конан, які шмат пісаў пра хрысціянскі кантэкст беларускай літаратуры, адзначае: “Хрысціянская экзістэнцыяльная філасофія, таксама адпаведная ёй паэзія, кажуць нам: нас выратуюць вера, надзея, любоў. З гэтай боскай трыяды найвышэйшая – любоў. Яна ратуе чалавека і дорыць яму райскую перспектыву ўжо тут і цяпер – на гэтым свеце. Праз яе мы будзем пакліканы ў перспектыве эсхаталагічнага перамянення Сусвету”[11].

Хрысціянскае вучэнне гаворыць пра суаднесенасць, **праяўленне Боскага Валадарства праз свет фарбаў, гукаў, рухаў**, “адчуванні жыцця ў

яго цялеснасці, увасобленасці, рэальнасці, непаўторнай унікальнасці кожнай хвіліны і яе паўнаты”, згодна А. Шмеману [Ш: 52]. Галіне Тварановіч дадзена гэтая здольнасць адчування прыгажосці жыцця. І гэта сапраўды Дар: “Калі набягае раса нябесная, // Убіраецца ў сілу маленне”, “вясновае зямлі гучанне”; “пакуль дрыготкае здзіўленне // у чуйнасці сваёй не зможацца // адкрыццём ранішнім, вясновым // душу зямную хваляваць – // прымаць удзячна нам // жыцця вялікаснага плынь” [Бя: 80]. Яна літаральна “замілаваная цудам жыцця”, “вясновай зямлі гучаннем”:

Вось жа задумана калісь дзівосна
і вядзецца нязменна дасюль:
хвалі пяшчоты, зямля ў нябёсах [Бя: 144].

Вельмі дакладна акрэслена сутнасць паэзіі Галіны Твардовіч у анатацыі да зборніка “Верасы Дараганава”: “Лірычная гераіня ўспрымае жыццё як найвялікшы дар, у берагах якога кожны спраўджваецца як універсальная духоўная магчымасць у паўсядзённым выбары абставін, узрастаючы ў любові да роднай зямлі, вялікай чалавечай сям’і”. Паэтэсе дадзена здольнасць бачыць прыгожае ў, здавалася б, звычайным (“і раптам скрозь мокрую цемень // да самага сэрца – кліч жураўліны”) [Бя: 164]. Жыццё для яе – сапраўды свята:

Пасярод,
у самым сэрцы
усеабдымнага цуду –
свята жыцця [Бя: 165].

Падумай толькі, дружа, сам –
нашто было б Яму,
Усемагутнаму Творцу,
нас слаць сюды на здзек,
дзе кожным летам водар ліп
і *музыкаю тхне зямля ў фіялетах*…[Бя: 167].

Для хрысціянскага вучэння асабісты духоўны пошук асобнага індывіда мае надзвычайную каштоўнасць, бо менавіта з сукупнасці такіх пошукаў і складаецца саборны вопыт Царквы. Галіна Твардовіч, такім чынам, выступае “Сведкам Хрыста”. Аўтарытэтны хрысціянскі прапаведнік а. Віталь Баравы, чыё служэнне звязана з Беларуссю, з Гомелем, пісаў, што пакліканне хрысціяніна – “Быть свидетелями Христа”. Так называецца і яго кніга.

Вершы Галіны Твардовіч скіроўваюць на роздум, прымушаюць прыпыніцца ў будзённым і задумацца:

Жыццё –
час, узяты ў дужкі падзей,
падзеяй народжаны,
па падзеях раскладзены,
у падзеі ўштукаваны.
Падзея сведчыць пра час
і па ёй час вызначаецца –

час нараджэння і час смерці,
прамінанне, успамін і надзея [Бя: 172].

Чэслаў Мілаш пісаў: “Грамадства і цывілізацыя існуюць, дзякуючы нечувана дробным кроплям дабрадзейнасці, што жывуць у паасобных індывідах і даюць істотныя вынікі дзякуючы заблытанаму працэсу памнажэння кожнага такога зернейка праз іншыя зернейкі”[12]. “Кропляй дабрадзейнасці” з’яўляецца і творчасць Галіны Тварановіч.

Анжэла Мельнікава
*Мінск*

Спасылкі

1. Галіна Твaрановіч, *Ускраек тысячагоддзя*, Мінск 1996; *Верасы Дараганава*, Мінск 2000; *Чацвёртая стража*, Беласток 2004; *Бурштынавы яблык*, Беласток 2010. Далей пры спасылках у тэксце адпаведна – *Ут*, *ВД*, *Чс*, *Бя*.
2. Ніна Мацяш, *Гарнуся да Вас удзячнай душою*, “Тэрмапілы” 2009, № 13, с. 195
3. Котова Наталья Александровна, *Современная духовная поэзия*: диссертация- ...кандидата филологических наук //www / disserr.ru›contents/294280.html Дата доступу 21.12.11.
4. С.С. Аверинцев, *София – логос. Словарь*. Второе, исправленное издание. К.: Дух и Літера, 2001.
5. Па словах Святланы Скорык, “справа ў тым, што філасофска-рэлігійныя лірыкі не строга кананічныя, у сваіх творах яны выходзяць за рамкі царкоўнай агароджы і спрабуюць перадаць сваё бачанне кожнай праблемы, а бачанне іх не заўсёды супадае з меркаваннем Царквы. Назваць гэта нерэлігійным немагчыма, паколькі пачуццё святога трапятання, безумоўна, прысутнічае” // Скорик Светлана. *Религиозная и метафизическая поэзия* www/stihi.pro›140-o-religioznoj-i-metafizicheskoj. Дата доступу 21.12.11.
6. Святлана Скорык. Тамсама.
7. В. Е Хализев. *О составе литературоведения и специфике его методологии* // Наука о литературе в ХХ веке (история, методология, литературный процесс), Москва 2001, с. 11
8. Прот. А. Шмеман, *Дневники. 1973–1983*, Москва 2007, с.25. Далей у тэксце – *Ш*.
9. Ніна Мацяш, *Гарнуся да Вас удзячнай душою*, “Тэрмапілы” 2009, № 13, с. 195
10. Л. Галубовіч, *Вакол першай кніжкі Віталя Рыжкова*, “Дзеяслоў” 2001, № 4, с. 278
11. Ул. Конан, *Выбранае*, Мінск 2009, с. 462.
12. Чэслаў Мілаш, *Зямля Ульра*, Мінск 2011, с. 297

рэцэнзіі

## “БЕЛАВЕЖА”: УЧОРА І СЁННЯ

**Белавежа. Літаратурны альманах. Беласток: БЛА “Белавежа”, 2011**

Калі ў 1959 годзе выйшаў першы калектыўны зборнік „белавежцаў” “Рунь”, гэта стала сапраўднай падзеяй. Адбыўся сход аб’яднання, на якім прысутнічалі навукоўцы з Беларусі. Рэцэнзіі з’явіліся не толькі ў Польшчы (Беласток, Варшава, Лодзь), але і ў Украіне (“Наша культура”), Расіі (“Литературная газета”). Думаецца ўсё ж, што найперш водгук чакаўся з Беларусі. Таму невыпадкова рэдактар “Нівы” Георгій Ваўкавыцкі не без прыемнасці зазначыў у сваіх “Вірах”: “У “Літаратуры  і мастацтве” (13 мая) з вялікім артыкулам аб “Руні” выступіў галоўны рэдактар тыднёвіка Янка Шарахоўскі” [1, с. 14].

Нядаўна выйшаў новы калектыўны зборнік пісьменнікаў “Белавежы”, рэдактар якога, сённяшні кіраўнік аб’яднання прафесар Ян Чыквін прапанаваў чытачам самае цікавае з набытку «белавежцаў», што хораша прэзентуе і творчасць кожнага з іх і пацвярджае сказанае раней, у аглядзе 50-гадовага шляху: “Пісьменнікі “Белавежы”, сапраўды, шчыльна запоўнілі сваю этнічную прастору культурна-эстэтычным зместам. З поўным правам можна сказаць, што другая палова ХХ стагоддзя належыць у беластоцкім краі найперш “белавежцам” [2, с. 317].

Першаму слова дадзена Георгію Валкавыцкаму, аднаму з пачынальнікаў адноўленага на Беласточчыне ў новым часе беларускага літаратурнага руху, заснавальніку, шматгадоваму рэдактару тыднёвіка “Ніва”. Сапраўды, дадзена, бо ўкладзены альманах строга ў адпаведнасці з узростам творцаў. Для пачынальніка зроблена выключэнне. І гэта зразумела. Бо і сапраўды, “цяжка пераацаніць намаганні, што пакладзены Г. Валкавыцкім дзеля справы ўмацавання правоў і развіцця культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Па сутнасці, усё яго творчае жыццё было паслядоўным супрацьстаяннем экспансіі больш моцнай і больш абароненай суседняй культуры, да якой рэдактар “Нівы” ставіўся з нязменнай і справядлівай павагай, але мужна і бескампрамісна адстойваў сваё, бацькоўскае, беларускае” [2, с. 229].

Адкрывае кнігу ягонае апавяданне “Калыска”, у якім выразны біяграфічны матэрыял абагульняецца, паўстаюць вобразы роднага гнязда, хаты і, зразумела, першага асабістага прытулку маленькага чалавечка – калыскі. Бо гэты твор пра выток зямной сцяжыны. Пачынаецца апавяданне нязвычна – з аднагалоўнаслоўнага пытання: “А мама?” І такі зразумелы адказ, які, аднак, у кожнага гучыць па-свойму, бо пазначаны і толькі ягоным часам, і толькі ягонай, адзінай такой у свеце, мамай: “Была самым надзейным апірышчам нашай сям’і. І нарадзіла мяне пад шчаслівай зоркай, хоць і ў нядобры час, недзе на другі год пасля вяртання з бежанства” [1, с. 7].

Матыў бацькоўскай, мацярынскай абароны, ратавальных крылаў, якімі мама засланяе сваіх дзяцей ад хваробаў-няшчасцяў, галоўны ў творы. Фінал апавядання на першы погляд пакідае ўражанне незавершанасці, абарванасці, калі малюецца чарговы матчын клопат, прыстасаванае да ўмоваў сялянскага побыту лекаванне: “Рас-

парвала мяне мама ў вялікай бочцы. Да паловы напаўняла яе вадою, разагравала ў печы вялікі камень, укідала яго ў бочку, туды ўпіхала і мяне, накрывала прасцінай, і я там даспяваў да кампрэснай працэдуры” [1, с. 9]. А гэта ж і ёсць даспяванне да тых жыццёвых працэдураў, якіх будзе вельмі многа. Але пра гэта ўжо будуць іншыя творы.

Адна з самых вядомых кнігаў Георгія Валкавыцкага мастацка-дакументальная аповесць “Віры”, што падзагалоўкам мае “Нататкі рэдактара”, прадстаўлена ў альманаху кароткімі, зразумела, самымі значнымі, фрагментамі. Прапанаваныя чытачам вельмі дарэчы, бо для тых, хто знаёміцца з “Белавежай” упершыню, тут на некалькіх старонках – бадай, усе вяршынныя падзеі аб’яднання. З гумарам, а гэта адметная рыса мастацкага почырку пісьменніка – пра вельмі сур’ёзныя рэчы: імпэтны старт у літаратуру тады яшчэ зусім маладых творцаў, першая літаратурная вечарына, “зашыфраваныя” праз нечытэльны почырк і таямнічы псеўданім вершы “няўпэўненага” Алеся Барскага, першыя кнігі: калектыўная “Рунь”, “Загоны” Сакрата Яновіча, паэтычныя зборнікі Яна Чыквіна “Іду” і “Святая студня” і цікавая, не без гумару пераказаная, гісторыя пра тое, чаму адразу два. Таму ніяк нельга пагадзіцца, што гэтыя “аўтабіяграфічныя запісы Г. Ваўкавыцкага вытрыманы ў строгай аб’ектыўна-дакументальнай манеры” [2, с. 230].

Аўтар слушна, па-майстэрску выкарыстоўвае вобразнасць з працэсаў, што адбываюцца ў свеце прыродным. Бо – “Белавежа”! Усё тут прабівалася, расло, дарастала да – годдзяў, так і “прабіваецца” – голляў, юбілеяў – алеяў. І цудоўная фраза, якою рэдактар альманаха завяршае прэзентацыю “Віроў”: “У гэтым тэатры акцёры самі выбіраюць ролі” [1, с. 17]. Так было заўсёды. І так сёння. Асабовасць, асаблівасць, адметнасць кожнага пісьменніка, які творыць і свой шлях таксама. І тых, хто пісаць перастаў, але ўсё адно застаўся белавежцам, і тых, каго ўжо няма, бо яны ж былі – белавежцы, а напісанае – застанецца. Таму і ўключаны ў альманах творы Янкі Жамойціна (1922–2003), Міколы Гайдука (1933–1998) і тых, што пайшлі так рана: Юркі Геніюша (1935–1985) і Міхася Шаховіча (1953–2000). Замыкае гэты смутны шэраг Уладзімір Гайдук (1941–2012).

І тых, каго назавем паважанымі старажыламі: Віктар Швед, Васіль Петручук, Дзмітры Шатыловіч, Алена Анішэўская, Яша Бурш.

І тых, што варты называцца класікамі “Белавежы”: Сакрат Яновіч, Ян Чыквін, Алесь Барскі.

І самых юных, між якіх найсталейшы – аўтар двух паэтычных кнігаў Юрка Буйнюк (1981 г.н.). І мілыя дзяўчынкі: Юстына Каролька, Віялета Нікіцюк, Кацярына Сянкевіч. Яны толькі ступаюць на «белавежскія» сцежкі, але ўжо цудоўна разумеюць, куды прыйшлі і хто тут ёсць, і што тут, у гэтай “*малой вялікай айчыне*”, для сябе шукаюць і чаго жадаюць. Як выказала тое за ўсіх маладых, звяртаючыся да старэйшых, Віялета Нікіцюк:

*Вы,*
*Вялікія неацэненыя,*
*Паэты малой вялікай айчыны,*
*Забытыя светам,*
*Невядомыя людзям –*

*Хачу ісці з Вамі той самай,*
*але іншай дарогай* [1, с. 183].

А між імі цэлая плеяда: Надзея Артымовіч, Янка Целушэцкі, Віктар Стахвюк, Уладзімір Саўчук, Жэня Мартынюк, Юрый Баена, Міра Лукша, Міхась Андрасюк, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Яўген Вапа, Лідзія Маліноўская. І, безумоўна, Галіна Тварановіч, чые лілёва-сінія “Верасы Дара-

ганава” гэтак натуральна, арганічна далучыліся да квецені Белавежы, што ўжо ў спелай восеньскай пары. І няхай яны заўсёды красуюць у душы паэткі, якую, спадзяюся, шчаслівы лёс прывёў да “Белавежы”, а для многіх з беларускіх літаратараў, па гэты бок мяжы, яна выснавала надзейную повязь з беларускай Беласточчынай, якая – няхай жа! – не рвецца ніколі. Як ніколі не парвецца яе лёсавае, што, быццам дарагія сэрцу рэчы і з’явы, гэтак хораша сыйшлося ў адно вялікае пачуццё:

*Цеханавецкі збанок,*
*бельская хата,*
*а верасы – з Дараганава,*
*што ў Пцічы на плячы*
*хваёвае прымасцілася* [1, с. 124].

Але глянем на іх бліжэй. Вось Віктар Швед, паэт-традыцыяналіст, чыя творчасць у абсягу тых нацыянальных духоўных каштоўнасцяў, якія трацяцца, знішчаюцца праз незваротныя працэсы. А гэта занядбанне вясковага ладу, сялянскага роду, знікненне вёсак, адрачэнне ад мовы. Усе гэтыя матывы знаходзім у “вектарным” вершы паэта “Наш лёс”. Беларускі вясковы лёс гэткі ж па абодва бакі мяжы. Паўторы гучаць тут смутным рэхам, наводзяць на няспешны роздум пра незваротнае:

*Адыходзяць сяляне няспынна,*
*Старыя, старыя.*
*Сумуюць па іх труны-хаціны,*
*Пустыя, пустыя [*1, с. 31].

У спадчыне Васіля Петручука галоўны твор – аповесць “Пожня”. Тое, што напісана ім яшчэ, таксама ўспрымаецца пад знакам “Пожні”. Так і ў невялікім апавяданні “Чым я цешыўся”, прапанаваным для альманаха. Болева-трагедыйны матыў сіроцтва ўвесь час праступае скрозь канву аповеду. Але тут ён не такі злавесны, як у “Пожні”, бо злагоджваецца светлым гумарам, бо з вышыні часу боль гоіцца. Герой шчаслівы шчасцем сваіх дзяцей, якіх, як умее, атуляе шчырым бацькоўскім клопатам. Параўнанне з сваім галодным сіроцтвам увесь час праступае ў свядомасці, вярэдзіць душу. І тут аўтар не мінае свой улюбёны вобраз – пожню: “І супраць мяне былі ўсе пожні, асаты, палкі, пянькі, ядлоўцы, цвікі і ўсё, што толькі магло дзіцяці дарэшты збрыдзіць жыццё…” [1, с. 39]. Усё, што магло раніць, раны наносіла, бо абараніць не было каму. «Белавежскім» аўтарам створаны новы Аліндарка дваццатага стагоддзя, з якога “здзекаваліcь Бог і людзі”.

Дзмітрый Шатыловіч – паэт шматслоўны. Ягоныя вершы поўняцца настальгіяй і па прамінулай маладосці, і па тых сустрэчах, і па тых людзях, што засталіся ў дні ўчарашнім. А пра гэта гаварыць хочацца бясконца, паўтараць тое ж, хай нават іншымі словамі. Таму і паэтычных зборнікаў у архіве паэта вельмі многа, асабліва, калі ўлічыць, што першы датуецца 1992-ім годам. Спробы ж стварыць пейзажны малюнак не надта плённыя, яны характарызуюцца штучнасцю. Дзмітрыя Шатыловіча можна паставіць поруч з паэтам Яшам Буршам. Каб супрацьпаставіць. Як паэт, Яша Бурш, аўтар адзінай кнігі “Прамень думкі”, застаўся ў мінулым, але тыя два прапанаваныя ўкладальнікам вершы сведчаць пра адметны талент, дакладна характарызуюць яго мастакоўскі почырк. Вершы ягоныя нерыфмаваныя, астрафічныя, дзе сінтаксічныя пары, распадаючыся, вольна спалучаюцца з іншымі радкамі. Вось як малюецца паэтам шчаслівы, бо бесклапотны (як тое звычайна бачыцца з вышыні гадоў) час дзяцінства:

*пурпураю*
*у памяці гароды*
*як певень*
*мак*
*над калонамі сартоў…*
*сакатаннем смеху*
*бесклапоцце* [1, с. 58].

У апавяданні Алены Анішэўскай "Мама" ўзнята балючая праблема: мяжа, што раздзяліла не толькі спрадвеку адзіную зямлю, адзіны Край, але і сем'і, людскія лёсы. Чэрствасць, бяздушнасць чыноўнікаў, якія вырашаюць, ці даць дазвод на выезд за мяжу, іх уседазволенасць, бескантрольная ўлада з аднаго боку і няшчасныя, бяспраўныя просьбіты, што абіваюць парогі, каб мець магчымасць пабачыць родных. Але штосьці ў тых бяздушных машынах часам спрацоўвае, калі людскае ў іх раптам праступае, калі яны згадваюць, што і ў іх таксама ж была мама.

Якімі б рознымі ні былі творцы, усё ж тая магутная повязь, Беласточчына, а найперш – покліч Белавежы, аб'яднала іх назаўсёды. Зразумела, белавежскія матывы сустракаем у гэтай кнізе неаднойчы. Старонку Алеся Барскага, знанага паэта, літаратуразнаўцы, публіцыста, фалькларыста, перакладчыка, упрыгожвае верш "Белавежскія хлопцы" – узор выкарыстання амплікацыі – паэтычнага накаплення:

*А калі загуляць – ва ўсю волечку,*
*Ну, а выпіць калі, дык – глыбокую!*
*А калі цалаваць –*
*сінявокую,*
*шэравокую,*
*цёмнавокую,*
*нізкарослую*
*ці высокую,*
*чарнабровую*
*або русую –*
*белавежскую,*
*беларускую* [1, с. 63].

У гэтым вершы дасканала адлюстравана тое спалучэнне "дзвюх магістральных тэм яго творчасці" [2, с. 132], у аснову якога пакладзены паняцці прырода і каханне. А гэта "традыцыйныя аб'екты літаратуры сентыменталізму", што ў першую чаргу і дае мажлівасць даследчыцы творчасці паэта Але Брадзіхінай аднесці яе да новага сентыменталізму. Ды і іншыя прапанаваныя тут вершы пейзажна-інтымнага плану.

Прыхільнікам даўніны, захавальнікам старажытных скарбаў Беласточчыны быў пісьменнік Мікола Гайдук. Бадай, адно з лепшых ягоных апавяданняў "Нектарый", у цэнтры якога вобраз мастака, што аздобіў храм Благавешчання ў Супрасльскай абіцелі. У выявах святых аўтар найперш вылучае вочы. І гэта зразумела. "Нектарый – значыць: салодкі, прыемны. У выяўленай яго пэндзлем бяздоннай глыбіні вачэй таілася тая бязмежная слодыч вечнасці, пра якую ў самым патайным куточку кожнай душы хаваецца трапяткая надзея, спадзяванне кволенькае, але такое прыемнае, захапляючае, святое" [1, с. 74]. Напэўна, менавіта так: "з дакорам і ласкава, асуджалі і заклікалі", глядзелі вочы святых на тое, што адбывалася ў храме ў 1944 годзе. Неба прыносіла ў ахвяру яшчэ адну сваю велічную, дасканала прыгожую святыню. Навошта? Каб чарговы раз дараваць тым, хто не ведае, што творыць.

Творчасць Юркі Геніюша прадстаўлена лірычнай прозай. Згадаем верш "Да свету". У ім яшчэ адна магістральная тэма альманаха – творчасць, што не адпускае, што прыцягвае, як святло. Недарэмна аўтар выкарыстоўвае сінтаксічны паралелізм: п'яны, апантаны авадзень, што б'ецца аб свя-тло лямпы – крыніцы святла і красы, які не ў стане адляцець ад яе. Так і чысты ліст паперы на стале вабіць творцу:

*Аб шкло лямпы п'яны-п'яны б'ецца авадзень.*
*Алавік сам лезе ў руку*
*Ціха, як зладзей* [1, с. 78].

Выразна пазнавальны тут Багдановічаў матыў: матылёк і свяча бліскучая. І гэта невыпадкова, бо шлях пошуку мастаком красы і светласці, прапанаваны гэтым «нашаніўскім» класікам, надзвычай адпаведны для многіх «бела-

вежцаў».

Творчасць Сакрата Яновіча прадстаўлена ягонымі мініяцюрамі. І не толькі таму, што ў калектыўны зборнік праблематычна ўвесці творы шырокіх эпічных маштабаў, якія належаць пяру празаіка: “Сярэбраны яздок”, “Самасей”, “Сцяна” і інш., але і з іншай прычыны. Як адзначыў даследчык беларускай літаратуры з Вялікабрытаніі Арнольд Макмілін, “няма сумневу, што яго празаічныя мініяцюры прагучалі як новая нота ў беларускай літаратуры 1960-ых гадоў, і жанр “верш у прозе” так і застаўся найбольш удалым у творчасці гэтага арыгінальнага і незвычайнага пісьменніка” [3].

Глыбокім лірызмам кранаюць версэты Сакрата Яновіча “Валошка”, “Сны”, “Вяртанне ў Крынкі”. “Адрачэнне” і “Сын”, што напісаны на самым пачатку творчага шляху, адлюстроўваюць працэсы, якія ўжо выразна выявіліся па гэты і той бок мяжы: сыход маладога пакалення з вёсак. Уцёкі ад долі – так пазначыў празаік гэтую з’яву. Але не ўсё ў жыцці можна вымераць гарадскімі выгодамі. Бываюць часіны, калі толькі роднае здольна залячыць нанесеныя лёсам раны. Таму і дае пісьменнік наказ сынам гэтай зямлі: “А калі слязамі боль пакоціцца, калыханку матчыну ўспомні” [1, с. 84]. Перачытваючы гэтыя мініяцюры, згаджаешся: відавочна, “пошук шырокіх кантэкстаў для яго творчасці дарэмны, таму што Сакрат Яновіч – пісьменнік надзвычай адметнага і арыгінальнага дару” [3].

Апошні версэт “Вера” па змесце – своеасаблівы сімвал веры чалавекатворцы, што гучыць яркай, аптымістычнай, вітальнай нотай. Нельга ўявіць больш удала падабранага для прэзентацыі творчасці Сакрата Яновіча фінальнага твора:

*Веру ў жыццё, смерць яго і ўваскрашэнне.*
*І ў вечнае, бо бязмежнае.*
*І ў чалавека.*
*І ў свет –*
*Веру!* [1, с. 86]

Вершы Яна Чыквіна не проста чытаю, слухаю. Мяркую, хто меў магчымасць чуць аўтарскае чытанне, не мог не запомніць ягоную адметную манеру: няспешную, выразную інтанацыю, калі дакладна расстаўляюцца акцэнты, калі паўзы гавораць гэтак жа многа, як і словы. Бо надта вялікае і значнае за слоўнай абалонкай, што не змяшчаецца ў ёй. Паэт філасофскага складу, што ўжо звычна падкрэсліваецца даследчы-камі ягонай творчасці, дзе “імгнен-насць жыцця і бясконцасць свету – антыноміі, якія, бадай, кожнаму яго вершу надаюць адценне ўзвышанага смутку” [4, с. 137]:

*Наводдаль спеўна змяркаецца вечнасць.*
*А я – аскепкі цяпла да цяпла,*
*А я – агніцы святла да святла* [1, с. 92].

Адметная постаць між «белавежцаў» Уладзімір Гайдук, якога стала называюць селянінам-мастаком, паэтамземляробам. Бо застаўся на сваёй зямлі працаваць і жыць. Нагадваў тых нашаніўскіх творцаў, якіх Максім Гарэцкі назваў паэтамі з мазольнымі рукамі. Як заходнебеларускія паэты Міхась Васілёк і Алесь Мілюць. Уладзімір Гайдук з іх кагорты. Але хіба што гэты шэраг ён і замыкае. Паэт успрымаў своеасаблівае раздваенне не як праблему, а як дадзенасць, як два бакі аднаго гарманічнага цэлага, якія дапаўняюць адзін другога, але кожнаму дакладна вызначаны свой час і свая прастора:

*Гэта ёсць мой агульны вобраз,*
*Бо папраўдзе нас двух у целе:*
*Адзін – гэта сялянскі, будзённы,*
*А другі – той паэт нядзельны* [1, с. 97].

Праблемы ў іншым, у незадаволенасці зробленым, дасягнутым: “*няўдачаў узвеі*”, “*мала зроблена, час толькі страчан*”, у няпэўнасці. Але прыхо-

дзіць выратавальны, па-беларуску дакладны прагноз, які заўсёды спраўджваецца: неяк будзе. У паэта ён інтэрпрэтаваны наступным чынам: "*Будзе так або цалкам іначай*".

Старонкі Уладзіміра Гайдука таксама распачынае белавежскі матыў, верш "У Белавежскай пушчы". Галіна Тварановіч называе гэты твор невялікай паэмай. Для лірычнага героя, чыя душа поўніцца каханнем, ягонае "я" перастворана ў напоўненае шчасцем "мы". Таму пушча ўспрымаецца як цэлая краіна, што нагадвае праўдзівы рай. Шмат тут ад Купалавага раю для яго і яе з паэмы "Яна і я". І гэта невыпадкова ў паэта з Беласточчыны, бо "ўвядзенне ў мастацкую тканіну архетыповых культурных вобразаў падрыхтавана ўсім цягам твору" [2, с. 172]. І не толькі гэтага. Вобразнасць белавежскага аўтара не замыкаецца родных на беластоцкіх краявідах:

*Я чуў душою, што ў гэтае краіне*
*Будзем з табою параю шчаслівай.*
*А дрэвы рэчку лісцем усцілалі.*
*Лісцё, як матылькі асеннія, ляцела.*
*Пушча здалася першабытным раем,*
*А ў ёй былі мы – як Адам і Ева* [1, с. 95].

Прапанаваныя вершы Уладзіміра Гайдука ўтвараюць цэласную, па-мастацку завершаную нізку. Змест яе наступны: каханне, якое было шчасцем ды абарвалася развітаннем і ўрэшце сталася недасяжнай марай, сном. Апошні верш так і называецца "Сон". Лірычнае дзеянне перанесена ў ірэальны стан, калі мажлівыя часавыя зрухі, калі закаханыя ізноў побач. Тым самым усё пачынаецца спачатку. На іншым узроўні. Таму аўтар і выкарыстоўвае кальцавую кампазіцыю:

*Сустрэліся ў сне нерэальна жывым –*
*Ты маладая і я малады,*
*Ты ў белай сукенцы, без вэлюма толькі,*
*А я – у святочнай кашуліне жоўтай* [1, с. 98].

Злавіць, зафіксаваць тое, што адно і дадзена чалавеку, – імгненне, крупінку вечнасці імкнецца Янка Целушэцкі, аўтар адной кнігі. Зразумела, што назва яе – "Імгненні". Напоўніць іх сваім, ім убачаным, перажытым. Многія мініяцюры ўяўляюць сабою версэты. Як, да прыкладу, "Адзінота", якую лірычны герой умее засланіць імгненнем, калі ён адзінокім не быў, калі свет вакол поўніўся гукамі, колерамі, бо быў асвечаны каханнем. Прабачаюся перад аўтарам, але чытаецца мне ягоны версэт так:

*Сню я цябе і бачу,*
*калі з думкамі адзін.*
*Не слухаючы,*
*чую твой голас.*
*Са мной ты ў думках*
*і ў ліпнёвую спёку,*
*і ў люты мароз,*
*і калі зязюляй*
*заходзіцца*
*ранне…*[1, с. 98].

Надзея Артымовіч – адна з вядомых у метраполіі паэтаў Беласточчыны. Яе імя звычайна згадваецца ў кантэксце творчасці Алеся Разанава. Найперш дзякуючы сумеснаму паэтычнаму праекту – кнізе "Дзверы" (Беласток, 1994). Прапанаваныя вершы паэткі з пазнейшага, "посткатастрафічнага" перыяду яе творчасці, дзе ў цэнтры топас Бельск – родны горад, места вяртання, адхлання, калі шчасліва адноўлены душэўны спакой праз адчуванне роднасці, еднасці і з гэтым местам, і з гэтым людам, які ўспрымаецца не як чужы, абыякавы натоўп, а як людская супольнасць:

*Горад мой*
*твае вузкія вуліцы*
*поўныя людзей*
*людзей старых і дзяцей*
*як добра ўліцца ў раку*
*старых людзей і дзяцей*
*удыхаць паветра* [1, с. 104].

Бельскае мінулае, якое пераносіцца і на цяперашняе, бачыцца лірычнай гера-

іні Надзеі Артымовіч шчаслівай казкай, у якой заўсёды мае месца ідэалізацыя:

*свет укінуты ў бельскую казку*
*дзяцінства ў зялёных лугах*
*панадворак брукаваны шчаслівымі зоркамі*
*размаляваная бацькоўская цеплыня*
*у мінулых днях* [1, с. 104].

Гэты працэс вяртання лірычнай гераіні (і ў Бельск, і да сябе, і да прыхільнага людства, і да гарманічнага суіснавання са светам) дакладна прааналізаваў Ян Чыквін, які зазначыў, што паэтка "перамагае ў сабе экзістэнцыяльны катастрафізм шляхам эстэтызацыі і нават сакралізацыі бельскай рэчаіснасці… Яна знайшла ў сабе шмат сіл, каб адкрыць для сябе новую творчую перспектыву і заставацца надалей адной з арыгінальнейшых беларускіх паэтэс нашага часу" [5, с. 164–165].

Наогул, вяртанне на Радзіму, якая не бывае малой, даволі характэрная з'ява між беларускіх творцаў Польшчы. У кароткіх звестках пра аўтараў, што пададзены ў альманаху, звычайная фраза: жыве ў роднай вёсцы. Гэта і пра Янку Целушэцкага, і пра Віктара Стахвюка, і пра Сакрата Яновіча. Ды і Ян Чыквін таксама жыве ў бацькоўскай хаце.

Разумею, чаму зроблена выключэнне для Віктара Стахвюка, чаму ўслед за кароткімі звесткамі пра аўтара змешчаны ягоны жыццяпіс. Бо гэта нешта незвычайнае! Такіх рэзкіх паваротаў, такіх зігзагаў не рабіў лёс ні аднаго з «белавежцаў»: настаўнік, выкладчык ВНУ, мастак, інструктар-вадалаз, грамадскі дзеяч, бізнэсмен, тэхнічны дырэктар радыё Рацыя, фермер… І заўсёды паспяховы. Праз прызму ўсяго гэтага інакш успрымаецца ягоная паэзія. Адчуваеш, што не голай дыдактыкай павявае ад высноваў, зробленых з нагоды ўсіх навалаў чорнага дня, якія выпадаюць ці ж рэдка, а як перажытае, выпакутаванае, каб здолець штораз ўздымацца на новы віток і штораз годна выстаяць. Зразумець сваё месца, здавалася б, зусім нязначнае, у параўнанні з бясконцасцю прасторы і часу:

*затрымайся*
*прысядзь*
*глянь на свет*
*што быў ужо да цябе*
*і не знікне разам з табою* [1, с. 112].

Але гэта тваё, адзінае, табе дадзенае, таму ад цябе залежыць, ці здолееш афарбаваць свой свет не толькі ў колеры чорна-белыя. А вось тут ужо на пярэдні план выходзіць мастак. Як і ў вершы "Промністай прабоінай у небасхіле…"

На старонках Міхася Шаховіча самы балючы верш "Шкада, не паеду ў Сахачаў", які ўспрыняць і зразумець зможа толькі той, хто развітаўся з каханай. Паэт трагічнага светаўспрыняцця, які ставіў пытанні і не меў адказаў. Таму стан нявызначанасці, памежнасці, пачуццё непрытульнасці, адзіноты – галоўнае ў вершах:

*Чаму на бяскрэссі прастораў*
*У хаце маёй аж цесна ад гора?*
*Скажы, дарагая, скажы*
*Ці доўга мне жыць на мяжы?* [1, с. 118].

А вось Жэню Мартынюк, як і Галіну Твардовіч, немажліва ўявіць без усмешкі. І не таму, што яе абмінулі нягоды. Яна заўсёды поўніцца святлом, нават калі з вачэй высвечваецца смутак. І гэткія ж яе вершы: шчырыя і добрыя, далікатныя і пяшчотныя. Самы яскравы вобраз, створаны паэткай, – белы гарлачык. Так называецца адзін з трох яе зборнікаў, так называецца верш, з гэтай пяшчотнай кветкай асацыюецца воблік яе лірычнай гераіні.

Хоць і надышоў ужо ў зямным лёсе восеньскі час, але паэтка пэўная: і ў ім можна знайсці залацінкі красы і светласці:

*Мне запляла ўжо валасы восень.*

*Позіркам шукаю маўклівым*
*Раннюю залацістую просінь* [1, с. 132].

Такая ж *свядомасць пражытых гадоў* і ў паэзіі Уладзіміра Саўчука. Ды толькі ў часавым вымярэнні, бо эмацыйнае яе напаўненне цалкам іншае: больш стрыманае, асэнсаванае, калі няшчасці ўспрымаюцца як *заслужаныя*, калі на ўсё чалавек здольны глядзець быццам збоку. Але душа ўсё яшчэ здольна захапляцца маляўнічым краявідам. *Слёзы адзіноты*, *голас журбы*, *мары* – гэта таксама складнікі *смаку жыцця*.

Паэт з Бельску Юрый Баена стрымана, але годна і ўпэўнена-пераканальна сцвярджае беларускую прысутнасць у гэтым Краі. Трагізм паступовага вымірання – працэс незваротны, ды ёсць непадуладныя знішчэнню з'явы, якія ратавальным промнем асвятляюць цемень нябыту:

*Тут мы,*
*жывыя і мёртвыя,*
*ахінутыя памяццю*
*і лісцем бяспамяцця.*
*На камені кірыліца –*
*Бессмяротная [*1, с. 134].

Творам Міры Лукшы характэрна нешматслоўнасць. І зусім не таму, што калісьці мела наказ пра гэта ад старэйшага калегі, аб чым яна з гумарам расказвае на сустрэчах з чытачамі. Такая, нешматслоўная, яе проза і яе паэзія. Бо чытаць трэба між словамі, між радкамі. У празаічных творах кідаецца ў вочы адметны, часцей сцішаны, прыхаваны, гумар, гэткі мудры погляд жанчыны з вышыні, збоку, які паўстае з разумення, што нічога не перайначыш, як ні імкнешся рабіць з тых "мужыкоў чалавекаў". Недарэмна адну з кнігаў прозы Міра Лукша назвала "Бабскія гісторыі". Вершы ж зазвычай вытрыманы ў стрымана-строгай стылёвай манеры:

*Шматслоўе забівае.*
*Паэзію.*
*І прозу таксама.*
*Як і людзей,*
*пачуцці, жэсты, абяцанні* [1, с. 142].

Свой літаратурны талент Ганна Кандрацюк-Свярубская дзеліць між паэзіяй і журналістыкай. Гэтага вымагае яе сталая праца ў "Ніве". Асабліва цікавыя падарожныя эсэ пісьменніцы, адно з якіх "Скандаліст ашалее ад гневу" і прэзентуе ў альманаху яе творчасць.

Міхась Андрасюк надзвычай арыгінальны празаік, аўтар кнігаў "Фірма", "Мясцовая гравітацыя", "Белы конь", "Вуліца добрай надзеі" (апошняя выйшла ў Мінску), здзівіў прыхільнікаў сваёй творчасці цікавай знаходкай: "Знайшоўся верш". Так называецца ягоны паэтычны зборнік (Беласток, 2009). Звычайна бывае наадварот: паэты пачынаюць пісаць прозу.

Шмат што ўражвае ў вершах Міхася Андрасюка. Незвычайнасць метафорыкі, каляровай гамы, нечаканасць параўнанняў. Зрэшты, гэта і ёсць паэзія:

*… дзе бяроза глядзіць у аконца,*
*дзе кроў сінюю з неба п'е лён,*
*дзе стаіць маліновае сонца,*
*дзе гарыць маліновае сонца*
*васільковым агнём* [1, с. 145].

Твор Яўгена Вапы "У родным горадзе – чужынцам" асабліва балюча ўспрымаецца гарадзенцамі. Гэта даволі ўдалая спроба стварэння псіхалагічнага партрэту чалавека на фоне часу, а яшчэ і места, якія не супалі, каб суіснаваць гарманічна. І імкненне адказаць на пытанне, чаму. Адзінае, што насцярожвае: аўтар лічыць, што ён ведае адказ. Адказу тут быць якраз і не можа. Часам збіваецца на публіцыстыку. І тады траціцца светлы развітальны матыў. Бо ж і напісаны твор, каб памяталі пра таго, хто памяці варты. А герой і сапраўды варты. Заслуга аўтара ў тым, што ён не ідэалізуе Дзімы Кісяля.

Шмат святла, сонца ў вершах Лідзіі Маліноўскай, гераіня якой спрабуе тварыць і свет вакол, і сябе наноў, апранаючыся ў ліству, у залатыя промні, пазбягаючы мітуслівага, штодзённага, не пазбаўляючыся, аднак, спрадвечнай праблемы беларускай душы – раздваення. Бо сэрца ж – з дзвюх палавінак:

*Адна палавінка трымціць*
*І разгараецца,*
*А другая – ледзяная –*
*Лёгка з рук выслізгваецца* [1, с. 145].

Альманах яшчэ раз сведчыць, якія цікавыя таленты ўзгадаваныя па той бок мяжы. “Белавежа” – гэта цэлы мацярык. Амаль не адкрыты ў Беларусі. Да гэтага часу. Хоць руплівасці і стараннасці тых, хто апякуецца і маладымі пісьменнікамі, і выступае ў якасці рэдактараў творчасці старэйшых паэтаў, можна пазайздросціць: кнігаў беластоцкіх беларускіх аўтараў выдаецца многа, значна больш, чым у нашай беларускай Гародні. Ды і якасць выданняў непараўнальная. Але затое ў Беларусі яны апошнім часам амаль не выходзяць. Найбольш у гэтым плане пашанцавала калісьці Міколу Гайдуку: у Мінску выдадзены пяць ягоных кнігаў. Праўда, тое было раней.

Учарашняя “Белавежа” – яна і сённяшняя, дзе арганічна суіснуюць розныя пакаленні. Але, на жаль, няма пэўнасці і надзеі, ці будзе шумець гэтая літаратурная пушча заўтра. Такія рэдкія сёння на Беласточчыне маладыя беларускія таленты. Ды і рэй у гэтай суполцы вядуць не яны.

Мажліва, кніга трапіць у рукі да чытача, які сустрэнецца з “Белавежай” упершыню, то няхай убачыць, пачуе тых, хто трымае на Беласточчыне беларускі дух, хто жыве беларускім словам. Не мусяць быць белавежцы “*забытыя светам, невядомыя людзям*”.

Ала Петрушкевіч


1. *Белавежа. Літаратурны альманах*, Беласток: ББЛА “Белавежа”, 2011, 196 с.
2. *Шлях па прамой часу. Да гісторыі беларускай літаратуры Польшчы 1958–2008 гг.*, Беласток: ББЛА “Белавежа”, 2007, 322 с.
3. Арнольд Макмиллин, *Стихотворения в прозе Сократа Яновича 60-х годов: текст и контекст* // Зборнік артыкулаў (матэрыялы з канферэнцыі, прысвечанай творчасці Сакрата Яновіча, Беласток, 8 чэрвеня 1996 года), Беласток ББЛА: “Белавежа”, 1996, 48 с. http://ru.wikipedia.org.
4. *Literatury wschodniosłowiańskie. Z najnowszych badań*. Pod redakcją Haliny Twaranowicz, Białystok: Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku, 2010, s. 562.
5. Ян Чыквін, *Далёкія і блізкія: Беларускія пісьменнікі замежжа*, Беласток: ББЛА “Белавежа”, 1997.

## КАБ СПЫНІЦЬ ТЫРАЖАВАННЕ ПАМЫЛАК

### У. Жылка, Матылі: вершы, паэмы, пераклады: для ст. шк. Узросту; прадм. В. Куставай, Мінск 2009

У. Жылка – адзін з лепшых беларускіх паэтаў Беларусі трэцяга дзесятка мінулага стагоддзя, як сказаў пра яго У. Калеснік, "камертон заходнебеларускай паэзіі" "у плане сацыяльна-гістарычным і надзённым"[1]. Яго спадчына і сёння не забыта, даследуецца, рэгулярна перавыдаецца. І гэта добра. Не радуе, аднак, што не заўсёды гэта робіцца ахайна. Аб адным, надзвычай важкім такім моманце ў самым на сёння свежым выданні і хацелася б распавесці.

У свой час У. Жылка выехаў у Чэхаславакію на вучобу, аднак душою быў знітаваным з радзімай, з яе культурным жыццём. Яго лірычная творчасць бруілася ў агульнабеларускім рэчышчы і цалкам упісвалася ў кантэкст лірыкі маладых паэтаў Беларусі. Таму перажыванні У. Жылкі аб падзеле сваёй краіны (паводле Рыжскага дагавора 1921 г.), як і іншыя сацыяльна-паэтычныя рэфлексіі і пачуцці, мелі відавочную пераклічку з творамі, якія ставяцца гісторыяй побач, паралельна. Так, верш "Каваль" (год невядомы, але можна меркаваць, што першай паловы 1920-х гг.) мае ноткі, перанятыя ў Якуба Коласа і Янкі Купалы, што адчуваецца не толькі ў творчай манеры, але і перадусім у лексіцы (што відаць нават NB па назве):

*Падзялілі чужаніцы,*
*У няволі старана…*[2]

Як бачым, паэт ледзь не паўтарае словы Якуба Коласа ("Нас падзялілі – хто? Чужаніцы…"). Жылкаў вобраз, праўда, не з тых Коласавых "кавалёў другіх", якія куюць "ланцуг той самы"[3], ланцуг заняволення беларускага народа, – наадварот, ён куе меч на змаганне, каб прагнаць "крыўдзіцеля, ворага". А гэта значыць, што гэта якраз той, хто "долі сваёй каваль"[4], убачыць якога заклікаў Якуб Колас беларускі люд у самім сабе. У гэтым назіраецца і свайго роду дыялагічнасць паэтаў на балючую для абодвух тэму. Як зазначыў У. Калеснік, "Уладзімір Жылка не паўтараў класікаў, а імкнуўся прадаўжаць іх, скарыстоўваючы вопыт заходнееўрапейскай і славянскай літаратур"[5]. Што датычыцца грамадскіх падзей, то, на думку У. Калесніка, паэзія У. Жылкі з імі карэлюецца "апасродкавана, праз сістэму вобразаў-сімвалаў і ўмоўных асацыяцый", характарызуецца "рамантычнай універсалізацыяй настрояў, роздумаў, ацэнак, глабальнай узвіхранасцю пачуццяў"[6].

Блізкасць, тоеснасць, пераклічка матываў, вобразаў, тропаў у творах розных беларускіх паэтаў тагачасся даходзіла да таго, што сучасныя даследчыкі блыталіся ў аўтарстве вершаў. Так, і пазначанае ў загалоўку выданне вершаў У. Жылкі – "Матылі" (с. 26-27) – утрымлівае тры страфы (першую, шостую і сёмую) з цытаванага тут Коласавага верша "Беларускаму люду"[7]. Прычым пошукі выявілі, што памылка закралася раней. Прынамсі яна ўжо знайшла месца ў выданні, укладанне і прадмова ў якім належаць аўтарытэтнаму даследчыку заходнебеларускай паэзіі У. Калесніку[8]. Трэба заўважыць, што прыпісаць выбітнаму літаратуразнаўцу такую прыкрую памылку не выпадае: прафесара У. Калесніка на час выхаду ўказанага выдання другі год не было на свеце. Відаць, адбыцца памылцы дапамог нехта з тых, хто меў рэдактарскае, карэктарскае ці то проста нават тэхнічнае дачыненне да выхаду кнігі. У ранейшых выданнях У. Жылкі ("На ростані", 1924, "З палёў Заходняй

Беларусі”, 1927, “Творы. Да 20-х угодкаў смерці”, 1955, “Вершы”, 1970, “Пожні”, 1986) гэтай памылкі няма.

Зразумела, што творчасць У. Жылкі была цесна знітавана з беларускім літаратурным працэсам, залежала і ад сацыяльнага кантэксту. Але ж гэта не апраўданне паўтарэння памылкі, у выніку якой верш Якуба Коласа – на сённяшні дзень шырока вядомы – выдаецца пад аўтарствам іншага паэта.

Указаны хіб – не адзіны ў выданні, якое да таго ж выйшла ў серыі “Школьная бібліятэка”, г. зн. адрасавана школьнікам. Аналіз паказаў, што зборнік перапоўнены памылкамі, якія “перавандравалі” з-за неахайнасці ўкладальніка ў новае выданне са старога. Дарэчы, адсутнасць сярод прозвішчаў таго самага ўкладальніка хіба падказвае, што ён разумеў сваю віну. На карысць гэтага меркавання грае факт, што сустракаюцца вершы, у якіх памылкі папраўлены, але… часткова (с. 34). Такім чынам, аўтар іх не мог не бачыць. Сам жа спектр хібаў стракаты: ад граматычных і пунктуацыйных памылак, апісак да вольнага абыходжання з паэтычнымі тэкстамі У. Жылкі. У выніку часам гублялася не толькі адметнасць у аўтарскім стылі, але і перакручваўся сэнс радкоў:

**Дужая** моц – грамада
І перамозе зарука,
Больш нас не **церніць** бяда,
Годзе напасцяў, прынукаў! (с. 26)

Выдзеленыя словы ў аўтара былі падобнымі, але ўсё ж іншымі: адпаведна “Дружная” і “чэпіць”.

Сустракаем збой у рытме і рыфмоўцы:

Вось і паў ужо змрок,
Ды заціх дзённы рух,
А агонь **у аблоках**
Дагарэў і патух. (с. 20)

Замест выдзеленага намі “у аблоках” У. Жылка пісаў “ў аблакох”.

Верш “Да Персі Шэлі” з нейкай прычыны аказаўся разбіты на дзве часткі і раскіданы па старонках 37 і 81.

Шчыра кажучы, цярпення хапіла для прагляду толькі паўсотні старонак “Матылёў”. Але і гэтага было дастаткова, каб убачыць, што рэдкі аркуш у кнізе заставаўся чыстым, не пазначаным памылкай ці апіскай. Таму не хочацца пералічваць іншыя прыклады.

Што ж, адмоўны вопыт – таксама вопыт. У дадзеным выпадку ён паказвае, што вялікі паэт Уладзімір Жылка, не будучы шчаслівым пры жыцці, і ў сучаснасці шануецца не належным чынам. Няма сумнення, што наступнае перавыданне будзе лепшым за папярэднія. Пакуль жа найбольш аўтарытэтным з’яўляецца кніга з “Беларускага кнігазбору” (Жылка Ул. Выбраныя творы / Укладанне, прадмова і каментарыі М. Скоблы. – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1998. – 358 с.).

Анатоль Трафімчык

Аўтар удзячны паэту і літаратуразнаўцу Міхасю Скоблу за кансультацыю і дапамогу матэрыяламі пры

[1] У. Калеснік, *Этапы і ростані волі* // Ростані волі: З заходнебеларускай паэзіі / Укладанне і прадмова У. Калесніка, Мінск 1990, с. 11.

[2] Ул. Жылка, *Выбраныя творы* / Укладанне, прадмова і каментарыі М. Скоблы, Мінск 1998, с. 118.

[3] Я. Колас, *Збор твораў. У 20 т. Т. 2. Вершы (1911 – 1938)*, рэд. тома У.В. Гніламёдаў ; падрыхт. тэкстаў і камент. С.В. Забродскай, К.А. Казыра; Мінск 2007, с. 95-96.

[4] Тамсама, с. 104.
[5] У. Калеснік, *Пяснярскі лёс* // Ул. Жылка, *Пожні: Вершы, пераклады, крытычныя артыкулы* / [Уклад., прадм. Ул. Калесніка], Мінск 1986, с. 10.
[6] У. Калеснік, *Ветразь Адысея: да 70-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Жылкі*, "Полымя" 1970, №5, с. 124, 125.
[7] Я. Колас, *Збор твораў. У 20 т. Т. 2. Вершы (1911 – 1938)...*, с. 104-105.
[8] Ул. Жылка, *Творы: Паэзія, эсэістыка* / Уклад., прадм. У. А. Калесніка, Мінск 1996, с. 43.

VARIA

## Справаздача з працы Управы Беларускага літаратурнага аб’яднання “Белавежа” (2008–2011)

Усе ведаем, што 8 чэрвеня 2008 года “Белавежы” споўнілася 50 гадоў, а ў канцы верасня таго ж года прайшоў справаздачна-выбарчы сход і пачалася чарговая трохгадовая дзейнасць нашага літаратурнага аб’яднання, дзейнасць, якая шмат у чым развівалася па знакам вялікага юбілею самой творчай арганізацыі, пад знакам таго розгаласу, які пайшоў у свет ад “белавежскага” свята – яго не толькі ўнікальнай даўгавечнасці ў маштабах усіх літаратурных груповак Польшчы ці Беларусі, але найперш яго творчага наробку і літаратурна-эстэтычнай значнасці саміх твораў.

Пра БЛА “Белавежа” і пра пісьменнікаў-“белавежцаў” здаўна ўжо змешчана шмат звестак у агульных і літаратурных энцыклапедыях, у рознага тыпу літаратуразнаўчых даведніках і слоўніках, інфарматарах на мове польскай, а таксама беларускай, рускай, ангельскай, нямецкай і іншых. Ёсць шмат пра “Белавежу” на сайтах у інтэрнэце. Апошнім часам з’явіліся такія новыя кнігі на польскай мове, як, для прыкладу, „**Słownik pisarzy świata**”, Krakowskie Wydawnictwo Naukowe, 2008, „**Słownik europejskich kierunków i grup literackich XX wieku**, Wydawnictwo Naukowe PWN, Warszawa 2009, „**Encyklopedia Kresów**”, Kraków 2010, у якіх досыць шырока і аб’ектыўна гаворыцца пра нашу беларускую творчую арганізацыю як з’яву заўважальную ў шэрагу падобных адметных літаратурна-эстэтычных феноменаў. Неўзабаве выйдзе ў свет Мальдзісаўскі “Энцыклапедычны даведнік” пад назваю “Сузор’е беларускага памежжа”, у якім таксама будзе, апрача звестак пра шматлікіх пісьменнікаў-“белавежцаў”, і агульны артыкул аб самім Літаратурным аб’яднанні.

Дзейнасцю “Белавежы” цікавілася ў гэтай кадэнцыі больш, чым калі раней, беларускае (польскае – Белсат і мясцовае) тэлебачанне і радыёвяшчанне (Радыё Рацыя). Была выдадзена ў Беластоку кніга на мове эсперанта, у якой надрукаваны вершы “белавежцаў”. Здаецца, больш чым калі, аб “белавежцах” з’явілася інфармацыі і ў мінскіх часопісах, такіх, як “ЛіМ” (пра В. Шведа, М. Андрасюка і Я. Чыквіна), “Новы час” (паэма Я. Чыквіна “Гусак і гусыня”), “Наша вера” (7 вершаў Я. Чыквіна, Штрыхі да творчага партрэта Г. Тварановіч). Больш, чым у папярэдняй кадэнцыі, адбылося аўтарскіх сустрэч. Для прыкладу ўспомнім некаторыя з іх: 23.10 2008 – у Забродкага ў Варшаве (Швед, Баена, Чыквін, Літвінюк, В. Семён), 9.12. – у Нацыянальнай Бібліятэцы ў

Мінску (Швед, Барскі, Лукша і інш.), 20.12. – у Беластоку сустрэча з пісьменнікамі з Гродна, 12.03. 2009 – у Беластоку ў КЦБ (Баена, Буйнюк), 30.05 – у Беластоку сустрэча з пісьменнікамі з Брэста, 29.10 – у Брэсце сустрэча са студэнтамі ў Калеснікавым цэнтры (Тварановіч, Баена, Буйнюк, Чыквін), 10.12. — у Гродна сустрэча са студэнтамі (Чыквін), 20-.04.2010 – у Брэсце сустрэча з чытачамі ў абл. Бібл. (Чыквін), 17.05 – у Беластоку ў Цэнтры праваслаўнай культуры (Швед, Саўчук, Буйнюк), 10-.06 – у Гродна (Стахвюк, Швед, Лукша, Буйнюк, Чыквін), 1.12. – у Беластоку ў Ксёнжніцы Падляскай творчая сустрэча М. Лукшы і там жа сустрэча з В. Стахвюком – сакавік 2011. I гэта, вядома, не ўсе – бо былі сустрэчы і ў школах. Рэдкія, што праўда, аднак былі. Бо, як вядома, так званыя беларускія гімназіі і ліцэі здаўна не выказваюць са свайго боку жадання супрацоўнічаць з “белавежцамі”. Бог ім суддзя... Трэба адзначыць, што Міхась Андрасюк адкрыў месяц польскай літаратуры ў Мінску, а Сакрат Яновіч выступіў па Белсаце (сакавік 2009) з фірменным, так сказаць, сваім заяўленнем: “Я пішу, каб выклікаць нянавісць беларусаў”.

Сустрэчы ў Гродне і Брэсце былі праведзены пры фінансавай і арганізацыйнай падтрымцы Культурнага Цэнтра Беларусі, што ў 2008 годзе адкрыўся ў Беластоку (і які, на жаль, перанеслі ў Варшаву). Дзякуючы КЦБ нас наведалі адзінаццаць пісьменнікаў з Гродна, Брэста і дзве пісьменніцы з Мінска – па запрашэнні Управы. На адной з першых такіх нарад у Беластоку з’явілася ідэя больш шчыльных, сістэматычных пісьменніцкіх сустрэч пад назваю “Паэтычны трохкутнік”, якія планавалася, што будуць адбывацца штогод папераменна – Гродна, Брэст, Беласток. Мінулым 2010 годам “белавежцы” выязджалі ў Гродна, у гэтым, 2011 трохкутнік павінен быць праведзены ў Брэсце. Аднак пакуль што з Брэста на гэту тэму нічога не чуваць. Магчыма, што эканамічны крызіс у Беларусі ўносіць істотныя карэктывы і тут. Адным словам, у 2012 трохкутнік меўся быць арганізаваны намі, у Беластоку.

У Беластоку ў гэтай кадэнцыі адбыліся дзве вялікія маніфестацыі беларушчыны, звязаныя з юбілейнымі датамі Віктара Шведа і Алеся Барскага, і трэцяя – больш камерная – у Актавай зале Філалагічнага факультэта, прысвечаная Яну Чыквіну. З рознымі сэнсавымі нагрузкамі ўсе тры неслі вельмі багатую інфармацыю аб фактычных у прасторы культуры гаспадарах гэтай зямлі, пра пакаленевую пераемнасць (сустрэча ў адным часе пісьменнікаў-дзядоў з пісьменнікамі-унукамі і праўнукамі), урэшце пра грунтоўнасць і прафесіянальнасць літаратурнай творчасці беларусаў Польшчы. Апошнім часам была адзначана яшчэ адна гадавіна, 75-годдзе Сакрата Яновіча – у досыць вузкім крузе, хоць з інфармацыйным рэзанансам.

У справаздачны перыяд творчая актыўнасць “белавежцаў” утрымалася на папярэдніх паказчыках, калі мець на ўвазе выданне аўтарскіх кніг. Варта ўспомніць, дзеля параўнання, што ў ранейшай кадэнцыі 1999—2002 з’явілася 26 кніг, у наступнай 2002—2005 яшчэ 25 кніг, у 2005—2008 выйшла 28. I на працягу трох апошніх гадоў 2008—2011 зноў – 26 кніг. Само сабой разумеецца, што не ўсе яны з’явіліся пад грыфам БЛА, бо таксама Orthdruku, Праграмнай Рады «Нівы», мінскіх і польскіх выдавецтваў.

У гэтай справаздачнай кадэнцыі вялікую дапамогу ў рашэнні выдавецкай дзейнасці аказаў нам Культурны Цэнтр Беларусі. КЦБ поўнасцю прафінансаваў выданне 13 кніг. Дзякуючы гэтай падтрымцы былі выдадзены першыя кнігі дзвюх нашых маладых паэтэс – Юстыны Каролька і Кацярыны Сянкевіч, а таксама першая кніга Лідзіі Маліноўскай. Вядома, выхад кожнай новай кнігі – падзея ў жыцці аўтара, але таксама і аб'яднання. Падвойна радуюць і абнадзейваюць маладыя аўтары. Аднак асабліва варта падкрэсліць творчае гарэнне, творчую актыўнасць старэйшых "белавежцаў". Гэта ж таксама з'ява выключная, фенаменальная і ўнікальная наогул. Таму выхад апошнім часам новых кніг Г. Анішэўскай, В. Петручука, В. Шведа, Дз. Шатыловіча, Ул. Гайдука павінен быць, асабліва для малодшых "белавежцаў", прыгожым прыкладам *тутэйшага* беларускага нязломнага духу і характару, прыкладам самаадданасці, прыкладам ахвяравання свайго таленту нацыянальнай справе.

Адзначым, што апрача выдання кніг, Управа "Белавежы" выпусціла ў свет тры чарговыя нумары свайго тоўстага літаратурнага і беларусазнаўчага часопіса "Тэрмапілы". "Тэрмапілы" маюць сваіх чытачоў найперш у навукова-гуманітарным і літарараратурным асяроддзі Польшчы, а таксама Мінска, Гродна Брэста і іншых абласных цэнтраў Беларусі. У параўнанні з цяперашнімі метрапольнымі літаратурнымі часопісамі, якія палітычна і культурова рэзка палярызаваліся па прынцыпу "свой"—"чужы", "рэжымны"—"дэмакратычны", "чаргінецкі" – "пашкевічаў", "Тэрмапілы" ад пачатку вызначаюцца сваёй адкрытасцю для ўсіх існуючых бакоў, і па меры сваіх сіл выпаўняюць аб'ядноўваючую функцыю. Не выпадкова на старонках часопіса друкаваліся і беларускія эміграцыйныя пісьменнікі (якія не маглі ці не хацелі друкаваць свае творы ў Мінску: прыкладам можа паслужыць выдатная аповесць "Яно" Янкі Юхнаўца), і выдатныя метрапольныя паэты, празаікі, драматургі, і – што асабліва трэба падкэсліць – шматлікія "белавежцы": Баена, Буйнюк, Каролька, Мартынюк, Маліноўская, Яновіч, Лукша, Сянкевіч, Твардановіч, Стахвюк, Нікіцюк і інш. Менавіта на старонках "Тэрмапілаў" праходзяць своеасаблівыя штогадовыя творчыя сустрэчы, і "белавежцы" на гэтых віртуальна-літаратурных сустрэчах без перабольшвання – як роўныя сярод роўных. Адным словам, "Тэрмапілы" – гэта тая агульная літаратурная прастора, дзе няма падзелу на нашых і вашых, сваіх і чужых – як і павінна быць у мастацтве. Хоць не ёсць у шырэйшым сэнсе! Таму што метрапольныя кіраўнікі-завядоўцы знаць не хочуць пра нас. О, каб мы былі польскімі пісьменнікамі! А беларускія – гэта ж шмат у чым канкурэнты на літаратурнай пляцоўцы. На што мы ім?! Прыехаць турыстам на пару дзён адпачыць – калі ласка! Колькі ўжо часу прайшло, а ні ў СПБ, узначальваемым Чаргінцом, ні ў СБП, якога старшынёй з'яўляецца Пашкевіч, няма аніякай па сутнасці арганізацыйна-юрыдычнай мэтанакіраванасці і ахвоты бачыць "Белавежу" як неад'емную частку адзінай беларускай літаратуры: ніякіх планаў на год, два, на кадэнцыю. „Калі хочаце, каб пра вас нешта напісалі, напішыце самі. Або дайце грошы, а мы выдамо вам кнігу". Ад імя "Белавежы" я ў свой час звярнуўся ў Міністэрства культуры Беларусі, каб да юбілею Віктара Шведа і юбілею Алеся Барскага выдалі ў Мінску ім па кнізе

выбранага. На жаль, просьба не была ўлічана.

Парадаксальна, у пэўнай ступені яны, мінчукі, маюць рацыю, бо беларуская літаратура Польшчы (я аб гэтым ужо пісаў, падобна як і Сакрат Яновіч) ад пачатку свайго існавання мае свае рысы адметнасці, і найперш яна характарызуецца тым, што не была ссаветызаванай, а мела і мае выразна выяўленую нацыянальную адметнасць, мае здаровы нацыянальны вектар. “Белавежцаў” ў першую чаргу яднала і яднае не ідэйна-эстэтычная праграма, а шырока разуметыя нацыянальныя інтарэсы, нацыянальнае ахвярніцтва, абарона роднага, абарона нацыянальнай заходняй крэпасці. З перспектывы пяці дзесяцігоддзяў гэты арыенцір “белавежцаў” бачыцца як асноўны і надалей дзейсны і перспектыўны.

Трэба адзначыць пры тым, што сама наша літаратурная грамада ўнутрана здаўна разбалансаваная. Як у той вядомай байцы Крылова, кожны цягне воз у свой бок. У плане псіхалогіі людзі творчыя маюць права быць капрызнымі, непрадказальнымі, некіруемымі. З такімі маем дачыненне і ў “Белавежы”. Гэта іх добра характарызуе. Аднак для дзейнасці арганізацыі патрэбны развага і цвярозы прагматызм. Ёсць просьба да калег браць пад увагу дабро аб’яднання, той арганізацыі, якая займаецца сацыяльна-арганізацыйнымі справамі і па статуту не можа ўваходзіць у псіхалогію творчасці. Трэба мець тут на ўвазе і знешнія, па-за літаратурныя спробы раз’яднаць “белавежцаў”. Управа глядзіць на гэта спакойна, шкадуючы страты часу нашых калег на нетворчыя высілкі. Каб жа з гэтага дзеяння ўзнікалі новыя, цікавыя творы. Агульна кажучы, усе мы “белавежцы” дзейнічаем у досыць цяжкой грамадска-палітычнай і культуровай атмасферы. Цяжкай для ўсёй мастацкай літаратуры, мастацкага слова. Па ўсёй Еўропе, і Польшчы, і Беларусі, ідзе грандыёзная спроба генеральнага перапраграмавання культурных кодаў вялікіх і малых народаў. Ідзе магутная барацьба за Слова, за Логас. З высокай культурай, з высокім мастацтвам змагаецца масавая культура (literatura śmieciowa) – шматтыражная, шматрэкламная, стандартная, забаўляльная. Яна мае сваіх актыўных прыхільнікаў і “філосафаў” таксама ў Беларусі. Адным словам, клімат для мастацтва як такога, як духоўнай дзейнасці чалавека наогул зараз не вельмі спрыяльны. Аднак усе ведаем, што ідэальнай, бесканфліктнай рэальнасці для нікога ніколі не было, няма і не будзе, і ніхто яе не шукае. Як бы яно ні было, маем тое, што маем. Жывем у акрэсленай рэальнасці і мы самі з’яўляемся яе і прадуктам, і стымулятарам, і каментатарамі, і выказнікамі. “Белавежа” праіснавала ўжо, дзякуй Богу, 53 гады (у 2013 годзе ёй – 55) і будзе, трэба спадзявацца, існаваць яшчэ не адзін год.

У справаздачнай кадэнцыі Управа сустракалася на пасяджэнні 9 разоў, г. зн. дзейнічала больш-менш у дастатковым рытме, не фармалізуючы гэтых пасяджэнняў, а збіраючыся па неабходных прычынах, выкарыстоўваючы ў шматлікіх справах тэлефонную сувязь і кантакты.

(яч)

# ТЭРМАПІЛЫ

выдае

*Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”*

**Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji**

## Да ведама аўтараў

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў.
Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.

Адрас: 15-420 Białystok, Pl. Uniwersytecki 1

Druk:
„Prymat” Mariusz Śliwowski, Białystok, ul. Kolejowa 19